Сівы паток гудзе шуміць—
Імчацца хвалі каламуты.
І путнік кінуты на дно
Глытае муць вады. Ізноў
Ён зледзянелы смерці просіць:
Яе убачыў прад сабой...
Але магутны конь стралой
На бераг пеністы выносіць.

Альбо схапіўшыся за пень,
Што ў рэчку звалены навалай,
Калі на змрочных, дзікіх скалах
Ляжыць дзівоснай ночы цень.
Чаркес на ралы векавыя,
На лапы вешае кругом
Свае даспехі баявыя,
Шчыт, бурку, панцыр і шалом,
Калчан і лук—і ў пене хваляў
Плыве ўздагон за гэтым пнём
Няўтомна, смела і удала.
Глухая ноч. Рака раве;
У хвалях чорных ён плыве
Між берагоў пустэльна дзікіх,
Дзе на курганішчах вялікіх
Стаяць і сочаць казакі,
Глядзяць на цёмны бег ракі—
І паміж іх спавіта мглою
Плыве ўначы злачынца зброя...
Аб чым ты думаеш казак?
Мо ты згадаў ліхія бітвы,
На смертным полі свой бівак,
Палкоў хвалебныя малітвы,
І родны край? Манлівы сон!
Бывайце, вольныя станіцы,
І дом бацькоў, і ціхі Дон,
Вайна, дзяўчата чараўніцы!
Чаркес да берага неўзнак
Падплыў, стралу дастаў з калчана.
Яна звініць—і ўпаў казак
На дол з крывавага кургана.

А калі з мірнаю сям'ёй
Чаркес у хаце. Бура свішча
Начной дажджлівую парой
І тлее сонна папялішча;
Саскочыць з вернага каня,
Зняможаны ў шляху трывожным
І зойдзе ў хату падарожнік,
Прысеўшы ціха ля агня:
Сам гаспадар яго сустрэне
З прыветам ласкавым устае,

І ў чашы госцю, ў хмельнай пене
Чыхір гасцінна падае.
Пад волкай буркай, ў саклі дымнай
П'е спадарожнік ціхі сон,
І раннем пакідае ён
Прытулак цёплы і гасцінны.

Бывала ў свята Баіран
Збяруцца юнакі. У настроі
Гульня змяняецца гульнёю:
То поўны разбяруць калчан,
Пасля крылатымі страламі
З пад хмараў чорных б'юць арлоў;
То з вышыні крутых гарбоў
Яны нястрымнымі радамі
На знак умоўны ўсе ўпадуць;
Зямлю як лані уздымаюць
І роўнядзь пылам пакрываюць,
І з дружным тупатам бягуць.

Ды сумна дзень за днём мінаюць
Для тых, каму жыццё-вайна,
І часта гульні адзначае
Крывёй гарачаю разня.
І часта шабель чутны звоны,
І пахне ўспененая кроў.
І галавы ляцяць рабоў,
І дзеці пляскаюць ў далоні.

Звычайна рускі успрымаў
Гульні крывавае забаву.
Любіў раней такую-ж славу
І прагай смерці ён палаў.
Нявольнік гонару няшчадны,
Ён бачыў блізка свой канец.
На паядынках смела, ўладна
Страчаў пагібельны свінец.
Быць можа думаю асмужан
Часы ён тыя ўспамінаў,
Калі сябрамі быў абкружан
І з імі ён банкетаваў...
Ці шкадаваў ён дзён мінулых,
Што ў ім надзею абманулі,
Ці ён цікаўна наглядаў
Закон забавы таямнічай,
І дзікага народа звычай
У люстры ясным ён чытаў.
І дзесь маўкліва і глыбока
Хаваў боль сэрца ён свайго,
І погляд смелы, яснавокі
Нішто не кратала смугой.
З бяспечнай смеласці яго

Чаркесы пачалі дзівіцца,
Гады юнацтва шанаваць,
Не пакідаючы шаптаць—
Сваёй здабычай ганарыцца.

## ЧАСТКА II

Дзяўчына гор, ты знала іх—
Усю радасць сэрца, асалоду;
Пагляд каханых воч тваіх
Выказваў радасць мне і згоду.
Калі твой друг у змрок начны
Шукаў цалункаў палкіх вуснаў,
У стоме прагнасці дзівоснай
Ты забывала свет зямны.
Шаптала мне: „нявольнік любы,
Усцеражы сябе ад згубы,
На грудзі мне схіліся зноў,
Забудзь свабоду, край, бацькоў.
Хоць у пустэльні, ў дзікім полі
З табой і сонца мне ярчэй!
Кахай мяне: ніхто ніколі,
Не цалаваў маіх вачэй.
К маёй пасцелі адзінокай
Чаркес прыгожы чарнавокі
Не краўся ў цішыні начной.
Я жорсткай дзеўчынаю покуль
Трымаюся ў красе сваёй.
Мне маладь ужо гатовы:
Мой брат і бацька мой суровы
Прадаць нялюбаму майму
Мяне ў чужую хочуць хату;
Я упрашу бацькоў і брата,
А не кінжал—ці яд вазьму.
Якаясь дзіўных чараў сіла
Мной заўладала, любы мой!
Кахаю я, нявольнік мілы,
Душа захоплена табой..."

А ён у сэрцы з немым сумам
Дзяўчыне ў вочы пазлядаў.
І поўны цяжкіх смутных думаў
Кахання словы успрымаў.
Ён усхваляваўся. У ім сышліся
Падзеі дзён былых, начэй.
І слёзы горкія з вачэй
Аднойчы градам паліліся.
Ляжаў у сэрцы праз гады
Няпэўных мар кахання смутак.
Прад юннай дзеўчынай тагды
Ён выказаў свае пакуты.

„Забудзь мяне: не варты я
Твайго пачуцця дарагога,
Хай знойдзе любага другога
Юнацкая душа твая.
Яго любоў табе заменіць
Мае душы халодны сум,
І ён не здрадзіць і ацэніць
Чароўны погляд і красу;
І жар юнацкіх парыванняў,
І пал душы, крыві агонь;
Без асалоды, без жаданняў
Я стаў ахвяраю яго.
Быў я ў каханні нешчаслівы,
Ты бачыш след яго жахлівы:
Пакінь мяне і пашкадуй—
Ў жыцці самоту я знайду!
Няшчасны дружа, дружа мілы,
Чаму цябе я не сустрэў
Раней, калі быў повен сілы
І марай светлаю гарэў!
Ды позна: шчасця майго подых
Патух, як прывід адляцеў,
Твой друг адвык ад асалоды,
Для пачуцця акамянеў...

Як цяжка вуснам амяртвелым
Цалункі палкія ўспрымаць,
І вочы слёзныя нясмела
З усмешкай холадна страчаць!
З такім настроем чорнай смугі,
З рэўнівай, хвораю душой,
Ў абдымах палкае падругі,
Як цяжка думаць аб другой...

Калі так доўга і так квола
Ты пацалункі п'еш мае,
Каханне моманты свае
Ты ловіш сквапна і вясёла;
Ад слёз самотны ў цішыні
Тагды разгублены бяскраю,
Перад сабою бы сасніў,
Сустрэну вобраз што кахаю;
Яго заву, к яму лячу,
Маўчу, не бачу, не ўспрымаю;
Табе аддацца ўвесь хачу,
І вобраз твой я абдымаю;
Аб ім самотна слёзы лью,
Усюды ён са мною ходзіць,
І страшную тугу наводзіць
На душу хворую маю.

Пакінь мяне ты з ланцугамі,
Спакой сумлівых мар маіх,
Журботу з ціхімі слязамі:
Ты падзяліць не зможаш іх.
Ты сэрца слухала прызнанне;
Дай мне руку на развітанне!
Не доўга дзеўчыны любоў
Тыраніць горкая разлука:
Надыйдзе сум, адыйдзе мука,
Красуня пакахае зноў".

І горасна без слёз рыдае—
Сядзіць дзяўчына маладая.
У затуманеных вачах
Дакор відзён і сум і жах;
Збялеўшы ўся яна дрыжала;
Ў руках любоўніка ляжала
Рука халодная яе;
Каханне шчырае свае
У словах горкіх расказала.

„Ах рускі, рускі, ну чаго
Не знаўшы сэрца я твайго
Цябе на векі пакахала!
Не доўга на грудзях тваіх
Я ў забыцці адпачывала,
Не многа ночак дарагіх
Жыццё на радасць мне паслала!
Ці прыдуць зноў калі нібудзь?
Ці знікла радасць назаўсёды?
Ты мог нявольнік абмануць
Мае нявопытныя годы,
І хоць-бы з жалю аднаго,
Маўчаннем, ласкаю прытворнай;
Для шчасця лепшага твайго
Я стала-б кволай і пакорнай.
Я пільнавала-б момант сна,
Спакой самотны свайго друга;
Ты не хацеў... Дык хто-ж яна
Твая прыгожая падруга?
Дык вы кахаеце ўдваіх?
Твае я знаю адчуванні...
Прабач і ты мае рыданні,
Не смейся з горкіх слёз маіх".

Замоўкла. Слёзы і рыданні
Грудзям дзявочым не стрымаць.
У вуснах немыя маленні,
Самлеўшы ўпала на калені
Нічога не магла сказаць.
І ў час апошні раставання

Падняў няшчасную, сказаў:
„Не плач: І я спазнаў выгнанне
І мукі сэрца спрабаваў.
І я ўзаемнасці кахання,
Не адчуваў, кахаў адзін,
Я гасну ў стоме парыванняў,
Сярод забытах скал, далін.
Здалёк ад родных і жаданых
Знайду смяротную пасцель,
На костках тут маіх выгнаных
Ланцуг іржою зарасце...“
І зоры тухлі ў чорнай высі:
Здалёк празрыста узняліся
Вяршыні светласнежных гор;
Ў вачах і любасць і дакор,
Вось так яны і разышліся.

Пакуль не знікне з'янне зор,
Між скал нявольнік сумны ходзіць.
Усход на светлы далягляд
За днямі новы дзень узводзіць;
За ноччу следам ноч адходзіць—
І волі прагне ўсё пагляд.
Ці сэрна знікне за кустамі,
Ці скочыць ў цемрыве сайгак:
Знячэўку бразне ланцугамі,
І рад-мо крадзецца казак,
Начных аулаў разбурыцель
І ўсіх нявольнікаў збавіцель.
Ён кліча... ўсё вакол маўчыць,
Вось толькі хвалі гневам рушаць,
Ды чалавека звер пачуўшы
У пустку цёмную бяжыць.

Аднойчы рускі схамянуўся,
Вайсковы ў горах кліч пачуўся:
„Да табуна!“. Бягуць, шумяць
І цуглі медныя грымяць,
Чарнеюць буркі, з'яюць броні,
Храпуць асёдланыя коні,
К набегу ўвесь гатоў аул,
І чутны дзікія літанні
Нібы кіпучай рэчкі гул,
Імчаць да берагоў Кубані
Збіраць рабоўніцкія дані.
Замоўк аул. На сонцы спяць
Сабакі—сакляў вартавыя,
І дзеці смуглыя нагія
У вольнай жвавасці шумяць;

Іх прадзеды вакол сядзяць:
Дымяцца люлькі, дым сінее.
Яны ў цяньку маўклівых дрэў
Дзяўчатаў слухаюць напеў,
Дзядуляў сэрца маладзее.

## ЧАРКЕСНАЯ ПЕСНЯ

1

Ракой бяжыць шумлівы вал
У цемры горы падняліся.
Казак у стоме задрамаў
І на кап'ё сваё схіліўся.
Казак, не спі: ў цішы начной
Чачэнец ходзіць за ракой.

2

Казак плыве ў сваім чаўне,
Па дну ракі валочыць сеці.
Казак, ты ў рэчцы патанеш
Вось так, як тонуць летам дзеці
У спёку летняю парой:
Чачэнец ходзіць за ракой.

3

На берагох шумлівых вод
Цвітуць багатыя станіцы;
Вясёлы скача карагод.
Уцякайце з песняй чараўніцы
Хутчэй дамоў: спавіты цьмой
Чачэніц ходзіць за ракой.

Такі быў спеў. Пад шум патоку
Усё марыць рускі аб уцёку,
Ды з ланцугамі на руках...
Шуміць і пеніцца рака.
Між тым у цемры стэп заснула
І змрок ахутаў гор хрыбты,
І над хацінамі аулаў
Узняўся месяц залаты;
Алені дрэмлюць над вадамі,
Заціхнуў позні крык арлоў,
І адгукаўся між гарамі
Далёкі тупат табуноў.

Тагды кагосці чутна стала,
Мільгнула ў цемры пакрывала,
Дзяўчына ў сполаху, адна...
Прышла к нявольніку яна.
Красуні вусны штосці шэпчуць
Самотай вочы заплылі,
І чорнай хваляй абвілі
Ей косы шоўкавыя-плечы.

Яна з сабою прынясла
Пілу, даўгі кінжал булатны,
Нібыта дзеўчына прышла
На бой таемны, подвіг ратны.

Вачэй пагляд—зіянне зор:
„Уцякай,—дзяўчына кажа гор.
Уначы чаркес не напаткае,
Не траць магчымасці свае,
Вазьмі кінжал: сляды твае
Прадонне ночы паглынае.

Узяла дрыжачаю рукой
Пілу, да ног яго прыпала,
Вішчыць жалеза пад пілой;
Сляза гарачая упала.
Ланцуг распаўся—чуцен звон:
„Ты вольны!“—чуе голас ён,—
Уцякай!“ і погляд анямелы
Каханнем светлым запалаў,
І вецер злосна ашалелы
Яе чадру круціў, зрываў.
„О друг мой!—рускі праказаў,—
Я твой да смертнага прадоння,
Жахлівы край пакінем сёння
Уцякай са мной! Не, рускі, не!
Ужо знікла радасць назаўсёды,
Жыццё мне слала асалоду,
Ды ўсё прайшло, як мары ў сне.
Ці-ж можна! Ты кахаў другую
Знайдзі яе, кахай яе,
Аб чым-жа я яшчэ сумую,
Аб чым-жа думкі тут мае.
Бывай! Няхай кахання смуты
Прыпомняць стрэчы нашай час.
Бывай! Забудзь мае пакуты
Дай мне руку... ў апошні раз“.

Чаркешанцы працяг ён рукі,
Васкрослым сэрцам запалаў.
І пацалункамі разлукі
Саюз кахання ўмацаваў.
Рука ў руцэ, ў нямой самоце
Сышлі на бераг ў цішыні.
І рускі ў пеннай глыбіні
Плыве па хвалях ў адзіноце.
Даплыў да скал і плеск заціх,
І ўжо хапаецца за іх...
Раптоўна хвалі зашумелі,
І чуцен дзесь далёкі стогн...

На бераг дзікі вышаў ён,
Зірнуў назад, дзе даль яснела,
Дзе берагі у пене белай;
Але над шумнаю вадой
Няма дзяўчыны маладой.
Усюды мёртва... ды спяваюць
Вятры між скалаў стромых дзесь.
Пры свеце месяца сплываюць
Кругі на шумнай, на вадзе.

Усё ён сцяміў. На растанне
Агляну́ў у апошні раз:
Пусты аул, палі ў тумане
Дзе ён нявольнік статак пас.
Дзе ён ланцуг цягаў да зморы,
Рачулку, дзе адпачываў.
Калі чаркес суровы ў горах
Свабоды песню запеваў.

Знікаў на небе змрок глыбокі,
Лажыўся дзень на горы зноў.
Зара ўзышла і ў шлях далёкі
Нявольнік вольны ўжо ішоў.
Перад вачамі на курганах
Блішчалі рускія штыкі,
Пераклікаліся ў туманах
На варце ў змроку казакі.

## ЭПІЛОГ

Так муза друг юнацкіх дзён
Да межаў Азіі лятала.
Ї для вянка сабе зрывала
Каўказа дзікіх красак плён.
Ёй падабаўся гарт суровы,
Плямён, што вырaслі ў вайне,
Ї часта ў тым адзенні новым
Была чароўніца ў мяне;
Вакол аулаў апусцелых,
Па скалах лётала яна.
Дзяўчат пяянне зсірацелых
Яна там слухала адна;
Любіла рэчку і станіцы,
Трывогі смелых казакоў,
Курганы, ціхія грабніцы
Ї шум, іржанне табуноў.
Багіня песень, дзікіх казак,
Як успамінаў скарб для нас,
Няхай прыпомніць зноў яна

Паданні грознага Каўказа.
Падзей далёкіх яркі стан,
Мсціслава даўні паядынак,
І здрады, гібель расіян
На ложы помслівых грузінак:
Я апяю той слаўны час
лі пачуўшы бой крывавы,
На ўвесь абураны Каўказ
Узняўся наш арол двуглавы;
Калі на Тэраку сівым
Гром бойкі грукнуў агнявы
І ў груку рускіх барабанаў
З харобрым войскам са сваім
З'явіўся пылкі Ціціанаў;
Я апяю цебе, герой,
О Котляраўскі, біч Каўказа!
Куды ні мчаў ты—за табой
Твой след як чорная зараза
Плямёны нішчыў, выганяў.
Ты кінуў шаблю дзён крывавых,
Цябе не радуе вайна,
У язвах гонару і славы
Ты адпачынку п'еш спакой
І цішыню дамашніх долаў...
Але Усход ўзнімае вой!
Панікні снежнай галавой,
Каўказ скарыся!: Йдзе Ярмолаў!

Замоўк у горах крык вайны:
Меч рускі ўсім тут завалодаў.
Каўказа гордыя сыны
Вы паміралі за свабоду;
Ды вас не ўратавала кроў,
Ні зачараваныя броні,
Ні горы, ні ліхія коні,
Ні дзікай вольнасці любоў.
Нібы патомкі дзён Батыя,
Ён здрадзіць прадзедам Каўказ,
Забудзе страшных войнаў час,
Пакіне стрэлы баявыя.
Да схілаў, дзе ўміралі вы,
Пад'едзе смела падарожнік,
Пра час раскажа нам трывожны
Паданнем цмяным век сівы.

*Пераклаў*

*МІКОЛА ХВЕДАРОВІЧ*

*В. Арыстаў*

# ЦЯЖКАЯ ПУСТЭЧА

У баку ад вялікай маскоўскай дарогі з Смаленску на Вязьму стаіць на ўзгорку Свята-Георгіеўскі манастыр. Ніжэй манастыра туляцца ў бары манастырскія вёскі Беразнякі ды Ўсполле. Вёскі для ляснога краю вялікія, у кожнай двароў па пятнаццаць. Бліжэй да маскоўскай дарогі—маёнтак двараніна Булычова, сёлца Кор'е. Дваранін жыве ў Маскве, маладому цару Пятру Аляксеевічу служыць у прыказе Вялікага палаца. У Маскву яму мужыкі возяць аброк, грашамі і сталовы: муку аржаную, птушку бітую, грыбы і ўсё, што трэба двараніну к сталу.

Пра манастыр дзяды ўнукам пераказваюць так.

Было тое, у старадаўнія гады, калі князь Святаслаў Іванавіч на брата роднага войска вёў, землі братавы ваяваць. Спынілася княжае войска начаваць. І быў князю сон дзівотны: крумкачы над зямлёю кружаць, а на ўзгорку воін светлы з твару ў даспехах стаіць. Вымае воін з калчана стрэлы, ды ў крумкачоў пускае.

Раніцою, поп Перфілій, што служыў пры княжым войску, тлумачыў князю сон: крумкачы—войска братава, воін—Георгій Пабеданосец. Паводле тлумачэння выходзіла: сілы нябёсныя пасобяць князю адолець меншага брата. Даў тады князь богу абяцанне, пабудаваць на ўзгорку манастыр, калі збудзецца так, як тлумачыў поп Перфілій. Скора сыйшліся княжацкія войскі. Вялікая была бойка. Князь Святаслаў брата ў палон узяў, галаву адсек, а землі адабраў.

Вярнуўся князь з паходу і загадаў вучонаму немцу каменных спраў майстру будаваць на ўзгорку манастыр. Пяць год нямчын будаваў і памёр не дабудаваўшы, таму ў манастыры палова сцяны каменная, палова дзеравяная. Землі-ж, што на захад сонца і да самага Дняпра князь адпісаў манастыру. І валодаць тымі землямі, з ворнымі ўгоддзямі, лясамі, пустэчамі і вёскамі манастыру вечна.

Сядзелі на манастырскіх землях аратыя сяляне—чорныя людзі, і за тое плацілі манахам аброк. Калі ад дажджоў вымякала жыта, быў падзёж на скаціну, або чарвяк з'ядаў ярыну, мужыкі ішлі да манахаў прасіць дапамогі. Манахі нікому не адмаўлялі, давалі жыта на пражыццё або поле засеяць, і грошай прыкупіць авечак, толькі пазыковае пісьмо—сабе няволю напішы. А напісаў—і працаваць табе на манастыр вечна.

Спакваля хітрыкамі і падарункамі ваяводам ды прыказным, забралі манахі ў свае рукі суседнія вотчыны хударodных гарадскіх

баяр. Раней мужыкі плацілі аброк баярыну, цяпер айцу ігумену яшчэ большы аброк дай, ды пажыллёвае заплаці—за тое, што хата на манастырскай зямлі стаіць, ды шанавальнае. А не заплаціў, валакуць манастырскія прыказчыкі ў манастыр на расправу. Расправа-ж у манахаў жорсткая: бізуны, шэлепы, жалезы.

Быў май месяц 1692 году. Над раскрытымі хатамі сёлца Кор'е. салому за зіму мужыкі скармілі, ззяла ласкавае сонца, на лужку на троіцу, дзяўчаты вадзілі карагоды і спявалі песні пра кудравую бярозку.

Каля варот стараставай хаты, пачарнелай ад непагадзі і часу, з зацягнутымі пузыром акенцамі, стаяў стараста Панкрашка Грудзь і дзед Івашка, кастлявы стары з вузкай жаўтавата-белай барадой і выцвілымі вачамі.

— Ці не гаспадар Міхайла едзе,—сказаў Панкрашка, узіраючыся ў вазок, што касагорам з'язджаў да аколіцы.

Вазок кідаючыся на ўхабах, уехаў у сёлца і спыніўся каля стараставаі хаты. З вазка вылез манастырскі казначэй манах Місаіл. Казначэй пераксціў жывот, што выпіраў з пад расы і паклікаў старасту.

— Склікай-тка мужыкоў,—сказаў манах, благаслаўляючы старасту.

Сяляне збіраліся да стараставаі хаты неахвотна, ад манаха як мядзведзя дабра не чакай.

Азірнуўшы заплыўшымі вочкамі мужыкоў, казначэй сказаў:

— К Пятру і Паўлу аброк, сіраты, у манастыр нясіце, а хто не панясе, загадаў таго ігумен на правеж ставіць.

Дзед Івашка пачухаў касцяшкамі пальцаў лысіну і тонкім голасам закрычаў:

— За што мы павінны ў манастыр аброк несці, пан наш дваранін Міхайла, яму і плоцім.

Манах зрабіў страшныя вочы, склаў у кукіш кароткія, як адцінкі пальцы, і тыцнуў дзеду пад нос.

— Вось выкусі, быў у вас за гаспадара дваранін Міхайла, а цяпер стаў ігумен Варфаламей,—і выцягнуў з-за пазухі грамату.

— Вось яно закладное пісьмо. Пазычыў дваранін Міхайла ў ігумена Варфаламея 200 рублёў. А ў заклад аддаў вотчынныя свае землі, з палямі, лясамі і ўсякімі ўгоддзямі, і павінен быў пазычаныя грошы заплаціць у тэрмін студзеня чацвертага. А будзе не заплоціць, валодаць ігумену з брацей тымі землямі вечна і неўзваротна, так і ў пісьме сказана.

— Грошы аброчныя за мінулы год двараніну Міхайлу плочаны,— выступіў наперад стараста Панкрашка.

Манах ухмыльнуўся ў бараду, абыякавым голасам сказаў:

— Вольна-ж было вам, дурням, двараніну Міхайлу аброк плаціць. Дваранін грошай пазычаных ігумену ў тэрмін не заплаціў, палова года ўжо як зямля манастырская. А апрача аброку па рублю з цягла, павінны вы, манастырскія людцы, да пакрова жыта ў манастыр звезці пяцьдзесят чацвярцей, грыбоў сушаных пяць чацвярцей, ды цэлікаў на нітку начапляных сто сажняў, ды рыжыкаў і валнушак пяць чацвярцей, ды журавін чатыры чэцверці, ды брусніц і маліны сем чацвярцей, ды яек пяць тысяч, ды гароху тры чэцверці.

Казначэй перадыхнуў і, нібы чытаючы па пісанаму, зачасціў:

— А хрэну павінны звезці чатыры чэцверці, ды дроў сажневых сто сажняў, ды вылучыць дваццаць душ мужчынскага полу сажалку чысціць, ды ў служкі таксама мужчынскага полу тры душы. А з дзевак, якім больш за пятнаццаць год, павінны палатна тонкага па пяць аршынаў даць. А якіх дзевак бацькі замуж аддаваць будуць, павінны ігумену за вывад па два рублі плаціць.

Пераказаўшы ўсё адным духам, казначэй узмахнуў рукавом, благаславіў мужыкоў і ўціснуў у вазок сваё тлустае цела.

Мужыкі доўга глядзелі ўслед вазку, які заносіла на ўхабах.

— Сталі мы, хрышчоныя, манастырскімі халопамі,—уздыхнуў стараста Панкрашка.

Сутулы мужык Федзька Курносаў падцягнуў на рубашцы лыкавы пояс, панура праказаў:

— Бізуны манастырскія пэўна то-ж не саладзей за панскія батагі,— памаўчаў,— а падаццa няма куды.

* * *

У манастырскім саборы скончылася позная абедня.

Архімандрыт Варфаламей падмацаваўся грыбцамі з цыбуляй, выпіў дзеля весялосці думак малую чару заморскага віна і выправіўся абыходзіць манастырскую гаспадарку.

У садзе калоды стаяць, пчолы гудзяць — пасека. Спыніўся ігумен, слухае. Пчала заблудзіўшыся, села ігумену на плячо. Архімандрыт пчалу за крылцы ўзяў. Пчала ігумену джала не ўпусціла.

— Бач ты, стварэнне малое, а розум чалавечы, гаспадара чуе,— расчуліўся ігумен і разняў пальцы, — ляці, ляці любая, працуй на славу божую, манастыру на прыбытак.

За маліннікам сажалка. На беразе таўкліся сяляне, вылучаныя паводле ігуменава наказу на манастырскую работу з сёлца Кор'е. Твары ў мужыкоў да брывей вымазаны граззю, бароды палямчыліся, з Пятра нечасаныя, за манастырскай работай няма калі. Мужыкі, як былі без споднікаў, пакланіліся ігумену ў ногі. Архімандрыт, касавурачыся на работнікаў бельмастым вокам, прыкрыкнуў:

— Сорам свой, сорам, псы бессаромныя, прыкрыйце, — і загадаў служку падаць шост.

Скінуў архімандрыт расу, узяў шост, разоў два тыцнуў у сажалку.

— Твань не чыста выбрана, хітруеце, псы, для манастыра не стараецеся, — пажаваў губамі,—нанава сажалку чысціце.

Мужыкі ахнулі і паваліўшыся ігумену ў ногі працягла па-бабску загаласілі:

— Змілуйся, бацюшка, дзесяты дзень марнуемся, гразь грабем, жыта не жатае ў полі стаіць, абсыпаецца.

Ігумен нахмур ахнатыя бровы.

— Так таму і быць, адпушчу, калі прынесеце на заўтра сорак рублёў.

— Ды дзе-ж іх ўзяць, міласлівец, —у адзін голас закрычалі яму мужыкі.

Гледзячы на ззяючыя саборныя главы, архімандрыт салодкім голасам праказаў:

— А не, дык нанава гразь грабіце, рабы божыя.

Ідзе ігумен Варфаламей, азірае манастырскую гаспадарку. У трапазную наведаўся, паслушнікі капусту сёрбаюць, тухляцінай смярдзіць, інак Макарый чытае жыціе. Ігумен на чытальніка прыкрыкнуў,—не па чыну чытае, як званар спяшаецца. Зайшоў у мукамольню. У мукамольні інак Гедэон ланцугом прыкаваны, праз рэшата муку прасявае. Вачэй у інака не відаць, і твар страшэнны, чырвоны, з аблезлай скурай. Чуццём пазнаўшы ігумена, Гедэон закрычаў:

— На ўбоства мае глядзець прышоў, пёс?

Калісьці быў прыгожы з твару і целам стройны інак Гедэон. Перад самымі святкамі здарылася няшчасце. Варылі інакі Гедэон з Нафанаілам квас. Гедэон пачаў перад Нафанаілам выхваляцца. Не адзін айцец архімандрыт да ўдовай баярыні Казляцінавай у апачывальню доступ мае і яму, моў, Гедэону, тыя шляхі вядомы.

Не бачылі інакі, што архімандрыт ужо даўно ў паварні стаіць і слухае гутарку інакаў. Узяла ігумена Варфаламея ад гедэонавых слоў рэўнасць, зачарэпнуў ён у збан вару і плёхнуў інаку ў твар. Страшна закрычаў Гедэон і паваліўся на дол. Інаку Нафанаілу ігумен загадаў маўчаць, а мітрапаліту Сімеону ў Смаленск паведаміў, што інак Гедэон варыў квас і сам сабе твар варам ашпарыў і праз тое аслеп і розум страціў. І, не беручы на развагу, нясlавіць інак Гедэон ігумена і манастыр і тым інакаў і парафіян у змусту ўводзіць. Ад мітрапаліта хутка наказ прышоў: інака Гедэона на ланцуг пасадзіць і даць працу па сіле.

Тры гады сядзеў на ланцугу Гедэон. Раз у год у нядзелю на вялікадня інака раскоўвалі і вадзілі на утраню.

Каля варот дагнаў ігумена Федзька Курносаў, забег наперад: бухнуўся змарнелым целам архімандрыту ў ногі. Да самых пакояў поўз за ігуменам Федзька. На ганку архімандрыт запыніўся, надзьмуў друзлыя шчокі.

— Дзеля сіроцтва вашага мілую, нясіце дваццаць, а не—дык гнісці вам на манастырскай рабоце да восені.

* * *

Снег лёг рана, скора пасля пакрова. У Кор'е яшчэ не справіліся жыта памалаціць, як прышоў манастырскі прыказчык інак Спірыдон і загадаў мужыкам лес валіць, ды вазіць у манастыр дровы. Да каляд мардаваліся мужыкі на манастырскай рабоце.

Ад заезджага папа даведаўся ігумен, што ў Маскве хлеб у цане, і перад самымі калядамі пагнаў мужыкоў у белакаменную, везці на продаж манастырскае жыта. З абозам паехаў і Федзька Курносаў. Дома асталася дачка Аленка, ды малыя Верка з Сенькам. Дачка ў Федзькі красуня, сама як дуб моцная, з твару белая, вочы з паволокай. Другі год як заўдавеў Курносаў, і ўсю бабскую работу рабіла Аленка.

Увечары прышоў у Федзькаву хату манах Спірыдон. Пераксціўшыся на чорны ад сажы вобраз на покуце, манах гугнявым голасам праказаў:

— Мір табе, дзяўчына, — і сеў на ўслоне.

Верка з Сенькам пазвешвалі з печы галовы. Верка ціхенька ўскрыкнула:

— Вой, страшны, як вядмедзь касматы!

Манах разгладзіў падмёрзлую бараду і, падміргнуўшы вокам, сказаў:

— Збірайся, красуня, твая чарга ў ігумена пакоі мыць.

Не першы раз прыходзіў у сёлца Спірыдон клікаць дзяўчат ды маладзіц, мыць ігуменавы пакоі. А як пыталіся мужыкі, дзеля якой справы жонак ды дзяўчат па два тыдні ды па месяцу трымаюць у манастыры, манах хітра ўхмыльнуўшыся адказваў:

— Айцец архімандрыт хараство і чыстату зело спалюбіў, а дзеўкі вашы ды жонкі нечыста мыюць, і загадвае ігумен кожны дзень пакоі спачатку перамываць, покуль чыста не вымыюць.

Прыціскаючы да грудзей рукі, Аленка закрычала:

— Не пайду!

Манах ляснуў хутровай шапкай аб услон і крыкнуў:

— Пэўна ад таго цябе не паменшае,—памаўчаў,—хіба сасватана.

Аленка перамяніла лучыну, і яшчэ дужэй закрычала:

— Хоць забі мяне, не пайду.

Злосна паблісваючы вачамі, манах сказаў:

— Не толькі пойдзеш, але без запрошвання сама пабяжыш, бацькава дачка. Памятай маё слова.

І надзеўшы рукавіцы ўзняўся з услона.

* * *

Мужыкі завязлі ў Маскву жыта і вярнуліся дахаты. Вярнуўся і Федзька Курносаў. Скора прышоў манах Спірыдон з манастырскімі служкамі, звязалі гаспадару рукі, кінулі ў сані і завалаклі ў манастыр. Дачуліся мужыкі, што ўзяты Федзька за тое, што ў Маскве няславіў ігумена і манастыр, а калі гэта было і што ён казаў гэта вядома аднаму ігумену.

Прывязлі Федзьку ў манастыр, надзелі жалезны ашыйнік і прыкавалі ў сцюдзёнай кладоўцы да ланцуга. Загадана было трымаць так мужыка пакуль не павініцца. Кладоўка цесная не разагнуцца. Федзька сядзеў у кладоўцы, скурчыўшы сваё змардаванае мужыцкае цела, меркаваў, які вораг нагаварыў на яго. Пасля вячэрні, служка адчыняў дзверцы і прасоўваў Федзьку малюсенькі кавалачак хлеба і ставіў у збаночку ваду. Вада к раніцы замярзала, пальцам не працісну ць.

Манах Спірыдон у Федзькаву хату наведваўся часта. Спірыдон садзіўся на ўслоне і распухнаціўшы лапамі бараду, пачынаў гаворку:

— А Федзьку жалеза шыю да касці праела,—узнімаў да столі вочы і богабаязна ўздыхаў:

— Памрэ Федзька, пойдуць па свеце дзеці малыя, ох-хо-хо, грахі...

І ціха:

— Пакінь гардыню, бацькава дачка, скарыся.

Перад сырнай нядзеляй пайшла Аленка ў манастыр. Ігумен загадаў выпусціць Федзьку ў той-жа дзень.

Служкі прывязлі Федзьку на санях і кінулі перад дваром. Да хаты Федзька ледзь дацягнуўся. Верка з Сенькам не прызнаўшы бацьку закрычалі.

Бабка Хадосся адхайвала Федзьку сушанымі травамі ды шаптаннем. У Федзькі гнаілася раз'едзеная жалезам шыя, з адмарожаных пальцаў спаўзала мяса. Аленка-ж з манастыра не вярнулася. Манах Інакенцій з п'яных воч расказаў мужыкам і Федзькава дачка ўтапілася ў проламцы ў манастырскай сажалцы. І пра тое ігумен строга загадаў маўчаць. А хто з інакаў пра дзеўку тапельніцу ўпамяне, біць таго бізунамі і на ланцуг пасадзіць без тэрміну. Казаць-жа ўсім, што Аленка памерла ад чорнай хваробы.

Адхаіла Федзьку Курносава бабка Хадосся. Як павярнуў час к вясне, пацяклі з стрэх капяжы, устаў з услона Федзька, толькі гаварыць зусім мала стаў і з твару зрабіўся чорны.

* * *

Засінеў бор, падзьмула з польскага боку цёплым ветрам і за чатыры дні сагнала з палёў снег. Манах Спірыдон наказаў мужыкам араць цяжкую пустэчу, зямлю-ж, што да таго мужыкі пад ярыну аралі ігумен Варфаламей загадаў узяць пад манастыр.

Пустэча не дарма звалася цяжкой, зямля халодная, гліна ды калдобіны. З гэткай зямлі насення не збярэш. Мужыкі паслалі ў манастыр дзеда Івашку ды Міхалку Захарава біць ігумену чалом.

Прышлі пасланцы ў манастыр. Выйшаў ігумен на ганак, насупіўшы лахматыя бровы, запытаў:

— Што просіце?

Пасланцы паваліліся архімандрыту ў ногі і загаварылі ў адзін голас:

— Не рабі, ігумен, каб хрышчоныя гінулі, загадай, каб як раней быць усім ворным землям за мужыкамі.

Ігумен стукнуў аб ганак пасохам:

— Няма вам, маёй міласці, рабы лядашчыя.

Пачаў архімандрыт дакараць мужыкоў: і грыбоў цэлікаў на нітку начапляных не дададзена дзесяць сажняў, і гароху дзве чэцверці, і палатно дрэннае дзеўкі ткуць, адно разарэнне манастыру. Доўга дакараў Варфаламей мужыкоў, а пасля сказаў: калі прынясуць пяцьдзесят рублёў, быць землям як да таго за мужыкамі. І засопшы носам, пайшоў у пакоі.

* * *

У Кор'і манастырскія сяляне абмеркавалі грамадой ліха, адкуль узяць ігумену пяцьдзесят рублёў. Як не прыкідвалі больш дзесяці не выходзіла. Дзед Івашка, азірнуўшы мужыкоў выцвіўшымі вачамі, сказаў:

— Трэба, хрышчоныя, у пасадскага чалавека Ваські, што ў бабыля Мікіткі ў Усполлі хаваецца, парады папрасіць, мужык ён разумны.

У Усполле паслалі зноў такі дзеда Івашку і Міхалку Захарава.

Васька Зотаў мядзянік, уцёк з горада ад пасадскага цягла. Царскім указам загадана такіх лавіць і біць бізуном, водзячы па торгу, каб іншым была навука. Тых, хто ўцячэ ў другі раз казнілі смерцю.

У Усполле пасланцы дацягнуліся к вечару. Васька сядзеў на ўслоне, выразаў з дрэва лыжкі. Дзед Івашка расказаў мядзяніку пра ігуменаў уціск. Васька Зотаў злосна заблішчэў вачыма.

— Каламі-б іх, сабак чорнарызых,—пасля нібы ўспомніў нешта, уздыхнуў: — Відаць бізуном абуха не перацяць, не мінуць вам, сіротам, ваяводу на ігумена чалабітную падаваць. Кажуць ваявода Пятро Самойлавіч Салтыкоў за праўду стаіць, на тое царскі ўказ ёсць,—і трасянуўшы стрыжанымі пад гаршчок валасамі, дадаў,— пакараў бог народ, панасылаў ваявод.

Дзед Івашка падняўся з услона, пакланіўся ў пояс бегламу пасадскаму.

— Пастарайся для грамады, добры чалавек.

Васька Зотаў грамаце навучыўся ў маленстве ў горадзе ў званара, ён жа і напісаў мужыкам чалабітную.

* *
*

На заранку выйшлі дзед Івашка з Міхалкам за аколіцу, пераксцілі ілбы і звярнулі ў лес на сцежку. Ісці дарогаю асцерагаліся, каб ігумен не даведаўся пра чалабітную ды не перахапіў. Ішлі ўвесь дзень. Пад Сакаловай гарой сустрэлі абоз, уладыкавы мужыкі варочаліся з Смаленску, вазілі туды каменне, мітрапаліт будуе ў горадзе сабор. Уладыкавым вёскам наказана камення завезці па возу ад двара. А які двор для божай справы не пастараецца, загадана біць гаспадара бізунамі і правіць поўрубля штрафу. Начавалі чалабітнікі ў лесе. Ухаў у лясным змроку філін, булькала ў балоце, дзед Івашка ў паўголаса гаварыў Міхалку:

— Бач нячысцікі ўсхадзіліся,—і таропка жагнаў лоб, баронячыся малітвай ад лясной нечысці.

Раніцою сек дождж. На лапці набіралася гліна, ісці было цяжка.

Яшчэ прайшлі дзед Івашка з Міхалкам, выйшлі на вялікую дарогу, убачылі свінцовую раку ў бурых берагах, гарадскія сцены і горад на гары—Смаленск. Над востраверхімі вежамі і главамі цэркваў нізка валакліся распатлашаныя хмары. Вароны ўзнімаліся і падалі на забруджаныя птушыным следам, вялікія па сажню, зубцы гарадской сцяны і адхоныя дахі.

Каля гарадской брамы, паклаўшы на зямлю бердышы, сядзелі на бервяне вартавыя стральцы. Малады стралец з меднай завушніцай у вуху, і падраным латка на латцы каптане, падняўся, схапіў Міхалку за каўнер, і вытрашчыўшы п'яныя вочы, закрычаў:

— Стой! Што за людзі, мабыць красці ідзеце?

Дзед Івашка калоцячыся ад страху, сунуў стральцу медзякоў. Грузны стралец з сівізной у шырокай барадзе, што сядзеў на бервяне, лянівым голасам сказаў:

— Пусці іх, Мікітка!

Прытулак чалабітнікі знайшлі на Разніцкай вуліцы ў Цімошкі Бражнікава. Цімошка вёрткі чалавек, жмурачы хітраватыя вочы, запытаў ад каго прысланы, і даведаўшыся што ад Ваські Зотава, узяў па дзве капейкі жыллёвых грошай і завёў у святліцу.

У святліцы, падпёршы рукамі галаву, за сталом на ўслоне, сядзеў плячысты чалавек, з барадой колцамі, апрануты ў зялёную рубашку. Ён апусціў рукі і чалабітнікі ўбачылі, што ў малайца не хапае вуха.

— Таць,—шапнуў Міхалку дзед Івашка і абмацаў схаваныя за пазухай медзякі.

У царскім улажэнні сказана:

„А прывядуць таця, і давядуць на яго адну пакражу, таго таця, біць бізуном і адрэзаць левае вуха“.

За другую пакражу таксама білі бізуном і адразалі правае вуха.

Аднавухі, азірнуўшы мужыкоў вясёлымі вачамі, запытаўся:

— Адкуль, сіроты, заявіліся?

Дзед Івашка пра ігуменаў уціск ды пра чалабітную ціха, з асцярогаю расказаў аднавухаму.

Маладзец пачасаў кучаравую бараду і ўхмыльнуўся:

— Кабыла з мядзведзем дужалася, хвост ды грыва асталася. А ў заезджую хату, сіроты, носу не патыкайце, дзякі з пад'ячымі, сабачае племя, абдзяруць. Проста на ваяводаў двор падавайцеся, ваяводзісе рублём пакланіцеся, а тады і да ваяводы ідзіце. Ваявода цяпер сам пашану не прымае, малады цар Пётр Аляксеевіч у гэтым не папускае.

Гаспадар Цімошка прынёс віна. Баба прышла ў чорным адзенні, з выгляду божая старыца—інакіня. Села старыца на ўслоне, зірнула смела на мужыкоў, і загаварыла ціха з аднавухім. Пагаварылі крыху і старыца пайшла. Міхалка запытаўся ў карнавухага, з якога манастыра малельніца. Аднавухі насмешліва бліснуў на Міхалку белымі зубамі:

— Не малельніца, дурань. Гэта такая баба, што маладых жанок з мужы зводзіць.

Раніцою чалабітнікі пацягнуліся паўз бярвенчатыя хаты ў горад на гару. Гной і ўсякі бруд гарадскі люд валіць на вуліцу, таму ў горадзе смурод. Ад цяжкага духу дзед Івашка пляваўся і круціў галавой. З перакошаных, зашмальцаваных рукамі дзвярэй карчмы, стралец выцягнуў за бараду пасадскага і ўдарыў у вуха. Перад карчмой, задраўшы расу, і раскінуўшы рукі, ляжаў у ірвотах поп. Прыказны з меднай чарнільніцай, праходзячы ткнуў ляжачаму ў бок саф'янавым ботам.

— Уставай, ойча, час, на познюю абедню звоняць.

Каля торгу сустрэлі баярына, які ехаў верхам, у каптане мяснога колеру і маскоўскай шапцы трубой. За баярынам на худых конях пратрусілі стральцы. Латошнік, што гандляваў піражкамі, пакланіўся баярыну, сказаў суседу:

— Ваявода Пятро Самойлавіч на з'езджую паехаў, службу спраўляць, скора злодзеяў вывядуць бізуном біць, пойдзем-тка паглядзім.

Дзед Івашка шапнуў Міхалку на вуха:

— Ваявода, чуў, паехаў, у самы час прыдзем.

Праз расчыненыя вароты чалабітнікі ўвайшлі на ваяводаў двор. Васпаваты халоп запытаўся ў чым патрэба, і хмурачы рэдкія бровы закрычаў:

— Да ваяводы ў з'езджую хату ступайце, ды жывей паварачвайцеся. А не, дык у карак, ды вон.

Дзед Івашка сунуў халопу алтын, і жаласлівым голасам сказаў:

— Нам бы, прыгажун маладзец, баярыні ваяводзісе пакланіцца.

Васпаваты праводзіў чалабітнікаў у сенцы і сказаўшы, каб пачакалі, пайшоў у святліцу.

Калыхаючы тлустымі целесамі, выйшла ў сенцы проставалосая ваяводзіха. Чалабітнікі пакланіліся баярыні рублём, і расказалі чаго прышлі. Ваяводша ўзяла пашану, чалабітнікам сказала наведацца падвечар да самога ваяводы.

* * *

Як стала сонца к вежам падаць, зноў пацягнуліся дзед Івашка з Міхалкам на ваяводаў двор. Выйшаў да чалабітнікаў васпаваты халоп, сказаў, што ваявода спіць. Сам глядзіць у бок і скрабе далонь, чакае што дадуць. Дзед Івашка паклаў васпаватаму на лапу дзве капейкі. Той грошы за пазуху кінуў і сказаў чакаць каля ганку. З людской хаты павыбеглі халопы і пачалі задзірацца з чалабітнікамі крыўднымі словамі. Васпаваты вынес з святліцы нізкую лаўку і падміргнуў чалабітнікам вокам—устаў ваявода зараз выйдзе.

Ваявода князь Пятро Самойлавіч Салтыкоў вышаў на ганак, як спаў, у споднiках ды сарочцы. Чалабітнікі пакланіліся ваяводу ў ногі.

Ваявода сеў на лаўку, пачухаў пецярнёй жывот, і хрыплым з прасоння голасам запытаўся:

— Пашто дакучаеце, сіроты?

Дзед Івашка выцягнуў з-за пазухі чалабітную, падаў баярыну. Ваявода загадаў васпаватаму халопу чытаць чалабітную. Халоп, водзячы пальцам, чытаў па складах:

„Работаем-жа мы работы летнія і зімнія бязвыхадна і ад той манастырскай работы прышлі мы да вялікага заняпаду і нястачы. А цяпер загадаў архімандрыт Варфаламей ворныя землі ў нас адабраць і за сабою трымаць. Заступіся ваявода і князь, не дай нам сіротам, галоднаю смерцю загінуць. А той-жа архімандрыт Варфаламей, забыў страх божы, нахабствам бярэ дзевак і жанок маладых, і трымае іх у манастыры па два тыдні і па месяцу і з імі блудчічае“.

Ваявода хаваючы ў заплыўшых вачах хітраватыя аганькі, самавіта разгладзіў бараду:

— Эк, яго бес мучае,—уздыхнуў,—моцны сатана, вораг чалавечы Ох, моцны!

Халоп скруціў чалабітную. Ваявода паскробся, злавіў за пазухай кусачае стварэнне, казніў на пазногці, не гледзячы на чалабітнікаў, сказаў:

— Няма маёй волі ў справах манастырскіх, на мітрапалітаў двор падавайцеся, мітрапаліта Сімеона прасіце.

Ваявода вярнуўся ў святліцу, зняў з сцяны бізун двайчатку, і пайшоў у верхні пакой баярыню далікатна за непарадак павучыць.

Ваяводзісе загадана было ад чалабітнікаў менш трох палцін не браць.

* * *

Перачакалі цяжкі дзень панядзелак і ў аўторак пайшлі Міхалка з Івашкам на мітрапалітаў двор. Пакуль манах упусціў, доўга сталі пад варотамі, за высокай дзеравянай сцяной. Паўз прасторныя хаты, па пасыпанай жоўтым пяском дарозе, манах праводзіў чалабітнікаў да мітрапалітавых палат. Каля палат перад высокім разным ганкам стаяў дзеравяны казёл. Рыжы служка, закасаўшы рукавы, хвастатым бізуном пелесаваў праз спіну расцягнутага на казле брытага чалавека. З-пад бізуна ляцелі чырвоныя пырскі. Біты ўздрыгваў раскрэмзанай спіной і глуха мычаў. Манах пальцам тыцнуў на казёл:

— З ляхаў выкраст, кажамякінскай паўсотні пасадскі чалавек, у пятніцу скаромнае жраў. А як пратапоп Макарый жазлом вучыць пачаў, закрычаў, што не тое чалавека паганіць, што ў вусны ўваходзіць, а тое, што з вуснаў. За тыя дзерзкія словы загадана выкраста бізуном біць бязлітасна і ў турму ўкінуць на тры дні. І гэта вам дурням навука.

Каля ганку пачакалі. Манах пайшоў у пакоі, служкі павалаклі бітага на рагожы ў клець, саджаць на ланцуг.

На ганак выйшаў чорнабароды дзяк у бархатнай скуф'і і ўзяў чалабітную, чалабітнікам сказаў не адыходзячы чакаць уладыкавага рашэння. Дзед Івашка з Міхалкам чакалі каля ганку нядоўга. Выйшаў дзяк і абвясціў рашэнне: закаваць чалабітнікаў у калодкі і пад вартаю адправіць у манастыр, няхай там ігумен Варфаламей робіць з імі як сам ведае. Ігумену і чалабітную адаслаць.

Паклікаў дзяк служак, зрабіць так як загадаў уладыка мітрапаліт. Прывялі чалабітнікаў мітрапалітавы служкі ў манастыр. Ігумен Варфаламей прачытаў чалабітную і загадаў пасадзіць дзеда Івашку з Міхалкам на ланцуг.

Два тыдні чакалі ў Кор'і мужыкі звароту чалабітнікаў і толькі на трэцім даведаліся, што дзед Івашка з Міхалкам сядзяць у ігумена Варфаламея на ланцугу пад вартаю.

На духаў дзень прыбег у ігуменаву келлю манах Макарый. Вытрашчыўшы на ігумена спалоханыя вочы, інак не благаславіўшыся закрычаў з парогу:

— Ойча! Людцы манастырскія з дуб'ём ды з рагацінамі да манастыра сунуць.

Ігумен пераксціўся на вялікія ў срэбры абразы, інаку загадаў:

— Вароты моцна запры, брацііі скажы не марудзячы з пад клеці бердышы браць, ды к сценам станавіцца, мне загадай пішчаль падаць.

Ігумен выйшаў на манастырскі двор. Каля клеці манахі поламі падраснікаў выцiралi іржу з лезвіяў бердышаў. З надваротнай вежы відаць быў густы натоўп сялян, якi падыходзіў да манастыра. Каля варот мужыкi спынiлiся. Архімандрыт з акна вежы закрычаў:

— Пашто прышлi, баламуты?

З натоўпу выйшаў Федзька Курносаў.

— Выпусцi, ігумен, дзеда Івашку з Міхалкам, не мучай жалезамi, добрым словам просім,—i задраўшы да акна бараду, абаперся на рагацiну.

— Вось я вас псоў лядашчых, злодзеяў,—пагразiў пішчалем ігумен.

— Сам ты, сапраўдны сабака блудлiвы,—агрызнуўся Васька Зотаў.

Зайшло сонца за поўдзень, яшчэ падыйшлі мужыкі з Усполля ды Беразнякоў, адчуўшы сілу, замахалі дубінамі і палезлі к варотам. Ігумен прыклаўся і пальнуў з пішчалі. Мужыкі падалiся назад i да вечара сядзелi воддаль ад сцен.

Уначы інакі з служкамі вартавалі сцены. Ігумена Варфаламея пад раніцу змарыў сон. Ён вярнуўся ў пакоі, брацii сказаў, што ідзе малiцца, каб адолець злодзеяў. Толькі заплюшчыў Ігумен вочы, прыбег у пакой інак Апалiнарый.

— Бяда, ойча, мужыкi вароты бярвеннем б'юць.

За Апалінарыем—Мардарый. Кінуўшы на зямлю бярдыш, манах схапiўся за галаву і вісклівым голасам залемантаваў:

— Хавайся, ігумен, мужыкi вароты разбілі, казначэя Місаіла лапцямі затапталі.

У ігумена ад страху пахаладаў жывот і абмякла барада. Паглядзеў ігумен на ранiшняе святло, што бялелася за слюдзяным акенцам, з дрыготкаю ў голасе прашаптаў:

— Дзеля бога, схавайце, брацiе, нічога не пашкадую.

Апалiнарый з Мардарыям пад пашкi павалаклі тлустага ігумена ў пограб.

Было ўжо віднa. На манастырскім двары пераклікаліся мужыкi. Федзька Курносаў схапiўшы за бараду ключара, крычаў:

— Кажы, манах, дзе дзед Івашка з Міхалкам сядзяць.

Манах пускаў у бараду сліну і мычаў, вытрашчыўшы на Федзьку круглыя вочы. Ключара злёгку агрэлі дубiнаю. Манах кінуў на зямлю зазвiнеўшыя ключы. Дзеда Івашку з Міхалкам мужыкi вынеслі з каморы на руках. Дзед Івашка, гледзячы на палымнеючы ўсход, цiха праказаў:

— Замучыў нас, хрышчоныя, ігумен боем ды жалезамi.

Васька Зотаў, абшнырыў увесь манастыр i знайшоўшы архімандрыта за кваснай кадушкай, вывалак яго на двор. Мужыкі закрычалi i паднялi дубіны. Старац Саўваціі, апрануты у ззяючае царкоўнае адзенне выйшаў на манастырскі двор. Узняўшы адной рукой крыж, другой тыцкаючы ў кінутага на зямлю ігумена, старац богабаязным голасам сказаў:

— За адзiны волас на галаве яго дасце адказ на страшным судзiлiшчы хрыстовым, у геенне вогненнай гарэць будзеце вечна.

Мужыкi паздымалі шапкі і апусцiлi дубiны.

Васька Зотаў зняў з сябе мядзяны крыж і тыцнуў ігумену:

— Цалуй крыж, ігумен, зла не чыніць.

Архімандрыт дрыготкімі вуснамі пацалаваў Васькаў крыж.

— Клянуся і абяцаю, мне архімандрыту Варфаламею зла мужыкам за бунт іхны не чыніць і землям ворным як да таго за імі быць.

* * *

Тыдні праз два ў манастырскія вёскі панаехала стральцоў, пасланых ваяводам Салтыковым. Вязалі стральцы ўсіх, ці хто вінаваты, ці невінаваты і валаклі ў манастыр на расправу. Стралецкі галава Пракофій Мачалін з ігуменам наводзілі следства, шукаючы завадатараў.

У каменным амбары стральцы зрабілі дыбу, праз верхнюю балку перакінулі вяроўку з пятлёй, пад балкай паклалі бервяно з хамутом. Стральцы тых з узятых мужыкоў, на каторых паказваў ігумен, вадзілі ў амбар на допыт. За заплечнага майстра быў стралец Акімка Таўстапят, які да стралецкай службы быў за ката ў Маскве ў разбойным прыказе. Акімка здзіраў з мужыка рубаху, вязаў назад рукі, прасоўваў паміж звязаных ног бервяно і за вяроўку ўсцягваў да столі. У падвешанага выходзілі з суставаў рукі, вылазілі ад болю вочы, Акімка станавіўся на бервяно, замацоўваў вяроўку і гузластым бізуном хвастаў дапытванага ўсцяж спіны. Стралецкі галава, меднатвары, з моцнымі надскіўіцамі сядзеў на лаўцы воддаль, каб не запырскала крывёю. У дапытваных трашчалі косці, але ўсе ў адзін голас казалі, што завадатараў не ведаюць і ісці к манастыру надумаліся ўсёй грамадой. Старац Саўвацій, прыслухоўваючыся ў сваёй келейцы да крыкаў, што даносіліся з амбара, ласкава гаварыў мардастаму паслушніку:

— Кнут не бог, а праўды дойдзе, вось так, раб божы Іоан.

Ваську Зотаву ды Міхалку, Акімка з стральцамі звязалі рукі і ногі, прасунулі аглаблю і на дварэ як кабаноў смалілі саломай.

Архімандрыт Варфаламей, каб лепш чуць, што кажуць дапытваныя, стаў блізка. Выкручваючыся над агнём, і пускаючы запёкшымі вуснамі чырвоную пену, Васька Зотаў прахрыпеў:

— Ты-ж, сабака, крыж цалаваў, што зла мужыкам не будзеш чыніць і плюнуў ігумену ў твар.

Ігумен выцер бараду, і наліваючыся крывёй, саўнуў Ваську пад рабро посахам:

— Мяне мітрапаліт Сімеон ад цалавання крыжа вам, баламутам, злодзеям і разбойнікам вызваліў.

На аколіцы сёлца Кор'е стральцы паставілі глаголь—укапаны ў зямлю высокі слуп з папярэчынай. Праз папярэчыну перакінулі кароткі ланцуг з вострым жалезным крукам для казні.

Скончыўшы вышук стралецкі галава Пракофій Мачалін, данёс у Смаленск ваяводу Салтыкову:

„Бегламу пасадскаму чалавеку Ваську Зотаву казнь учынена, павешан за рабро, іншыя баламуты біты кнутом бязлітасна. Манастырскі-ж селянін Міхалка Захараў не вытрываўшы вышуку волею божаю памёр“.

Васька Зотаў пяць дзён вісеў на круку, палохаючы баб і дзетвару страшнымі вытрашчанымі вачамі. На шосты дзень закапалі Ваську каля слупа.

Стральцы вярнуліся ў горад. Ігумен Варфаламей вышук рабіў па-ранейшаму, кожны дзень служкі нявечылі людзей бізунамі на манастырскім двары. Ад ігуменавай расправы мужыкі шукалі ратунку ў лясах і ў маху. Уціхамірыў ігумена старац Саўваций: убытачыць архімандрыт манастыр, разбягуцца людцы і работаць не будзе каму на манастырскай зямлі.

* * *

Маскоўская дарога з Смаленску на Вязьму здавён лічылася „зладзейскай", а пасля ігуменавай расправы зусім не было праезду ад ліхіх людзей. І больш за ўсіх вядомы быў атаман Крумкач. Атамана так празвалі за разбойніцкую замашку каркаць як крумкач. Едзе купец ці дваранін, ці служылы чалавек, як крумкач каркнуў, трэба чакаць ліха. Нібы з-пад зямлі выскаквалі з кісцянямі і тапарамі лахматыя як мядзведзі, ліхія людзі. Купцы збіраліся ў абозы вазоў па дваццаць. Малыя абозы Крумкач разбіваў і купцоў грабіў.

Ваявода Салтыкоў пасылаў з Смаленску стральцоў і рэйтараў лавіць разбойнікаў. Стральцы і рэйтары кожнага разу варочаліся ні з чым. Маскоўскага баярына, што ехаў у Смаленск па важнай дзяржаўнай справе, разбойнікі ледзь не забралі ў палон, ды адбіўся баярын з халопамі з пістоляў. З Масквы было загадана ваяводу трымаць па маскоўскай дарозе моцную варту. Ліхія людзі пацішэлі і ў хуткім часе прайшла чутка, што Крумкач падаўся на Дон.

Перад зімнім Міколам ігумен Варфаламей атрымаў ад мітрапаліта ўказ быць у горадзе на асвянчэнні новай мітрапалічай царквы. Пасля познай абедні ігумен з інакамі Макарыем ды Фролам выбраліся ў дарогу.

Ігумен ехаў наперадзе ў адкрытым вазку, ззаду на розвальнях інакі. Зімняя дарога нудная. Касагоры ды зацярушаныя снегам кусты. Ігумен пра ўпрыгожанне манастыра думае, трэба адшукаць майстра, распісаць іканастас і пакоі, як у мітрапаліта, венецэйскімі фарбамі. Праехалі паўз раскіданых каля замерзлай ракі хат—маёнтак двараніна Друцкага. Закладная на маёнтак у ігумена. Архімандрыт прыкінуў, калі двараніну тэрмін плаціць. Не заплоціць—быць вёсцы пад манастыром. Уехалі ў лес. Вавёрка скокнула з галінкі на галінку. У сані пасыпаўся снежны пыл. Ратуючыся ад лісіцы, заяц кумельгам пераляцеў праз дарогу. Ігумен плюнуў і перакрсціў лоб, паганая прыкмета. Скора ігумен на зайца забыўся, зноў пачаў думаць пра ўпрыгожанне манастыра і пра закладную. Сонца кідаючы на снег светлыя плямы, схілілася за сосны. На скрыжаванне дарог выйшаў мужык, на галаве шапка з лісіцы, у руках рагаціна.

— Мядзведнік, а можа ліхі чалавек, барані божа,—адчуваючы ў спіне холад, падумаў ігумен.

Каркнуў за соснамі крумкач. Не паспеў ігумен азірнуцца назад, у санях у інакаў быў нямецкі пістоль, як мужык у лісінай шапцы сха-

піў коней за цуглі. З свістам і гікам з-за соснаў, размахваючы тапарамі і рагацінамі, выскачылі ліхія людзі, даўгалыгі разбойнік падскочыў да вазка і весела крыкнуў:

— Не пазнаеш хіба, ігумен!

У архімандрыта збялелі шчокі, і закалаціліся вусны.

— Федзька Курносаў!

Ліхія людзі вывалаклі ігумена з вазка. Архімандрыт упаў на калені і ловячы разбойнікаў за ногі, хрыпла закрычаў:

— Не губіце душу, золата дам, адкуплюся.

Чорнабароды мужык у заячай шапцы саўнуў ігумену ў спіну каленам.

— Схамянуўся манах, калі смерць у галавах, на сасну яго ці што атаман?

Федзька коса ўхмыльнуўшыся сказаў:

— Маліся, ігумен.

І пачаў не спяшаючыся вязаць пятлю.

*Пераклаў з рускай мовы*

*Я. ШАРАХОЎСКІ*

*Пятрусь Броўка*

## ПЕСНЯ ПАГРАНІЧНІКАЎ

Шуміць над дазорам
Сасновае голле,
І ветры з дажджамі плывуць...
За намі дзяўчаты
Спяваюць на полі,
Шахцёры на шахты ідуць.

За намі высока
Крэмлёўскія зоры,
За намі—сталіца Масква,
І рэкі як срэбра,
І люстры-вазёры,
І стэпаў густая трава.

За намі даліны,
Дзе граюць крыніцы,
І жытняе поле шуміць...
І вораг ніколі
Не пройдзе граніцы,
Дзержынцы на варце граніц.

1936 г.

*Пятрусь Броўка*

## МЫ ТОЛЬКІ УВАЙШЛІ У САД...

На полі першая раса.
І сталі яблыні цвісці...
Мы толькі увайшлі у сад,
Як многа нам з табой ісці.

Твае зялёныя уборы
Зусім падобны да вясны.
Я не скажу, што вочы-зоры,
Але як водбліскі яны.

Яны задумлівы, глыбокі,
У іх праўдзівае жыве
І гнеў бывае адзінокай
Па небу хмаркай праплыве...

Але ізноў цяплом сагрэты.
І мы смяемся і пяем.
Адзін другога, мы, прыкметы,
Даўно здалёку пазнаем.

Ну што нам лепшага яшчэ?
Вучыцца, жыць, спяваць, расці!..
Твая рука ў маёй руцэ,
Як добра нам з табой ісці!

Май, 1936 г.

*Пятрусь Броўка*

* * *

Вясной, птушыны звонкі лёт,
Ї белы па садах агонь,
Ї як дзявочы карагод
Чаромхі кругам ля вакон.

Чалом вясна, табе чалом,
Мы доўга мусілі чакаць...
Ах, колькі песень за сялом,
Што іх ніколі не сабраць.

Яны плывуць уздоўж ракі,
Далёка нікнуць на ляту...
Пяюць падружкі і вянкі
Сабе з мядуніцы плятуць.

Плятуць з рамонкамі яшчэ,
Каб потым любаму аддаць...
Ніколі болей на рацэ
Пра лёс не трэба ім гадаць.

Для іх сям'і—братоў, сясцёр,
Такое шчасце усплыло...
Ах, як прыгожа пра жыццё
Пяюць падружкі за сялом.

Май, 1936 г.

*Эдуард Самуйлёнак*

# УРАЧЫСТАЯ МЕСА

Усё выйшла ад залішняе набожнасці генерала Лопеца, камандуючага калонай. Набожнасць была аднэй са шматлікіх генеральскіх цнот. Пад тугім расшытым мундзірам генерал насіў медальён, у якім знаходзіўся талісман, сухая маслінавая ягадка з Віфлеема і перад тым як падпісаць чарговы прыгавар, генерал заўсёды цалаваў крыж. Але ў даным выпадку з-за генеральскае благачэснасці здарылася бяда.

Ужо некалькі дзён на сектары генерала Лопеца ішлі ўпартыя баі. Рэспубліканцы націскалі так, што вымушаны былі адыйсці самыя надзейныя часці і становішча пагражала катастрофай, не гледзячы на падмацаванні з чужаземнага легіона. Рэспубліканцы занялі пазіцыі на спадах гор, выбіць іх адтуль не было ніякай магчымасці. Салдаты генерала Лопеца штодзённа ішлі ў атаку пад незмаўкаемы гром артылерыйскай кананады з абодвух бакоў, і кожны раз генерал бачыў праз бінокль, як бравыя мараканцы, ахопленыя панікай, натоўпамі бягуць у даліну і шмат з іх застаецца на месцы. Фронт пасоўваўся ўсё бліжэй, грымотнае рэха рэспубліканскіх батарэй сатрасала сцены генеральскай штаб-кватэры. Рэспубліканцы занялі горныя пазіцыі і выбіць іх адтуль не было ніякае магчымасці, бо ў генерала не было авіяцыі. Рэспубліканцы імкнуліся акружыць горад і хаця ў іх таксама не было авіяцыі, поспех быў на іх баку. Прыслухоўваючыся да грознага набліжаючагася рэха, што грымела ў цяснінах гор, генерал адну за другой пасылаў радыёграмы ў галоўны штаб. Генерала мучыла бяссонніца і калі ўдавалася заснуць, ён бачыў у сне эскадрыллі самалётаў. Яны лёталі над гарамі і генерал бачыў праз бінокль яркія зарніцы выбухаў на лініі рэспубліканскіх акопаў. Мараканцы ішлі ў атаку, рэспубліканскія байцы пакідалі пазіцыі і беглі натоўпамі і, наганяючы іх, скрозь, па спадах гор, узрываліся бомбы, высока ўгару ўзнімаючы тонны зямлі, каменняў, жалеза. Але сон, гэта толькі сон і генерал абуджваўся ад першага-ж залпу рэспубліканскай батарэі.

Нарэшце галоўны штаб прыслаў радыёграму:

„Генералу камандуючаму калонай. У ваша распараджэнне высланы тры цяжкія бамбандыроўшчыкі „Капроні“.

Далей генерал не чытаў. Ён, спяшаючыся, расшпіліў мундзір і выняў медальён. Дзень пачаўся шчасліва. Ад самае раніцы рэспубліканцы маўчалі. Генерал аддаў патрэбныя загады і разам з ад‘ютантам выйшаў у сад.

Неўзабаве пачуўся цяжкі гул. Ён мацнеў з кожнай хвілінай і хутка генерал убачыў тры вялізныя машыны, што плылі высока ў лазурным небе. Яны прайшлі над горадам, зрабілі разварот і з глухім рычаннем пачалі зніжацца. З-пад крыла вядучай машыны сонечным зайчыкам пырснула ракета. Гэта азначала, што камандзір карабля прыняў генеральскі загад аб пасадцы. Генерал загадаў ад'ютанту падаць аўтамабіль. Ён быў усхваляваны так, што не мог спакойна стаяць на месцы і сам пайшоў следам за ад'ютантам.

На аэрадроме лётчыкі былі прадстаўлены генералу. Разам з імі генерал абыйшоў самалёты. Ён быў у захапленні. Вялізныя машыны стаялі ў рад, шырока разгарнуўшы магутныя крыллі. Гулка працавалі маторы, па крыллях гэтых грозных караблёў поўзалі механікі. Генерал успомніў: некалькі месяцаў таму назад адзін такі „Капроні" на працягу некалькіх мінут дашчэнту знішчыў шведскі шпіталь у Абісініі. Генерал глянуў на грэбні высокіх гор, дзе былі пазіцыі рэспубліканцаў, і ўсміхнуўся. Потым ён паглядзеў на „Капроні" і нечакна адчуў у сваёй рэлігійнай душы, моцны наплыў экстазу. Ён адвярнуўся і аддаў ад'ютанту загад. Камандзір флагманскага карабля нездаволена пацісnуў плячыма. Ён крыху ведаў іспанскую мову, зразумеў, што сказаў генерал ад'ютанту і лічыў, што генерал сказаў глупства. Камандзір флагмана адышоўся ў бок, зняў свае цяжкія рукавіцы і намацаў пад камбінезонам флягу. Урэшце яму добра плацяць і калі ягоную машыну хочуць папырскаць святой вадой, матэрыяльная частка ад гэтага не папсуецца. Да вылету заставалася яшчэ з пару гадзін, машыны былі ў парадку. І калі генералу прыспічыла памаліцца, калі ласка!

Генерал паехаў у штаб, ад'ютант званіў у загарадную рэзідэнцыю біскупа, а па астатніх тэлефонах супрацоўнікі штаба запрашалі найбольш паважаных грамадзян горада прыбыць на ўрачыстую месу, якая мела адбыцца на аэрадроме.

Тут патрэбна ўказаць на адну нязначную акалічнасць. Каб генерал ведаў, што рэспубліканцы за поўгадзіны да таго, як прыляцелі „Капроні", занялі загарадную рэзідэнцыю біскупа, зайшоўшы ў тыл яго войскам, яго не ахапіла-б такая нястрыманая набожнасць і „Капроні" даўно былі-б у паветры. Але генерал аб гэтым не ведаў, бо сувязь у тыле была дрэнная, рэспубліканцы трымалі сябе пакуль што спакойна і з гэтага ўсяго, нарэшце, выйшла шмат непрыемнасцей.

* * *

— Патрабуюць рэзідэнцыю біскупа. З штаба калоны,—сказаў баец народнай міліцыі, які дэжурыў на камутатары.

— Злучай!—адказаў другі і ўсміхнуўся. Ён усміхнуўся таму, што ў біскупскім палацы знаходзіўся штаб атрада.

— Яго эксцэленцыя?—спытаў ад'ютант генерала Лопеца.

— Я слухаю,—без замінкі адказаў начальнік рэспубліканскага атрада. (Яго эксцэленцыя ў гэты час знаходзілася ў каморы разам з двума прэлатамі і вікарыем, пад надзейнай вартай).—Я слухаю вас!

— Гаворыць ад'ютант генерала Лопеца, камандуючага калонай. Генерал просіць яго эксцэленцыю прыбыць на аэрадром і асабіста служыць месу. Акрамя таго, генерал просіць аб цэрэмоніі хрышчэння бамбардыроўшчыкаў, якія прыбылі сёння...

— Прызываю на вас божае благаславенне,—адказаў начальнік рэспубліканскага атрада.—Я буду маліць бога, каб ён умацаваў зброю вашу, сын мой... Але, на жаль вялікі, я сам прыехаць не магу... Перадайце генералу, сын мой, што я папрашу айца прэлата... Сын мой, пачакайце хвіліну...

Начальнік атрада паклаў трубку, глянуў на анямелых ад здзіўлення таварышоў, што сядзелі вакол монументальнага біскупскага стала, зрабіў ім знак, каб было ціха і задумаўся. Ён быў начальнікам перадавога атрада. Яго заданнем было трымаць заслону да тае пары, пакуль не падыйдзе суседні атрад, і яны не злучацца такім чынам з правым і з левым флангам. Тады калона генерала Лопеца будзе абкружана. Але начальнік атрада бачыў „Капроні“ і ведаў, што гэта азначае. У яго адразу пасля першых-жа слоў ад'ютанта ўзнік план. У яго не было магчымасці абмеркаваць яго з таварышамі, бо ад'ютант чакаў. Ён вырашыў ісці на рызыку і ўзяць на сябе адказнасць.

— Сын мой,—сказаў начальнік атрада.—Айцец прэлат і два вікарыі прыбудуць на аэрадром, як таго жадае генерал. Хай будзе з вамі міласць боская. Амінь.

Начальнік паклаў трубку і адвярнуўся да сваіх здзіўленых таварышоў. Ён расказаў ім план. План быў такі зразумелы і такі смелы і просты, што ён быў прыняты без супярэчнасцей. І адразу прыступілі да яго выканання.

— Па-мойму,—сказаў начальнік аднаму з камандзіраў—ты можаш пайсці за вікарыя. Згодзен?

— Згодзен!—адказаў камандзір.

Хутка быў знойдзены і другі вікарый.

— Толькі лапы ў цябе занадта мазольныя,—сказаў начальнік.— Ты іх памый і вельмі з імі не вытыкайся.

Затрымка выйшла з прэлатам. Прэлат па замыслу начальніка павінен быць таўсты. Такога ён у сваім атрадзе не памятаў.

— Хуан!—раптам успомніў адзін з камандзіраў.—Повар Хуан! Ён служыў у рэстаране ў Мадрыдзе. У яго ёсць нешта падобнае да папоўскага бруха.

— Але ці ёсць у яго адвага?—спытаў начальнік.

— Я думаю,—адказаў камандзір.—Ён два дні карміў атрад пад агнём. Хадзіў з катлом па акопах і кожнаму байцу выдаваў яго порцыю.

— Давайце сюды гэтага Хуана!—загадаў начальнік.

Хутка з'явіўся Хуан. Гэта быў высокі, немалады чалавек з шырокім нездаволеным тварам. Ён быў нездаволены тым, што яго не пушчаюць у акопы. Байцам падабаюцца ягоныя абеды, якія ён майструе з кансерваў і іншых не хітрых прысмакаў, а яго не бяруць у строй. Усе кажуць, што ён добры повар, але Хуан хоча быць страявым байцом. Разноска абедаў падураганным агнём у разлік не прымаецца. Ён усё-ткі не баец, а повар. Хуан падыйшоў і стаў па правілах.

— Ты хочаш быць прэлатам?—спытаў начальнік.

— Досыць з мяне і повара,—панура адказаў Хуан.

Але калі яму расказалі ў чым справа, Хуан ажывіўся.

— Я паеду!—сказаў ён.—Са здавальненнем паеду. Толькі вось... я не ўмею маліцца. Ні чорта не ўмею...

Усе засмяяліся.

— Гэта не важна,—сказаў начальнік.—Табе месы служыць не трэба. Ты будзеш махаць крапідлам. На ўсякі выпадак пастарайся запомніць пару слоў... Паўтарай: Confiteor Deo omnipotenti... Beate Mariae.

— Confiteor...—пакорна паўтарыў Хуан.—Omnipotenti...

— А цяпер пойдзем ў папоўскі гардэроб,—сказаў начальнік.

Праз некалькі часу прэлат і два вікарыі селі ў машыну і шофер, зашпільваючы на хаду ліўрэю, заняў сваё месца. Шыкарная машына з біскупскімі гербамі выехала з двара рэзідэнцыі і паімчала па дарозе ў горад. Рэспубліканскія пікеты яе не затрымоўвалі.

* * *

На аэрадроме ўсё было гатова. Супроць флагманскага карабля пад самым яго вялізным носам быў пастаўлен паходны аўтар. Экіпажы „Капроні“ былі выстраены пад крылямі. Генерал Лопец стаяў акружаны світай, трымаючы пад руку жонку банкіра. Генерал быў хрэсным бацькам, банкірша—хрэснай маткай вядучага бамбардыроўшчыка. За імі стаяў натоўп фракаў, цыліндраў і ўсяго іншага, чым адрозьніваюцца паважаныя грамадзяне горада ад іншых людзей. Чакалі ўжо некалькі хвілін. І вось, на шасэ з‘явілася чорная біскупская машына. Яна павярнула і знікла на павароце. Хутка машына імчала па аэрадрому і ўсе бачылі біскупскія гербы. Ад‘ютант генерала Лопеца падбег і адкрыў дзверцы. З машыны выйшлі тры духоўныя асобы. Адзін з патэраў асцярожна нёс срэбнае вядро са святой вадою і крапідлам.

— Confiteor...—густым басам сказаў прэлат.—Omnipotenti як яе?..

І тады здарылася нечаканае. У першы момант публіка была збянтэжана, бо ўсе тры духоўныя асобы пазакасвалі сутаны і пад імі аказаліся даволі непрэзентабельныя штаны. У наступны момант публіку паралізаваў жах. Патэры, як па камандзе, размахнуліся і... страшэнны ўдар грому пакрыў аэрадром. Полымя ўспыхнула ў зашклёнай гандоле пярэдняга бамбардыроўшчыка, у паветра паляцелі абломкі. Рэха гор паўтарыла цяжкі гул і не сціх ён яшчэ, як патэры зноў дружна ўзмахнулі рукамі...

Наступныя тры гранаты трапілі ў самы цэнтр анямелага натоўпу. „Капроні“ гарэлі яркім полымем. Вялізны слуп агню ўзняўся ўгару, потым нахіліўся і лізнуў пажоўклую траву аэрадрома.

— Confiteor!..—крыкнуў прэлат, кідаючыся да машыны.—Ходу, хлопцы!

У паніцы і замяшанні ніхто не ўбачыў, куды падзелася аўто з біскупскімі гербамі. Яго затрымалі на шасэ. Шофер рэзка затармазіў.

— Нашы!—сказаў ён адварачваючыся да патэраў.

— Нашы,—пацвердзіў Хуан.—Гэта першы батальён.

Па полі беглі байцы міліцыі. Яны ў момант абкружылі машыну.

— Папы!—крычалі байцы.—Вылязайце доўгаполыя!

Хуан вылез і пачаў знімаць сутану. Пад сутанай аказаўся „маўзер“. Потым камандзір, які хадзіў за вікарыя, растлумачыў байцам, у чым справа. Праз момант аўто поўным ходам імчала да біскупскай рэзідэнцыі. Атрад, які ішоў на злучэнне, прыбыў. Горад быў акружаны і фашыстоўская калона сядзела ў мяшку.

Хутка загрымела артылерыя. Ланцугі рэспубліканцаў ішлі з гор проста на горад. Увечары ён быў узяты. Генерал Лопец не бачыў разгрому свае калоны. Ён быў забіты ў час урачыстай месы.

---

*Алесь Гурло*

## ДАЎНО МІНУЛА

Даўно мінула слота-восень,
Пусціла з воч зіма слязу,
І сонца кудрамі ўплялося
У вінаградную лазу.

Яна пускае ў далі смела
Звысоку малады прамень,
І з гор ліецца з песняй белай
Ім разгарачаны струмень.

Прыдзі у сад, садоўнік дбалы,
Які рваў колісь дзеразу,
Што ў садзе нашым спавівала
Зімой і дрэвы і лазу!

Цяпер у садзе надта люба
І бавіць час, і працаваць.
І сонца ў полымныя губы
Бясконца доўга цалаваць!

Ўжо выпрасталі дрэвы спіны
І зарунела пышна рунь,
І песні ллюцца, нібы плыні,
У даль далёкую угрунь!

У нас цяпер яшчэ прадвесня,
Сустрэчу-ж ладзім мы вясне,
Тады спяваць мы будзем песні
Яшчэ часцей і галасней!

У нас яшчэ пачатак эры,
А шчасця ўжо гарапь агні!
Мы расчынілі насцеж дзверы:
Мы сустракаем комунізм!

23/IX-36 г.

*Алесь Гурло*

## ЗІМА У КРЫМУ

Там, на гарах, зло студзень студзіць,
Мароз свае узоры тчэ,—
Тут я расхлестаныя грудзі
Падставіў сонцу—хай пячэ!

Там, на гарах, снег серабрыцца,
Снуе халодны свой дыван,—
Тут даль, як з золата, іскрыцца
І усцілае дол трава!

Там, на гарах, вятры скавалі
І рэчкі, і руччы у лёд,—
Тут, ласкай ўспененыя хвалі
Свой робяць дальні пералёт!

Там, на гарах, дзярэў абрысы
Чуць-чуць відны на фоне хмар,—
Тут пальмы, лаўры, кіпарысы
Цалуюць сонца палкі твар!

Там, на гарах, пад ветра гулі
Да скалаў туліцца ціша,—
Тут матылькі, дразды, зязюлі
Суправаджаюць кожны шаг!

Там, на гарах, чуцьззяюць зоры
І месяц інеем аброс,—
Тут я табе сягоння, мора,
Дару букет паўднёвых роз!

Ялта, студзень, 1936 г.

*Алесь Гурло*

## МАЎЗАЛЕЙ

Чырвоны бляск і цвердзь граніта
Зліліся ў велічы адной.
Стаіш ты гордым маналітам
Перад Крэмлёўскаю сцяной.

І палымнеюць ў высях сцягі,
Асветленыя ў барацьбе,
І строй людскі няспынным шагам
Ідзе ўрачыста да цябе.

А з веж высокіх зораў ззянне
Праменна падае на дол
І асвятляе бляскам рання
Шляхі змагання навакол.

Куранты славяць песняй новай
Вялікі будаўніцтва час!
Жывыя ленінскія словы
Завуць ісці наперад нас!

27/VIII-36 г.

*Алесь Гурло*

## ЛЕТНЫ ПАРАД

І шум, і гудзенне, і рокат,
І шпаркі нябачаны ход!
Ўся высь раздалася шырока
І даль сустракае паход!

Іх многа—не злічыць іх вока,
І думка не можа ўгадаць!
Лунае за сокалам сокал,
А там—сакалят чарада!

З эфіра яны выплываюць
У шчытным, з'ядналым страю!
І хмары на бок саступаюць
І ветры дарогу даюць!

І шырыцца іхняе кола
Ў блакіце высока расце!
Спусціліся птушкі да долу
І ў прочкі пабег зайцам цень!

І сёння на лётным парадзе,
Свідруючы крыллямі шыр,
Пілоты нясуць свету радасць
І волю, і шчасце, і мір!

20/IX-36 г.

*Алесь Гурло*

## ПАСПЯВАННЕ ПЛАДОЎ

Паспяваюць ў садзе бэры,
А у лесе верабіны...
Ужо стукаецца ў дзверы
Восень—гожая дзяўчына.

І нясе мне падарункі
Ў перапоўненым прыполе,
Напаўняе мае клункі
Да адказу хлебам-соллю.

І кладзе плады ў кішэню,
А ў мяшкі ссыпае плёны.
За ўсе гэты прынашэнні
Я краіне б'ю паклоны.

Шлю падзяку і прывет я
За яе жыццё, парадак,
За калгасныя палеткі,
Што прыносяць шчасце—радасць!

Я працягваю ёй рукі
Для абоймаў, прывітанняў,
І на твары пацалункі
Разгараюцца каханнем.

20/IX-36 г.

*Макар Паслядовіч*

# ЭСПАДА ФЛОРКА

Седзячы на мяшку з пяском, Антоніо Флорка нецярпліва чакаў танкаў, ад якіх нядаўна ўцякаў у вялікім жаху. Унізе ён зноў убачыў хату свайго бацькі.

Гэта, здавалася цяпер Антоніо, было ўчора...

Невялічкая група фашыстаў, якая вырвалася з полымя нянавісці мадрыдскіх рабочых, уцякала па дарозе на захад. Паўстанне ў казармах Ла Мантанья пацярпела няўдачу. Яно было бязлітасна разбіта ўзброенымі рабочымі каля самых казармаў. Апынуўшыся далёка ад горада, перапоўненыя злосцю і звярынай помстай да рэспублікі, беглякі-афіцэры заходзілі ў бліжэйшыя ад дарогі хацінкі і, узнімаючы ўгару выпрастаную далонь, рабілі фашыстоўскае павітанне.

— Збірайся ў дарогу!—крычалі яны гаспадару.—Вялікая Іспанія ў небяспецы! Наперад, за вялікую Іспанію!

Часта замест узнятай угару далоні, яны сустракалі наведзеную на іх паляўнічую дубальтоўку і суровы рашучы голас:

— Вон, фашыстоўскія сабакі, з майго двара! Няхай жыве свабодная рэспубліка!

У даліну, абкружаную з двух бакоў стромымі скаламі, група апусцілася на другі дзень падвечар. У канцы даліны, блізка ад высокай, як самі горы, дамбы вадасховішча, яны ўбачылі невялічкі домік наглядчыка Мігеля Флорка. Антоніо, сын Флорка, быў у гэты час на версе дамбы. Пачуўшы галасы і лязгат зброі, Антоніо павярнуўся. Пабліскваючы на сонцы залатымі ўбёрамі і шаблямі, афіцэры перабраліся цераз ручаіну і ўзышлі на двор. Стары Флорка корпаўся пад апельсінавым дрэвам.

— За вялікую Іспанію!—ледзь чутныя тут зверху дайшлі да Антоніо выгукі афіцэраў. Антоніо ўбачыў чакальна ўзнятыя іх рукі. Мігель Флорка кінуў капаць зямлю і, не выпушчаючы з рук рыдлёўкі, ступіў да афіцэраў. Высокі і тонкі, як жардзіна, афіцэр вылаяўся.

— Не чуеш, стары сабака, што табе гавораць? Хутчэй падымі сваю далонь!

Тады Мігель Флорка яшчэ бліжэй ступіў да афіцэра, плюнуў яму ў твар і высока падняў угару моцна сціснуты кулак.

Гэта быў салют народнага фронта!

У тую хвіліну грымнула некалькі стрэлаў. Бацька Антоніо паваліўся на рыдлёўку. Афіцэры, выхапіўшы шаблі, рынуліся ў хату шукаць новых ахвяр. Неўтаймоўнаю злосцю загудзела тады ў жылах Антоніо кроў. Узбегшы з дамбы на скалу, ён у няўцерп-

ным помстлівым запале пачаў кідаць уніз камені. З вялізнай вышыні яны падалі на двор, як знарады. Зямля закіпела і запенілася жоўтым пылам.

Як звар'яцелыя, не ведаючы адкуль што ўзялося, фашысты выскачылі з хаты і кінуліся на ўцёкі па даліне. Адбегшыся воддаль, яны згледзелі на скале Антоніо і пачалі ў яго страляць. Хлопец схаваўся ў шчыліну скалы і сядзеў нерухома, пакуль стрэлы не змоўклі. Тады ён выглянуў з-за каменя. Афіцэры аддаляліся. І калі яны, беспакараныя, адыходзілі ўсё далей і далей, у Антоніо ўсё больш і больш нарастала да іх злосць і нянавісць. Яму здавалася, што каб яны цяпер вярнуліся і сталі каля гары, ён бы сам скінуўся ўніз, абы толькі ўсіх іх знішчыць!..

А вялізнае, як мора, штучнае возера плёскалася глуха і таямніча аб цэментовы край дамбы. Антоніо зірнуў на яго распаленым позіркам. Каб цяпер узарваць гэтую дамбу! Як бы нястрымна і бурна зараўла ў вузкай даліне вада! Яна-б запоўніла ўсю даліну, змятаючы на сваім шляху, крышачы на жарству камені. І ні адзін бы з гэтых бандытаў не выратаваўся ад справядлівай кары!..

Павольна ён сышоў уніз па вузенькай жалезнай лесвіцы. Убачыўшы яго, на невялічкай пляцоўцы паміж хатай і стромай скалою жаллівa замэкала каза. Гэта яшчэ больш узмацніла ягоную злосць. У іх мірнае і спакойнае, поўнае працы, жыццё гвалтоўна ўварваліся бандыты, нарабілі крыві і цэлыя адыйшлі, каб дзе ў другім месцы працягваць сваю вар'яцкую работу знішчэння і руйнавання.

Увесь вечар прасядзеў Антоніо нерухома каля трупа бацькі: Ён дзіка пазіраў на яго суровы, ужо назаўсёды скаваны маўчаннем твар. Нават няверылася, што гэты нерухомы чалавек—яго бацька—Мігель Флорка. Не!—Бацька недзе робіць абход вадасховішча і зараз спусціцца з дамбы ў даліну, пачне апавядаць Антоніо пра сваю мінулую славу тарэадора. Ён расказваў Антоніо, што некалі яго, Мігеля Флорка, Іспанія любіла больш за караля—гэтага гультая і дармаеда! Цыркі Мадрыда, Барселона і Севільі ўзахапкі цягнулі яго да сябе. Ніхто так ёмка і прыгожа не мог закалоць шпагай раз'ючанага быка, як ён, Мігель Флорка! Гарачымі воплескамі і букетамі кветак надаралі яго ўдзячныя глядачы! Тысяча залатых пезет ляцела на пясчаную арэну! Мігель Флорка збіраў падарункі і ўсё аддаваў бедным людзям. Ніколі не было ў Мігеля Флорка сквапнасці і прагі да багацця.

— Святая Марыя! Зноў гэты манюка развязаў свой язык!—пачуўшы Мігелеву пахвальбу перад сынам, часта гаварыў замазаны ў вапну і мел муляр Фернандо, які прыходзіў з электрастанцыі рамантаваць дамбу.—Не слухай, Антоніо! Ніколі твой бацька не быў тарэадорам! Ён пятнаццацігадовым хлапчуком як прышоў сюды, дык нікуды ўжо не адлучаўся. Адзінота і цяжкое жыццё навучылі яго выдумляць аб лепшым. Беднае жыццё часта прымушае людзей марыць аб тым, якім яно, на іх думку, павінна быць...

— А хіба ты хочаш, каб я замест прыгожых слоў надараў яго залатымі песетамі, якіх у мяне ніколі не было...—нездаволена мармытаў Мігель Флорка.

Антоніо, наслухаўшыся апавяданняў бацькі, рашыў зрабіцца тораадорам. Заместа быкоў ён дражніў чырвонай хусцінкай прывязаную за хатай казу, каза жалліва мэкала і спалохана ўцякала ад Антоніо. Вяроўка бязлітасна тузала яе худую і доўгую шыю. Барада дрыжэла ад страху. У другі раз Антоніо напаткаў у гэтай даліне Педро і Марка—пастушкоў пана Гонзалеса—і прапанаваў ім паказаць сваё майстэрства.

Замест шпагі ён узяў кіёк. Два дні бык упарта адварачваўся ад чырвонай хусцінкі. Нарэшце не вытрываў і рынуўся на прыдзірлівых „эспада“. Хлопцы пасселі ўзлесці на вялізны камень і гэтым выратаваліся. Цяпер ужо бык не адступаў ад іх. Усю ноч пратрэсліся хлопцы на камені ад холаду і страху...

Гэта, здавалася цяпер Антоніо, было ўчора...

Пахаваўшы бацьку, ён кінуў хату і бяздумна пабрыў у Мадрыд. Ён не спаў усю ноч. Незвычайнае ажыўленне было цяпер на дарозе. Імчаліся насустрач грузавікі, напоўненыя ўзброенымі людзьмі. У перамежку з салдатамі сядзелі людзі ў рабочым адзенні, там-сям мільгаў жаночы твар. Людзі былі ўзброены вінтоўкамі, паляўнічымі стрэльбамі. Людзі ехалі на машынах, на мулах, ішлі пяшком у той бок, адкуль накіроўваўся ён. На другі дзень, калі ён падыходзіў ужо да горада, яго спыніў нейкі знаёмы голас:

— Антоніо! Ты-ж гэта куды?

Перад хлопцам стаяў муляр Фернандо.

Антоніо неакрэслена махнуў рукой.

— У Мадрыд?—здзівіўся муляр.—Адтуль цяпер усе ідуць на абарону рэспублікі. Фашысты наступаюць на сталіцу.

— У мяне забілі бацьку...

— Хто? Калі?—муляр паправіў на плячы стрэльбу.

— Прышлі афіцэры. Ён падняў кулак. Яго за гэта і забілі.

— А што зрабіў ім ты? Дараваў?

— Яны ўцяклі...

— Яны зноў варочаюцца, сабакі!—Твар муляра зрабіўся барвовым ад гневу.—Яны ідуць, каб забіць і цябе, каб патапіць у крыві ўсю рэспубліку свабоды. Хадзем, будучы тораадор Антоніо! Ты павінен адпомсціць за смерць Мігеля Флорка, які ніколі не быў тораадорам, але які хацеў жыць, як чалавек!

Яны далучыліся да атрада. Антоніо ішоў на фронт. Нехта зглядзеў, што ў яго няма зброі і падаў вінтоўку. Антоніо схапіў яе, як збавенне ад неўтаймоўнай крыўды.

— Дайце яму патронаў,—сказаў муляр.—Гэта Антоніо, сын Мігеля Флорка, наглядчыка вадасховішча. Мігеля Флорку забілі фашысты. Сын ідзе помсціцца за бацьку.

На прывалах муляр вучыў яго страляць. Цэлячыся ў мішэні, Антоніо ўвесь гарэў ад крыўды, што гэтай вінтоўкі не было на дамбе. Ён-бы тады перастраляў усю апранутую ў фарсістыя мундыры сволач!

Два тыдні стрымлівалі рабочыя атрады шалёны націск ворага. Два тыдні няспынна свісталі над імі кулі і знарады фашыстаў. Зямля вакол іх кіпела ад узрываў. Некалькі разоў прадажны зброд замежных легіёнаў кідаўся на іх у атаку. І часта адступаў, спаткаўшы смяротны дождж куль і шроту з паляўнічых стрэльбаў. Пад канец

другога тыдня ў мяцежнікаў з'явіліся самалёты. Яны няспынна кружыліся над раўнінай, дзе былі пакапаны рэспубліканскія акопы. Мяцежныя гарматы стралялі ў рэспубліканцаў з зямлі, самалёты скідалі агонь і смерць з паветра. Ні пушак, ні самалётаў не даставалі рэспубліканскія кулі. Супроць пушак патрэбны былі пушкі, супроць самалётаў—самалёты—а іх не было тады ў атрадзе муляра Фернандо! Многія рэспубліканцы прышлі на фронт з аднымі нажамі і дубінамі і імі здабывалі ў часе атакі больш навейшую зброю!

З тугою глядзеў Антоніо, як адзін за адным выбывалі з атрада яго таварышы. Яго ўяўленне малявала самыя страшныя кантратакі. Насустрач трох мяцежных самалётаў Антоніо падымаў у паветра дзесяць сваіх рэспубліканскіх! Яны акружалі ворага і, раструшчыўшы яго на шмаццё, скідалі на зямлю. Антоніо ляцеў на самалётах у тыл ворага, адшукваў штаб крыважэрнага Франко і змешваў яго з зямлёю. Супроць адной мяцежнай пушкі ён выстаўляў пяць сваіх! Усю доўгую лінію абароны Антоніо ўстанаўляў кулямётамі. Ні адна фашысцкая тлустая істота не праходзіць праз смяротны лівень куль!

Моцна сціскаючы вінтоўку, Антоніо распаленымі ад нянавісці вачыма напружана сачыў за лініяй варожых акопаў. Часамі то ў аднэй, то ў другой шчыліне насыпу паказваліся фарсістыя вусы афіцэраў. Антоніо забываўся тады, той гэты чалавек, які забіў яго бацьку, ці другі бандыт, які і ў вочы не бачыў старога наглядчыка. Цяпер перад Антоніо быў адзіны вораг! Яго трэба знішчыць! Вось афіцэр падымае бінокль да вачэй. Асцерагаючыся, каб фашыст не згледзеў яго і не схаваўся, Антоніо націскаў на спуск.

— Яшчэ адзін не прайшоў!—усхваляваны трапнасцю стрэла, крычаў Фернандо.

Аднойчы падвечар раптам змоўкла страляніна з боку ворага. Ціха было ўсю ноч і ўвесь другі дзень. Фернандо ўстрывожыўся ад такога раптоўнага спакою. Некаторыя лічылі, што фашысты не вытрымалі ўпартае абароны і паціху адступілі. Фернандо загадаў больш пільна сачыць за варожымі акопамі. Па ўсіх кірунках ён выслаў разведку. Штогадзінна хадзілі ў штаб лініі абароны сувязісты з атрада. Прайшла яшчэ адна трывожная ноч. Разведчыкі данеслі, што фашысты не пакідалі акопаў. Уночы і разведчыкі і Фернандо пачулі далёкі і глухі маторны грукат. Цяжка і трывожна ўздрыгвала зямля. Уздрыгваў ад невядомага страху і Антоніо. Ён узіраўся ў чорнае неба, думаючы што недзе, нябачныя для вока, ляцяць варожыя самалёты. Але гул, які здавалася вось-вось рынецца на акопы рэспубліканцаў, раптоўна абарваўся. І зноў усё сціхла. Праз поўгадзіны з штаба лініі абароны пазванілі, што гэтай раніцою фашысты пачнуць танкавую атаку. Фернандо пачаў выпытваць па тэлефону, якія прыняць меры, але ў гэтую хвіліну страшны ўдар ускалануў зямлю. Вялізны слуп агня ўскруціўся, здавалася, да самага неба. Яшчэ адзін знарад упаў недалёка ад Фернандо. Потым знарады сталі падаць усё часцей і часцей. Яны рваліся ўдоўж усёй лініі акопаў, на пыл разносілі мяшкі з пяском. Рэдкія адзінокія стрэлы рэспубліканскіх пушак танулі ў грукаце і громе варожай кананады.

А як толькі пачало развідніваць, Антоніо ўлавіў напружаным слыхам ажыўленае выццё матораў. Ураз спынілася артылерыйская

кананада. Рэспубліканцы выглянулі з акопаў. Жахлівае відовішча кінулася на вочы Антоніо. З узгорка, няўхільныя ў сваёй хадзе, спаўзалі нябачаныя ім раней пачвары. Круглыя башні іх няспынна пакручваліся, сеючы па рэспубліканскіх акопах часты дождж куль.

— Танкі! Танкі!—закрычаў нехта ў вялікім страху каля Антоніо. Фернандо падаў каманду адступаць!

Але Антоніо прасунуў сваю вінтоўку ў шчыліну паміж мяшкамі. У шалёным запале стаў пасылаць у башню аднаго танка кулю за куляй. Стальная пачвара не спынялася. Кулі адскаквалі ад броні, як ад скалы. Нехта рвануў Антоніо за рукаў і пацягнуў у вузкі адратоўчы праход. Яны беглі ледзь зводзячы дух, над іх галовамі няспынна свісталі кулі і рваліся знарады. Стальная сцяна бязлітасна наступала. Здавалася, што ніякая сіла не можа спыніць гэтай жахлівай пагоні!

Антоніо не памятае, як апынуўся ён у даліне, колькі часу бег па гэтай вузкай і доўгай шчыліне вялікіх гор. Шугаючы над яго галавою, лятаючы ад скалы к скале, імчалася следам за ім рэха жахлівага бою. Праз гадзіну паказалася дамба вадасховішча. Яна высока была ўзнята над гэтым горным праходам. Хапаючыся дрыглівымі пальцамі за парэнчы, Антоніо ўзабраўся па лесвіцы на дамбу, як быццам толькі тут на гэтай нязмернай вышыні было выратаванне. Люстраная паверхня бясконцага і глыбокага возера крыху супакоіла яго. Ён прыставіў вінтоўку да парэнчаў і азірнуўся на даліну. Раптам увесь задрыжэў ад раптоўнай думкі. Далёка ўнізе паказаліся ледзь прыметныя групкі рэспубліканцаў, яны абаранялі ўваход у даліну. Забыўшыся на вінтоўку, Антоніо збег уніз і, быццам акрылены, паімчаўся насустрач атраду муляра Фернандо...

— Гэта сур'ёзная справа, хлопча,—весела бліснуў вачыма стары муляр, выслухаўшы прапанову Антоніо.—Тут сеньорам фашыстам будзе магіла разам з іх танкамі. Але такія справы трэба абмеркаваць самому ўраду. Я ўпэўнены, што наш урад дасць згоду. У нас пакуль што няма іншых сродкаў, каб затрымаць гэтае шалёнае наступленне танкаў. Я зараз-жа пашлю твой план у міністэрства вайсковых спраў.

На другі дзень з Мадрыда прыйшоў адказ на прапанову Антоніо Флорка. Міністэрства ўхваляе план і дзякуе Антоніо за ідэю. Трэба неадкладна ўзяцца за падрыхтоўку. Аб выкананні далажыць сёння. Разам з тым к дамбе пад'ехала цяжка нагружаная машына. Фернандо гукнуў Антоніо. Яны падышлі да сцяны вадасховішча. Стары муляр закасаў рукавы і ўзяў лом.

На суседніх скалах дружыннікі спешна будавалі новыя ўмацаванні.

---

Танкі паказаліся толькі падвечар. Увесь час Антоніо нецярпліва чакаў іх з'яўлення. Усе разведчыкі былі адкліканы з даліны яшчэ а поўдні. Яны данеслі, што перад уваходам у даліну сабралася ўсё мяцежнае войска гэтага фронта. Задаволеныя поспехамі на раўніне, фашысты спяшаліся прарвацца праз апошні перад Мадрыдам бар'ер. Усю раніцу ішлі перагрупіроўкі частак. Танкі зноў выстаўляліся ў перадавую калону. Пад іх прыкрыццём павінна была ісці пяхота.

Кавалерыйскі полк мусіў замыкаць гэтую ўдарную групу, на якую галаварэз Франко ўскладаў вялікую надзею.

— Мы іх добра спаткаем!—весела гаварыў Фернандо, спыняючыся каля Антоніо.—Нават стары манюка Мігель Флорка, няхай будзе пухам яму зямля, не дадумаўся-б да прыгажэйшай справы, якую мы зробім для свабоднай рэспублікі. Як ты мяркуеш, будучы тарэадор?

— Ім не прайсці.

— Святая Марыя! А я хіба іначай думаю? У мяне два сыны комуністы, яны змагаюцца на фронце Уэскі як львы! Ты разумееш...

Апошніх слоў старога муляра Антоніо не пачуў. Танкі набліжаліся хутка. Страшэннае рэха загрымела ў гарах, заглушыўшы гаворку Фернандо. Антоніо глянуў на скрыначку, якая стаяла на камені, перавёў позірк на шнуры, якія цягнуліся да цыментовай дамбы. І раптам яго вочы ўспыхнулі пякучым агнём нянавісці.

— Як толькі пярэдні танк параўняецца з магілай твайго бацькі—давай!—сурова шапнуў яму стары муляр.

Антоніо пачаў пералічваць танкі. Але заблытаўся і пачаў сачыць за першай машынай. Танкаў было больш паўсотні. Пярэдні, узняўшы ўгару рулю кулямёта, пачаў страляць па ўмацаваннях. З мяшкоў паляцеў пыл, пасыпаўся тонкімі жоўтымі струменчыкамі пясок. Але рэспубліканцы не адказвалі. За танкамі паказалася пяхота. Антоніо схапіў бінокль і разглядзеў праз яго фарсістых улан. На момант яму здалося, што першым едзе на чорным кані хударлявы і просты як жардзіна афіцэр. Стараючыся не прапусціць моманту Антоніо адкінуў бінокль і зірнуў са скалы ўніз. Пярэдні танк, перайшоўшы ўжо ўсю даліну, набіраў вялікую хуткасць... Засталося дзвесце крокаў... Сто... Хутка будзе паварот направа, стромы пад'ём у тунэль...

Антоніо імкліва працягнуў руку да скрынкі. У гэтую-ж хвіліну перуновым рэхам узрыву загрымелі горы. Таўшчэразная сцяна дамбы адверху да нізу рассыпалася на дробныя кавалкі. Вызваленая з палону вада раз'ярана рванулася ў даліну, пераварачваючы і крышачы адзін аб адзін магутныя танкі. Збіваючы адзін аднаго з ног, зрываючы з сябе зброю, рынуліся ўцякаць пехацінцы, коннікі... Але было позна! Гнеўная вада бязлітасна тапіла іх і назаўсёды хавала ў сваіх нетрах...

А над усім гэтым, радасны і задаволены перамогай, стаяў Антоніо Флорка. Высока ўзняўшы сярод ажыўленага натоўпа сваю вінтоўку, ён крычаў:

— Віва рэспубліка! Віва рэспубліка!

31/X-36 г.

*В. Верасаеў*

# ЖЫЦЦЁ ПУШКІНА

*Біяграфічны нарыс*

## ДЗЯЦІНСТВА І ЮНАСЦЬ

Александр Сяргеевіч Пушкін нарадзіўся ў Маскве ў 1799 годзе 26 мая, па старому стылю, 6 чэрвеня па-новаму. Бацька яго Сяргей Львовіч быў памешчык з старога дваранскага роду, але гаспадаркай не займаўся і прыбытку з заняпалых памесцяў атрымліваў мала. Жыў Сяргей Львовіч нічога не робячы, любіў свецкія гульні. Вельмі лёгка пісаў вершыкі—і па-французску, і па-руску. Цікавіўся літаратурай, меў багатую бібліятэку, пераважна з французскіх кніг, быў асабіста знаёмы з многімі выдатнымі пісьменнікамі таго часу—з Карамзіным, Дмітрыевым, Жукоўскім, Вяземскім.

Надзежда Осіпаўна, маці Пушкіна, была ўнучка „арапа Пятра Вялікага“, Абрама Ганібала. Ганібал быў сын абісінскага багатага князька, трапіў заложнікам у Канстантынопаль і адтуль быў прывезены ў Расію. Імператар Пётр Першы ахрысціў яго, адукаваў і наблізіў да сябе. Звонку і ў характары Пушкіна захавалася шмат рысаў яго афрыканскага паходжання.

Да дзяцей бацькам Пушкіна было мала справы, дзеці гадаваліся на руках французскіх гувернантак. Вучыўся Пушкін неахайна і ляніва, асабліва не любіў матэматыкі. Але вельмі рана ўзахвоціўся да чытання: таемна забіраўся ў бібліятэку бацькі і цэлымі гадзінамі чытаў усё, што траплялася пад руку. Ужо на восьмым годзе пачаў пісаць па-французску вершы: штодзённай мовай у сям'і Пушкіна, як наогул у тагочасных дваранскіх сем'ях, была мова французская, і Пушкін у дзяцінстве гаварыў па-французску лепш, чым па-руску. Быў ён хлопчык баявы, дасціпны і дураслівы. Бацькі не любілі хлопчыка, ён ніколі не бачыў ад іх ласкі і пяшчотаў.

У 1811 годзе Пушкіна аддалі ў Царскасельскі ліцэй—толькі што адчыненую поэвілеяваную навучальную ўстанову ў Царскім (цяпер Дзетскім) Сяле.

Праз год вось якую афіцыйную характарыстыку давалі Пушкіну выкладчыкі і наглядчыкі ліцэя: „Имеет более блистательные, нежели основательные дарования, более пылкий и тонкий, нежели глубокий ум... Способен только к таким предметам, которые требуют малого напряжения, а поэтому успехи его очень невелики... Крайне не прилежен... Имеет остроту, но к сожалению только для пустословия... Легкомысленен“.

Такое ўражанне Пушкін на працягу ўсяго свайго жыцця рабіў на людзей паверхоўных і тых, якія мала яго ведалі. У сапраўднасці ён ужо ў ліцэі вельмі многа працаваў, чытаў і думаў. У вершы „Гарадок“ (1814 г.) Пушкін пералічвае сваіх любімых пісьменнікаў. Даводзіцца здзіўляцца незвычайнай начытанасці гэтага пятнаццацігадовага хлопчыка. Вось яго любімцы: Гомер, Віргілій, Горацый, Тасо, Мальер, Расін, Вольтэр, Русо, Парні, з рускіх—Дзержавін, Фанвізін, Карамзін, Дмітрыеў, Крылоў.

Некаторыя таварышы не любілі Пушкіна за яго востры язык. Але было ў яго шмат і сяброў, якія любілі яго моцна: Іван Пушчын (будучы дзекабрыст), барон Дэльвіг (будучы паэт), вясёлы дзівак Віля Кюхельбекер. У адносінах да начальства Пушкін трымаўся незалежна і ўжо на першым курсе быў падбухторшчыкам да хваляванняў, якія прывялі да выхаду з ліцэя непапулярнага інспектара Мартына Пілецкага.

У ліцэі выдаваліся рукапісныя часопісы, шмат якія выхаванцы пісалі вершы. Асабліва вылучыліся, як паэты, два: Ілічэўскі і Пушкін. З году ў год Пушкін заваёўваў усё большае прызнанне, і таварышы з павагай назіралі яго растучы талент. Пушкін пісаў у ліцэі вельмі шмат. Ужо на яго першых вопытах знаўцы адчулі ў Пушкіне маладога арла, які ўпэўнена развінае для палёту магутныя крыллі.

8 студзеня 1815 года ў ліцэі адбываўся публічны экзамен выхаванцам, якія пераходзілі з малодшага аддзялення ў старэйшае. На экзамене, у ліку ганаровых гасцей, прысутнічаў старык-паэт Дзержавін, адзін з таленавіцейшых рускіх паэтаў восемнаццатага стагоддзя. Выклікалі Пушкіна. Стоячы за два крокі ад Дзержавіна, ён пачаў чытаць „Успаміны ў Царскім Сяле“, напісаныя у стылі патрыятычных од Дзержавіна. Вершы выклікалі агульнае захапленне. Дзержавін са слязьмі на вачах кінуўся цалаваць хлопчыка. Збянтэжаны Пушкін уцёк, а Дзержавін гукнуў:

— Вось хто замеўніць Дзержавіна!

Пушкін усё больш пачынаў звяртаць на сябе ўвагу самых выдатных пісьменнікаў таго часу. На яго з надзеяй глядзелі Карамзін, Бацюшкаў, Жукоўскі, кн. Вяземскі. Вясною 1816 г. Карамзін наведаў ліцэй з кн. Вяземскім і дзядзькам Пушкіна паэтам Васіліем Львовічам. Ён выклікаў Пушкіна і сказаў:

— Лунай, як арол, але не спыняйся ў палёце.

На старэйшых курсах Пушкін пасябраваў з афіцэрамі лейб-гвардыі гусарскага палка, які стаяў у Царскім Сяле. Большасць гвардзейскага афіцэрства таго часу была настроена да ўраду вельмі апазіцыйна: праз лейб-гусараў Пушкін знаёміўся з тагочаснай нелегальнай літаратурай.

Вялікі ўплыў меў на яго адзін з афіцэраў, славуты пазней П. Я. Чаадаеў, выдатны мысліцель і чалавек выключнай адукаванасці. Ён у той час быў настроены рэволюцыйна і адыграў вялікую ролю ў палітычным выхаванні Пушкіна. Чаадаеў зрабіў наогул вялікі ўплыў на адукаванасць і разумовае развіццё Пушкіна. На думку аднаго сучасніка, ён даў у гэтых адносінах Пушкіну больш, чым увесь ліцэй.

У чэрвені 1817 г. Пушкін і яго таварышы скончылі ліцэй.

## У ПЕЦЕРБУРГУ

Пушкін, як з малою паспяховасцю, быў выпушчан з ліцэя з чынам калежскага сакратара. (У каго была большая паспяховасць, былі выпушчаны з больш высокім чынам тытулярнага дарадчыка). Ён паступіў на службу чыноўнікам у дзяржаўную калегію замежных спраў у Пецербургу, з пенсіяй семсот рублёў у год. У тыя часы служба маладых дваран была толькі намінальнай: яны нічога не рабілі, на службу амаль не з'яўляліся, а служылі для павышэння ў чыне. Вольнага часу ў Пушкіна было досыць.

Бацькі яго перасяліліся ў Пецербург. Пушкін жыў у бацькоў на Фантанцы блізка Калінкіна маста. Па бацькоўскіх сувязях і знаёмству Пушкін увайшоў ў лепшыя колы вялікага свету. Гэта вымагала сродкаў, мізэрнай пенсіі не ставала. А справы бацькоў былі, як і заўсёды, дрэнныя. Да гэтага далучалася дробязная скупасць бацькі.

Пушкін з галавою рынуўся ў кіпучае пецербургскае жыццё. Танцаваў на балах, кахаў, гуляў. Але піў ён больш з-за форсу, каб не адстаць ад іншых альбо іх перапіць. З-за гэтага-ж форсу трымаўся задзірыста. У тэатры, напрыклад, як Онегін, ішоў „меж стульев по ногам", альбо спыніцца паміж радамі крэслаў, засланяючы глядачам, і на просьбу прайсці далей адказваў грубасцямі. З-за кожнага пусцяка выклікаў на дуэль; аднак большасць іх сябрам удавалася ўладжваць. А побач з гэтым праводзіў вечары ў Чаадаева, які перасяліўся ў Пецербург, і вёў з ім гутаркі на сур'ёзнейшыя тэмы, альбо ў Карамзіна, здзіўляў усіх розумам і начытанасцю.

Дзіўна было, калі ён паспяваў пісаць. А пісаў ён шмат. Адну за другою заканчваў главы „Руслана і Людмілы", пісаў шмат лірычных вершаў. Старэйшыя пісьменнікі з захапленнем сачылі за хуткім ростам яго таленту. Жукоўскі пісаў кн. Вяземскаму: „Чудесный талант! Какие стихи! Он мучит меня своим даром, как привидение!"...

У сакавіку 1820 г. Пушкін скончыў „Руслана і Людмілу". З'яўленне паэмы ў друку было вялізнай літаратурнай падзеяй. Лёгкі, адмысловы верш паэмы, мастацкасць карцін, яркасць характарыстык, простая, пазбаўленая выкрунтасаў мова, якая не баялася самых „простонародных" сказаў—усё гэта было чымсьці зусім незвычайным у рускай паэзіі.

А між тым над галавою Пушкіна збіралася навальніца. Палітыка Александра I рабілася ўсё больш рэакцыйнаю. На чале ўнутранага ўпраўлення стаяў Аракчэеў, які марыў усю Расіюператварыць у казарму. Краіна дайшла да жабрацтва ад няспыннай вайны. Афіцэрская моладзь, якая пабыла ў загранічных паходах, асабліва—ва Францыі, дзе нядаўна прагрымела вялікая буржуазная рэволюцыя, мела выпадак пабачыць больш свабодны заходне-еўрапейскі палітычны лад. Усё гэта выклікала рэзка варожыя адносіны да ўрада. Сярод ліберальнага дваранства нараджаліся таемныя таварыствы, якія мелі на мэце абмежаванне самаўладства. Пушкін з'явіўся чулым рэхам, які адлюстроўваў апазіцыйны настрой грамадства. Ён абсыпаў

эпіграмамі Александра і ягоных памочнікаў; у „Оде на вольность“ звяртаўся к царам, якія лічылі сябе ўладарамі „божьей милостью“:

Владыки! вам венец и трон
Дает закон—а не природа—
Стоите выше вы народа,
Но вечный выше вас закон!

У вершы „Вёска“ маляўнічымі фарбамі рысаваў жахлівае становішча прыгоннага сялянства. Пісаў, звяртаючыся да Чаадаева:

Товарищ, верь: взойдет она,
Заря пленительного счастья,
Россия вспрянет ото сна,
И на обломках самовластья
Напишет наши имена.

Вершы хутка распаўсюджваліся ў спісках па ўсёй Расіі, не было якога як-небудзь пісьменнага прапаршчыка, які не ведаў-бы іх напамяць...

Калі да ўрада, нарэшце, дайшлі ягоныя свабодныя вершы, пецербургскі ваенны генерал-губернатар граф Міларадавіч выпатрабаваў Пушкіна да сябе. Ён з'явіўся, Міларадавіч у яго прысутнасці загадаў паліцмейсцеру паехаць і зрабіць у кватэры Пушкіна вобыск. Пушкін зразумеў, пра што ідзе гаворка, і сказаў:

— Граф! Вы дарэмна гэтае робіце. Там не знойдзеце, чаго шукаеце. Лепш загадайце падаць мне пяро і паперу, я тут-жа ўсё вам напішу.

Пушкін сеў і напісаў ўсе свае нелягальныя вершы.

Справа набыла сур'ёзны характар. Імператар Александр парашыў саслаць Пушкіна ў Сібір альбо засадзіць яго ў Салавецкі манастыр. Шматлікія сябры Пушкіна ўспалашыліся. Праз хадайнічанні Карамзіна і Жукоўскага было вырашана накіраваць Пушкіна замест Сібіры альбо Салаўкоў на поўдзень, у Екацерынаслаў (цяпер Днепрапятроўск), на службу пры галоўным папячыцелю каланістаў паўднёвага краю Расіі генералу Інзаве.

6 мая 1820 г. Пушкін выехаў з Пецербурга.

## НА ПОЎДНІ

Генерал ад кавалерыі Нік. Нік. Раеўскі, выдатны рускі ваеначальнік эпохі напалеонаўскіх войнаў, ехаў з Пецербурга на Каўказскія воды. З генералам ехалі дзве яго малодшыя дочкі і малодшы сын, лейб-гусарскі ротмістр Нікалай. Пушкін быў знаёмы з сям'ёю Раеўскіх у Пецербургу, а з Нікалаем пасябраваў яшчэ ліцэістам у Царскім Сяле, дзе стаяў лейб-гусарскі полк. Падарожнікі спыніліся адпачыць у Екацерынаславе. Нікалай ведаў, што Пушкін сасланы сюды, і пачаў яго шукаць. Ён знайшоў яго на ўскраіне ў жабрацкай яўрэйскай хацінцы. Нябрыты, бледны і худы, Пушкін у прыступе малярыі ляжаў на драўлянай лаўцы. На Раеўскага ён зрабіў у гэ-

тай абстаноўцы цяжкае ўражанне. У Пушкіна ад радасці паказаліся на вачах слёзы.

З дазволу Інзава генерал Раеўскі ўзяў з сабою Пушкіна на Каўказ.

Лета Пушкін пражыў з Раеўскімі на водах, прымаў ванны, а ў пачатку жніўня па запрашэнню Раеўскіх паехаў з імі ў Крым і правёў з Раеўскімі тры тыдні ў Гурзуфе,—тры дзівосных тыдні, якія на ўсё жыццё засталіся ў памяці Пушкіна.

У пачатку верасня Пушкін разам з генералам Раеўскім выехаў з Гурзуфа. За гэты час канцэлярыя генерала Інзава была пераведзена з Екацерынаслава ў Кішынёў (у Бесарабіі), і Пушкін накіраваўся туды. У дарозе ён зноў захварэў на трасцу, зусім хворы заехаў у Бахчысарай, аглядзеў ханскі палац са славутым „фантанам слёз" і 21 верасня прыбыў у Кішынёў.

У Кішынёве знаходзіўся штаб адной з дывізій Паўднёвай арміі. Дывізіяй камандваў генерал Міх. Фед. Орлоў, член таемнага „Союза благоденствия". Ён завёў у сваіх палках асветныя, так званыя ланкасцерскія школы для салдат, энергічна змагаўся з цялеснымі пакараннямі. Хутка пасля прыезду Пушкіна ён ажаніўся на старэйшай дачцы генерала Раеўскага, Екацерыне Нікалаеўне, — жанчыне незвычайнай, па водгуку Пушкіна. Пушкін быў прыняты ў Орловых, як свой. Там ён пазнаёміўся з афіцэрамі арлоўскай дывізіі. Сярод іх было немала людзей разумных і таленавітых.

„Союз благоденствия" меў два аддзелы. Цэнтр аднаго знаходзіўся ў Пецярбурзе, цэнтр другога — на поўдні, у Тульчыне, дзе стаяў штаб Паўднёвай арміі. Пецярбуржцы хацелі канстытуцыі з захаваннем дваранскіх правоў і памешчыцкага землеўладання. Больш радыкальныя паўднёўцы ставілі за мэту дэмакратычную рэспубліку з поўнаю адменаю дваранскіх прывілей і з ураўненнем усіх грамадзян у палітычных правах.

На чале паўднёўцаў стаяў палкоўнік Песцель. Пушкін сустракаўся з ім у Кішынёве ў часе прыездаў туды Песцеля. 9 красавіка 1821 г. Пушкін запісаў у дзённіку: „Раніцу правёў я з Песцелем. Ён адзін з самых арыгінальных розумаў, якіх я ведаю".

З Кішынёва Пушкін некалькі разоў ездзіў гасцяваць у Кіеўскую губерню, у вёску Каменку, багатае памесце, якое належала мацеры генерала Раеўскага. У Каменцы жыў сын яе ад другога шлюбу Васілій Львовіч Давыдаў, адзін з актыўных членаў Паўднёвага таварыства. Кожны год у канцы лістапада, быццам з прычыны святкавання імянін яго мацеры, у Каменку з'язджаліся на нараду члены таемнага таварыства. На адзін з такіх з'ездаў выпадкова трапіў Пушкін і аднавіў знаёмства з І. Д. Якушкіным, з якім ён ужо сустракаўся ў Пецербургу. Якушкін таксама быў адным з самых дзейных членаў таварыства.

Зносіны з усімі гэтымі выдатнымі тагочаснымі дзеячамі рэвалюцыі зрабілі вялікі ўплыў на палітычнае развіццё Пушкіна.

Апазіцыйныя яго адносіны ўзмацняліся. Гэтаму садзейнічалі і падзеі, якія адбываліся ў Еўропе. Палала рэволюцыя ў Іспаніі, у Неапалі, Грэцыя паўстала супроць Турцыі. Пушкін з захапленнем сачыў за ходам паўстання ў Грэцыі, сам марыў прыняць у іх удзел.

Ніколі наогул Пушкін не быў так рэволюцыйна настроены, як у гэты час; ён пісаў:

Вы, ветры, бури, взройте воды,
Разрушьте гибельный оплот,—
Где ты, гроза, символ свободы.
Промчись поверх невольных вод!

За час прабывання ў Кішынёве Пушкін напісаў рэволюцыйны верш „Кінжал“. Тады-ж напісана з‘едлівая эпіграма на Александра I— „Воспитанный под барабаном“. Пушкін накідвае план драмы, дзе барын прагульвае ў карты свайго аддана́га слугу: пачынае паэму пра Вадзіма, легендарнага барацьбіта за свабоду вялікага Ноўгарада. У асабістых выказваннях сваіх палітычных настрояў Пушкін, як і ў Пецербургу, не вельмі асцерагаўся. Сакрэтныя агенты даносілі ў Пецербург: „Пушкін лае публічна і нават у кафейных дамах не толькі ваеннае начальства, але нават і ўрад“.

Блізка сыходзячыся па поглядах і настроях з таемным таварыствам, Пушкін, аднак, не быў яго членам. Ніхто з змоўшчыкаў, якія ўвайшлі ў гісторыю рэволюцыйнага руху, як дзекабрысты, не пасвячаў Пушкіна ў тайну: з аднаго боку, баяліся, што ён можа прагаварыцца ў гарачай спрэчцы, з другога — засцерагалі яго, як вялізны талент, і лічылі, што пяром сваім ён удосталь працуе для іх мэты.

Пецербургскія сябры старанна хадайнічалі аб пераводзе Пушкіна з Кішынёва ў больш культурны цэнтр. Якраз у гэты час у Одэсу быў прызначан генерал-губернатарам граф М. С. Варанцоў, чалавек еўрапейскі адукаваны. Намаганнямі Ал. Ів. Тургенева міністр замежных спраў перавёў Пушкіна з Кішынёва ў Одэсу, а Варанцоў абяцаў узяць яго пад сваю апеку і даць яго таленту як мага спрыяючыя ўмовы для развіцця.

Пушкін з радасцю кінуў Кішынёў і пераехаў у Одэсу. Граф Варанцоў прыняў Пушкіна вельмі ласкава, запрасіў бываць у яго, пазнаёміў са сваею красуняю—жонкаю Елізаветаю Ксавер‘еўнай. Перад Пушкіным расчыніліся дзверы свецкага круга, які ён заўсёды любіў.

Матар‘яльнае становішча Пушкіна было вельмі благое. Ён лічыўся пры канцэлярыі графа Варанцова і атрымліваў пенсіі 58 рубл. з капейкамі ў месяц. Пры поўным няўменні Пушкіна берагчы грошы і пры яго шырокім стане жыцця гэтых грошай, канешне, не хапала.

Самі абставіны штурхалі Пушкіна на шлях, зусім новы і чужы для тагочаснага пісьменніка-двараніна. У дваранскім асяроддзі, да якога належыў Пушкін, лічылася за благое браць грошы за свае літаратурныя творы. Гэта азначала „гандляваць натхненнем“. Пушкін рашуча пайшоў супроць гэтых барскіх забабонаў: „не продается вдохновенье, но можно рукопись продать“, — славуты яго выраз.

Пушкін пісаў на поўдні вельмі многа. Ён у гэты час, як сам прызнаецца, „с ума сходил от Байрона“. Паэмы „Каўказскі нявольнік“, „Бахчысарайскі фантан“, „Браты-разбойнікі“, напісаныя пад уплывам Байрона, малююць пахмурых, расчараваных герояў з магутнымі страсцямі і глыбокімі перажываннямі. Захапленне Байронам

у той час было ўсеагульнае. Паэмы Пушкіна, напісаныя адмысловымі вершамі, поўныя маляўніча-мастацкіх карцін, мелі вялізны поспех: публіка завучвала паэмы напамяць. Папулярнасць Пушкіна расла з кожным годам. У Одэсе Пушкін пачаў пісаць адзін з самых значных сваіх твораў—паэму „Еўгеній Онегін“.

Кішынёўскія сябры, якія наведвалі Пушкіна ў Одэсе, заўважалі, што ён з кожным месяцам робіцца ўсё больш пахмурны і раздражняльны. Адносіны яго з графам Варанцовым не ладзіліся. Граф Варанцоў вылучаўся сярод тагочасных рускіх адміністратараў сваёй культурнасцю, энергіяй і дзельнасцю. Але гэта быў інтрыган і эгаіст, халодны і вераломны, з самым дробязным самалюбствам, які любіў лісліваць і прасмыкацельства. Пушкін лічыўся дробным служачым у канцэлярыі Варанцова, а між тым трымаўся незалежна, патрабаваў каб з ім абыходзіліся як з роўным, не лісліві́ў перад Варанцовым, не захапляўся ім, як другія службісты,—усе нападбор добра выхаваныя, дасціпна-пачцівыя маладыя людзі. Варанцоў пачынаў абыходзіцца з Пушкіным холадна і высокамерна.

У маі 1824 г. Варанцоў паслаў Пушкіну афіцыйную прапанову, як служачаму сваёй канцэлярыі, выехаць у паветы і сабраць весткі пра саранчу, якая там з'явілася, а таксама і пра меры, якія прымаюцца для яе знішчэння. Пушкіна ахапіў шалёны гнеў. Атрыманая камандыроўка сведчыла, што Варанцоў хоча ператварыць яго ў сапраўднага чыноўніка. Пушкін парашыў адмовіцца ад камандыроўкі. Сябры ўгаварылі яго не рабіць гэтага. Пушкін паехаў, а вярнуўшыся, напісаў, як апавядалі, такі рапарт Варанцову:

Саранча летела, летела
и села.
Во все стороны посмотрела, все с'ела
И опять улетела.

Пушкін неадкладна падаў прашэнне аб адстаўцы і парашыў жыць літаратурнай працай.

Падняволенае становішча сасланага, уціск Варанцова, немагчымасць свабоднай творчай работы з-за цэнзурнага прыгнёту,—усё гэта давяло Пушкіна да рашэння ўцякаць з Расіі. Ён пачаў падрыхтоўваць уцёкі на караблі ў Канстантынопаль. Некаторыя яго сябры памагалі яму. Але ўцёкі па нейкіх прычынах не адбыліся.

З той прычыны што Пушкін лічыўся па міністэрству замежных спраў, дык прашэнне яго аб адстаўцы накіравана было ў Пецярбург. Між тым Варанцоў не драмаў. Адно за адным ён слаў у Пецярбург данясенні на Пушкіна. Ён стараўся запэўніць урад, што одэскае грамадства вельмі шкодна для Пушкіна, што яно можа заразіць яго „заблуждениями и опасными идеями“, што вельмі карысна было-б ізаляваць Пушкіна ад пахвальбы яго паклоннікаў, якія кружаць яму галаву і наводзяць маладога чалавека на думку, што ён выдатны пісьменнік, „в то время, как он только слабый подражатель писателя, в пользу которого можно сказать очень мало,—лорда Байрона“.

Пушкін спакойна чакаў адстаўкі. А хмары над яго галавою гусцелі ўсё больш. Маскоўская паліцыя перахапіла яго ліст да сябра,

у якім Пушкін пісаў пра непераканальнасць довадаў на карысць існавання бога і неўміручасці душы. Варанцоў атрымаў з Пецербурга паперу—загад: зволіць Пушкіна са службы за благія паводзіны і неадкладна выслаць у маёнтак бацькоў, у Пскаўскую губерню, пад нагляд мясцовага начальства. Пушкін быў ашаламучан, як толькі яму абвясцілі царскае рашэнне і ўсіх гэтае рашэнне ўразіла і абурыла сваей суровасцю. 30 ліпеня 1824 г. одэскі граданачальнік накіраваў Пушкіна ў Пскаўскую губерню.

## У МІХАЙЛАЎСКІМ

Пушкін ехаў нідзе, як загадала начальства, не спыняючыся і 9 жніўня прыбыў у маёнтак бацькоў, вёску Міхайлаўскае.

Амаль два гады ён пражыў у вёсцы ў поўнай адзіноце з сваёю старою нянькай Арынай Радзіонаўнай. Раніцою ўставаў і мыўся ледзянай вадою, а потым садзіўся пісаць. Палуднаваў позна, пасля абеда ездзіў верхам, вечарам іграў ад нуды сам з сабою на більярдзе, альбо слухаў казкі нянькі. „Что за прелесть эти сказки!— у захапленні пісаў Пушкін сябрам. —Каждая есть поэма... няня— оригинал няни Татьяны: она единственная моя подруга, и с нею только мне не скучно“.

У свята Пушкін часамі надзяваў рускую чырвоную рубашку, падпяразваўся рамнём і накіроўваўся ў суседні Святагорскі манастыр на кірмаш; сядзеў з сляпымі жабракамі, слухаў і запісваў іх песні пра Лазара, пра Аляксея, чалавека боскага.

З памешчыкамі-суседзямі Пушкін не знаўся і вёў знаёмства толькі з Праскоўей Александраўнай Осіпавай, памешчыцай сяла Трыгорскага. Яна была ўжо не маладая жанчына, але адукаваная і не дурная. Пушкін вельмі любіў яе і да канца жыцця падтрымліваў з ёю дружацкія адносіны.

Пушкін пакутаваў ад нуды і суму. Ён заўсёды любіў шум, рух, вялікі круг людзей, напружаную разумовую атмасферу. Лісты яго з Міхайлаўскага багаты такімі прызнаннямі: „у меня хандра и нет ни одной мысли в голове“. „Михайловское душно для меня“, „у нас очень дождик шумит, ветер шумит, лес шумит, шумно, а скучно“ і т. п. у душы была злосць на няспынныя ганенні ўрада, які перакідаў яго з месца на месца і не даваў магчымасці спакойна працаваць. І зноў перад Пушкіным, як адзіны выхад з такога становішча, пачалі вырысоўвацца ўцёкі за граніцу. Аднак ажыццявіць іх зноў не ўдалося.

У студзені 1825 г. у Міхайлаўскае прыехаў праведаць Пушкіна яго стары ліцэйскі сябра Іван Іванавіч Пушчын. Прыехаў ён раніцою. Пушкін згледзеў яго праз акно і неапрануўшыся, у адной сарочцы, выскачыў на мароз насустрач сябру. Спатканне было вельмі радаснае. Пушчын прывёз Пушкіну падарунак—камедыю Грыбаедава „Горе от ума“, якая тады пашыралася рукапісна. Пасля абеду селі яе чытаць.

Яны гаварылі і пра таемнае таварыства. Пушчын быў энергічным членам Паўночнага таемнага таварыства: да гэтага часу ён захоўваў ад Пушкіна свой удзел у ім, цяпер невыразна намякнуў, што з'яўляецца яго членам. Пушкін усхвалявана ўскочыў з крэсла. Ён успомніў свайго кішынёўскага сябра маёра Раеўскага. Пяты ўжо год яго тры-

малі ў Тіраспальскай крэпасці і нічога не маглі ад яго выпытаць.

— Сапраўды, усё гэта ў сувязі з маёрам Раеўскім!—гукнуў Пушкін. Пасля, супакоіўшыся, ён дадаў:—Урэшце, я не прымушаю цябе, любезны Пушчын, гаварыць. Магчыма, ты і правы, што мне не даўяраеш. Сапраўды, я гэтага давер'я не варты з-за шмат якіх маіх глупстваў.

Прасядзелі да позняй ночы. Пушчыну падалі коней. Сябры моцна абняліся і развіталіся—назаўсёды. У канцы гэтага-ж 1825 г., пасля паўстання 14 снежня, Пушчын быў арыштаваны і сасланы на катаргу.

Гады самотнага, мізэрнага на ўражанні жыцця на вёсцы аказаліся вельмі спрыяючымі для творчасці Пушкіна. Ён пісаў шмат. Патрабаванні да сябе раслі: „Я адчуваю,—пісаў Пушкін,—што мае духоўныя сілы дасягнулі поўнай спеласці, я магу тварыць".

У кастрычніку 1824 г. Пушкін скончыў у Міхайлаўскім паэму „Цыганы", пачатую на поўдні. У Міхайлаўскім-жа Пушкін напісаў вялікі твор, над якім працаваў доўга і з любоўю—гістарычную трагедыю „Барыс Гадуноў". Тэатр забаўляўся вырабамі „российских Расинов"—хадульнымі перайманнямі ложна-класічных узораў, якія не мелі ніякага мастацкага значэння. Пушкін паставіў сабе за мэту павярнуць тэатр на шлях, пракладзены Шэкспірам. „Цвёрда ўпэўнены,—піша ён,—што застарэлыя формы нашага тэатра патрабуюць перабудовы, я напісаў сваю трагедыю па сістэме бацькі нашага—Шэкспіра... Ад яго пераймаў вольныя і шырокія выяўленні характараў, незвычайныя складанні тыпаў і прастату... Я цвёрда ўпэўнен, што нашаму тэатру больш падыходзяць народныя законы драмы Шэкспіравай, а не прыдворны звычай трагедый Расіна. Дух веку патрабуе вялікіх змен і на сцэне драматычнай".

Увосень 1825 г. Пушкін закончыў „Барыса" Прачытаў яго самому сабе ўголас, пляскаў далонямі і крычаў у захапленні:—Ай ды Пушкін! Ай ды сукін сын!

У Міхайлаўскім Пушкін працягваў пісаць „Онегіна", пачатага ў Одэсе. Скончыў трэцюю главу, напісаў чацвертую і пятую. У сярэдзіне снежня 1825 г. за дзве раніцы напісаў паэму „Граф Нулін".

19 лістапада (стар. стылю) 1825 г. нечакана памёр імператар Александр І. Наследнікам яго лічыўся брат яго, Канстанцін, але ён даўно ўжо адмовіўся ад правоў на прастол. Аднак гэта чамусьці хавалася ў тайне. Імператарам павінен быў стаць наступны па парадку брат—Нікалай. Войскі спачатку былі прыведзены да прысягі Канстанціну, і Нікалай сам прысягнуў яму; пасля пачалі прыводзіць да прысягі Нікалаю. Члены таемнага таварыства парашылі скарыстаць такое непаразуменне і шляхам ваеннага перавароту дамагчыся абмежавання альбо нават знішчэння самаўладства. Яны ўнушылі войскам, што Канстанцін адхілен прымусова, і 14 снежня вывелі іх на Сенацкі пляц супроць Нікалая. Паўстанне было разгромлена пушкамі Нікалая.

Змена цара парадзіла ў душы Пушкіна вялікія надзеі. Ён парашыў хадайнічаць аб сваім вызваленні. Нельга было выбраць больш неспрыяючы момант для хадайніцтва. Праўда, сам Пушкін не быў членам таемнага таварыства. Але амаль у ва ўсіх арыштаваных знаходзілі яго рэвалюцыйныя вершы. На аснове ўсіх гэтых матар'ялаў

для ўрада выразна вырысоўвалася вялізная агітацыйная роля Пушкіна ў падрыхтоўцы паўстання.

Адказу на прашэнне Пушкіна не было. Скончылася следства. Пяцёх дзекабрыстаў павесілі, больш за сотню саслалі ў Сібір на катаргу. Пушкін быў знаёмы з большасцю павешаных, ведаў многіх сасланых. Расправа з імі зрабіла на яго патрасальнае ўражанне. „Павешаныя павешаны,—пісаў ён,—але катарга ста дваццаці сяброў, братоў і таварышоў жахлівая“. І доўга яшчэ пасля Пушкін рысаваў у сваіх чарнавіках шыбеніцу з пяцю трупамі і задуменна прыпісваў: „І я мог-бы, як тут...“, „І я мог-бы...“

3 верасня 1826 года Пушкін праводзіў вечар у Трыгорскім. Было цудоўнае надвор‘е. Пушкін быў вельмі вясёлы, гуляў з паненкамі: у адзінаццаць гадзін яны правялі яго па дарозе ў Міхайлаўскае. А на світанні ў Трыгорскае прыбегла старая няня Пушкіна Арына Радзіонаўна, растрапаная, напалоханая і заплаканая. Яна паведаміла, што ў гэтую ноч прымчаўся ў Міхайлаўскае нейкі ні-то афіцэр, ні-то салдат, забраў Пушкіна і некуды звёз з сабою. Пушкін тым часам імчаўся ў каламажцы з фельд‘егерам у Маскву. Ехалі ўдзень і ноччу. 8 верасня прыехалі. Пушкіну не далі ні адпачыць, ні пераапрануцца і пабрыцца: застуджанага, запырсканага гразёю, яго даставілі адразу ў палац і ўвялі ў габінет к Нікалаю.

Імператар сустрэў Пушкіна вельмі міласціва. Паміж імі адбылася доўгая гутарка. Цар запытаўся:—Пушкін, ці прыняў-бы ты ўдзел 14 снежня, калі быў-бы ў Пецербургу?

Пушкін смела адказаў:—Абавязкова, гасудар. Усе мае сябры былі ў змове, і я не мог-бы не ўдзельнічаць у ёй. Толькі адна адсутнасць выратавала мяне.

Нікалай запытаўся, ці перамяніліся яго думкі і ці дае ён слова думаць і дзейнічаць іначай, калі яму дадзена будзе свабода...

Пасля цар запытаў:

— Што ты цяпер пішаш?

— Амаль нічога, цэнзура вельмі суровая.

— А навошта ты пішаш такое, чаго не прапускае цэнзура?

— Цэнзура не прапускае і самых нявінных рэчаў.

— Ну, добра, дык я сам буду тваім цэнзарам. Прысылай мне што напішаш.

Імператар вывеў за руку ўсхваляванага Пушкіна з габінета і сказаў царадворцам, якія стаўпіліся ў прыёмнай.

— Панове! Вось вам новы Пушкін. Пра старога запамятаем.

Але гэта былі толькі словы. Усе паводзіны ясна паказалі цару, што Пушкін зусім не стаў такім ужо новым.

Было ясна, што з яго ніколі не выйдзе Дзяржавін, Карамзін, ці Жукоўскі, што цару нельга будзе спакойна пакласціся на яго.

## ПАД АПЕКАЙ ЦАРА І ЖАНДАРМАЎ

Пушкін атрымаў волю і застаўся жыць у Маскве. Масква сустрэла Пушкіна ў захапленні. Калі ён упершыню з‘явіўся ў тэатры, па ўсіх радах прайшоўся гул, усе бінoклі былі накіраваны на яго, ніхто не глядзеў на сцэну. На сходах і балах уся ўвага скіроўвалася на

Пушкіна, дамы кругам абступалі яго, няспынна выбіралі ў катыльён і мазурку. Раніцою прыёмная Пушкіна была перапоўнена наведвальнікамі: яго ведаў увесь горад, усе ім цікавіліся. Самыя выдатныя людзі лічылі за гонар пазнаёміцца з ім.

У наступныя гады Пушкін жыў то ў Маскве, то ў Пецербургу. Ён увесь аддаўся здавальненням вялікага горада. Аднак працаваў вельмі шмат. Адна за адной пісаліся главы „Еўгенія Онегіна". У імжыстую восень 1828 г. Пушкін за два-тры тыдні напісаў усю „Палтаву". Пісаў ён яе сапраўды „и звуков, и смятенья полон". Цэлыя дні пісаў неадрыўна. Вершы трызніліся яму нават ў сне, так што ён ноччу ўскакваў з ложка і запісваў іх упоцемку. Думкі, якія не паспявалі ўкласціся ў вершы, ён запісваў прозай. Але пасля старанна ўсё апрацоўваў, закрэсліваў, нанава пісаў, зноў закрэсліваў. Наогул над сваімі творамі Пушкін працаваў вельмі шмат. Рукапісы яго—гэта цэлая сетка налепленых адзін на адзін радкоў і слоў, паслядоўна зноў і зноў закрэсліваемых.

Пасля свайго звароту з ссылкі Пушкін трымаўся ў адносінах да цара і ўрада так, што ні чым-бы не мог выклікаць папроку.

Якія-б ні былі ў гэты час сапраўдныя адносіны Пушкіна да самаўладства, ён ні чым не даваў поваду западозрыць яго ў палітычнай ненадзейнасці. Аднак Нікалай адносіўся да яго з глыбокім недавер'ем. „Міласці", якімі асыпаў Пушкіна імператар, аказвалася, адбіралі ў яго нават тыя правы, якімі карыстаўся кожны абываталь.

Пасярэднікам паміж Пушкіным і царом быў жандармскі генерал Бенкендорф, начальнік славутага „Трэцяга аддзялення", „уласнай яго вялікасці" канцэлярыі—самы набліжаны да цара чалавек. У Маскве Пушкін прачытаў у крузе сяброў свайго „Барыса Гадунова". Ад Бенкендорфа неадкладна прышло ўказанне, што без папярэдняга прагляду царом, Пушкін не мае права якім-бы то ні было шляхам „распаўсюджваць" свае творы. Выходзіла, што Пушкін, быццам-бы пастаўлены ў прывеліяванае параўнальна з іншымі становішча, не мог нават прачытаць свой твор сваім сябрам без папярэдняга дазволу!

Парашыўшы распачаць друкаванне „Барыса Гадунова", Пушкін паслаў сваю п'есу на цэнзуру імператару. Хутка ён атрымаў ад Бенкендорфа паведамленне, што імператар з вялікім здавальненнем прачытаў п'есу і на дакладной запісцы пра яе зміласціўіўся напісаць: „Я считаю, что цель г. Пушкина была-бы выполнена, если-бы с нужным очищением переделал комедию свою в историческую повесть или роман, наподобие Вальтера Скотта". Імператар—невук раіў паэту ў корані перапрацаваць геніяльны твор па яго ўказаннях. Увесь камізм гэтай дурной рэкамендацыі мы ацэнім, калі ўспомнім, што галоўная мэта Пушкіна пры напісанні „Барыса Гадунова" была якраз глыбокая рэформа нашага тэатра. Пушкін з горкай іроніяй адказаў Бенкендорфу: „Згодзен, што мая драматычная паэма больш падобна на гістарычны раман, чым на трагедыю, як гасудар імператар зміласціўіўся заўважыць. Шкадую, што ў мяне ўжо няма сілы перарабіць аднойчы мною напісанае". Парада цара ёсць загад: друкаванне п'есы давялося адкласці.

Так пачалося апякунства жандарма і яго злоснага ўладара над геніяльным паэтам, якое цягнулася праз усё жыццё. Пад апякунствам

была не толькі яго літаратурная дзейнасць, але і кожны крок яго жыцця.

У двух афіцэраў былі знойдзены забароненыя цэнзурай урыўкі з яго верша „Андрэй Шэн'е“ пад загалоўкам „Да 14 снежня“. Прыцягнут быў па справе і Пушкін, з яго некалькі разоў рабілі допыт. Справа цягнулася каля двух год. Пушкіну, урэшце, удалося давесці, што ўрывак не мае ніякіх адносін да снежаньскіх падзей і напісан за доўгі час да 14 снежня. У выніку яму было сурова забаронена „выпускать в публику“ свае творы без папярэдняга дазволу цэнзуры, а сам ён быў аддадзен пад сакрэтны нагляд паліцыі.

Не паспела скончыцца гэта справа, як новая справа была пачата супроць Пушкіна, яшчэ больш сур'ёзная. Да урада дайшла напісаная Пушкіным яшчэ ў Кішынёве антырэлігійная паэма „Гаўрыліяда“, якая абсмейвала евангельскую лягенду пра непарочнае зараджэнне Хрыста. За такое богахульства Пушкіну магло пагражаць пажыццёвае зняволенне ў якой небудзь самай страшнай манастырскай турме. На шматлікіх допытах Пушкін упарта адмаўляў свае аўтарства, але ў душы яго было вельмі неспакойна. З верша „Адчуванне“ можна бачыць, як стаміўся ў гэты час Пушкін ад няспынных ганенняў:

Снова тучи надо мною
Собралися в тишине;
Рок завистливый бедою
Угрожает снова мне...
Сохраню-ль к судьбе презренье?
Понесу ль навстречу ей
Непреклонность и терпенье
Гордой юности моей?
Бурной жизнью утомленный,
Равнодушно бури жду...

Урэшце, па прычыне, не зусім высветленай, справа гэта была спынена.

## ПАЕЗДКА НА КАЎКАЗ

Пад канец дваццатых год блізкія пачалі заўважаць у характары Пушкіна некаторую перамену. Ён менш ахвотна выязджаў у свет, пачаў адчуваць патрэбу ў сваім кутку, сямейным жыцці.

У 1828 годзе на адным з маскоўскіх балаў ён пазнаёміўся з шаснаццацігадовай дзяўчынай Наталіяй Нікалаеўнай Ганчаровай. Гэта была пусценькая маскоўская паненка, уся яе адукацыя абмяжоўвалася ўменнем добра гаварыць па-французску і хораша танцаваць. Але была яна прыгажосці здзіўляючай. Пушкін закахаўся ў яе, пазнаёміўся з яе бацькамі, пачаў бываць у Ганчаровых.

Расказваюць, што ў гэты час Наталья Нікалаеўна нічога Пушкіна нават не чытала, наогул-жа праз усё сваё жыццё ставілася да паэзіі абыякава. Ніякай духоўнай блізкасці з ёй у Пушкіна не магло быць. Ён любаваўся ёю, „благовея богомольно перед святыней красоты“, палаў каханнем, але адчуваў, што дзяўчына абыякава глядзіць на яго, што яму нечым яе зацікавіць і завабіць. І рабіўся ў яе прысутнасці сарамяжым, ціхім, як упершыню закаханы хлопчык. І наогул у сям'і Ганчаровых ён адчуваў холад і стрыманне.

Мацеры, Натальі Іванаўне, Пушкін не падабаўся. Не гледзячы на ўсё гэта, Пушкін у канцы красавіка 1829 года пасватаўся за Наталью Нікалаеўну. Проста яму не адмовілі, але адказалі, што Наташа яшчэ вельмі маладая, што трэба пачакаць і паглядзець.

У тую-ж ноч Пушкін выехаў на Каўказ, у дзейнічаючую армію.

У гэты час адбывалася вайна Расіі з Турцыяй. На каўказскім фронце галоўнакамандуючы Паскевіч уварваўся ў Турцыю і наступаў на крэпасць Арзерум. У яго арміі служыў камандзірам Ніжагародскага драгунскага палка даўні друг Пушкіна Нік. Нік. Раеўскі— малодшы, а ад'ютантам Раеўскага быў малодшы брат Пушкіна Лев. У канцы мая Пушкін прыехаў у Тіфліс, пажыў там два тыдні і накіраваўся даганяць армію. Дагнаў, быў прынят Паскевічам і пасяліўся ў палатцы Раеўскага.

Лагернае жыццё вельмі спадабалася Пушкіну.

„Пушка,—расказвае ён,—падымала нас на світанні. Сон у палатцы на дзіва здаровы. Палуднуючы, запівалі мы азіяцкі шашлык англійскім півам і шампанскім, астуджаным у снягох Таўрыйскіх".

Раз'язджаў Пушкін на казацкім кані, з нагайкай у руцэ. Цывільны чалавек у чорным сурдуце і з цыліндрам на галаве ўяўляў сярод ваенных вельмі незвычайнае відовішча. Салдаты лічылі Пушкіна за нямецкага папа.

Армія дайшла да Арзерума і 27 чэрвеня 1829 года ўзяла яго без усякага супраціўлення. Гэта не перашкодзіла Паскевічу пахваліцца захопам горада, як вялікай перамогай. Пушкін пражыў у Арзеруме больш трох тыдняў. У горадзе з'явілася чума. Ён парашыў выехаць. Паскевіч затрымліваў Пушкіна, прапануючы быць за сведку далейшых прадпрыйманняў. Але, відаць, Пушкіну быў ужо зусім ясны характар гэтых прадпрыйманняў,—ён развітаўся з Паскевічам і выехаў у Расію.

---

Чым больш мужнела творчасць Пушкіна, чым далей ішоў ён наперад, тым менш пачынала разумець яго крытыка, тым халадней ставіліся да яго чытачы.

„Палтава" была сустрэта публікай холадна, і „Северная пчела" орган Булгарына, зласліва пісала: „холодный прием, оказанный публикой „Полтаве", служит ясным доказательством, что очарование имен исчезло".

Роўнадушна быў сустрэты „Барыс Гадуноў", які ў 1830 годзе, нарэшце, вышаў з друку. Пра яго пісалі: „Поэзия есть творчество: а здесь нет ни одного оригинального создания. Борис и Шуйский переложены только в стихи из певучей прозы Карамзина". Пра сёмую главу „Онегіна", адну з лепшых глаў рамана, заяўлялі: „поўны занепад".

Увесь замкнуўшыся ў халоднай і маўклівай самотнасці, Пушкін пісаў:

Поэт. Не дорожи любовию народной.
Восторженных похвал пройдет минутный шум,
Услышишь суд глупца и смех толпы холодной,
Но ты останься тверд, спокоен и угрюм.

Пералом у грамадскім светапоглядзе Пушкіна, які пачаўся да снежаньскага паўстання, з цягам часу ўсё ўзмацняўся.

Ён як і раней горка хвэрэў за сасланых на катаргу дзекабрыстаў, не трацiў надзеі, што іх памілуюць, слаў ім у Сібір полымнае вітанне і прарочыў прыход жаданай пары:

Оковы тяжкие падут,
Темницы рухнут — и свобода
Вас примет радостно у входа
И братья меч ваш отдадут.

Ён рысаваў сябе ў выглядзе песняра Арыона, які выратаваўся ад агульнага караблекрушэння:

Погиб и кормщик, и пловец —
Лишь я, таин твенный певец,
На берег выброшен грозою,
Я гимны прежние пою
И ризу влажную мою
Сушу на солнце под скалою.

Але для „прежних гимнов“ у яго цяпер не было веры: справу дзекабрыстаў ён лічыў безнадзейна прайгранай.

## У МАСКВЕ І Ў БОЛДЗІНЕ

Ранняй вясною 1830 года адзін з маскоўскіх знаёмых Пушкіна загаварыў на бале з Натальей Нікалаеўнай Ганчаровай і яе маці пра Пушкіна Маці і дачка адгукнуліся пра Пушкіна прыязна і прасілі яму кланяцца. Пушкін ажыў духам, у момант сабраўся і пакаціў у Маскву. Ён наведаў Ганчаровых. Яго прынялі ласкава. Ён зноў пачаў бываць у іх і 6 красавіка ў другі раз зрабіў прапанову. Прапанова Пушкіна была прынята.

6 мая 1830 г. адбыўся афіцыйны зговар пра жаніцьбу з Натальей Нікалаеўнай Ганчаровай. Бацька Пушкіна з прычыны яго жаніцьбы вылучыў яму з сваіх ніжагародскіх памесцяў дзвесце незакладзеных сялянскіх „душ“ сяла Кісценёва. У пачатку восені Пушкін паехаў у Ніжагарадскую губерню, каб прыняць маёнтак і ўладзіць маемасныя свае справы. Ён разлічваў пабыць там зусім нядоўга. Між тым уверх па Волзе падымалася халера. На другой станцыі ад Масквы Пушкін даведаўся, што халера ўжо ў Ніжнім. Калі ён прыехаў у Болдзіна (бацькаўскае памесце), ваколічныя вёскі абкружаліся караулам, усюды ствараліся каранціны. Народ абураўся, там і тут успыхвалі бунты.

Ішоў тыдзень за тыднем, месяц за месяцам, а Пушкін усё сядзеў у Болдзіне. Халера пашыралася, падыходзіла да Масквы, каранціны перагараджвалі ўсе дарогі, сама Масква была абкружана вайсковымі кардонамі. Казалі, што халера ўжо і ў Маскве. Пушкін вельмі непакоіўся за нявесту, за яе здароўе і бяспеку; ды яшчэ да яго даходзілі чуткі, быццам вяселле пашло на разлад, што Наталья Нікалаеўна выходзіць замуж за другога. Ён рваўся ў Маскву, два разы выязджаў з Болдзіна, спадзяючыся прабрацца праз каранціны, але абудвы разы давялося вярнуцца.

У гэтую восень, якую Пушкін правёў у Болдзіне, прыліў творчасці быў у яго зусім незвычайны. За тры месяцы ён напісаў „маленькія трагедыі“, „Домік у Каломне“, аповесці Белкіна, дзве апошнія главы „Онегіна“, каля трыццаці лірычных вершаў. „Дзетародная восень“, называў яе Пушкін.

Здзіўляе не толькі колькасць і высокая якасць напісанага ў гэты час Пушкіным, але і тая лёгкасць, з якой ён пераключаўся з аднаго настрою ў зусім другі. Празрыста вясёлыя расказы, як „Барышня-сялянка“, „Мяцеліца“, „Домік у Каломне“, чаргаваліся з глыбока сур'ёзнымі драмамі як „Скупы рыцар“, „Моцарт і Сальеры“, „Пір у часе чумы“. Лірыка гэтай восені напоўнена самымі разма-ітымі, супроцьлеглымі адзін аднаму настроямі.

Толькі к снежню месяцу Пушкіну, урэшце, удалося выбрацца з Болдзіна. 5 снежня ён быў у Маскве.

Вяселле адбылося 18 лютага 1831 г. у царкве Вялікага Уздвіжання на Большой Нікітской (цяпер вуліца Герцэна). Пушкін, у процілегласць настрою апошніх дзён, быў цяпер вясёлы, радасны, любезны з сябрамі, смяяўся. Але ў часе абраду, пры абмене пярсцёнкаў, пярсцёнак Пушкіна ўпаў на падлогу. Потым у яго патухла свечка. Пушкін, які верыў у забабоны, збялеў і прашаптаў:

— Усё — дрэнныя прыметы.

## ПАСЛЯ ЖАНІЦЬБЫ

Пушкін разлічваў застацца жыць з жонкаю ў Маскве. Яны займалі ўтульна мэбляваную кватэру на Арбаце. „Я жанаты—і шчаслівы,—пісаў Пушкін Плетнёву.—Адно ў мяне жаданне—каб нішто ў жыцці маім не змянілася, лепшага не дачакаюся. Гэтае становішча для мяне такое новае, што, здаецца, я перарадзіўся“. Але ўсё ўзмацняліся сутычкі з цешчай. Наталья Іванаўна нагаварвала дачцы на Пушкіна, усяк чарніла яго. Пачаліся такія сваркі, што Пушкін не мог вытрымаць. Ён ліквідаваў сваю маскоўскую кватэру і ў сярэдніх лічбах мая выехаў з жонкаю ў Пецербург. Там яны і парашылі пасяліцца. На лета-ж нанялі дачу ў Царскім Сяле, каля Пецербурга.

Пушкін кахаў жонку. Але Наталью Нікалаеўну больш цікавілі ўбёры і шыкаванні. Да ўдзелу ў напружаным творчым і разумовым жыцці мужа яна была няздольна. Поўны яшчэ творчага хвалявання, Пушкін прыходзіў да яе прачытаць новыя вершы, але яна крычала: Божа мой, як-жа ты мне абрыдзеў са сваімі вершамі, Пушкін.

Халера, якая была ўціхамірылася на зіму, з пачаткам вясны пачала лютаваць з новай сілай і насунулася на Пецербург. Імператар разам з прыдворнымі пераехаў у Царскае Сяло. „Царскае Сяло закіпела і ператварылася ў сталіцу“,—пісаў Пушкін Плетнёву.

Аднойчы ў царскасельскім парку Пушкін спаткаўся з імператарам. Нікалай абышоўся з Пушкіным вельмі міласціва, распытваў пра яго справы і між іншым запытаў, чаму ён не служыць. Пушкін адказаў, што гатовы служыць, але што, апрача літаратурнай службы, ніякай іншай не ведае. Тады цар прапанаваў яму заняцца пісаннем гісторыі Пятра Першага.

Красуня жонка Пушкіна вельмі спадабалася імператрыцы; імператар яшчэ раней, будучы ў Маскве, сустракаў на ўрачыстасцях Наталью Нікалаеўну, калі яна была дзяўчынай, і лічыў яе вельмі мілай і цікаўнай. Імператрыца выказала пажаданне каб Наталья Нікалаеўна бывала пры двары.

Увосень 1831 года Пушкін перасяліўся з Царскага Сяла ў Пецербург. Ён быў афіцыйна залічан у дзяржаўную калегію замежных спраў, павышан хутка ў чыне і яму была прызначана пенсія—пяць тысяч рублёў. Але для цяперашніх патрэб Пушкіна гэтага было занадта мала.

Жыццё Натальі Нікалаеўны праходзіла ў няспынных гулянках, святкаваннях і балах. Яна варочалася дадому ў чатыры-пяць гадзін раніцы, уставала позна, палуднавалі ў восем гадзін вечара, пасля абеда Наталья Нікалаеўна перапраналася і зноў выязджала, яе суправаджаў муж. Даўно ўжо для Пушкіна адыйшла пара, калі яго цягнула да танцаў. Але нельга-ж было выязджаць жонцы адной. І ўсе вечары Пушкін праводзіў на балах; стаяў каля сцяны, вяла пазіраў на танцораў, еў марожанае і пазяхаў. Аднойчы, уздыхнуўшы, ён сказаў сваёй знаёмай:

Неволя, неволя, боярский двор!
Стоя наешься, сидя наспишься.

Сябры з усё большай і большай трывогай наглядалі, у якіх жахлівых для творчасці ўмовах жыў цяпер Пушкін. І сам ён з тугою пісаў аднаму з сяброў: „няма ў мяне часу вольнага халастога жыцця, неабходнага для пісання. Кружуся ў свеце, жонка мая ў вялікай модзе,—усё гэта патрабуе грошай, грошы дастаюцца мне праз творчасць, а творчасць патрабуе адзіноты“. Для новых твораў не было умоў, для надрукавання ўжо напісаных твораў адна за адною выраслалі перашкоды, як вынік высачайшай „міласці“, аказанай Пушкіну,—права даваць свае творы на цэнзуру самому імператару.

Пушкін меркаваў, што гэта—яго права,—аказалася, што гэта—яго абавязак. І Пушкін пісаў Бенкендорфу: „Адважыўся прасіць наконт адной міласці: надалей мець права з дробнымі творамі сваімі звяртацца да звычайнай цэнзуры“. Вось пра якую міласць вымушан быў хадайнічаць Пушкін!

Пушкін узмоцнена працаваў у архівах, збіраючы матэрыялы для даручанай яму царом гісторыі Пятра Першага. Але ад падрыхтоўчай працы да гісторыі Пятра яго адцягвала другая праца. Пушкіна зацікавіў Пугачоў, правадыр казацка-сялянскага паўстання ў XVIII веку. У той-жа час з'явілася думка напісаць і раман з часоў пугачоўшчыны. Для гэтага Пушкіну трэба было наведаць мясцовасць Усходняй Расіі, дзе дзейнічаў Пугачоў. Пушкін атрымаў водпуск на чатыры месяцы і 17 ліпеня 1833 г. выехаў з Пецербурга. А следам за ім паплылі да начальнікаў губерняў, якія павінен быў наведаць Пушкін, сакрэтныя ўказанні „учинить надлежащее распоряжение в учреждении за титулярным советником Пушкиным во время его пребывания секретного полицейского надзора за образом жизни и поведением его“.

Пушкін наведаў Казань, Орэнбург, Уральск, распытваў у старажылаў пра Пугачова, аглядаў месцы ваенных дзеянняў. З Орэнбурга ён з'ездзіў у станіцу Берды, былую сталіцу Пугачова.

У Бердах Пушкін адшукаў старуху, сямідзесяціпяцігадовую казачку, якая асабіста ведала Пугачова. Ён прасядзеў з ёю ўсю раніцу, распытваў яе, слухаў яе песні і на развітанне даў ёй залаты чырвонец.

Пушкін паехаў. Бердзінскія абывателі былі вельмі збянтэжаны: чаго прыязджаў чалавек, гэтак горача распытваў пра разбойніка, за што даў старой чырвонец? Справа падазроная, як-бы не нажыць бяды. Выправілі фурманку ў Орэнбург, даставілі начальству старую з чырвонцам і далажылі:

— Учора прыязджаў нейкі чужы пан. Прыметы яго: сам не высокі, валасы чорныя, кучаравы, смуглявы твар, падбіваў да пугачоўшчыны і дарыў золата, мусіць, антыхрыст, бо замест пазногцяў на пальцах кіпцюры. (Пушкін, як вядома, насіў вельмі доўгія пазногці).

1 кастрычніка 1833 года Пушкін прыехаў у сваё Болдзіна і засеў пісаць. Склаліся крыху прыгодныя ўмовы, і творчасць зноў забурліла крыніцай. „Распісаўся, і ўжо напісаў гібель“,—здаволена пісаў ён жонцы. За паўтары месяцы жыцця ў Болдзіне Пушкін напісаў: „Казку пра рыбака і рыбку“, „Казку пра мёртвую царэўну“, „Анжэло“, пераклаў дзве балады Міцкевіча, скончыў гісторыю Пугачова і напісаў два самыя выдатныя свае творы — паэму „Медны коннік“ і аповесць „Пікавая дама“.

У сярэдзіне лістапада 1833 года Пушкін вярнуўся ў Пецербург.

## У ПРЫДВОРНЫМ ПЛЕНЕ

У Анічкавым палацы наладжваліся інтымныя царскія вечары, куды прынята было запрашаць толькі асоб з прыдворным званнем. Жадаючы адкрыць Натальі Нікалаеўне доступ на гэтыя вечары, Нікалай пад новы 1834 год падпісаў указ: „служащего в министерстве иностранных дел титулярного советника Александра Пушкина всемилостивейше пожаловали мы в звание камер-юнкера двора нашего“. Павышэннем Пушкіна ў камер-юнкеры Нікалай адразу дасягнуў двух мэт—дамогся часта сустракацца з Натальей Нікалаеўнай і глыбока прынізіў Пушкіна, якога ў душы ненавідзеў: у камер-юнкеры ўзводзіліся звычайна вельмі маладыя людзі, і трыццаціпяцігадовы, ужо з сівізною Пушкін ствараў-бы ў іх натоўпе смешнае ўражанне.

Пушкіна, які даведаўся аб пажалаванні, ахапіла шаленства. Не памятаючы сябе, ён хацеў ісці ў палац і нагаварыць грубых слоў самому цару. Прычыну свайго пажалавання ён разумеў вельмі добра.

Нявесела і тужліва было ў душы Пушкіна. Ён нікому не скардзіўся на сваё цяжкое жыццё, але на твары яго сябры часта чыталі змрочны неспакой. Прыдзе, у турбоце ходзіць па пакою, спусціўшы рукі ў кішэні шырокіх панталон, і нудна паўтарае:

— Тужліва, сумна.

Цяпер амаль ніколі не бачылі яго вясёлым і бесклапотным. Рэдка-рэдка абуджаўся ў ім былы жартаўнік і весялун.

Пісьменніцкая самотнасць Пушкіна ўсё павялічвалася. Суровая і стрыманая прастата яго паэзіі, сціслая чаканасць прозы не здавальнялі публіку, якая прагна чытала эфектна-траскучыя вершы Бенедзіктава, квяцістую прозу Марлінскага і роўнадушна абмінала Пушкіна. Крытыка ўлічыла гэтыя адносіны, з яшчэ большай няструманасцю пачала рабіць напады на Пушкіна.

Пушкін пісаў мала, да напісанага ставіўся сурова і таму шмат чаго не друкаваў. Шмат што забараняла цэнзура. За апошніх шэсць год жыцця Пушкіна чытач з буйных яго мастацкіх твораў мог пазнаёміцца толькі з „Пікавай дамай“ і „Капітанскай дачкою“.

У свеце яго не любілі, таму што баяліся яго вострых, знішчальных эпіграм, на якія ён не быў скупы, і з-за якіх ён набыў у „высшем свете“ ворагаў непрымірымых.

---

На масляніцу 1834 г. Наталья Нікалаеўна захварэла ад вялікай танцавальнай працы і, паправіўшыся, выехала да восені з усімі дзяцьмі ў Калужскую губерню да свайго брата. Пушкін застаўся ў Пецербургу адзін наглядаць за друкаваннем „Гісторыі пугачоўскага бунта“. Раптам ён атрымлівае ўстрывожанае пісьмо ад Жукоўскага з Царскага Сяла, што пра нейкае пісьмо Пушкіна даведаўся цар, і ён вельмі злуецца. Выявілася, што Маскоўская пошта распячатала пісьмо Пушкіна да жонкі і пераслала яго ў Трэцяе аддзяленне. У гэтым пісьме Пушкін пісаў, што не мае намеру з'яўляцца на ўрачыстае святкаванне поўналецця царскага наследніка, і досыць непачціва выказваўся пра сваё камер-юнкерства. Жукоўскаму пашэнціла ўладзіць гэту справу.

Пушкін вырашыў вырвацца з клеткі, у якую яго замкнуў урад. 25 чэрвеня 1834 года ён падаў Бенкендорфу прашэнне аб адстаўцы. Гэтае прашэнне давяло цара да самага жорсткага гневу. Жукоўскі ўспалашыўся і пачаў бамбардыраваць Пушкіна з Царскага Сяла пісьмамі, абвінавачваючы яго ў безтактнасці і глупстве. Пад націскам Жукоўскага Пушкін зноў забраў прашэнне.

Чаму адносіны ўрада да Пушкіна былі такія варожыя і падазроныя? Пушкін сам па сабе быў непрыймальны для самаўладства. Што з таго, што Пушкін „прызнаваў“ яго? Патрэбна было не прызнаваць, а ўздымна любіць яго і ўслаўляць, без крытыкі, без стрыманасці і агляду. Сваімі одамі „Паклёпнікам Расіі“ і „Барадзінская гадавіна“ Пушкін быў ступіў на гэты шлях, але зараз-жа звярнуў з яго і больш не варочаўся. А на што патрэбен быў Нікалаю „проста“ геніяльны паэт, які тварыў геніяльныя творы? Пушкін не змяшчаўся ў рамках Нікалаеўскага самаўладства не як вораг яго, а як велізарная культурная з'ява, якая перарасла яго рамкі. Таксама і ў рамках прыдворна-свецкага жыцця Пушкін не змяшчаўся зноў-такі не як чалавек, які адмаўляў яго, а як глыбока культурны, поўны годнасці чалавек, арганічна няздольны зрабіцца царадворцам-халопам.

Нікалаю ўдалося паставіць яго на калені, але і на каленях Пушкін стаяў, не схіляючы горда ўзнятай галавы. Імператар гэта бачыў і адчуваў Пушкіна як „чужога“ і здольным на ўсё.

А яшчэ шмат чаго імператар не ведаў пра Пушкіна. Яшчэ ў тым-жа 1827 г., калі Пушкін адварачваўся ад „черни“,—яшчэ ў той час у адным неапрацаваным рукапісу ён задумліва пісаў такія радкі:

Блажен в златом кругу вельмож
Пиит, внимаемый царями:
Владея смехом и слезами,
Приправя горькой правдой ложь,—
Он вкус притупленный щекотит
И к славе спесь бояр охотит,
Он украшает их пиры
И внемлет умные хвалы.
Меж тем, за тяжкими дверями,
Теснясь у черного крыльца,
Народ, толкаемый слугами,
Поодаль слушает певца.

Цяпер гэты народ, якога штурхаюць слугі і які слухае паэта каля „черного крыльца“, паўстае перад Пушкіным як новы, самы жаданы слухач. За поўгода да смерці ён піша свой „Помнік“— дзівосны па зусім новым для Пушкіна падыходзе да задач паэзіі і па ацэнцы ўласных сваіх паэтычных заслуг. Па сваёй форме верш гэты—перайманне з аднаіменнага верша Дзержавіна. Дзержавін у сваім „Помніку“ пералічвае заслугі, якія, на яго думку, даюць яму права на памяць у патомстве. Заслугі гэтыя песняр „богоподобной Фелицы“ Екацерыны Другой бачыў у тым:

Что первый я дерзнул в забавном русском слоге
О добродетелях Фелицы возгласить,
В сердечной простоте беседовать о боге
И истину царям с улыбкой говорить.

Падкрэслена супроцьстаўляючы сябе яму, вось як абгрунтоўваў Пушкін свае правы на помнік: ён ганарыўся, што да яго помніка не зарасце народная сцежка і што помнік гэты непакорнаю главою ўзняўся вышэй царскіх помнікаў. І за што чакае ён удзячнасці ад народа?

И долго буду тем любезен я народу,
Что чувства добрые я лирой пробуждал,
Что в мой жестокий век восславил я свободу
И милость к падшим призывал.

Вялікае здзіўленне выклікае заключная страфа „Помніка“:

Веленью божию, о муза, будь послушна:
Обиды не страшась, не требуя венца,
Хвалу и клевету приемли равнодушно
И не оспоривай глупца.

Яна робіцца зразумелаю і зусім да месца, калі ў вершы мы будзем бачыць не толькі падвядзенне Пушкіным вынікаў мінулай сваёй паэтычнай дзейнасці, але і рашучую заяву пра пераход яго на зусім новыя паэтычныя пазіцыі. „Пробуждение добрых чувств“, „восславление свободы“, „призыв милости к падшим“,—вось што больш за ўсё пачынае цяпер цаніць Пушкін у сваёй мінулай дзейнасці і вось у чым ён прадбачыць „божие веление“ для дзейнасці будучай.

Уступаючы на гэты новы шлях, ён гатовы да насміханняў дурня, да крыўды і паклёпу, яму не патрэбны на гэтым шляху ні хвальба, ні вянкі.

Пушкін шукае цяпер зближэння з Белінскім, употай ад сваіх арыстакратычных сяброў пасылае яму свой часопіс „Современник“, збіраецца запрасіць яго супрацоўнічаць у гэтым часопісу. У паэзіі Пушкіна пачынаюць гучэць даўно забытыя ім гукі.

Глыбокім грамадзянскім гневам напоўнен верш, якому дадзен выклікаючы загаловак „Мірская ўлада“ („Когда великое свершалось торжество“...) Пушкін пачынае пісаць драму з часоў феадальнага рыцарства з грандыёзным замыслам—паказаць разгром рыцарскага дваранства тагочаснай дэмакратыяй—сялянствам і нарастаючым гарадскім мяшчанствам. Напісаны былі толькі пачатковыя сцэны, але да нашага часу захаваўся канспект з планам усёй драмы, і з яго відаць, якім рэволюцыйным пафасам павінна была дыхаць гэтая драма.

---

Матар'яльнае становішча Пушкіна ўсё больш заблытвалася. Жыццё ў Пецербургу з патрабаваннямі, якіх вымагалі прыдворнае жыццё і свецкія поспехі яго жонкі, было зусім не па яго сродках. Крэдыторы рабілі асаду яго кватэры, засыпалі пісьмамі з патрабаваннем выплаты. Летам 1835 года Пушкін зноў паспрабаваў вырвацца з Пецербурга. Ён пісаў Бенкендорфу: „Я бачу, што вымушан пакласці канец выдаткам, якія вядуць толькі да даўгоў і якія рыхтуюць мне будучыню, поўную неспакою і цяжкасцей, калі не жабрацтва і роспачы. Тры або чатыры гады жыцця на вёсцы зноў дадуць мне магчымасць вярнуцца ў Пецербург і ўзяцца за заняткі, за якія я абавязан дабраце яго вялікасці“.

Цар зноў адмовіў і толькі дазволіў выдаць Пушкіну пазыку ў трыццаць тысяч рублёў, а для пагашэння яе ўтрымліваць з яго пенсію. Грошы пайшлі на выплату самых неадкладных даўгоў, пенсію Пушкін перастаў атрымліваць, і адзінай крыніцай прыбытку засталася для яго літаратурная праца. Але сярод няспынных клопатаў і непрыемнасцей, у якіх цяпер жыў Пушкін, працаваць ён не мог. „Тут у Пецербурзе,—пісаў ён бацьку,—я нічога не раблю, а толькі раздражняюся да болю“.

Не пісалася і на вёсцы, куды звычайна Пушкін выязджаў увосень для працы. Паехаў ён у 1835 годзе на восень у Міхайлаўскае, пражыў месяц і пісаў жонцы: „Такой бясплоднай восені ад роду мне не выдавалася. Пішу, праз пень-калоду валю. Для натхнення патрэбен сардэчны спакой, а я зусім неспакойны“.

Давно завидная мечтается мне доля.
Давно, усталый раб, замыслил я побег
В обитель дальнюю трудов и чистых нег.

Але Наталья Нікалаеўна гэтаму „пабегу“ зусім не спачувала. Яна цярпець не магла вёскі, на працягу ўсяго жыцця з Пушкіным ні разу нават не пабывала ні ў Міхайлаўскім, ні ў Болдзіне. На лета яны наймалі дарагую дачу на якім-небудзь з модных пецербургскіх астравоў, дзе можна было жыць тым-жа

шумлівым і свецкім жыццём, як і зімою. Поспехі Натальі Нікалаеўны ў свеце няспынна ішлі ўгару. Цяпер ужо не Пушкін асвятляў яе сваёю славай, а яна, першая, якою захапляліся ўсе, красуня,—яго, скромнага цітулярнага дарадчыка і „сочинителя".

У 1834 годзе ў Пецербург прыехаў малады француз, барон Жорж Дантэс, прыхільнік „законнай Бурбанскай дынастыі. Пасля ліпеньскай рэволюцыі 1830 года, якая прагнала Бурбонаў, ён не захацеў застацца служыць у Францыі. У Пецербурзе Дантэс дзякуючы сваім сувязям быў прыняты адразу афіцэрам у першы з усіх гвардзейскіх кавалерыйскіх палкоў — кавалегардскі. У вышэйшым свеце ён адразу заняў вельмі прыметнае становішча. Высокага росту, прыгажун, самаўпэўнены, вясёлы, дасціпны, ён усюды быў жаданым госцем.

Пушкін пазнаёміўся з Дантэсам хутка пасля яго прыезду ў Пецербург. Французская жвавасць, вясёласць і дасціпнасць Дантэса спадабаліся Пушкіну. Дантэс пачаў бываць у яго доме. Быў ён гасцінна прыняты і ў сем'ях, блізкіх да Пушкіна,—у Карамзіных, Вяземскіх. Сустракаліся часта. Дантэс закахаўся ў жонку Пушкіна. Ёй ён таксама вельмі спадабаўся. Дантэс неадступна следваў за Натальей Нікалаеўнай з'яўляючыся ўсюды дзе была яна, на балах танцаваў толькі з ёю. Летам 1837 года, пасля аднаго, ці двух грамадскіх балаў на модных мінеральных водах (на Елагіным астраве) усюды ў вышэйшых колах пачалі гаварыць аб заляцаннях Дантэса да жонкі Пушкіна. Пушкін пасварыўся з жонкай, адмовіў Дантэсу ад дома. Але закаханыя не спынялі спатканняў—у знаёмых і на вялікасвецкіх балах.

Над галавою Пушкіна, як назойная восенская муха, усё больш назойліва пачынала лятаць жахлівае слова „раганосец". На адным бале малады нягоднік, касалапы князь П. В. Далгарукаў, падміргваючы прыяцелям у бок Дантэса, падымаў за Пушкіным і над яго галавою пальцы, развінутыя, як рогі.

## ДУЭЛЬ

Драма наспявала хутка.

Пушкін давяраў жонцы і не сумняваўся ў яе вернасці. Але яго даводзіла да шаленства тая роля „раганосца", якую яму пачалі зларадасна прыпісваць у свеце. А гаварылі там не толькі пра Дантэса, Пушкін расказваў сябру свайму Нашчокіну, што Нікалай, як афіцэрышка, ухажвае за яго жонкай, наўмысля раніцою па некалькі разоў праязджае міма яе акон, а вечарам на балах распытвае, чаму ў яе на вокнах заўсёды спушчаны шторы.

Раніцою 4 лістапада 1836 года Пушкін атрымаў па пошце напісаны змененым почаркам ананімны пасквіль такога зместу:

„Великие кавалеры, командиры и рыцары светлейшего Ордена Рогоносцев в полном собрании своем, под председательством великого магистра Ордена, его превосходительства Д. Л. Нарышкина, единогласно избрали Александра Пушкина заместителем великого магистра Ордена Рогоносцев и историографом Ордена".

Такія-ж лісты былі пасланы і многім знаёмым Пушкіна. Д. А. Нарышкін быў муж красуні Марыі Антонаўны, якая была ў шматгадовай сувязі з імператарам Александрам І. Узводзячы Пушкіна ў намеснікі Нарышкіна, пасквіль зусім выразна намякаў, што лічыць становішча Пушкіна ў адносінах да Нікалая такім-жа, як становішча Нарышкіна ў адносінах да Александра. Як высвятлілася цяпер, пасквіль быў напісан П. В. Далгарукавым, але за яго спіною стаяла цэлая зграя вялікасвецкіх ворагаў Пушкіна, у тым ліку, як відаць, і Увараў, міністр народнай асветы, якога абсмяяў Пушкін у сатыры на „Выздаравенне Лукула“. Але Пушкін чамусьці западозрыў у пасыланні пасквіля галандскага пасла Гекерна. Гекерн быў разбэшчаны чалавек і злы пляткар. Ён горача любіў Дантэса і поўгода таму назад усынавіў яго, таму Дантэс зваўся цяпер Гекернам. Пушкін лічыў, што няёмка выклікаць пасла на дуэль і накіраваў выклік Дантэсу.

Стары Гекерн вельмі спалохаўся вынікаў, якія маглі быць для яго і яго прыёмнага сына ад будучай дуэлі. Разам з Дантэсам яны прыдумалі такі выхад. У Дантэса даўно ўжо была закахана старэйшая сястра Натальі Нікалаеўны Екацерына Ганчарова. Цяпер, каб выблытацца з непрыемнага становішча, у якое іх паставіў выклік Пушкіна, Гекерны абвясцілі, што Дантэс ухажваў не за Натальей Нікалаеўнай, а за яе сястрою і гатовы на ёй жаніцца. Пушкін узяў свой выклік назад. 10 студзеня 1837 года адбылося вяселле Дантэса з Ганчаровай. Такім чынам Дантэс зрабіўся сваяком Пушкіна. Ён з'явіўся да яго з вясельным візытам, але Пушкін яго не прыняў і загадаў сказаць, што не хоча мець да яго ніякіх адносін.

Аднак яны заўсёды сустракаліся на вялікасвецкіх балах і ў сваіх знаёмых. Дантэс працягваў ухажваць за Натальей Нікалаеўнай з яшчэ большай настойлівасцю, якая даходзіла да нахабства. Шаленства Пушкіна яго забаўляла, і ён у яго прысутнасці ўхажваў за Натальей Нікалаеўнай з асаблівым стараннем.

Пушкін дайшоў амаль да шаленства.

26 студзеня 1837 года ён накіраваў старэйшаму Гекерну пісьмо, поўнае самых жахлівых абраз.

Пасля гэтага пісьма дуэль стала няўхільнай. А гэтага і дамагаўся Пушкін: другога выйсця з заблытанага становішча ён не бачыў. Па змове Гекерна з Дантэсам выклік Пушкіну паслаў Дантэс. Атрымаўшы выклік, Пушкін адразу супакоіўся.

На другі дзень Пушкін устаў рана. Быў як і ўчора вясёлы і спакойны. Напіўся чаю і сеў пісаць. Прышоў ліст ад д'Аршыака, секунданта Дантэса. Ён прасіў Пушкіна прыслаць свайго секунданта для перагавораў. Пушкін накіраваўся шукаць секунданта. На Панцелеймонаўскай вуліцы ён выпадкова спаткаў свайго ліцэйскага таварыша падпалкоўніка інжынерных войск К. К. Данзаса і папрасіў яго быць секундантам. Данзас ахвотна згадзіўся. Ён паехаў к д'Аршыаку, яны ўдвух выпрацавалі ўмовы дуэлі. Данзас прывёз Пушкіну пісьмовыя ўмовы дуэлі. Пушкін не стаў іх чытаць, згадзіўся на ўсё і паслаў Данзаса купіць пісталеты. А сам весела сеў займацца справамі свайго часопіса „Современник“. Разгарнуў кніжку Ішымавай „История России в рассказах для детей“ і зачытаўся ёю.

У дамоўлены час ён сышоўся з Данзасам у кандытэрскай Вольфа на рагу Неўскага праспекта. Яны селі ў сані і паехалі к прызначанаму месцу сустрэчы—да камендантскай дачы на Чорнай рэчцы. Прыехалі адначасова з праціўнікамі. Пашлі ў гай, выбралі палянку. Яна была ўкрыта гурбамі снегу. Абудвы секунданты і Дантэс пачалі ўтоптваць у снезе шырокую сцежку, па якой павінны былі сыходзіцца праціўнікі. Пушкін, захутаўшыся ў мядзведзеву шубу, сядзеў на гурбе і нецярпліва чакаў. Секунданты адлічылі па сцежцы крокі, у якасці бар'ераў паклалі на снег свае шубы і пачалі зараджаць пісталеты. Пушкін нецярпліва запытаў:

— Ну, што-ж? Скончылі?

Усё было гатова. Праціўнікаў паставілі на месцы, далі пісталеты. Данзас падаў сігнал, махнуўшы капялюшам.

Пушкін хутка падышоў да бар'ера, спыніўся і пачаў наводзіць пісталет. Але ў гэты час Дантэс, не дайшоўшы на крок да бар'ера, выстраліў. Пушкін упаў на шынель, які служыў бар'ерам. Ён ляжаў нерухома, тварам уніз. Секунданты і Дантэс кінуліся да яго. Пушкін ачуняў, падняў галаву і сказаў:

— Пачакайце. Я адчуваю досыць сілы, каб выстраліць.

Дантэс вярнуўся на сваё месца, стаў бокам і прыкрыў грудзі правай рукою. Пушкін прыўзняўся на каленях і пачаў цэліцца. Цэліўся доўга. Грымнуў стрэл. Дантэс упаў. Пушкін кінуў пісталет і закрычаў: — Брава!

І зноў, непрытомны, упаў на снег. Аднак Дантэса збіла з ног толькі моцная кантузія: куля прабіла мяккую частку рукі і папала ў гузік штаноў; гэты гузік выратаваў яго.

Ачуняўшы, Пушкін запытаў у д'Аршыака:

— Забіў я яго?

— Не, вы яго паранілі.

— Дзіўна, — сказаў Пушкін, — я думаў, што буду здаволены, калі заб'ю яго, але я адчуваю цяпер, што не... Урэшце, усёроўна. Як толькі мы паправімся, зноў пачнем.

Секунданты пасадзілі Пушкіна ў сані. Каля камендантскай дачы яны знайшлі карэту, якую прыслаў на ўсякі выпадак Гекерн. Дантэс і д'Аршыак прапанавалі Данзасу выкарыстаць карэту для Пушкіна. Данзас прыняў прапанову. Не сказаўшы Пушкіну, чыя карэта, ён пасадзіў у яе Пушкіна і паехаў з ім у горад.

Наталья Нікалаеўна нядаўна вярнулася з прагулкі і разам з сястрою Александрынаю чакалі Пушкіна, каб палуднаваць. Раптам увайшоў без папярэджання Данзас і, стараючыся быць спакойным, паведаміў, што Пушкін зараз страляўся з Дантэсам і паранены, але вельмі лёгка. Наталья Нікалаеўна кінулася ў пярэднюю, куды ўжо ўносілі на руках Пушкіна. Яна анепрытомнела. Пушкіна паклалі на канапу ў яго габінеце. Ачуняўшы, жонка хацела ўвайсці, але Пушкін моцна закрычаў: Не ўваходзь! Ён не хацеў, каб яна ўбачыла яго рану, і паклікаў яе толькі тады, калі ўжо быў раздзеты і пакладзены.

Адзін за адным з'язджаліся дактары, з'язджаліся сябры Пушкіна—Жукоўскі, Плетнёў, Вяземскі, А. Тургенеў.

## НА СМЯРОТНАЙ ПАСЦЕЛІ

Пушкін цяжка пакутваў, але часта пытаўся пра жонку:

— Яна, гаротная, бяз віны цярпіць і можа яшчэ пацярпець у думках людскіх.

І ёй самой сказаў:

— Не дакарай сябе за маю смерць. Гэта справа, якая тычылася мяне аднаго.

Лейб-хірурга Арэндта ён прасіў перадаць імператару просьбу не рабіць ганення на Данзаса за ўдзел у дуэлі. Данзас ад яго не адыходзіў. Ён сказаў Пушкіну, што хоча выклікаць Дантэса на дуэль, каб адпомсціць за яго. Пушкін паморшчыўся:

— Не, не! Мір, мір.

Злосць і шаленства, якімі ён няспынна кіпеў у апошнія месяцы, цяпер зніклі, ён стаў спакойны, ціхі і задаволены. У некаторых сяброў было ўражанне, што Пушкін шукаў смерці і быў рад ёй, як выйсцю з свайго безвыходнага становішча.

Пушкін быў ранены ў жывот. Куля раскрышыла яму косці. Унутры жывата асколкі касцей націскалі на кішэчнік. У такіх выпадках першае патрабаванне ад лячэння—забяспечыць кішэчніку поўны спакой, спыніць рух яго опіумам. Між тым, па зусім незразумелых прычынах, лейб-хірург Арэндт прызначыў хвораму клізму. Вынікі атрымаліся жахлівыя. Вочы Пушкіна зрабіліся дзікімі і, здавалася, вось-вось выскачаць з арбітаў, твар пакрыўся халодным потам, рукі пахаладзелі. Не гледзячы на напружаную сілу волі, ён крычаў так, што ўсе жахнуліся. Напалоханы камердынер паведаміў Данзасу, што Пушкін загадаў яму падаць скрынку з пісьмовага стала і выйсці, а ў скрынцы гэтай пісталеты. Данзас пабег да Пушкіна і адабраў у яго пісталет, які той паспеў схаваць пад коўдру. Пушкін прызнаўся, што хацеў застрэліцца, бо не можа цярпець далей такіх пакут.

Пад раніцу боль крыху зменшыўся і Пушкін авалодаў сабою. І ўжо да самай смерці ні адзіным стогнам, ні адзіным крыкам не выдаў сваіх пакут.

Каля ганку Пушкінскай кватэры была таўхатня. Знаёмыя і незнаёмыя таўпіліся каля ўваходу, няспынна сыпаліся пытанні: „Як Пушкін? Ці лягчэй яму? Ці ёсць надзея?“

Густы натоўп загараджваў усю вуліцу перад кватэрай Пушкіна, да ганку нельга было праціснуцца. Але вялікасвецкіх людзей тут не было.

Пушкін слабеў штогадзіны. Смерць набліжалася і ён ясна ўсведамляў гэта. Сябры гаварылі яму:

— Усе мы не трацім надзеі, не адчайвайся і ты.

Пушкін адказваў:

— Не, мне тут не жыццё. Я памру, ды, відаць, ужо так і трэба.

Пад поўдзень 29 студзеня Пушкін папрасіў люстэрка, паглядзеў у яго і махнуў рукою. Пульс падаў і хутка зусім знік. Рукі пачалі стынуць.

Дыханне рабілася ўсё больш і больш павольным. Апошні ўздых. Жыццё адляцела. Прысутныя праз усё сваё жыццё не маглі забыць вялікаснага спакою здавальнення, які разліўся па твару памёршага Пушкіна.

## ПАХАВАННЕ

На набережнай Мойкі, перад домам, дзе памёр Пушкін, рабілася штосьці для таго часу незвычайнае. Як хвалі прыліву, нарастваў і нарастваў натоўп народу, які хацеў пакланіцца праху Пушкіна. Па сведчанні людзей, якія былі ў той час каля дому паэта, ля труны Пушкіна пабывала ад трыццаці да пяцідзесяці тысяч чалавек. З усіх канцоў горада цягнуліся да Мойкі экіпажы. Возчыкаў наймалі, проста кажучы: „Да Пушкіна“.

Каля труны Пушкіна не было вышэйшага дваранства: да труны цясніліся студэнты, людзі вольных прафесій, чыноўнікі ніжэйшага разраду, „национальные коммерсанты“, „простонародье“, той, які яшчэ толькі нараджаўся пласт радыкальнай дробнай буржуазіі, які хутка атрымаў назву „разночинцы“. На пахаванні Пушкіна разначынцы ўпершыню выступілі на грамадскую арэну і далі сябе адчуць, як грамадскую сілу.

Апошнія гады Пушкін жыў у кольцы жахлівай самотнасці—грамадскай, маральнай, культурнай, літаратурнай. „Жыві адзін!“—з гаркотай казаў ён пра сябе. Ён і не падазраваў, колькі тысяч у яго было гарачых, шчырых сяброў за межамі таго кольца, у якім ён пакутваў і гінуў. Пры жыцці Пушкіна гэтыя невядомыя сябры маглі шмат чаго яму не даравацъ—смерць дала ім адчуць вялікую, незамянімую каштоўнасць і патрэбнасць Пушкіна. І яны моцна, рашуча, не словамі, а ўсімі сваімі дзеяннямі сказалі: Пушкін наш!

З'явіўся поўны гневу верш амаль яшчэ невядомага тады паэта Лермантава—вогненная паэтычная праклямацыя. Вершы з надзвычайнай хуткасцю пашыраліся рукапісна, і ўсе паўтаралі за Лермантавым:

Вы, жадною толпой стоящие у трона,
Свободы, гения і славы палачи!
Таитесь вы под сению закона,
Пред вами суд и правда—все молчи!..
Но есть, есть божий суд, наперстники разврата!
Есть грозный судия: он ждет;
Он недоступен звону злата
И мысли и дела он знает наперед,
Тогда напрасно вы прибегнете к злословью;
Оно вам не поможет вновь,
И вы не смоете всей вашей черной кровью
Поэта праведную кровь!

Бурны выбух грамадскага гневу здзівіў і напалохаў Нікалая. Спачатку ён абыякава паставіўся да смерці Пушкіна і зусім апраўдваў паводзіны Дантэса. Націск знізу прымусіў імператара зразумець, што справа ішла не пра нікчэмнага „сочинителя“, нечыноўнага камер-юнкера яго двара, а пра чалавека, якога высока цанілі самыя шырокія колы краіны.

Нікалаю воляй-няволяй давялося перабудаваць свае адносіны да таго, што здарылася, давялося прытварыцца, што і ён сам расцэньвае смерць Пушкіна, як вялікую нацыянальную страту. Дантэс быў разжалаваны ў салдаты і, як замежны падданы, выслан з Расіі. Нідэрландскі ўрад адклікаў Гекерна з пасады пасла.

З другога боку, Нікалай паспяшаўся загарадзіць шляхі да праяўлення бурна закіпаўшага грамадскага гневу. Газетам сурова было загадана ў паведамленнях аб смерці Пушкіна „соблюдать надлежащую умеренность и тон приличия“. Адна газета атрымала вымову за заметку, у якой пісалася, што „солнце нашей поэзии закатилось“ і што „Пушкин скончался в середине великого поприща“. У суседніх з кватэрай Пушкіна дамах былі пастаўлены ваенныя пікеты, каля пад'езда і ў самой кватэры шнырылі шпіёны. Ноччу перад вынасам цела, з 30 на 31 студзеня, калі натоўп разышоўся і ў кватэры сядзелі толькі некалькі самых блізкіх сяброў Пушкіна, з'явіліся жандармы на чале з генералам Дубельтам, начальнікам штаба корпуса жандармаў. Яны перанеслі труну не ў Ісакіеўскі сабор, дзе назаўтра было прызначана адпяванне, а ў Канюшанную царкву. У дзень адпявання подступы да царквы былі абкружаны паліцыяй і прапускаліся толькі запрошаныя, па спецыяльных білетах. Адспявалі, паставілі труну ў царкоўнае сутарэнне.

А поўначы з 2 на 3 лютага да царквы пад'ехалі дрогі і дзве кібіткі. У адной кібітцы сядзеў жандармскі афіцэр, у другой друг Пушкіна А. І. Тургенеў, якому было даручана праводзіць цела у Пскаўскую губерню да месца пахавання ў Святагорскім манастыры, недалёка ад пушкінскай вёскі Міхайлаўскае. Паставілі труну на дрогі і паімчаліся на ўсю сілу з горада. Пскаўскому губернатару загадзе было паслана высачайшае загаданне ў часе правозу труны „воспретить всякое особенное из'явление, всякую встречу, одним словом, всякую церемонию“.

Своеасаблівая пахавальная працэсія імчалася на кур'ерскіх па снегавых прасторах удзень і ноччу, як быццам злачынцы спяшаліся таемна ад усіх давесці да канца сваю чорную справу.

На адной паштовай станцыі, праязджаючы, жонка прафесара ўбачыла сумятлівых жандармаў, якія ганялі возчыкаў хутчэй запрагаць у калёсы, на якіх стаяла агорнутая ў рагожку труна. Яна запытала аднаго з глядачоў, што гэта такое:

— А бог яго ведае, што. Бачыш, забіты нейкі Пушкін,—імчаць яго на паштовых у рагожы і саломе, даруй божа, як сабаку.

Так хавала афіцыяльная нікалаеўская Расія найвялікшага рускага паэта.

* * *

Мінула сто год з дня смерці Пушкіна. Пала самаўладства, якое зацкавала і забіла яго, паў увесь агідны лад, дзе адны людзі працавалі, а другія людзі нічога не рабілі і жылі ў раскошы і гульнях. Калі гістарычная сцэна запоўнілася шумлівымі пераможцамі— „чэрнью“, „сапраўдныя“ знаўцы Пушкіна з гаркотай заявілі, што высокаму мастацтву прыйшоў канец і што ім, носьбітам „сапраўднай культуры“ застаецца пайсці ў таемныя свяцілішчы і там спраўляць культ Пушкіна, якога выкрасліць сучаснасць.

Што-ж аказалася?

Некалі Пушкін, пакутуючы ад вялікай самоты, пісаў:

... Ты сам свой высший суд,
Всех строже оценить умеешь ты свой труд.
Ты им доволен ли, взыскательный художник?
Доволен? Так пускай толпа его бранит
И плюет на алтарь, где твой огонь горит,
И в детской резвости колеблет твой треножник.

І вось сучасны паэт (Вл. Васіленко), успамінаючы гэтыя, поўныя гаркоты, радкі Пушкіна, так звяртаецца да яго:

Сколько слав поникло сжатым стеблем,
Сколько тронов взято в топоры.—
Только твой треножник не колеблем
„Чернью“, потрясающей миры!

Трыножнік не хістаецца. Ён стаіць цвярдзей, чым калі небудзь. Усеагульная любоў да Пушкіна з кожным годам расце. Вызваленыя народы Совецкай краіны бачаць у ім найвялікшага рускага паэта, творцу рускай літаратурнай мовы і раданачальніка новай рускай літаратуры, які ўзбагаціў чалавецтва неўміручымі творамі, якія да гэтага часу ўзбуджаюць рэволюцыйную мысль, заклікаюць да барацьбы за вялікае шчасце чалавецтва. Пушкін усім стаў патрэбен і незамяніма дарагі. Патрэбен і дарагі за сваю геніяльную паэтычную дужасць, за нястрымную мяцежнасць, за неаслабнае шуканне, за радасць і прыгажосць, якою ён поіць жыццё, за глыбокую чалавечнасць і культурнасць, за непараўнальную музычнасць яго слова, за вялікую прастату і выразнасць яго сказу.

Народная сцежка, пра якую марыў Пушкін, ператварылася ў шырокую, добра ўтрамбаваную дарогу. Кнігі Пушкіна выходзяць мільёнамі экземпляраў і ў момант усмоктваюцца масамі чытачоў, як вядро вады сухімі пяскамі пустыні. Яго ведаюць усе. Ён перакладзен на мовы самых калісьці адсталых народнасцей Совецкага Саюза. Ажыццявілася прароцтва Пушкіна.

Слух обо мне пройдет по всей Руси великой,
И назовет меня всяк сущий в ней язык,—
И гордый внук славян, и финн, и ныне дикой
Тунгуз, и друг степей калмык.

*Віт. Вольскі*

# У СОВЕЦКАЙ КАЛХІДЗЕ

## (З уражанняў падарожжа)

Над шырокімі, роўнымі вуліцамі Поці навісла нізкае, шэрае неба. Уздоўж вуліц аднастайнымі радамі цягнуцца шэрыя драўляныя, абкружаныя невялікімі садамі, дамы на сваях. Гэтыя сваі—абарона супроць паводкаў і малярыі.

Навокал—вадзяны прастор.

З аднаго боку мора, з другога—неабсяжныя балоты. Далёка раскінулася вакол Поці нізкая раўніна, што зліваецца на захадзе з морам. Уся яна перасечана незлічонымі рэчкамі, балотамі, вазёрамі, каналамі, прудамі і лужамі. Шматводны Рыён, які ўпадае тут у мора, падзяляецца ў сваёй дэльце на дзве асноўныя пратокі і ствараe востраў, на якім знаходзіцца значная частка гораду. Ад Рыёна аддзяляюцца і зноў зліваюцца з ім невялікія, але шырокія рэчкі.

Мутныя шэрыя хвалі б'юцца аб слізкія камені высокага мола.

Салёныя пахі мора змешваюцца ў вільготным паветры з араматам роз, лімонаў і мандарынаў. Нейкімі дзіўнымі, чужымі здаюцца тут гэтыя араматы, настолькі не адпавядаюць яны пахмурнаму шэраму небу, шэрым мутным хвалям, усяму гэтаму шэраму дажджліваму, раўніннаму і такому паўночнаму каларыту Поці.

Тым не менш, вакол свайных домікаў сапраўды асыпаюцца белым цветам цытрусовыя сады.

Развядзенне цытрусаў носіць тут характар агульнага, пагалоўнага захаплення.

Амаль усё працоўнае насельніцтва Поці, незалежна ад узросту і прафесіі, разводзіць лімоны і мандарыны, карыстаючыся з боку гарадскога і раённага кіраўніцтва нязменнай дапамогай і падтрыманнем. Няма ніводнага дома ў горадзе, вакол якога не было-б хаця невялікай колькасці цытрусавых насаджэнняў.

Цэнтрам распаўсюджвання цытрусавых культур з'яўляецца тут соўгас імя Берыя, які ўзнік нядаўна ў ваколіцах Поці на асушанай балотнай зямлі. Апрача лімонаў, апельсінаў і мандарынаў, растуць на плантацыях соўгаса, на ілістай, пладароднай, адваяванай у балота зямлі, і рэдкі грэйпфрут, завезены з Фларыды і сакавіты ананас і салодкі патат і дзівоснае фейхоа. У мінулым годзе Поцiйскім соўгасам было атрымана толькі 150 штук пладоў грэйпфрута. Цяпер-жа на яго плантацыях, якія займаюць 53 гектары, спее на маладзенькіх дрэўцах каля 700 штук гэтага каштоўнага і пакуль што яшчэ рэдкага ў нас плода. Насельніцтва Поці, займаючыся цытрусамі, шырока

карыстаецца кансультацыяй спецыялістаў гэтага соўгаса, які вырас на месцы балота і з кожным годам разводзіць усё новыя і новыя гатункі рэдкіх пладовых культур.

Амаль пагалоўнае захапленне жыхароў горада Поці развядзеннем субтрапічных пладаносных культур робіцца цалкам зразумелым і глыбока сімптоматычным, калі ўлічыць тое велізарнае значэнне, якое набываюць у Калхідзе цытрусы. Іменна лімону, мандарыну і апельсіну адводзіцца ў планах рэканструкцыі Поці, як і ўсёй Мінгрэліі, вельмі пачэсная і значная роля. Лімону, мандарыну і апельсіну суджана, нараўне з іншымі субтрапічнымі культурамі прысці на змену гнілым тысячагадовым балотам, абкружаючым горад. З цягам часу, усе сотні тысяч гектараў балот Калхідскай нізіныператворацца ў адзін суцэльны, пахучы і пладаносны сад.

У Поці, пакуль яшчэ невялікім прыморскім гарадку, абкружаным з усіх бакоў вадой і балотам, багацце цытрусавых насаджэнняў з'яўляецца адным са шматлікіх яркіх паказальнікаў пераможнага соцыялістычнага наступу. Вось чаму цытрусы карыстаюцца такой вялікай папулярнасцю сярод насельніцтва Поці.

Гэтаму гарадку, раскінутаму на нізкіх берагах Рыёна, на шматках багністай зямлі, паміж неабсяжных прастораў мора і векавечнай дрыгвой, належыць вялікая будучыня.

Будучыня горада Поці і ўсёй Мінгрэліі, вядомай у нас больш пад класічнай яе назвай Калхіды, цалкам залежыць ад усяго складанейшага комплекса велізарных работ па асушцы Калхідскай нізіны.

Адной з састаўных частак агульнага плана Калхідбуда з'яўляюцца работы па адводу Рыёна ў новае штучнае рэчышча, па рэканструкцыі поційскага порта, па асваенню на асушаных землях субтрапічных пладаносных культур.

Уздоўж горада, штогод цярпеўшага вялікія страты ад разліваў Рыёна, пабудаваны нядаўна, для абароны ад паводкаў, высокі вал працягласцю ў пяць з паловай кілометраў.

У межах горада асушана больш за тысячу гектараў забалочанай глебы, частка якой адведзена соўгасу імя Берыя пад грэйпфрут. Горад хутка расце. Праз Рыён пабудаваны новы вялікі жалезны мост, які злучае раз'яднаныя ракой часткі горада. Будуюцца новыя каменныя дамы. Неўзабаве будуць пракладзены трамвайныя лініі. Павышаны і забрукаваны многія вуліцы.

Рознастайнымі сродкамі, аж да штучнага развядзення ў адпаведных вадаёмах дробнай і пражэрнай італьянскай рыбкі „гамбузія“, якая харчуецца лічынкамі камара, вядзецца настойлівая і паспяховая барацьба з малярыяй, ад якой так моцна цярпела ў нядаўнім мінулым насельніцтва Поці і яго ваколіц.

Вясной 1936 г. закончана будаўніцтва канала, даўжынёю ў чатыры з паловай клм. Гэтаму каналу прыдзецца стаць новым рэчышчам Рыёна. Пройдзе яшчэ некалькі часу і магутная поўнаводная рака паімчыць у новае, падрыхтаванае для яе рэчышча, а ў старое, пакінутае Рыёнам, хлынуць марскія хвалі і, аб'яднаўшыся з водамі возера Палеостомі, створаць новую ўнутраную, велізарную затоку даўжынёй у 12 клм., ператварыўшы Поці ў адзін з самых вялікіх і лепшых па свайму ўпарадкаванню партоў Чорнага мора.

Магутны Рыён панясе свае мутныя хвалі па новаму, воляй грузінскіх большавікоў, пракладзенаму рэчышчу, і разам з тым магутным патокам паімчыць па новаму шляху абноўленае жыццё гэтага горада.

Знікне вакол Поці балотная, смярдзючая дрыгва—адвечны рассаднік злоякаснай малярыі. Клімат горада палепшыцца і аздаравіцца. Горад падпяражацца сотнямі гектараў квітнеючых садоў.

Праз новы Поційскі порт паплыве на першакласных акіянскіх параходах ва ўсе парты свету марганцавая руда з Чыатурскіх капальняў, кахетынскія віны, пшаніца, кукуруза, вінаград, эфірныя маслы, лес, шоўк і пахучыя цытрусы—гэта новае залатое руно савецкай Калхіды.

У выніку ажыццяўлення планаў Калхідбуду Поці павінен ператварыцца ў адзін з буйнейшых па свайму значэнню цэнтраў Грузіі. Яму прадстаіць будучыня грузінскага Ленінграда.

Пра гэта гутарылі мы з адным з работнікаў Калхідбуда, накіроўваючыся вільготнай, пахмурнай і прахладнай раніцай на кацеры да Паўднёвага канала.

Мы плывем па шырокай, поўнаводнай і спакойнай рацэ Капарча, нібы застыглай у сваіх нізкіх берагах.

Дрэмлюць, схіліўшыся да ціхіх вод, плакучыя вербы. Лёгкі ветрык ледзь кранае іх тонкае лісце.

Чым бліжэй прасоўваемся мы да Палеостомскага возера, тым усё шырэй і шырэй рассцілаецца вакол нас бязмежнае вадзяное царства. Нізкія дрыгвяныя берагі зараслі высокай балотнай травой. У густых зарасніках чароту і асакі ляніва варочаюцца буйвалы. Звілістыя пратокі, прычудліва перакрыжоўваючыся ў чаротавых берагах, перасякаюць бясконцую балотную раўніну, якая зліваецца на гарызонце з морам. Каля Малтаквы (тут мяркуецца пасля сканчэння работ Калхідбуда стварыць у будучым дзіцячы курорт) мора ўладарна ўключаецца ў краявід і адразу займае ў ім пануючае становішча.

Цярушыць дробны дождж—неадлучная прыналежнасць тутэйшых месц. Нездарма Калхіда лічыцца самым дажджлівым месцам у Еўропе. Гэта краіна няспынных цёплых дажджоў. За год тут выпадае аж да 2.500 мм. ападкаў.

Вось, нарэшце, і Паўднёвы канал. У канцы канала працуе землечарпалка. Велізарныя пласты густой, чорнай і мокрай, зарослай асакою глебы адрываюцца ад багністай цаліны і з шумам падымаюцца ўгару. І адразу-ж выкапаныя мясціны напаўняюцца вадой—чорнай, тлустай, як нафта.

Назад мы плывем праз Палеостомі. Возера зацягнута лёгкім срабрыстым туманам. Над застыглай, соннай паверхняй вады зрэдку праносяцца белакрылыя чайкі. На мелях стаяць нерухомымі вартавымі шэрыя чаплі. З-за чарота дзе-ні-дзе ўзлятаюць над намі дзікія качкі.

Угары шэрае неба. Навокал шэрая, крыху пасярэбраная роўнядзь вады. Па краях яна зліваецца з туманам. Па знадворнаму ўражанню тут нічога няма ад Грузіі. Гэта хутчэй нейкі паўночны, магчыма карэльскі, але ва ўсякім выпадку не калхідскі—у нашым звычайным уяўленні—пейзаж. У нашым разуменні Калхіда заўсёды непарыўна

звязана з палымнеючым сонцам і яркімі фарбамі, а тут навокал пануюць чамусьці нейкія шэрыя, мяккія, кволыя, амаль бескаляровыя акварэльныя тоны.

На беразе відны драўляныя хаткі рыбакоў. Каля іх развешаны сеці. Рыбакі ў чорных прасмоленых чаўнах варочаюцца з рыбнай лоўлі. Сярод іх рыбачка ў белай хустцы, у паліняўшай, некалі сіняй блузцы. Па знадворнаму выгляду свайму, па агульнаму каларыту мясцовасці, яны вельмі нагадваюць нам фінаў і гэтым яшчэ мацней пераконваюць нас у тым, што мы дзесці на Поўначы. Тут няма ніякіх адзнак Грузіі. Гэта пэўна Карэлія. І таму такімі дзіўнымі і незразумелымі здаюцца тут словы Пушкіна—„от финских хладных скал до пламенной Колхиды".

Уражанне поўначы цягнецца амаль да самага Поці. Толькі буйвалы парушаюць цэльнасць і закончанасць паўночнага вазёрнага пейзажа.

* * *

Плывем на кацеры ўверх па Рыёну.

Шырокая, поўнагрудая рака—буйнейшая водная артэрыя заходняга Закаўказзя—шпарка нясе ў мора свае мутныя, жоўтыя воды.

Навокал багна, дрыгва, балота.

Па абодвух баках ракі цягнуцца непраходныя, густа пераплеценыя ліянамі гушчары вільготнага, першабытнага лесу.

Гэта—любімы прытулак кабаноў. Не так даўно, кажуць, вяліся тут тыгры. Зрэдку сустракаецца яшчэ тут балотны кот, якога мінгрэлы лічылі калісьці стварэннем свяшчэнным і недатыкальным.

Рака Рыён—адна з самых мутных рэк у свеце. Яе іліістыя, густа зарослыя чаротам і асакой берагі—дрыгвістыя, гразкія.

У сваіх водах Рыён прыносіць іла ў шэсць разоў больш за Ніл. Густымі пластамі тлустага, казачна пладароднага іла пакрывае Рыён штогод, у часе паводкі, навакольныя землі. Гэты іл такі пладародны, што зламаная галінка інжыра, калі ўваткнуць яе ў пакрытую ілам зямлю дае, кажуць, плады праз якія небудзь 4—5 месяцаў. Дрэвы растуць на ілістых глебах Калхіды надзвычай хутка. За 5—6 гадоў яны дасягаюць памераў трыццацігадовага дрэва, што расце ў умеранай зоне. Асабліва шпаркім і высокім ростам вылучаюцца тут штучна насаджаныя аўстралійскія эўкаліпты. У Калхідзе яны прыносяць падвойную карысць—як эфіраносныя дрэвы, якія даюць яшчэ апрача таго велізарную колькасць дасканалай драўніны, і як расліны, што хутка выцягваюць з глебы вільгаць і гэтым спрыяюць асушэнню спрадвеку забалочаных зямель.

Але ўсё гэта мае значэнне толькі цяпер, ва ўмовах разгорнутага соцыялістычнага будаўніцтва. Яшчэ зусім нядаўна казачная пладароднасць Калхідскай нізіны і мяккі субтрапічны клімат, які спрыяе развядзенню каштоўных тэхнічных і пладаносных культур і ператварае гэтую краіну ў велізарную прыродную цяпліцу (тут амаль ніколі не бывае снегу і рост раслін адбываецца ўвесь год), не давалі належнай карысці мінгрэльскаму селяніну.

Насельніцтва мінгрэльскіх вёсак не мела магчымасці выкарыстаць для сябе казачныя прыродныя багацці сваёй радзімы.

Пладародная глеба, пакрытая непраходнай дрыгвой, была недаступна для апрацоўкі. А з тых невялікіх шматкоў зямлі, на якіх мог працаваць селянін, львіную частку трэба было аддаваць князям і памешчыкам.

* * *

У непасільнай працы, у горы, у хваробах і пакуце праходзіла бязрадаснае жыццё мінгрэла. Толькі князям добра жылося на гэтай багатай, хацяй і забалочанай зямлі. Малярыя рэдка пранікала за сцены княжых маёнткаў, пабудаваных звычайна ў больш сухіх, узвышаных і здаровых мясцовасцях.

Ад малярыі пакутваў толькі селянін, апрацоўваючы ў нізінах багністыя, гразкія шматкі зямлі, удыхаючы яе атрутныя выпарэнні і гаруючы з апошніх сіл на свайго „батоно“.

Добра жылося ў старыну князям, весела. Навокал усе свае: родныя, знаёмыя, сябры, прыяцелі. Гулялі і піравалі месяцамі, спраўлялі вяселлі, палявалі.

Да сямейных свят,—старыя аж дагэтуль памятаюць,—і да царкоўных дзён рыхтаваліся дасканала, своечасова. Цэлымі горамі выпякалі ў такія дні лавашы, рэзалі бараноў, парасят і бычкоў, мачылі сулгуні. Варылі ў вялізных казанах гомі, пяклі хачапуры. Гатовілі харчо і сацывi з кур і індзюшак.

Добра памятаюць аб гэтым княжым вясёлым жыцці старыя мінгрэльскія сяляне.

Памятаюць яшчэ некаторыя з іх, як імчаліся калісьці па палях і бедных сялянскіх пасевах князі-паляўнічыя. Каменем узляталі ўгару княжыя сокалы. Стралою ляцелі чыстакроўныя коні. Віхрам несліся, заліваючыся гучным брэхам, зграі борзых.

Добра жылі некалі мінгрэльскія памешчыкі. Жылі па-старынцы, па-дваранску. На ўсю Грузію праславіліся яны жорсткасцю і грубасцю ў эксплаатацыі сялян.

Без меры працаваў на іх мінгрэльскі селянін, надрываючыся ў непасільнай працы. Ён напаўняў свірны і кладоўні свайго „батоно“ залацістай пшаніцай. Ён выціскаў вінаград у яго марані, а сам заставаўся жабраком, выміраючы ад цяжкога жыцця, ад непасільнай працы, ад ліхаманкі.

Пра гэта так пісаў ў сярэдзіне мінулага стагоддзя грузінскі паэт Ілья Чаўчавадзе, які сам належаў да багатых князёў-памешчыкаў і добра ведаў жыццё селяніна:

Працы плён, пракляты мной,
Хай ці летам ці зімой
Жыць без клопатаў не мог
Уладар і слёз і сох.
Дзень і ноч свой горбіш стан—
Спажывае працу пан.
Шмат працую, а мая
Усё-ж без хлеба ўся сям'я.
Пан спажыў, а ты ў бядзе.

Божа мой, дзе-ж праўда, дзе?
Быдла ты—не чалавек
Горам сціснуты ўвесь век.
Дзіцё ў маткі адбяруць,
Жартам возьмуць, прададуць.
Маці бедная, трывай,
Праўды ў пана не шукай!

Князі гандлявалі людзьмі. Гэта быў адзін з найбольш выгодных і ўзаконеных феадальнай гістарычнай традыцыяй прыбыткаў мінгрэльскіх князёў. Яны прадавалі сваіх сялян у Турцыю. Ніводнага зручнага выпадку не прапускаў мінгрэльскі памешчык, каб не прадаць маладога дзяцюка ці дзяўчыну туркам. Варожыя паміж сабой дваране гвалтоўна выкрадалі адзін у аднаго сялян. На нявольнічым рынку ў Поці, на тым самым пляцы, дзе будуецца цяпер вялікі гмах новага савецкага тэатра, траплялі няшчасныя ў рукі багатых купцоў з Стамбула. Іх прадавалі, як быдла. Іх мянялі на сабак. Як буйвалаў упрагалі іх у ярмо.

Турэцкія рабаўласнікі пастаўлялі грузінскіх нявольнікаў для ўсіх рынкаў Малай Азіі, Сірыі і Егіпта. Стройных грузінскіх дзяўчат—для ўсіх гарэмаў Турцыі і Паўночнай Афрыкі. І было гэта якіх-небудзь 60 год назад.

Куды толькі не трапляў ў тыя часы гаротны мінгрэльскі селянін. Куды толькі не закідвала яго драпежная хцівасць князёў.

Нізка прыгінала тады мінгрэла да зямлі жорсткая ўлада памешчыкаў, а зямля была вільготная, багністая, гразкая. Зямля гніла ў мутнай, застойнай вадзе, у зялёных, смярдзючых лужынах, пакрытых тванню і брудам прудах.

Навокал, па ўсёй Калхідзе, залягла малярыя. Мучыла людзей цяжкай немарасцю, губіла моладзь жоўтай трасцай. Вёскі выміралі ад ліхаманкі.

Ад гарачых сонечных праменняў павольна клубілася над раўнінай удушлівая пара. Падымаліся атрутныя выпарэнні. Багата вадзілася ў балотнай дрыгве шкодных гадзін.

У вільготныя цёмныя ночы, калі выпаўзаў з балот месяц, надзьмуты і бледны, падымаліся над вадой мірыяды камароў. Назойліва і нямоўчна насіліся яны ў паветры, кружыліся званлівай хмарай над позным падарожнікам, разносячы на канцы свайго джала малярыйную атруту.

Двух ворагаў меў мінгрэльскі селянін. Два жорсткія ворагі пільнавалі яго ад самай калыскі. Два ворагі скарачалі яго нядоўгавечнае жыццё: князі і ліхаманка.

Гінулі праз іх мінгрэльскія сёлы. Людзі даходзілі да адчаю. І гісторыя кажа нам пра тое, як у былым уладарным княжастве Мінгрэльскім не раз падымаўся народ на барацьбу з памешчыкамі і царскай уладай.

„Памешчыкі забіраюць ад нас сыноў і дачок і прадаюць іх у Турцыю,—казаў у 50-х гадах мінулага стагоддзя, каваль Мікава, адзін з кіраўнікоў сялянскага паўстання ў Мінгрэліі.—Увесь плён нашай працы спажываюць яны. Яны пераконаны, што селянін нічога не павінен мець... Нам жывецца горш за жывёлу... Радзіма нам аб-

рыдла і мы павінны пакінуць яе назаўсёды... Мы кляліся адзін аднаму ніколі больш туды не варочацца. Чаго варта такая радзіма, дзе няма табе прытулку і дзе на цябе нібы за зверам палююць".

Паўстанне гэта, як і шмат іншых, было задушана.

„Бунтуючыя сёлы,—пісаў генерал Ермолаў рускаму ўраду,— былі разбураны і спалены, сады і вінаграднікі пасечаны да кораня, і праз многія гады не прыйдуць здраднікі ў першабытны стан. Бязмернае жабрацтва будзе іх пакараннем".

Абапіраючыся на царскую ўладу, мясцовае дваранства жорстка душыла сялянскія хваляванні. У асобе рускай манархіі мінгрэльскія феадалы, нараўне з усім дваранствам Грузіі, знайшлі сабе надзейную апору і абарону супроць сваіх сялян. У асобе мінгрэльскіх феадалаў, таксама як і наогул ва ўсім дваранстве Грузіі, руская манархія знайшла сабе верных і адданых слуг. Яна ўзнагароджвала іх прывілеямі. Яна дапамагала ім эксплаатаваць народ.

Прыгон быў скасаваны ў Мінгрэліі толькі 1-га снежня 1866 г. Гэтая спозненая „рэформа" аказалася для ўчарайшага прыгоннага мінгрэла значна больш цяжкай, чым у Расіі. Усе выгодныя землі, якімі карысталіся раней „вызваленыя" сяляне, былі абвешчаны законнай і неадлучнай уласнасцю абшарнікаў. Селянін прымушаны быў атрымоўваць ад памешчыка зямлю для часовага карыстання на цяжкіх, кабальных умовах.

Кабала гэта засталася ва ўсёй недатыкальнасці і пры меншавіках. Абмежаваныя дробна-буржуазныя нацыяналісты, гучна называўшыя сябе грузінскімі соцыял-дэмакратамі, не асмеліліся пасягнуць на „свяшчэнныя" правы феадалаў. Князі панавалі пры іх таксама, як і раней. Селянін, як і раней, цягнуў сваё ярмо.

„Меншавіцкія правіцелі Грузіі, — піша кіраўнік большэвікоў Грузіі і Закаўказзя тав. Л. П. Берыя—не толькі не далі волі працоўным масам Грузіі, не толькі не дасягнулі гаспадарчага і нацыянальна-культурнага вызвалення Грузіі, але, наадварот, разбурылі і без таго мізэрнае гаспадарчае жыццё, разлажылі здаровыя парасткі культуры, што развілася ў самым народзе, здрадзілі і прадалі грузінскі народ заходнім імперыялістам, падтрымліваючы ў Грузіі прыгнёт з боку князёў і дваран, памешчыкаў і кулакоў. Пры панаванні меншавікоў грузінскі народ зноў спазнаў цяжкія пакуты.

Патрэбна была савецкая ўлада, патрэбна была дыктатура пралетарыяту, ажыццяўляючага пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пераможнае соцыялістычнае будаўніцтва, для таго, каб зламаць і знішчыць векавечнае ярмо мінгрэльскага народу.

Скінуўшы прыгнёт памешчыкаў і капіталістаў, савецкая ўлада дала сялянам зямлю. Выкарчаваны апошнія рэшткі феадалізма. Выгнаны і пазбаўлены сваіх уладанняў князі. Ліквідавана буржуазія і кулацтва. Шырокім фронтам ідзе наступленне на адзін з апошніх астаткаў старога, цяжкога і цёмнага жыцця—на калхідскія балоты, на жоўтую хваробу, на малярыю.

Толькі большэвіцкаму размаху, які спалучаецца з цвярозым, дзелавым разлікам, толькі творчаму генію сапраўдных будаўнікоў

соцыялізма, мог аказацца пад сілу смелы і грандыёзны план асушэння Калхідскай нізіны.

Непраходная дрыгва, пад якой 250.000 год таму назад плёскаліся хвалі Сармацкага мора, ператвараецца сілаю большэвіцкай волі і розуму ў квітнеючае мора садоў, у лімонныя і мандарынавыя гаі, у эўкаліптавыя лясы і чайныя плантацыі.

200.000 гектараў зямлі былі пакрыты ў Калхідзе балотамі.

Не толькі людзі, нават звяры, нават птушкі не маглі прабрацца скрозь непраходныя зараснікі ліян, скрозь першабытную дзікую гушчарню вільготнага субтрапічнага лесу. Цяпер-жа з кожным днём усё глыбей і глыбей пранікаюць у калхідскія гушчары мінгрэльскія драўляныя хаткі—свайныя будынкі. Усё часцей парушаецца злавесная цішыня балота ўзрывамі дынаміту, стукам тапара, грукатам экскаватара.

Выкарчоўваюцца з балотнай зямлі згніўшыя карэнні дрэў і разам з імі выкарчоўваюцца карэнні старога, змрочнага жыцця. Радзеюць непраходныя гушчары, асушаецца гразкая багна. Людзі адваёўваюць сабе новыя прасторы для пашы. На асвоеных пладародных глебах узнікаюць новыя сяленні, растуць новыя калгасы і соўгасы.

Мы пакінулі кацер і высадзіліся на беразе каля вёскі Чаладзідзі.

Па дарозе на меліярацыйны ўчастак нашу ўвагу прыцягвае да сябе адзін са старадаўніх курганоў, раскінутых у аколіцах Чаладзідзі. Спыняемся, аглядаючы яго з усіх бакоў. З намі Вісарыён Гоголішвілі, стары паляўнічы-краязнаўца, знаўца мінгрэльскай старажытнасці і дырэктар Поц'йскага музея.

Гэта—моцны, невялікага росту стары, з сівымі вусамі і яснымі блакітнымі вачыма. З сваім рыжым ірландскім сэтэрам Рынтэнам ён праблукаў, у пагоні за кабанамі, дзікімі козамі і фазанамі, па ўсёй ніжняй Мінгрэліі. Ён аблазіў усе яе непраходныя гушчары. Ён знайшоў і даследваў сотні старажытных курганоў, што раскіданы на балотах Калхіды. Ён вывучыў кожную сцежку ў яе першабытнай дрыгве.

Стары краязнаўца расказаў нам, што ў гушчары і балотах Калхіды такіх курганоў вельмі шмат. У часе разліваў і паводкаў на іх ратуюцца звяры. Часам і яму самому даводзілася праседжваць на гэтых курганах, каля вогнішча, доўгія, цёмныя і вільготныя калхідскія ночы. Курганы абкружаны звычайна правільным кругам канавы, насыпу і частакола. Гэта навяло старога паляўнічага на думку пра тое, што гэтыя ўзгоркі штучнага паходжання, што яны створаны старадаўнім насельніцтвам Калхіды.

У сувязі з меліярацыйнымі работамі, усё часцей трапляюцца ў балотах археалагічныя рэдкасці. Экскаватары выкарчоўваюць з адваяванай у балота зямлі не толькі гнілыя карэнні дрэў. Яны выкідаюць на паверхню рэшткі старадаўняй керамікі, каменнага і бронзавага начыння, старадаўнюю зброю і акамянеласці, творы антычнай скульптуры, манеты—адным словам усё тое, што вякамі хавала ў сваіх недасяжных нетрах калхідская дрыгва.

Толькі курганы засталіся некранутымі.

Гоголішвілі прапанаваў у горадзе пачаць сістэматычную раскопку курганоў. Ён збіраў і скупляў у сялян знойдзеныя ў зямлі

старажытнасці, прыцягваючы да курганоў грамадскую ўвагу. Аб выніках яго археалагічнай дзейнасці добра сведчаць багатыя калекцыі раскопак, выстаўленыя ў музеі, якім ён кіруе. Вучоная экспертыза ўстанавіла ў некаторых мясцовасцях Мінгрэліі наяўнасць каштоўных помнікаў скіфскай культуры. У адным з курганоў на глыбіні 4-х метраў была выяўлена вялікая колькасць звярыных касцей, рэшткі скамянелага ляснога арэха, каштана, жалудоў і проса, прылады з камення, крэменя, косці, рогі і бронза, глінянае начынне. Сярод экспанатаў музея, якім кіруе Гоголішвілі (мы наведалі яго ў Поці), побач з рэчамі каменнага века, побач з грубым начыннем першабытнага чалавека, мы бачылі манеты Александра Македонскага, Антонія і Клеапатры, Нерона, Мітрыдата Вялікага, Канстанціна і Елены. Маюцца грэчаскія помнікі часоў ранняга хрысціянства. Усё гэта ў большасці сваёй—вынікі краязнаўчай дзейнасці Вісарыёна Гоголішвілі. Усё гэта было знойдзена ў калхідскай дрыгве. Па знойдзенаму ў курганах будзе калі-небудзь поўнасцю адноўлена савецкімі вучонымі гісторыя старажытнай Мінгрэліі, казачнай Калхіды антычнага свету.

Сівой старызнай, зарой чалавечай культуры патыхае ад гэтых курганоў. А навакол кіпіць дружная, напружаная работа. Недалёка ад курганоў грыміць экскаватар. Інжынеры, тэхнікі і рабочыя Калхідбуда твораць на меліярацыйных участках гісторыю новай адноўленай савецкай Калхіды—квітнеючай краіны апельсінаў, лімонаў і мандарынаў. Дзве эпохі спаткаліся тут тварам у твар—эпоха першых праблескаў чалавечай культуры і эпоха сацыялізма, эпоха максімальнага росквіту ўсіх творчых сіл чалавецтва.

* * *

На меліярацыйным участку мы сустракаемся з Грыгорыем Георгіевічам Гегечкоры, галоўным інжынерам Калхідбуда і ўважліва слухаем яго тлумачэнні.

Замест пыльнай, сухой і шырокай дарогі, па якой мы ідзем, два гады назад была непраходная багна. Па абодвы бакі дарогі пабудаваны новыя дамы на сваях. У гэтых дамах, на асушаных участках зямлі жывуць новыя пасяленцы, што прышлі сюды з іншых раёнаў Мінгрэліі. Тут пабудавана школа, дамы для рабочых, амбулаторыя, новы будынак сельсовета. За дамамі шырока раскінуліся на сухой пладароднай зямлі цытрусавыя плантацыі. На іх пасаджана каля 1200 апельсінавых, мандарынавых і лімонных сажанцаў. Пакуль што гэта яшчэ нізенькія кусцікі, але праз некалькі год уся гэта мясцовасць заквітнее суцэльным пладаносным садам.

Міліярды цытрусавых пладоў будуць даваць працоўным Савецкага Саюза адноўленыя землі Калхіды.

Ажыццяўленне вялікіх работ па асушцы Калхідскай нізіны пачалося ў 1932 г. За гэты час пракапана 750 клм. магістральных каналаў, асушальнікаў і калектараў На 18.000 гектарах праведзена сетка дробных каналаў. Асушаныя ўчасткі зямлі хутка засяляюцца і засаджваюцца субтрапічнымі культурамі.

Мясцовасць на меліярацыйным участку вельмі нагадвае нам краявід беларускага Палесся. Тыя-ж самыя, добра знаёмыя балотныя травы і кветкі, той-жа самы густы хмызняк, тыя-ж самыя зараслі алешніка.

Вялізныя экскаватары магутнымі жалезнымі пашчамі разрываюць балотную зямлю. На асушанай зямлі адразу-ж узнікаюць новыя калгасы і соўгасы. Насельніцтва добра бачыць тую канкрэтную карысць, якую нясе ім асушка Калхіды. Мінгрэльскія сяляне добра разумеюць тую непасрэдную выгоду, якую нясе ім развядзенне цытрусаў. У народнай свядомасці грандыёзная справа ператварэння калхідскіх балот у квітнеючыя сады неадрыўна звязана з совецкай уладай, з комуністычнай партыяй, з гераічным воблікам вялікага правадыра народаў тав. Сталіна.

Калхідбуд стала ўвайшоў у сучасны мінгрэльскі фальклор.

У доўгія, цёмныя і дажджлівыя вечары сярод калгаснай моладзі, у рабочых бараках, у халупах пастухоў, спяваюцца песні пра Калхідбуд, пра яго арганізатараў, пра асобных знатных людзей, ударнікаў і кіраўнікоў участкаў.

Галоўны інжынер Г. Г. Гегечкоры карыстаецца тут асаблівай папулярнасцю. Мясцовае насельніцтва ведае яго з даўніх год. Гэты высокі, крыху хударлявы і энергічны чалавек, сам мінгрэл па нацыянальнасці, карэнны жыхар Калхіды. Ён горача любіць сваю радзіму і не менш горача—сваю работу. Яго зеленаватыя вочы блішчаць, калі ён з захапленнем энтузіяста гаворыць пра перспектывы Калхіды. У яго словах гучыць сапраўднае паэтычнае натхненне. Яго размова, прасякнутая пафасам, поўна мастацкіх вобразаў, параўнанняў і параленяй. Наогул гэта цікавы, высока культурны чалавек, спецыяліст-меліяратар, узбагачаны шматгадовым вопытам вытворчай практыкі ў Амерыцы, на балотах Фларыды, не пазбаўлены, відавочна, пэўнага паэтычнага даравання. Падобна многім грузінам, ён ведае напамяць цэлыя главы з „Вепхвіс Ткаосані". Ён сам пераклаў на свой родны мінгрэльскі дыялект некалькі ўрыўкаў з бяссмертнай паэмы Руставелі і цяпер ахвотна чытае іх нам наўслых.

Апроч таго ён умее і пагуляць. Гэта мы добра здолелі ацаніць яшчэ ў Поці.

* * *

Вяртаючыся з участку, мы спыняемся каля хаты мінгрэльскіх пастухоў, пабудаванай на вільготнай палянцы сярод пустога багністага лесу.

Тут жывуць два пастухі з Верхняй Мінгрэліі.

Каля хаты, у загоне з плятня, згрудзілася каля трыццаці аднолькавых, невялічкага росту, светла-карычневых кароў. Усе яны аднолькава гладкія, моцныя, добра складзеныя. Гэта мясцовая мінгрэльская парода, выгадаваная пастухом Кварацхелім. Мінгрэльскія каровы не баяцца вільготнага балотнага клімата і мала схільны да малярыі. Цэлы год пасуцца яны на падножным корме, падымаючыся ўлетку ў горы.

Пры пабудове хацінкі не скарыстана ні аднаго цвіка. Усе часткі яе драўляныя, нават кручкі на сценах зроблены з дрэва. Мост праз канаву пабудаваны таксама без аніводнага цвіка. Унутры хацінкі, счарнелай ад дыму, па абодвы бакі цягнуцца ўздоўж сцяны нізкія нары. На іх пакладзены авечыя і цялячыя скуры. Гэта— жорсткі спартанскі ложак пастухоў. Пасярод хаты вогнішча, складзенае з каменняў. На ім раскладзены агонь. З столі звешваецца доўгі драўляны крук з зазубрынамі, які служыць для таго, каб падвешваць над агнём начынне. Яго можна падцягваць па жаданню— вышэй ці ніжэй. Перад намі абстаноўка патрыярхальнага быту часоў Гомера, а можа нават і яшчэ больш старадаўняга.

Жыхары гэтай хаціны—хударлявыя, стройныя і моцныя людзі, рыхтуюць вячэру. Доўгімі істужкамі рэжуць яны сулгуні, кідаюць яго ў кацёл на коміне, ллюць туды малако і сыплюць кукурузную муку. Так гатуецца эларджы—цёплае, цягучае і смачнае цеста—любімая страва мінгрэльскіх пастухоў. Яго ядуць з сырам. У вялікіх драўляных місах наліта цудоўнае мацоні.

Надыходзіць вечар—вільготны і прахладны. У цмяным паветры ў вялікай колькасці ўспыхваюць вогненныя кропкі светлякоў. Яны загараюцца на зямлі, каля самых ног, у траве, на гнілых пнях, на лісцях. У гушчары навакольнага лесу, у багністай дрыгве хаваюцца напалоханыя экскаватарамі кабаны.

Развітаўшыся з гасціннымі пастухамі, мы накіроўваемся на станцыю Чаладзідзі і чакаем там поезда ў Поці.

* * *

Цёмна. Да станцыі падыходзіць, абняўшыся, з песнямі невялікая група маладых рабочых. Гегечкоры просіць іх праспяваць што-небудзь для нас. Хлопцы не прымушаюць сябе доўга прасіць. Яны ахвотна пачынаюць спяваць мінгрэльскія песні. Паступова да спевакоў далучаецца ўсё больш аматараў-добраахвотнікаў з ліку пасажыраў, што чакаюць на станцыі поезда. Хор расце і мацнее. Шырыцца гарманічны спеў. У начной цемры, што пагусцела навокал, спеў гэты гучыць надзвычай ладна, моцна і музычна. Гукі харавых песень коцяцца, як хвалі, то заміраючы, то зноў нарастаючы. Ніхто не фальшывіць. Усе пяюць поўным голасам, ад усёй душы, з захапленнем.

З'яўляецца аднекуль гітара. Пачынаюцца скокі. З круга вылятаюць пары—лёгкія, грацыёзныя. Ногі ледзь кранаюцца зямлі ў спрытным і лёгкім пераборы. Асабліва вылучаецца адна маладзенькая дзяўчына—дачка стрэлачніка, тоненькая, стройная, гнуткая.

Дождж і цемра не могуць спыніць танцуючых. Нехта прынёс ліхтар і паставіў на зямлю. Дачка стрэлачніка садзіцца на лаўку і бярэ гітару. Перабіраючы струны, яна спявае звонкім, чыстым, грудным голасам. Усе змоўклі. Слухаюць. Яна змаўкае на хвіліну. Спеў падхапіла пажылая жанчына. Гэта яе маці. Пачынаецца своеадменны дуэт. Змоўкне адна, падхоплівае другая. Потым зноў першая. Яны нібы спаборнічаюць у спеве, пераймаюць адна ў адной словы, амаль не даючы скончыць страфу. У маладой бліскучая дыкцыя. Кожнае слова тэксту, не гледзячы на шпаркі тэмп акам-

панімента і скорагаворкі, яна вымаўляе чотка, ясна, членараздзельна. Яна нібы чаканіць словы.

Слухачы задаволены.

Дождж усё ўзмацняецца. Падыходзіць поезд і пасажыры кідаюцца да вагонаў.

Мы дзякуем выканаўцам. Яны ветліва, па-сяброўску, смяюцца.

* * *

Слаўная грузінская савецкая моладзь!

Сардэчная і вясёлая, яна ўмее працаваць і весяліцца. Яна ўмее змагацца за соцыялізм.

Пры дапамозе гэтай моладзі створаны ЗАГЭС, РыёнГЭС і іншыя волаты электрафікацыі.

Гэта моладзь працуе на фера-марганцавым камбінаце, у Чыатурскіх рудніках, на пабудове гідрастанцыі ў Аджарыс-Цхале, у цяснінах Казбека, у соўгасах Кахеты.

На меліярацыйных участках Калхіды гэта моладзь пад кіраўніцтвам партыі і комсамола, пад кіраўніцтвам сваіх старэйшых таварышоў робіць вялікую справу.

У радах рабочых, тэхнікаў і інжынераў, геолагаў, батанікаў, урачоў і калгаснікаў змагаецца яна з балотам і малярыяй, ажыццяўляючы грандыёзны замысел Калхідбуда, заваёўваючы новыя землі для соцыялістычнай гаспадаркі.

Шчаслівая краіна, што мае такую моладзь!

Шчаслівая моладзь, што мае такую радзіму!

Прыгожая і шчаслівая гэта моладзь—удзельніца вялікіх ператварэнняў, ускормленая і ўспоеная магутнай краінай узыходзячага соцыялізма.

Прыгожая і шчаслівая гэтая моладзь, ствараючая гісторыю новай адроджанай Савецкай Калхіды—квітнеючага і пладаноснага сада ордэнаноснай Грузіі.

З такім настроем пакінулі мы Чаладзідзі.

---

*А. Царт*

# ШЛЯХІ ФАРМАВАННЯ РЭВОЛЮЦЫЙНАГА СВЕТАПОГЛЯДУ

*(Пра раманы А. Барбюса „Святло“ і „Звенні“) *)*

## 1

Тэма нашага артыкула—гэта станаўленне рэволюцыйнага светапогляду, рост новага чалавека. Гэта тэма з'яўляецца не толькі асноўнай у аналізуемых творах Барбюса, але праходзіць чырвонай ніткай праз усю яго творчасць і з'яўляецца не толькі мастацкай гісторыяй яго герояў. Барбюс прарабіў складаны ідэйны шлях і ўся яго творчасць гэта найярчэйшы гістарычны дакумент пра чалавека, які знаходзіцца на мяжы двух эпох, дакумент, які напісаны страсным рэволюцыянерам і выдатным мастаком. Гэта тэма занадта шырокая, каб яе можна было хоць-бы ў агульных рысах ахапіць у адным артыкуле, і мы сабе ставім тут больш абмежаваную задачу: прасачыць шлях шуканняў Барбюса на тым этапе яго творчасці, калі ён у сваім пафасным „Агні“ закляйміў імперыялістычную вайну і ўвесь лад, што выклікаў яе і пачаў карэнную пераацэнку сваіх ідэйных каштоўнасцей. Гэты шлях быў вельмі складаны, што відаць з асноўных мастацкіх твораў таго перыяда: у раманах „Святло“ (1918 г.) і „Звенні“ (1924 г.). Іменна гэтыя творы афармілі ў мастацкіх вобразах тыя ідэі і праблемы, якія хвалявалі Барбюса ў той час і якія знаходзілі сваё выяўленне ў яго багатай публіцыстыцы таго часу. Тут мы знойдзем яшчэ раз тую тэму, якая з'яўляецца асноўнай у яго няўміручым „Агні“— тэму вайны. Тут мы знойдзем і вострую крытыку мяшчанскага асяроддзя і праблему індывід-маса, і страсны адказ „прекраснодушным“ інтэлігентам, якія выступалі супроць „гвалтаў“ рэволюцыі і г. д. Такім чынам гэтыя раманы, будучы „аб'ектыўнымі“ паводле сваіх жанравых уласцівасцей, з'яўляюцца сугуба-суб'ектыўнымі паводле сваіх вывадаў. Гэты асабіста афарбаваны тон не адбірае ў гэтых твораў іхняй аб'ектыўнай пазнавальнасці і рэалістычнай праўдзівасці, наадварот, надае ім страснасць і эмацыянальнасць, і робіць іх тэндэнцыйнымі ў тым сэнсе, як гэта разумее мастак-баец, які жадае, каб яго слова ператварылася ў зброю барацьбы.

Разглядаючы гэтыя творы, як асобныя этапы ў творчасці пісьменніка, мы павінны будзем аналізаваць кожны з іх у паасобку.

*) З працы пра творчы шлях пісьменніка.

Гэты метад, як нягм здаецца, апраўдваеццашчэ і тым, што нашія крытыка яшчэ мала зрабіла для азнаямлення чытача з асобным творамі Барбюса.

Раман „Святло“ быў надрукаван у канцы 1918 г. і адлюстроўвае той перыяд, калі Барбюс толькі што адарваўся ад таго свету, дзе ён фармаваўся як мастак і пачаў свой шлях да пролетарыята і яго светапогляду. Вялікі мастак-рэаліст, які ўбачыў асноўнае звяно рэчаіснасці,—класавую барацьбу, як рухаючую сілу капіталістычнага грамадства,—Барбюс не спыніўся на поўшляху і, у адрознасць ад многіх „пацыфістаў“ ён не замыкаецца ў рамках мастацкай прапаганды, але развівае кіпучую палітычную барацьбу.

У 1917 г. Барбюс друкуе свае славутыя артыкулы: „У імя чаго ты ваюеш?“, „Да былых салдатаў“ і інш., дзе ён кляйміць імперыялістычную палітыку Францыі і іншых краін. У артыкулах гэтага перыяду (1917—18 г.г.) Барбюс канцэнтруе галоўную ўвагу на праблемах вайны, пазбягаючы яшчэ гаварыць пра комунізм і выяўляючы сваё неразуменне характару Кастрычніцкай рэволюцыі. Але ўжо к канцу 1918 г. Барбюс канчаткова прыходзіць да вываду, што імперыялістычныя войны будуць канчаткова знішчаны толькі разам са знішчэннем капіталістычнага ладу. Вынікам гэтага з'яўляецца яго раман „Святло“, у якім побач з надзвычайным паказам ідэйнага перараджэння абывателя і памфлетна-сатырычнай крытыкай капіталістычнага грамадства мы знаходзім і адбітак непасрэдна асабістых перажыванняў.

Калі падыйсці да рамана „Святло“ з боку яго сюжэту, то мы ў ім знойдзем адну тэму, якая паводле сведчання А. М. Горкага з'яўлялася амаль вядучай ва ўсёй рэалістычнай літаратуры мінулага—гэта „гісторыя маладога чалавека“, які змагаецца за месца ў жыцці. Герой рамана Барбюса напамінае ў гэтым сэнсе сваіх літаратурных папярэднікаў, але гэта падобнасць знікае разам з тым, як аўтар праводзіць яго праз розныя этапы яго ідэйнага развіцця і, галоўным чынам, калі ён паказвае нам, у чым гэты „малады чалавек“ знаходзіць для сябе задавальненне.

Гэта павінна было здарыцца таму, што сам аўтар рамана Барбюс, будучы на гэтым этапе сваёй творчасці далёкім як ад светапогляду буржуазных рэалістаў, так і ад літаратурна-гістарычнай „фактуры“, якой гэтыя пісьменнікі карысталіся для тэмы аб маладым чалавеку, павінен быў надаць гэтай тэме іншую трактоўку, зусім новую афарбоўку і зрабіць з яе такія вывады, якія не маглі быць зроблены ніводным з гэтых пісьменнікаў. Такім чынам раман „Святло“, будучы шмат у чым падобным па сваёй тэме на некаторыя раманы XIX ст. (і тут і там мы маем гісторыю „узыходжання“ і „падзення“ маладога чалавека), усё-ж не з'яўляецца далейшай распрацоўкай тэмы, гэтых раманаў, але поўным адмаўленнем яе. Тое, што паказвалася буржуазнымі пісьменнікамі мінулага, як „узыходжанне“ (барацьба за кар'еру) выкрываецца Барбюсам як мяшчанскае гібенне, а адмаўленне Сімона Палена (героя рамана) ад усіх забабонаў свайго класа і пераход яго на пазіцыі рэволюцыйнага пролетарыяту ўспрыймаліся-б—і ўспрыймаюцца—буржуазнымі пісьменнікамі як глыбокае „падзенне“...

Ад адвечнай тэмы пра чалавека „заваявальніка“ (які з'яўляецца цэнтральнай фігурай у буржуазнай літаратуры, пачынаючы ад Стэндаля і да нашых дзён) Барбюс прышоў да сумнай і ў той-жа час радаснай гісторыі пра знаходжанне новай праўды, новых норм жыцця. Паказваючы гэты момант на лёсе аднаго чалавека, Барбюс адначасова разгарнуў перад намі філасофска-абагульняючы малюнак крушэння пануючай буржуазнай ідэалогіі ў цэлым. Раман Барбюса адрозніваецца ад адпаведных раманаў Заля, Бальзака і інш. не толькі сваімі ідэйнымі вывадамі, але і жанравымі і стылістычнымі сродкамі, хоць мы ў ім знаходзім шэраг мастацкіх элементаў, якія перак каюцца з многімі творамі рэалістаў мінулага. У прыватнасці гэта адносіцца да пачатку рамана.

„Святло“ з'яўляецца раманам вельмі складаным па сваёй кампазіцыі. Пачаўшы апавядаць пра лёс „маладога чалавека“ ўжо XX ст. у звычайнай апавядальнай манеры рэалістычнага рамана, Барбюс у далейшым пераключаецца на шэраг сімвалістычных адзенняў і канчае раман у плане шырокіх памфлетна-публіцыстычных і філасофскіх абагульненняў. Такім чынам, мы тут маем тую-ж з'яву, што і ў „Агні“ в той толькі розніцай, што ў „Святле“ элемент сімволікі займае больш значнае месца і ўжываецца якраз у тых месцах, дзе паказваецца момант „праяснення“ і нарастання „святла“ ў героя. Трэба сказаць, што гэта змяшчэнне агульнапрынятых кампазіцыйных планаў у творах Барбюса некаторым чынам перашкаджае разуменню ідэйнага замысла пісьменніка і, ва ўсякім разе, з'яўляецца літаратурным фактам, які павінен прыцягнуць увагу нашых пісьменнікаў і крытыкаў. Абмяжоўваючыся пакуль гэтым агульным канстатаваннем, мы пераходзім да першага плана кнігі,—да апавядання пра лёс героя рамана, да таго, як ён прышоў да свайго ідэйнага с в я т л а.

У якасці фона, на якім паказваецца жыццё гэтага героя, Барбюс бярэ традыцыйны ў французскай літаратуры матэрыял — жыццё і побыт жыхароў правінцыі. І хоць аўтар дапасоўвае сваё апавяданне да першых дзесяцігоддзяў нашага стагоддзя, але, як паказваемы побыт, так і ўся галерэя персанажаў рамана ўваскрашаюць перад намі нравы флабераўскай (і не толькі флабераўскай) правінцыі. Праўда, аўтар сям-там гаворыць пра рабочых, апісвае забастоўку на мясцовай фабрыцы і г. д., але гэты матэрыял кнігі ўсё-ж знаходзіцца на заднім плане; цэнтральнымі фігурамі яго з'яўляюцца крамнік, карчмар, ліхвяр і нават абшарнік, які яшчэ не страціў свайго ўплыву ў гэтай глухой правінцыі. Што датычыцца побыту, то герой рамана (ад імя якога ўвесь час вядзецца апавяданне) апісвае яго наступным чынам:

„У квартале—за выключэннем групкі рабочых, якія ва ўсіх на ўвазе—усе ходзяць да абедні, мужчыны і жанчыны: дзеля прыстойнасці, у падзяку ўладарам замка, гаспадарам і паводле перакананняў“ (стар. 21) *).

Далей расказваецца цёпла, і амаль што не лірычна пра мястэчка, яго жыхароў, пра яго „пейзаж, які блізкі нашай душы“. Мы атрымліваем у выніку ўяўленне пра жыццё і побыт правінцыяльнага

*) Усе цытаты ўзяты з кнігі „Святло“, пераклад на рускую мову К. Жыхаровай. ГІЗ, Пецербург, 1920 г.

дробнага буржуа, які апрача некаторых жыццёвых выгод нічога не патрабуе, нікуды не імкнецца і цалкам задаволен сваім лёсам. Гэта поўная заспакоенасць характэрна не толькі для гэтага чалавека, але і для ўсіх астатніх абывателяў гарадка. І каб вылучыць гэты момант яшчэ больш пуката, аўтар паказвае другога персанажа, які сваёй выключнасцю яшчэ больш падкрэслівае агульнае правіла. Рэч ідзе пра каваля Брысбіль, які з'яўляецца „неспакойным сумленнем“ гарадка. Псіхалогія гэтых людзей выразна раскрываецца перад намі пры сутычцы Брысбіля з адным з „задаволеных“—з шаўцом Крыльонам, які дае зусім выразнае ўяўленне пра жаданні, патрабаванні і маштабы абывателя.

Гэты чалавек не толькі не скардзіцца на свой лёс, але нават стварае своеасаблівую „філасофію звычайнасці“.

„Я не трымаюся агульнапрынятых поглядаў, я не які-небудзь антыквар, але я не хачу вылучацца. Калі я сяк-так выкручваюся ў жыцці, дык толькі таму, што я такі самы як і іншыя, не горшы—дадае ён, выпростваючыся. І выцягнуўшыся яшчэ больш, канчае:—але і не лепшы!“ (стар. 43).

Быць такім як усе з'яўляецца паводле яго поглядаў зарукай спакойнага жыцця, а гэта апошняе ацэньваецца ім як вышэйшае дасягненне, да якога трэба імкнуцца.

Мяшчанская „мараль сціпласці“ ўласціва не толькі гэтаму персанажу, але характэрна і для рэшты жыхароў гарадка. Усе яны складаюць лагер кансерватыўных і задаволеных людзей, якія не хочуць і баяцца якіх-бы то ні было перамен у жыцці. І гэта характэрна не толькі для паразітычнай вярхушкі гарадка, ідэямі і ўяўленнямі мяшчанства заражоны нават і асобныя прапластаванні рабочых. На прыкладзе рабочага Маркасена аўтар паказвае ўвесь жах капіталістычнай катаргі. Трагедыя гэтага чалавека не столькі ў тым, што ён вельмі эксплаатуецца, але ў яго глыбокім перакананні, што інакш не можа быць. Гэтаму чалавеку даводзіцца працаваць у такіх кашмарных умовах, што не скардзіцца для яго немагчыма і калі Сімон Пален у адказ на яго скаргі кажа яму, што ва ўсякім разе ён карыстаецца сямейным шчасцем, то ён расказвае на гэта наступнае:

„—У мяне няма часу ці хутчэй няма сілы. Я вам зараз скажу... Увечары, калі я прыходжу, я занадта стомлены... Ну, і вы разумееце, я занадта стомлены, каб быць з ёй шчаслівым, разумееце?.. Кожную раніцу я ў гэта веру, спадзяюся да абеда, але ўвечары я занадта стомлены адзінаццацігадзіннай хадой і выціраннем*), а ў нядзелю я, проста кажучы, зусім змардаваны за тыдзень. Бывае нават, што прышоўшы дахаты, я не мыюся: так і сяджу з чорнымі лапамі, а ў нядзелю, калі я адскрабуся, няма чалавека, які сказаў-бы мне: „як вы паправіліся!“ (стар. 48).

Малюнак, як бачым, трагічны, але трагедыя гэтага чалавека, як мы ўбачым далей, не столькі ў цяжкіх умовах яго працы, як у тых выніках, да якіх яны яго прыводзяць: гэты чалавек настолькі спустошан фізічна і духоўна, што страціў усякую здольнасць пратэставаць і адстойваць свае інтарэсы.

---

*) Маецца на ўвазе праца Маркасена—выціранне лямп.

Царква, рэлігійнае выхаванне ў школе і казарма зрабілі сваю справу: лямпаўшчык Маркасен не толькі не пратэстуе, але лічыць незаконным нават жаданне мець свой уласны погляд. Таму ён рэзка выступае супроць усякай спробы арганізаваць рабочых, супроць якой-бы то ні было барацьбы з капіталістамі.

Для гэтага чалавека ўсё „зразумела“: ёсць бог і трэба яму пакарацца, ёсць бацькаўшчына і трэба ёй служыць,—а рэшта ад лукавага. У паказе гэтага вобраза, як і другіх прадстаўнікоў лагера „пакорлівых“ Барбюс дасягнуў вялікай мастацкай сілы. Гэты паказ выклікае нянавісць да таго праклятага грамадства, якое ператварыла гэтых Маркасенаў у мімавольных суудзельнікаў сваіх брудных спраў. Праўда, трэба таксама сказаць, што Барбюс тут паказаў толькі адзін бок рэчаіснасці, што ў сваім імкненні паказаць капіталістычную катаргу ён у той-жа час не заўважыў і іншых прадстаўнікоў рабочага класа, носьбітаў яго рэвалюцыйных імкненняў. Кніга шмат выйграла-б у ідэйных адносінах, калі-б аўтар паказаў нам, як наспявае ў рабочай масе пачуццё пратэсту і абурэння, якія не могуць пагасіць ні рэпрэсіі капіталістаў, ні здрадніцкая палітыка правадыроў II інтэрнацыянала. Гэты ідэйны прабел кнігі робіцца тым больш адчувальным, што аўтар уклаў сваю станоўчую праграму ў вусны п'яніцы Брысбіля, які пры ўсіх яго станоўчых рысах (ён разумны, сумленны, прасталінейны) не можа быць прадстаўніком працоўнага лагера гэтага гарадка. Куды лепш ён выконвае другую функцыю, якая вызначана яму аўтарам—кантраставаць са светам мяшчан. У гэтых адносінах гэты вобраз з'яўляецца разумна задуманым і дапамагае лепш раскрыць псіхалогію „герояў малых спраў“.

Характэрна ўжо тое, як жыхары мястэчка ставяцца да гэтага „неспакойнага“ чалавека. А ставяцца яны да яго вельмі адмоўна. Чакаць іншых адносін ад гэтых людзей і не даводзіцца, бо Брысбіль з'яўляецца адзіным чалавекам, які напамінае ім на кожным кроку пра іхную нікчэмнасць. Мяшчане не могуць яму дараваць аднаго таго, што ён *мысліць* і спрабуе падыходзіць да кожнага жыццёвага факта і з'явы з сваімі ўласнымі крытэрыямі і ацэнкамі. У мястэчку, расказвае герой рамана, Брысбіля „ненавідзяць за п'янства і перадавыя ідэі“, і цяжка сказаць за што больш. Бо калі п'янства Брысбіля з'ўляецца яго асабістай заганай і нікога па сутнасці не датычыць, то другая яго „загана“—такая, што прымушае многіх з іх перажываць непрыемныя хвіліны. Ды і як любіць гэтага неспакойнага чалавека, для якога, паводле слоў яго суграмадзян, няма нічога святога!

У мястэчку, напрыклад, адбываецца нейкае чарговае свята. Настрой ва ўсіх прыўзняты і радасны. Усе перажываюць „святасць хвіліны“. Гэты настрой выкліканы яшчэ і тым, што на свята прыехалі „знатныя асобы“,—прадстаўнікі мясцовай арыстакратыі. У цёпла паказаным малюнку свята мы знаходзім адлюстраванне не толькі пачуццяў Сімона Палена, але і ўсіх яго суграмадзян—усе задаволены, усе радасна ўсхвалёваны. Але вось чуецца аднекуль рэзкі, скрыплівы голас і адразу знікае ўся гэта святочнасць. Бунтар і крыкун, п'яніца Брысбіль раптам раскрычаўся:

„Сказаць табе, куды гэта ідзе, вось усё гэта?—крычыць ён і чуваць толькі яго.—У бездань! Гэтае старое струхлелае грамадства

з выгодаю для ўсіх хто моцны і з неразумнасцю астатніх! У бездань кажу табе! Заўтра—сцеражыцеся! Заўтра!“ (стар. 65).

Гэты ўсхваляваны „маналог“ п'яніцы выклікае рэзкую рэакцыю ў яго слухачоў, і не таму, што п'яны Брысбіль тут нагаварыў несуразных рэчаў, а наадварот, што ён занадта цвяроза і разумна ацэньвае ўсё іхнае становішча, што ён прымусіў сваіх слухачоў задумацца над сваім лёсам. Але вось гэтага якраз ніхто і не хоча. Як мага больш ілюзіі, больш „салодкіх“ хвілін—такое агульнае жаданьне.

„Жаночы голас крычыць яму ўпоцемку з нейкай разгубленасцю:

— Змоўкніце, агідны чалавек, вы наганяеце страху!“ (стар. 66).

Між іншым не толькі пра страх тут рэч ідзе: крыўдна, што гэты „вар'ят“ умее не толькі лаяцца, але і разумна разважаць і крытыкаваць.

Вось гэта ніхто з яго суграмадзян не любіць, асабліва калі ён пачынае казаць пра трусасць і залішнюю павагу да жыхароў замка.

— „Пракляты буржуй!“—так ён адчытвае героя рамана.

— „Ты такі-ж няшчасны катаржнік, як і ўсе твае таварышы, але буржуазныя ідэі ў табе заселі моцна!“

Сімон Пален лічыць сябе незаслужана зняважаным гэтымі рэзкімі словамі Брысбіля, але Брысбіль вельмі правільна яго ахарактарызаваў: усе паводзіны гэтага чалавека, увесь яго жыццёвы ўклад поўнасцю і цалкам пацвярджаюць гэтую трапную характарыстыку і даюць нам уяўленне пра тое, што азначаюць словы „катаржнік буржуазных ідэй“. Дробны служачы маленькага правінцыяльнага гарадка—Сімон Пален з'яўляецца характэрным прадстаўніком гэтай катэгорыі.

2

Каб зразумець асноўную праблему гэтай кнігі, нам давядзецца больш блізка пазнаёміцца з гэтым героем. Што з сябе ўяўляе Сімон Пален у той перыяд свайго жыцця, калі ён яшчэ не ведае сумненняў і жыве жыццём местачковага абывацеля? На гэтым этапе свайго развіцця Сімон Пален, як мы ўжо казалі, з'яўляецца вобразам самазадаволенага мешчаніна, якога калі-што небудзь хвалюе, дык гэта: „як выйсці ў людзі“. Барбюс тут паказаў вельмі важную рысу дробнабуржуазнай псіхалогіі і даў шэраг яркіх замалёвак пра ідэалы і імкненні гэтых людзей. У гэтых замалёўках Барбюс паказвае, як дробнабуржуазны малады чалавек цягнецца да „свету багатых і ўслаўленых“. Гэтым самым Барбюс працягвае пэўную тэматычную лінію буржуазнай літаратуры, але як рэзка ён яе пры гэтым павярнуў у бок ад буржуазнага вырашэння. Наследуючы лепшым традыцыям рэалістычнай літаратуры мінулага (Стэндаль, Бальзак, Заля), ён нам паказаў працэс „страты ілюзій“ (як Бальзак назваў свой вядомы раман) і тут, але ўжо на новай і пашыранай аснове. Матыў аб страце ілюзій перарос традыцыйную тэму пра тое, як дробнабуржуазны юнак страчвае свае ілюзіі і надзеі разбагацець, і ператварыўся ў тэму эпахальнага маштабу пра тое, як цэлае пакаленне пэўнага класа грамадства не толькі расчароўваецца ў сваіх „честолюбивых“ імкненнях, але і траціць веру ў той соцыяльны парадак, які асуджвае іх на пагібель.

Барбюс пакажа нам гэты працэс з усёй сілаю яркага і арыгінальнага мастака ў канцы сваёй надзвычайнай кнігі, а цяпер яго „малады чалавек“ нагадвае свайго папярэдніка толькі паводле вонкавых

адзнак, якасна адрозніваючыся ад яго ўсімі сваімі паводзінамі падыходам да жыцця. Ад „честолюбия“ і агрэсіўных імкненняў Расцін'яка і буржуазнага практыцызму Ругон Макараў у яго нічога не асталося. „Ідэал“ Сімона Палена—гэта „сціпласць“, „ціхая хада“, жыццё непрыкметнае, але сытае. У такім напрамку пакорлівасці і сціпласці ён і выхоўваецца.

Яго цётку аднойчы вельмі ахапілі лятуценні і зусім нечакана для яе самой у яе вырваліся наступныя „смелыя“ словы:

„— Ты можаш далёка пайсці з сваімі здольнасцямі. Можа калі-небудзь ты станеш усюды гаварыць людзям усю праўду пра рэчы. Гэтак было. Былі людзі, якія ўмелі пераканаць усіх. Чаму-б табе, мілы, не быць адным з іх, адным з вялікіх веснікаў“ (стар. 11).

Але гэтыя ўзнёслыя мары хутка знікаюць, яны палохаюць сваёй „смеласцю“ і незвычайнасцю і адразу пасля іх пачынаецца рэакцыя. Яна кажа яму, каб ён не заносіўся занадта высока і яшчэ больш быў дамаседам. Сімон Пален недалёка адышоў ад сваёй цёткі і ўсе яго ўзнёслыя мары не ідуць далей свайго квартала. Ён тут-жа супакойвае сваю цётку, што ён нікуды не збіраецца і нікуды не імкнецца.

„— Не, гэтага няма чаго баяцца! Я хацеў-бы астацца такім самым, як цяпер. Нешта прывязвае мяне да абстаноўкі майго маленства і юнацтва, і я хацеў-бы, каб яна такой і асталася. Вядома, я шмат чаго чакаю ад жыцця: я нават і сам не ведаю ўсяго, чаго я чакаю; але я не хацеў-бы занадта буйных змен. У глыбіні душы я хацеў-бы, каб нішто не скранула з месца печ, ракавіну, карычневую шафу, каб нішто не змяніла форму майго адпачынку, які штодня паўтараецца“ (стар. 11).

Такое светаадчуванне дробнага буржуа, такая ўся яго няхітрая філасофія пра наш свет і яго парадкі. Гэты „Панглос“ XX стагоддзя, як мы ўбачым у далейшым, павінен будзе пасля адмовіцца ад думкі, што буржуазны свет надзвычайны. Да гэтага яго будзе штурхаць уся капіталістычная рэчаіснасць, але пакуль што ён чапляецца за „ўтульнае“ і расліннае жыццё, пазбаўленае ўсякіх парываў, усякіх думак.

З гэтага, усё-ж, не трэба рабіць вываду, што гэты чалавек жыве без якіх-небудзь перспектыў, што ён пазбаўлен якіх-бы то ні было мараў,—як і ўсе людзі яго ўзросту, ён часта задумваецца пра сваё далейшае жыццё, але ўсе яго перспектывы і мары не ідуць далей „новага квартала, у якім ён з цягам часу хацеў-бы жыць“. І калі Жуль Сарэль (герой стэндалеўскага „Чырвонае і чорнае“) выбраў для сябе ў якасці ўзора вобраз Напалеона, то яго літаратурны патомак Сімон Пален узяў за ўзор усяго вартага і благароднага правінцыяльнага арыстакрата, выхадца з дэгенератыўнай сям'і Жазефа Баяноса, які „робіць надзвычайнае ўражанне прыроднай арыстакратычнасцю“. Такім чынам у Сімону Палену мы бачым вобраз чалавека, які ходзіць у жыцці нібы з завязанымі вачамі і не хоча думаць і задумвацца нават і тады, калі само жыццё да гэтага яго штурхае. Жывучы і працуючы сярод рабочых, прыглядаючыся да вялікіх пакут народных мас, гэты чалавек не толькі не набліжаецца да іх, але гоніць ад сябе нават уяўленне пра іхнае жыццё, як цяжкі кашмар. Адным словам жыццё надзвычайнае, як яно ёсць і не Сімону Палену клапаціцца пра яго лёс.

3

Кампазіцыйная пабудова рамана Барбюса мае ў сабе рад нечаканасцей для чытача. У прыватнасці цяжка ўлавіць агульную ідэйную задачу, якую ставіць сабе аўтар, на падставе першых раздзелаў. Матэрыял гэтай часткі рамана вытрыман у строга рэалістычных танах і сваёй спакойна-апавядальнай манерай гэтыя раздзелы падкрэсліваюць „спакой“ і „ціхую хаду“ жыцця французскай правінцыі пачатку нашага стагоддзя. Уся „фактура“ рамана, усе яго асобныя мастацкія элементы ўваскрашаюць перад намі малюнкі з Флабера і другіх рэалістаў XIX ст. Гэтае падабенства яшчэ больш узмацняецца ад таго, што Барбюс у гэтай частцы рамана не асабліва выпукляе элементы негатыўныя. Праўда, у некаторых мясцінах і ў пачатку рамана аўтар дае вострую сатыру на свет „дробных людзей“, але гэтыя бытавыя замалёўкі не шмат у чым адрозніваюцца ад адпаведнага матэрыялу ў творах крытычных рэалістаў мінулага. Больш таго, частка эпізодаў і падзей з жыцця героя (смерць цёткі, першае каханне і інш.) афармлены ў акрэслена-лірычных танах і ўсе гэтыя мясціны, нават, могуць зрабіць уражанне, што аўтар і не думае адмаўляць гэты свет, а наадварот, усякім чынам ідэалізуе яго.

Але гэта толькі павярхоўнае ўражанне. Уся логіка гэтага рамана якраз і заключаецца ў тым, што на пэўным этапе яго разгортвання і ўвесь яго „пабытовы матэрыял“ паварачваецца ў процілеглы ідэйны бок і ўсё тое, што раней успрыймалася намі як станоўчае, паказваецца цяпер у іншым святле. Гэта стане для нас асабліва відавочным у канцы рамана, калі аўтар прывядзе свайго героя да адкрытага асуджэння і адмаўлення свайго мінулага жыцця, але для гэтага нам давядзецца яшчэ раз вярнуцца да першай лініі рамана—да апавядання пра „ўзыходжанне“ і пра „велічнасць“ нашага героя, з тым, каб зразумець яго далейшае „падзенне“ (як гэта ацэньваецца яго суграмадзянамі).

Такім чынам, якіх-жа „вышынь“ дасягае наш герой? Якія пазіцыі заваёўвае ён у жыцці? Будучы крыху знаёмымі з светаадчуваннем і паводзінамі гэтага чалавека, мы можам загадзя сказаць, што тут гаворка можа ісці пра вельмі дробныя маштабы і гэткія-ж дасягненні, але і яны ўяўляюцца яму надзвычай важнымі і зусім задавальняюць яго. На гэтым баку рамана Барбюс затрымліваецца досыць доўга і з пэўнай мэтаю. Аўтар нібы дае свайму герою "адтэрміноўку“ і дае яму магчымасць карыстацца „жыццёвай асалодай“, з тым, каб прывесці яго пасля да карэннай пераацэнкі ўсіх крытэрыяў і каштоўнасцей. Але пакуль што Барбюс паказвае яго ў самым асяроддзі местачковага жыцця. Аўтар прасочвае крок за крокам жыццё гэтага чалавека, паказвае ўсе яго перажыванні і ўчынкі. Сімон Пален перажывае цяжкія хвіліны ў сувязі са смерцю цёткі, але якраз у гэты час узнікае другое пачуццё—ён кахае і гэта пачуццё перамагае журбу і разгубленасць героя.

Барбюс дае рад лірычных раздзелаў пра каханне гэтых маладых людзей і пра іхнае ўключэнне ў жыццё. Ва ўсіх гэтых раздзелах падкрэсліваецца яшчэ больш момант самазадаволенасці і супакоенасці і ўсе яны павінны падкрэсліць асноўнае адчуванне нашага героя,

што свет нязменны і ў прыродзе сапраўдны толькі біялагічныя законы: людзі жывуць, кахаюць, ненавідзяць, паміраюць, але другія працягваюць гэты вечны кругазварот. Такім чынам нават і пачуцце журбы не можа доўга трымацца і павінна быць пераможаным новымі пачуццямі і жаданнямі.

Жыццё цячэ і яго рух не можа спыніць нават смерць. У раздзеле „Дні“ герой расказвае пра сваё жыццё пасля смерці цёткі:

„Прайшлі гады. У нашым жыцці не адбылося ніякіх выдатных падзей. Вечарамі калі я варочаўся, Мары, якая часта не выходзіла з дому, у капоце і з няўважліва заплеценымі косамі, сустракала мяне словамі:
— Сёння нічога не было“.

Такі гэты свет—„сёння нічога не здарылася“. У „вялікім свеце“ адбываюцца важнейшыя падзеі, навейшая тэхніка наблізіла самыя далёкія куткі зямное кулі, зрабіла людзей рухавымі і неспакойнымі, але свет Сімона Палена астаецца па-ранейшаму застыглым і затхлым. Але аднойчы, расказвае герой, на мястачковым небе паказаўся аэраплан і ён чамусьці выклікаў пачуццё тугі і імкненне кудысці ў невядомыя краі. Але гэтым людзям не дадзена лётаць, ва ўсякім разе пакуль што. Ды і не толькі лётаць—гэткай-жа марай застаецца намер паехаць на морскае ўзбярэжжа па чыгунцы...

Куды лепш справа абстаіць з ажыццяўленнем іншых мар: Сімон Пален, „нарэшце, набывае добрую мэблю і перасяляецца ў „новы квартал“, яго, нават, пасля выбіраюць у муніцыпалітэт. Сімон Пален зусім задаволен сваім лёсам і ўпарта не хоча заўважаць, што робіцца вакол яго. І калі ў жыцці ён сутыкаецца з такім фактам, як забастоўка на фабрыцы (якая, менавіта, дзякуючы сваёй нечаканасці, ярка паказала скрытыя класавыя супярэчнасці ў мястэчку), то наш герой, захоплены сваімі асабістымі дробнымі інтарэсамі, ухітраецца не заўважыць і гэтага. Апынуўшыся перад гэтай непрыемнай падзеяй, якая выбіла яго нечакана з стану спакою і роўнавагі, ён павінен прызнацца, што „ён нешта не дагледзеў“, што ён і не западозрыў пра існаванне „соцыялістычнага падполля“ на фабрыцы.

Таксама ён не заўважыў і не хацеў заўважыць і іншыя рэчы,— як з кожным днём накаляецца палітычная атмасфера, як у паветры запахла порахам. Французскі мілітарызм, як мілітарызм і іншых краін, рыхтаваўся да імперыялістычнай вайны яшчэ задоўга да першага жніўня 1914 г. Пачынаецца серыя ваенных манеўраў, якія скарыстоўваюцца буржуазіяй для раздзьмухвання нацыяналістычных настрояў у краіне. Барбюс дае рад надзвычайных і яркіх замалёвак, як абывацель рэагуе на „высокую палітыку“, якое праламленне ўсё гэта знаходзіць у мазгах гэтых людзей. Жыхары гэтага мястэчка, як і Сімон Пален, настроены патрыятычна, усе яны гавораць пра „рэванш“, усе яны вельмі шмат гавораць пра „хараство вайны“. Але пры ўсім тым народ далёкі ад ваяўнічых настрояў: апрача невялікай групы багачоў ніхто з жыхароў гэтага мястэчка вайны не хоча і не спачувае ёй. Праўда, усе яны, як Сімон Пален, менш за ўсё думаюць пра вайну. Але жыццё аказваецца і на гэты раз куды больш суровым, чым усе мары і ўяўленні абывацеля: пачынаецца сусветная вайна і мірны абывацель Сімон Пален едзе на перадавыя пазіцыі адстойваць гонар сваёй капіталістычнай „радзімы“...

Не гледзячы на тое, што ў першых раздзелах рамана Барбю меў справу з матэрыялам, паказаным ужо вельмі ярка ў „Агні“, ён усёткі ў „Святле“ здолеў паказаць рад новых момантаў, асвятліць перад намі новыя бакі ваеннага пекла і яшчэ глыбей паказаць тыя працэсы, якія нарасталі сярод народных мас у часе вайны. Усё гэта паказана, галоўным чынам, праз паказ лёсу аднаго чалавека, але пры гэтым Барбюс паказаў нам столькі тыповага і характэрнага, што вобраз гэтага чалавека дае нам уяўленне пра цэлае пакаленне. Ужо ў „Агні“ Барбюс паказаў тыя неймаверныя цяжкасці, з якімі звязаны рост новай свядомасці і вызваленне ад многіх традыцый, галоўным чынам, крушэнне патрыятычных ілюзій. Гэты матыў, які з'яўляецца асноўным у „Агні“, паўтараецца яшчэ раз і ў гэтым рамане, але паказ гэтага моманту на індывідуалізаваным вобразе Сімона Палена даў аўтару рад новых магчымасцей для яго вырашэння.

Як успрыймае абывацель вайну? Мы ўжо гаварылі, што Сімон Пален, як і ўсе, хто яго акружаюць—вялікія „патрыёты“, што яны не перастаюць паўтараць на ўсе лады пра велічнасць і гістарычную місію Францыі і інш. Усе гэтыя настроі атрымліваюць сваё поўнае выяўленне ў першыя дні вайны. У надзвычайным раздзеле „Бура“ аўтар паказаў нам увесь патрыятычны ўгар, які ўсякім чынам раздзьмухваўся і буржуазным друкам, і царквою і г. д. Патрыятычная шуміха такая вялікая, што ў ёй губляюцца асобныя нясмелыя галасы пра пакуты, якія нясе з сабою вайна. Жонка Палена закручваючы клунак для свайго мужа, які ідзе на вайну, усё-такі не можа авалодаць сабою і ўздыхае:

„— Ах! усёткі вайна куды страшнейшая, чым яе ўяўляеш сабе“ (стар. 71).

Але гэтая нясмелая заўвага не робіць пакуль што ўражання— яе заглушае барабанны бой патрыятычных маніфестацый. Настрой мас лепш за ўсё перадаецца ў наступных наіўных, але глыбока праўдзівых словах учарашняга селяніна і сёнешняга салдата, які ідзе ў страю побач з Сімонам Паленам.

„— Гэта нейкая гарачка! Я вось з самага таго часу, як гэта пачалося яшчэ не паспеў нічога зразумець. А ёсць, ведаеш, такія, што кажуць: „Я разумею“. Ну, дык я табе скажу: гэта няпраўда“ (стар. 72).

І, вядома, мае рацыю гэты прастадушны чалавек: ні ён і ні яго таварышы пакуль што не разумеюць хітрай механікі імперыялістычнай вайны і не мала ім давядзецца папакутаваць пакуль яны пачнуць гэта разумець. А пакуль што ён маршыруе разам з „разумеючымі“ проста ў акопы ваяваць з „бошамі“. Цяжка, ды і гэта непатрэбна, пераказаць усе жахі, якія Барбюс яшчэ раз паказаў нам у гэтай кнізе. Трэба ўчытацца ў страсныя старонкі гэтага рамана, каб яшчэ раз перажыць і адчуць увесь жах імперыялістычнай бойні. Мы не затрымаемся таму на гэтым баку рамана і прасочым далейшае ідэйнае развіццё нашага героя. Барбюс робіць лягчэйшай гэту задачу тым, што і тут ён ставіць героя паміж двумя людзьмі, якія сімвалізуюць розныя падыходы да рэчаіснасці. Гэта знаёмы нам ужо, былы рабочы лямпаўшчык Петролюс і салдат— Тэрміт. Першы, як мы ўжо гаварылі, увасабляе сабою поўную

пакорлівасць і паслухмянасць. Гэтую няхітрую філасофію казармы ён праводзіць і тут; другі з іх з'яўляецца па-сапраўднаму смелым і свядомым чалавекам, які ўсвядоміў бяссэнсоўнасць і жорсткасць вайны.

У Тэрміта, паміж іншым, ёсць падабенства з самім Барбюсам. Гэты салдат, які з першых-жа дзён вайны выяўляе да яе самыя адмоўныя адносіны (глядзі раздзел „На краю света“) кажа: „Я інтэрнацыяналіст. Таму я і паступіў у армію“ (стар. 95).

У гэтых адносінах ён напамінае самаго Барбюса, але пра гэта пасля.

Сімон Пален знаходзіцца паміж гэтымі крайнімі лагерамі, займаючы пазіцыю далёкую як ад аднаго, так і ад другога. Хоць дакладней было-б сказаць, што ён не займае ніякай пазіцыі: ён не з'яўляецца ні прыхільнікам вайны, ні актыўным ворагам яе. Сімон Пален пакуль-што ўмее моўчкі пакутваць, але вельмі скора ён павінен будзе пачаць думаць і выйсці з стану пасіўнасці.

Кажучы пра тыя прадумовы, якія дапамагалі сусветна-гістарычнай перамозе пролетарскай рэволюцыі ў Расіі, тав. Сталін у ліку іншых называе наступную акалічнасць:

„Па-другое, тая акалічнасць, што Кастрычніцкая рэволюцыя пачалася ў ходзе імперыялістычнай вайны, калі змучаныя вайной і прагнуўшыя міру працоўныя масы самой логікай рэчаў былі падведзены к пролетарскай рэволюцыі, як адзінаму выхаду з вайны. Гэта акалічнасць мела сур'ёзнейшае значэнне для Кастрычніцкай рэволюцыі, бо яна дала ёй у рукі магутную зброю міру, зрабіла для яе больш лёгкай магчымасць спалучэння совецкага перавароту са сканчэннем ненавіснай вайны і стварыла ёй з гэтае прычыны масавае спачуванне як на Захадзе, сярод рабочых, так і на Ўсходзе, сярод прыгнечаных народаў“. („Кастрычніцкая рэволюцыя і тактыка рускіх комуністаў“, „Пытанні ленінізма“, на рускай мове, ГІЗ, 1929 г., стар. 156.)

Дробны забіты служачы Сімон Пален, які вынес на сваіх плячах усе жахі вайны, стане ўсё больш і больш успрыймальным да рэволюцыйных імкненняў пролетарыята і далучыцца да барацьбы за сусветны Кастрычнік.

Да гэтага Барбюс вядзе свайго героя не спяшаючыся, абгрунтаваўшы яго перараджэнне ўсёй логікай і мастацкай сілай апісваемых ім фактаў. Барбюсу тут менш за ўсё даводзіцца выдумляць нейкія асаблівыя „прыёмы“: сам матэрыял—жахі вайны—з'яўляецца зусім пераканаўчым і дастатковым, каб па-мяшчанску абмежаваны Сімон Пален прарабіў складаную ідэйную эволюцыю. Пры гэтым зварочвае на сябе ўвагу наступны факт. Прытрымліваючыся свайго прынцыпу, што сучасны раман не можа слепа капіраваць прыёмы так-званага „класічнага рамана“, Барбюс заўсёды ўжывае розныя прыёмы ў межах аднаго і таго-ж жанра. Таму ён не толькі скарыстоўвае асноўныя стылевыя асаблівасці рэалістычнага рамана, але і не спыняецца перад тым, каб увесці ў свае творы і простыя публіцыстычныя абагульненні, і featureзнага роду лірычныя і філасофскія адступленні і нават невыразныя відзенні, аформленыя ў плане сімвалістычнай літаратуры.

Ад гэтага творы Барбюса ўсё-ж не трацяць свайго адзінства і становяць сабою ўзор рэалістычнай літаратуры. Гэта мы ўжо бачылі ў рамане „Агонь“, дзе сімвалістычны ўступ і публіцыстычная канцоўка не супярэчылі асноўнаму рэалістычнаму матэрыялу кнігі. Гэта мы можам прасачыць і ў аналізуемым рамане, у якім мы таксама знаходзім усе гэтыя асобныя і досыць супярэчлівыя элементы з той толькі розніцай, што тут Барбюс скарыстоўвае сімвалістычную манеру не як агульны псіхалагічны фон, на якім разгортваюцца жахі вайны, а для такой адказнай задачы, як самавызначэнне свайго героя. Не бяручы на сябе задачы вырашыць усе пытанні, звязаныя з гэтым бокам творчасці Барбюса, падкрэслім толькі, што аўтар знайшоў тут арыгінальную і цікавую форму для абмалёўкі жахаў вайны. І калі Барбюс дае ўсе гэтыя кашмары, як галюцынацыі разгарачанага хваравітага выабражэння (у раздзеле „De profundis“), то гэтым самым яшчэ больш падкрэсліваецца ўся бяссэнснасць і жорсткасць вайны.

Гэта „сімвалістычная манера“ аўтара, такім чынам, не ідзе ў разрэз з агульнай рэалістычнай манерай рамана і не выклікае нават недаўмення і тады, калі ён яе скарыстоўвае для паказу моманта святла, г. зн. ідэйнага перараджэння свайго героя. Сімвалістычная недагаворанасць і невыразнасць мастацкага малюнку не зацямняюць таго яснага і мэтаімкнёнага, што раскрываецца перад намі ў гэтым раздзеле. Пачынаючы з гэтага раздзела Барбюс пераключаецца на сваю ўлюбёную манеру філасофскага апавядання і разгортвае перад намі (праз свайго героя) не толькі свой погляд на імперыялістычную вайну, але і на капіталістычнае грамадства цалкам.

Пераказаць усё багацце думак, якія мы тут знаходзім, рэч досыць цяжкая, і мы абмяжуемся толькі тымі з іх, якія, як нам здаецца, былі накіраваны ў першую чаргу да інтэлігенцыі і адыгралі вялікую ролю ў яе перавыхаванні (пры аналізе рамана „Звенні“ мы ўбачым, што гэты раман меў на ўвазе галоўным чынам гэты соцыяльны пласт). Барбюс невыпадкова таму завастрае сваю ўвагу на такой праблеме, як лёс індывідуума ў грамадстве, бо ён добра ведаў свайго чытача інтэлігента і ўсе яго забабоны ў гэтым сэнсе і, мабілізуючы ўсе свае сілы мастака-байца, ён страсна выступае супроць аднаго з найбольш няправільных поглядаў інтэлігенцыі, іменна супроць сцверджання, што калектыў нібы паглынае ў сабе і пазбаўляе асобу сваіх індывідуальных рыс.

Барбюс падкрэслівае, як ідэйны пералом у свайго героя той момант, калі ён усведамляе, што:

„Людзей спалучыў промень святла, які заключаецца ў кожным з іх, а святло падобна на святло. Яно паказвае, што абасоблены чалавек занадта вольны ў прасторы, наўпярок усёй бачнасці, асуджан на няшчасце, як вязень, і што трэба з'яднацца, каб быць мацней, каб супакоіцца і нават, каб мець магчымасць жыць“.

І хоць Сімон Пален, як бачым, тут яшчэ ўжывае вельмі абстрактную соцыяльную тэрміналогію і вельмі далёкі ад якой небудзь канкрэтнай праграмы дзеяння, але ў яго пачынае ўжо нарастаць так-сказаць, „пачуццё локця“, а гэта вельмі важна—гэта вялік

крок наперад у разуменні механікі класавай барацьбы. І што асабліва важна: Барбюс тут ясна і выразна праводзіць думку, што не ўсякае адзінства важна і прыймальна. Барацьба за буржуазную радзіму,—прапаведуюць „афіцыяльныя ідэолагі",—з'яўляецца таксама калектыўным пачуццём, а Барбюс усёй логікай свайго страснага твору даводзіць да свядомасці свайго чытача, што культываваць такога роду „калектыўныя пачуцці"—злачынства і нізасць. Герой Барбюса, засвоіўшы гэта, выражае гэта ў лаканічнай і зусім выразнай формуле: „Яны збіраюць нас разам, але раз'ядноўваюць нас" (стар. 135).

Думкі, якія развіваюцца Барбюсам у гэтай частцы рамана не страцілі сваёй актуальнасці і ў цяперашні час. Яны дапамагаюць працэсу вызвалення мас з-пад улады царквы, „традыцый", „аўтарытэтаў" і г. д.

„—Чаму пануюць яны (г. зн. моцныя гэтага свету),—пытае герой і адказвае:—каралі, манархі, людзі, звышчалавекі, якія асветлены фантастычнымі імёнамі і якія ніколі не памыляюцца—хіба ўсё гэта не знішчана даўным даўно? Невядома.

Тыя што царствуюць нябачныя. Бачныя толькі тыя, што хочуць і тое, што яны робяць з іншымі.

Чаму яны заўсёды кіруюць? Невядома. Мноствы не здаваліся ім; яны ўзялі іх і трымаюць у сваёй уладзе. Магутнасць іхная звышнатуральная. Яна існуе таму, што яна існавала ў мінулым. Тлумачэнне яе, яе формула, яе быццё—гэта: Так трэба!"

Барбюс вядзе пакуль што гэтую гістарычную спрэчку ў абстрактнай форме—у выглядзе спрэчкі пра ідэі, але трэба сказаць, што гэтыя месцы кнігі Барбюса не страцілі сваёй актуальнасці і цяпер, калі злейшы вораг чалавецтва, фашызм, так спекулюе на традыцыі, гісторыі, нацыянальным духу і г. д. І хоць Барбюс далёкі ад якога-б там ні было нігілізма ў адносінах да гісторыі, або недаацэнкі нацыянальных герояў, усё-ж ён лічыць патрэбным даць бойку буржуазнай ідэалогіі і на гэтым участку, бо для яго зразумела як буржуазія спрытна выкарыстоўвае гісторыю і нацыянальную традыцыю для сваіх мэт. Вядома, напрыклад, як французская буржуазія выкарыстоўвае для сваіх мэт такія вобразы як Жанна д'Арк або Раланд, выстаўляючы іх як сімвал „французскага духу".

Барбюс бярэ гэты самы вобраз Раланда, але ўжо ў ідэйным асвятленні народнай творчасці, і аказваецца, што гэты традыцыйны вобраз феадальнай пакорлівасці паўстае перад намі зусім у інакшым святле—у вобразе барацьбіта за інтарэсы народных мас. Барбюс не з'яўляецца ворагам традыцыі наогул, а ён выступае супроць тых з іх, якія дапамагаюць закабаленню народа, таму ён так палемічна выступае не толькі супроць сучасных ідэолагаў, але і супроць найвялікшых творцаў мінулага, калі яны ў якой-небудзь ступені дапамагалі ўмацаванню культу гвалту. І зусім не адмаўляюць чалавечую культуру мінулага наступныя словы, якія ў сапраўднасці з'яўляюцца заклікам да сучасных пісьменнікаў, каб яны, урэшце, разабраліся для чаго яны пішуць і каму яны служаць сваёй творчасцю:

„А вялікія галасы, паэты, баяны; што казалі вялікія галасы? Яны ўслаўлялі лаўры, не ведаючы, што яны з сябе ўяўляюць.

Ты, стары Гомер, песняр старадаўніх плямён марскіх узбярэжжаў, з паважным і ясным тварам, адлюстроўваючым твой вялікі, наіўны геній, з трохтысячагадовай лірай і пустымі вачамі—ты, які давёў да нас Паэзію! І вы, сонмы заняволеных паэтаў, якія не разумелі, якія жылі да таго, як навучыліся разумець, у часы, калі вялікія людзі былі толькі слугамі важных паноў, і вы, служыцелі цяперашняй гучнай і напышлівай славы, красамоўныя і велічныя ў невуцтве лісліўцы, бессвядомыя ворагі людзей" (стар. 138).

5

Новы круг ідэй, які Барбюс цяпер уводзіць у сваю кнігу, не дае яму магчымасці ўтрымацца ў рамках сімвала або відзенняў, і пісьменнік рэзка пераключаецца на аголена-публіцыстычную манеру пісьма. Палітычны тэмперамент пісьменніка-байца прымушае яго гаварыць адкрыта пра ўсё, што яго хвалюе. Гэта, вядома, у першую чаргу тэма вайны і ўсё, што з ёй звязана.

Вядома, што Барбюс у пачатку вайны не зразумеў яе сэнса і нават палічыў сваім маральным абавязкам уключыцца ў яе. Пайшоўшы дабраахвотнікам на фронт, ён у лісце да рэдактара газеты „Юманітэ" матывуе гэта наступным чынам:

„—Дарагі сабрат, ці будзеце вы ласкавы лічыць мяне ў ліку тых соцыялістаў антымілітарыстаў, якія паступаюць на службу добраахвотнікамі ў цяперашнюю вайну? Будучы нестраявым, я дамогся перавода свайго ў дзейнічаючую армію і праз некалькі дзён еду на фронт у якасці простага пехатынца. Калі я паказваю вам на гэты дробны факт, такі будзённы і, па сутнасці кажучы, непрыкметны ў сучасны момант усеагульнага вялікага ўздыму, то для таго толькі, каб дазволіць сабе сказаць, што далёкі ад адмаўлення ідэй, якія я заўжды не для сваёй карысці абараняў, я маю намер паслужыць ім, узяўшыся за зброю. Гэта вайна—вайна соцыяльная, якая з'явіцца вялікім—магчыма рашаючым—крокам на шляху да ажыццяўлення нашай агульнай справы. Яна накіравана супроць нашых спрадвечных гнусных ворагаў: мілітарызма і імперыялізма, шаблі, рапіры, дадам яшчэ кароны. Нашай перамогай будзе знішчэнне цэнтральнай апоры цэзараў, кронпрынцаў, паноў і салдатчыны; яны трымаюць у турме адзін народ і хацелі-б зрабіць гэта з іншымі. Свет можа зрабіцца вольным толькі шляхам барацьбы супроць іх. Калі я ахвярую сваім жыццём і з радасцю іду на вайну, дык не столькі як француз, колькі, галоўным чынам, як чалавек. Прыміце ўпэўненасць у маёй адданасці".

А. Б.

9 жніўня 1914 г.

Гады акопнага жыцця не прайшлі бясследна і Барбюс прышоў—у адрознасць ад многіх пацыфісцкіх пісьменнікаў—да правільнага вываду, што сусветная вайна 1914—18 г. г. не з'яўляецца апошняй і што буржуазія не адмовіцца ад паўтарэння свайго „вопыта". І цяжка ў гэтых адносінах пераацаніць прадбачлівасць Барбюса, калі ён у самым разгары пацыфісцкіх, так званых „вільсанаўскіх", настрояў афармляе ўсе відзенні свайго героя ў самых цёмных фарбах і малюе перад намі перспектывы будучай, яшчэ больш страшнай імперыялістычнай вайны. Барбюс, праўда, тады не бачыў

аднаго, што ў гэтай вайне буржуазіі давядзецца сустрэцца тварам у твар з магутнай соцыялістычнай краінай і з рашучасцю сусветнага пролетарыята раз назаўсёды скончыць з тым грамадскім парадкам, які выклікае пагібельныя войны. Але агрэсіўныя мэты і метады аб'яднанай рэакцыі, выступаючай супроць любога праяўлення чалавечага розуму і прагрэсу, ён тады ўжо зразумеў і пакінуў нам пра гэта незабыўныя старонкі.

Барбюс тут як бы прадбачыў метады сучаснага фашызма і разам са сваім героем ён ледзь не ўпаў у роспач, але аптымізм сапраўднага рэволюцыянера яму падказвае, што заўтра не такое неразумнае, як учора і што „ісціна рэволюцыйна“ і тыя, якія пойдуць супроць яе, будуць змецены.

Але што такое ісціна? Да каго звярнуцца ў пошуках ісціны? Вядома, не да бога, не да царквы. Герой Барбюса (у гэтай частцы рамана—рупар самога аўтара) ужо разумее і тое, што хрысціянства з'яўляецца пакрывалам усіх зол, што яно служыць не за страх, а па сумленню эксплаататарам. Праўда, Барбюс яшчэ на гэтым этапе знаходзіцца пад уладай непраўдзівай канцэпцыі (якую ён нават паглыбіў у пазнейшых даследваннях), аддзяляючы хрысціянскую рэлігію ад яе творцы (якога ён называе „абрабаваны вынаходнік“—стар. 148), але ўжо і цяпер ён знайшоў важкія і мужныя словы супроць рэлігіі, як адной з важнейшых звенняў у сістэме капіталістычнага заняволення.

Раздзел „De profundis“, такім чынам, можна ахарактарызаваць як цэнтральны, дзе даецца пералом у жыцці героя, яго новы падыход да жыцця. Барбюс тут пакуль дае толькі абрысы новай ідэалогіі, пакідаючы яе падрабязны разгляд к канцу кнігі. Але гэтыя новыя ідэі Сімона Палена не астаюцца абстрактнымі вывадамі рэзанёрствуючага гультая, а вынік цяжкіх перажыванняў і глыбокіх раздум'яў. Зусім зразумела таму, жаданне аўтара паказаць яшчэ раз жыццё героя ў старых абставінах і прасачыць, што сталася з ім, з яго акружэннем. Гісторыю свайго героя ў новых умовах Барбюс працягвае яшчэ раз у форме рэалістычнага апавядання.

Доўга пабыўшы ў ваенным шпіталі Сімон Пален аднае раніцы падняўся і „пайшоў у жыццё“. Свой стан герой трапна выражае наступнымі словамі:

„Мы пайшлі ў жыццё халадком прысад; пасля вялікаю дарогай. Ішлі паціхеньку. Багаж мой несла Мары. Неба было бязвоблачнае, зямля была плоская і маўклівая, і нябёсны купал не звінеў ужо, як звон. Палі былі зусім пустыя, з выпадку вайны, але лініі дарогі цягнуліся, простыя і старазаветныя. І я, абмыты, апрошчаны, ясны і хоць і здзіўлены яшчэ маўклівасцю і ўсхвалёванай цішынёй, я бачыў усё выразна, без заслоны, без нічога. І здавалася мне, што я нясу ў сабе нейкі вялікі, новы, яшчэ не скарыстаны розум“.

Такое самаадчуванне чалавека, які толькі што вызваліўся з ваеннага пекла—гэта перш за ўсё радасць жыцця і пачуццё радасці ад усведамлення новай, цяпер знойдзенай праўды. Але гэта пачуццё задаволенасці не можа доўга цягнуцца: новая ісціна героя далёкая ад таго, каб яна дала магчымасць супакоіцца на дасягнутым. Першыя-ж крокі ў новым жыцці звязаны з сутычкамі і непрыемнас-

цямі. І як-бы Сімон Пален не быў настроен мірна, але само жыццё прымусіць яго ў далейшым змагацца за сваю новую ісціну.

Сімон Пален у першы час спрабаваў жыць па-ранейшаму, але з гэтага нічога не вышла. Не вышла таму, што ён цяпер набыў адну „непрыемную ўласцівасць“—задумвацца над тым, што вакол яго робіцца, а гэта звязана з вялікімі жыццёвымі непрыемнасцямі. Нават яго жонка ўстрывожана „дзіўным“ жаданнем мужа пра ўсё даведацца. Тут пачынаецца трагедыя чалавека, які знайшоў новую ісціну, але які ведае, што ён пакуль што не можа прыкласці новую ісціну да жыцця, бо ён недастаткова загартован для гэтага, але ў асноўным ён ужо жыве па-новаму:

„Гэта, праўда, усё вакол мяне зрабілася бачным, але нібы агаленым. Я страціў тайну, што ўскладняла жыццё. У мяне няма больш ілюзіі, што змяняла формы і хавала, няма запалу, гэтага падабенства сляпой і неразважлівай адвагі, што кідае вас з гадзіны ў гадзіну, з дня ў дзень.

А паміж іншым, я працягваю жыццё з таго месца, дзе я яго пакінуў. Я стаю на нагах, дужаю з кожным днём. Я належу не да тых, што канчаюць, а да тых, што пачынаюць жыццё“.

Але гэта новае жыццё, як мы ўжо сказалі, звязана з многімі невыгодамі—трэба змагацца і адстойваць свае погляды. Праўда, у першы час Сімон Пален далей ціхага раздражнення ад паводзін акружаючых яго людзей не ідзе, але ў далейшым яго новая пазіцыя не можа не прывесці да канфлікта з усім акружэннем. Аўтар назваў раздзел, у якім расказваецца пра гэты перыяд жыцця героя,—„Вочы“, і гэта назва перадае характар праблемы, якую ён сабе паставіў.

Але што бачыць цяпер Сімон Пален? З якой пазіцыі ён цяпер разглядае ўсё? Ён бачыць досыць многа, каб вызваліцца ад ранейшай абыякавасці і пасіўнасці.

„Як здарылася, што я не бачыў таго, што так відавочна, як здарылася, што я ніколі не заўважаў гэтай відавочнасці: што адзін чалавек і другі чалавек—гэта адно і тое-ж, усюды і заўсёды! Я радуюся таму, што ўбачыў гэта—як быццам прызначэнне маё у тым, каб праліць крыху святла на нас і на наш шлях“.

Калі ўспомнім, што дробнабуржуазнае нутро героя выявілася раней галоўным чынам у гэтым пытанні, у яго глыбокай абыякавасці да ўсяго, што не мае непасрэднага дачынення да яго асабістых інтарэсаў, мы зразумеем тую вялікую змену, якая адбылася ў ім. Сімон Пален ужо знайшоў асноўнае звяно новага светапогляду і гэта ўжо дае яму магчымасць высветліць для сябе і ўсё астатняе, рашуча перабудаваць увесь свой ідэйны багаж. Ён перш за ўсё вызваляецца ад такога „багажу“, як рэлігія.

„За сто тысяч год, за якія жыццё спрабуе адсунуць смерць, не было на зямлі нічога больш дарэмнага, чым зварот чалавека да бога, нічога, што давала-б такое выразнае ўяўленне пра маўчанне“.

Але к гэтаму вываду Сімон Пален прыходзіць не адразу. Як у „Агні“, мы тут маем многа страсных старонак, напоўненых апісаннямі тых пакут, якія звязаны з станаўленнем новай ідэалогіі.

І няхай герой пакуль яшчэ не вызваліўся ад некаторых ідэалістычных уяўленняў пра паходжанне і характар хрысціянства, але

тая і вострая і страсная крытыка служыцеляў царквы, якая тут дадзена, уваскрашае лепшыя традыцыі французскай антыклерыкальнай літаратуры. З той толькі розніцай, што нават лепшыя буржузныя пісьменнікі—антыклерыкалы, выступаючы супроць царквы, хацелі „раздушыць гэтую гадзіну“ (Вальтэр), але не выступалі супроць рэлігіі, як супроць сістэмы закабалення мас, а Барбюс нават на гэтым этапе свайго ідэйнага развіцця ўвязаў крытыку рэлігіі з крытыкай усяго капіталістычнага грамадства і ў гэтым яго гістарычная роля.

Як мы ўжо казалі, нарастанне новай ідэялогіі звязана з асабістай драмай. Герой прыходзіць да сутычкі з усім акружэннем і нават з сваёй жонкай. Гэта сціплая і адданая яму жанчына нават першая спрабуе аказаць яму супраціўленне. Будучы выхаванай у духу пакорлівасці і некрытычных адносін да „аўтарытэтаў“, яна супроцьставіць дапытлівасці мужа жыццёвую „мудрасць“ падпарадкавання. У адказ на ўсе сумненні мужа яна ведае толькі адно:

„— Ах!—кажа яна,—я ніколі пра гэта добра не думала. Мне заўсёды гаварылі пра бога, і я заўсёды ў яго верыла. Але сама я добра не ведаю... Я ведаю толькі адно,—дадае яна гледзячы на мяне сваімі блакітнымі вачамі,—што ілюзія неабходна. Народу патрэбна рэлігія для таго, каб ён мірыўся з цяжкасцямі жыцця, з ахвярамі...“ (стар. 160).

Але муж, які пераканаўся на сваім уласным вопыце як рэлігія „дапамагае“ і „суцяшае“, ужо далёка адышоў ад гэтай пазіцыі і якая-б там ні была ілюзія не толькі не супакойвае яго, але выклікае ў яго глухое раздражненне. Ілюзіі—прычына ўсіх зол—вось асноўны вывад, да якога ён цяпер прышоў.

Ціхая і сціплая Мары не можа прымірыцца з тым, што муж ідэйна з кожным днём усё больш і больш аддаляецца ад яе. Яна аплаквае мінулыя дні, калі яны жылі сумесным жыццём, калі іхныя інтарэсы і жаданні, часамі разыходзячыся ў дробязях, не пераставалі быць агульнымі і ўзаемна зразумелымі. Барбюс тут намаляваў глыбока драматычную калізію пра людзей, якія жывуць разам толькі паводле інерцыі і прывычкі, але ў якіх няма нічога агульнага.

Гэтыя людзі перажываюць кожны па-свойму: ён страціў веру і поўнасцю яшчэ не набыў новую, а яна слухае кожны дзень чужыя сумненні, не маючы магчымасці ацаніць іх важнасць. Гэта прыводзіць да адчужанасці. Барбюс паказвае ў далейшым як гэтыя людзі зноў сойдуцца і пачнуць гаварыць на адной мове, але спачатку ён яшчэ раз правядзе свайго героя праз рад душэўных канфліктаў і сутычак з акружаючым асяроддзем. Гэтай тэме прысвечаны апошнія раздзелы рамана. І хаця аўтару даводзіцца цяпер зноў мець справу з сваім ранейшым персанажам, але ўсе яго характарыстыкі і ў весь тон яго пісьма рэзка змяняецца. Ад апавядальнай манеры з лёгкім налётам скептыцызма і досыць дабрадушнага юмара, ён пераключаецца на тон вострага сатырычнага высмейвання. Характарыстыкі і партрэты, што даюцца ў гэтай частцы кнігі, робяцца едкімі і вострымі.

Апошнія раздзелы рамана, такім чынам, прысвечаны крытыцы канкрэтных аб'ектаў і фактаў капіталістычнай рэчаіснасці і вытры-

маны ў тым-жа абурана-памфлетычным тоне, як і „Агонь“, „Звенні“ і іншыя творы Барбюса. Гэтыя раздзелы з‘яўляюцца згусткам нянавісці супроць капіталістычнага грамадства. Адзінае, магчыма, што выклікае супярэчанне, гэта: нотка недаверлівасці да розуму і рэволюцыйных магчымасцей народных мас, якіх аўтар бачыць у занадта цёмных фарбах. Гэтая нотка тым больш муліць вока, што Барбюс ужо меў к таму часу (не кажучы ўжо пра час напісання „Звенняў“, 1924 г.) не мала фактаў, каб пераканацца ў тым, што гэтыя масы могуць быць не толькі аб‘ектамі, але суб‘ектамі свайго лёсу. Гэтыя „левыя“ сказы ўсё-ж не зніжаюць асноўнай якасці гэтага надзвычайнага рамана: што Барбюс у яснай і пераканаўчай форме яшчэ раз паказаў шырокім масам усю фальш і жорсткасць капіталістычнага ладу, што ён яшчэ раз звярнуўся да гэтых мас з гарачым заклікам змагацца за новы, светлы свет соцыялізма. Гэта адразу зразумелі ўсе ворагі народа і пачалі супроць яго дзікае цкаванне. Надзвычайны і ўспрыймальны мастак Барбюс не разгубіўся ад гэтага, але яшчэ больш загартаваўся і ўмацаваўся ў сваіх новых перакананнях і гэта прывяло яго да новага этапа ў яго творчасці, але пра гэта пасля.

У нашай крытыцы ўжо неаднаразова зазначалі пра сапраўдны характар творчасці Барбюса. Барбюс ніколі не прыходзіць да тых або іншых вывадаў разумовым, габінетным шляхам. Усе яго асобныя творы з‘яўляюцца адлюстраваннем і мастацкім абагульненнем таго або іншага этапа палітычнай дзейнасці аўтара. Гэта мы ўжо бачылі ў „Святле“, адбіваючым ідэйныя пошукі аўтара на першым этапе яго рэволюцыйнай дзейнасці. Гэта мы знойдзем і ў наступным яго буйным творы, у рамане „Звенні“ (1924 г.). Іменна ў гэтым творы Барбюс абагульняе цэлы этап ідэйных пошукаў і ставіць сабе, не гледзячы на спецыфічнасць жанру (гістарычны раман), рад актуальных палітычных задач. У гэтым рамане Барбюс фіксуе сваю ўвагу на такім матэрыяле, які адрасаваны, галоўным чынам, да чытача інтэлігента. Іменна гэтага чытача ён меў на ўвазе, калі ажывіў у сваім творы факты і падзеі далёкага мінулага і менавіта на гэтага чытача ён арыентаваўся, чэрпаючы і апрацоўваючы матывы і вобразы з старажытнай міфалогіі, сярэдневяковых сказанняў і г. д.

Чым была абумоўлена гэтая кніга, якая аперыруе такім, здавалася-б, абстрактным матэрыялам? Што штурхнула Барбюса адыходзіць у глыб гісторыі іменна цяпер, калі ён цалкам акунуўся ў актыўную палітычную барацьбу? У прадмове да кнігі Барбюс сам папярэджвае чытача, што яму давядзецца мець справу з палітыкай, што іменна яна з‘яўляецца мэтаю і зместам кнігі:

„Не адварачвайцеся з словамі: „Зноў палітыка!“. Пытанне куды глыбейшае, чым вы думаеце. Хай гэта справа палітыкі, г. е. жывой штодзённасці, няхай; але перш за ўсё гэта ёсць справа ўладнай логікі і нраўственасці, якія павінны ўзрушыць цяперашняе пакаленне і прымусіць яго адыйсці ад тысячагадовай хлусні і ад перспектывы бездані, якая раскрываецца перад ім, вось чаму ў гэтай кнізе я звяртаюся з адчайным заклікам да чалавечае свядомасці“ (стар. 9) *).

*) „Звенья“, Гиз, 1925 г.

На чый-жа адрас былі сказаны гэтыя словы, каго тут аўтар меў на ўвазе? Далейшыя выказванні Барбюса ўдакладняюць гэта. „Няхай інтэлігенты не будуць апошнімі сярод тых, хто зразумеў які разумны і высокі, які велічны і ўдзячны гэты ўсеагульны ўздым, які пакуль захапіў толькі меншасць, але які ад гэтага не робіцца меншы, і які ёсць „Сіла і Розум“ („Звенні“, стар. 10.)

Барбюс, як бачым, аперуе тут не соцыяльнымі тэрмінамі, але абстрактнымі маральнымі катэгорыямі („сіла“, „розум“), бо ён ведаў свайго чытача, ведаў усе яго забабоны і сваю задачу ён разумее такім чынам, каб гэтага чытача не „адпужнуць“, а цярпліва і паступова перавыхаваць яго.

Барбюс ужо меў к таму часу багаты вопыт работы з інтэлігенцыяй У 1919 г. ён стварае аб'яднанне перадавой інтэлігенцыі „Кляртэ“ і піша для гэтай групы маніфест пад назвай „Святло з бездані“. У гэтым дакуменце, як і ў шэрагу другіх, якія адносяцца к гэтаму перыяду, ён заклікае лепшых прадстаўнікоў літаратуры і навукі, стаць на бок барацьбітоў за комунізм. Барбюс тут нязменна варочаецца да аднэй тэмы,—што „соцыяльная сістэма, якой падпарадкуецца род чалавечы, гаворыць: удача асобных людзей і паражэнне масы; усе для аднаго і нічога для ўсіх“. („Святло з бездані“ ГИЗ Украины, 1923 г., стр. 14.)

Гэты закон, як яго называе Барбюс, які пануе ў грамадстве прыватнай уласнасці і які працягваецца ўжо тысячагоддзі, робіцца прадметам яго пільнага вывучэння. Да яго ён варочаецца ў многіх сваіх творах і ён знаходзіцца ў цэнтры ўвагі аўтара і тут.

Ужо ў сваіх ранніх творах Барбюс выявіў адну творчую асаблівасць, схільнасць да шырокіх гістарычных і філасофскіх абагульненняў. У гэтым сэнсе Барбюс наследуе лепшым традыцыям рэалістычнай літаратуры мінулага, якая адлюстравала асноўныя, самыя важныя праблемы свайго часу. Гэтая асаблівасць Барбюса асабліва выяўляецца ў яго рамане „Звенні“. У гэтай кнізе грандыёзнай па свайму глыбокаму і ўсебаковаму ахопу гісторыі чалавецтва на працягу многіх вякоў, Барбюс праявіў сябе, як надзвычайны мастак, які ніколі не супакойваецца на дасягнутым. Пра гэта сведчыць не толькі багаты ідэйны змест кнігі, але і яе складаная і непрывычная форма, якая рэзка вылучае яе не толькі сярод іншых твораў Барбюса, але і ў сучаснай літаратуры наогул. Пачаць хоць-бы з таго, што гэтая кніга па сваіх жанравых і кампазіцыйных асаблівасцях ніяк не ўкладваецца ў прывычныя рамкі літаратурных азначэнняў, што Барбюс шукае своеасаблівую форму, якая адпавядала-б яе складанаму зместу.

Сам Барбюс сфармуляваў сваю задачу ў гэтых адносінах наступным чынам: „Магчыма раманісты назавуць гэту кнігу „кнігай па гісторыі“; магчыма гісторыкі без усякіх скідак назавуць яе раманам і магчыма як тыя, так і другія будуць правы. Не стану прадрашаць гэтыя спрэчкі.

Я хочу толькі сказаць тут, што калі я пастараўся асаблівым прыёмам пабудовы надаць рамкам „рамана“ выключныя, беспрыкладныя ў гісторыі літаратуры прапорцыі, дык зрабіў я гэта таму, што хацеў увесці ў кнігу столькі разрозненых здарэнняў, колькі

не мог бы дазволіць, які-небудзь звычайны збіты прыём. І яшчэ хацеў я, каб гэтыя рамкі адпавядалі-б шырынёю свайго ахопу ўсяму таму, што вынікае з калектыўных фактаў" („Звенні", стар. 5).

І далей: „Перш за ўсё я разгубіўся ў масе дакументальных дадзеных. Гэта, вядома, тое, што і патрэбна было перш за ўсё: разгубіцца або па меншай меры быць аднаму, не ўносіць ніякай загадзя акрэсленай думкі ні ў тое, што датычыць зместу, ці нават у тое, што датычыць формы работы. Я спрабаваў аддацца талкаванню жыцця з палам, з самаадданасцю і з руплівай увагай; я ведаў, што загадзя акрэсленая думка сказіла-б малюнак і дазваляў сабе адчуваць толькі сапраўднае здзіўленне і хваляванне. Аднак-жа, каб стварыць нешта цэласнае, я адважыўся пабудаваць раман па новаму ўзору, і калі я спрабаваў прывесці да аднаго знамянацеля ўсю рознастайнасць фактаў, мне здавалася, што я спрабую вобмацкам розныя формы мастацтва: раман, паэму, драму і нават вялікія перспектывы кінематаграфіі і вечна новую праблему фрэскі" („Звенні", там-жа).

Барбюс далей кажа, што ён тут не меўся дасягнуць сінтэзу ўсіх жанраў, што ён тут нават дапусціў некаторыя запазычванні, але пры ўсім тым, усякі бесстаронні чытач, можа пераканацца, што ў гэтай кнізе можна знайсці водгук яго „ранейшых твораў і што ў гэтых зменлівых дэкарацыях, населеных прывідамі, мёртвымі, але не жадаючымі скарыцца смерці, некаторыя з гэтых дабразычлівых чытачоў знойдуць глыбокія кіруючыя ідэі" (там-жа).

Мы лічылі патрэбным падаць гэтыя вялікія вытрымкі з прадмовы Барбюса да рамана па двух прычынах: па-першае, мы тут знаходзім выдатную характарыстыку яго творчага метаду; па-другое, Барбюс тут развівае рад палажэнняў, якія маюць значную цікавасць для нашай літаратуры.

Барбюс, як мы тут маглі пераканацца, лічыць асноўнай з асаблівасцей яго рамана яго дакументальнасць. У гэтых адносінах ён тут спрабаваў рэалізаваць адзін з асноўных прынцыпаў Заля, якому ён прысвяціў выдатную кнігу. Але пры ўсіх яго станоўчых адносінах да Заля, ён далёкі ад якога-б там не было кап'явання яго, або якога-небудзь іншага пісьменніка мінулага. Таму ён тут адмовіўся як ад традыцыйнай формы „класічнага рамана", з яго павольным разгортваннем сюжэта, так і ад якой-небудзь іншай кананізаванай формы. Пабудаваўшы раман на гістарычна праверанным і дакументальным матэрыяле, Барбюс менш за ўсё схільны быў ператварыць гэты матэрыял у нейкую зводку фактаў, або гістарычную хроніку. Як і ў сваіх іншых творах, Барбюс і тут не спыняецца перад тым, каб смела „змяшаць" жанры, перастаўляць кампазіцыйныя плоскасці і г. д.

У гэтых адносінах раман Барбюса б'е па „глыбокадумных" пабудовах многіх нашых вульгарных соцыёлагаў, якія прэтэндуюць на ролю савецкіх Буало, і спрабуюць так „разрэгламентаваць" нашу літаратуру, што калі нашы пісьменнікі прыслухоўваліся-б да іх голасу, яны былі-б літаральна звязаны па руках і нагах. Напомнім да прыкладу той факт, што крытык Нусінаў у свой час хацеў у парыве празмернага старання забараніць як „крамолу" такі жанр як трагедыя, і велікадушна ўступіў буржуазіі нават гумар, чым ён

і іншыя „артадоксы“ выклікалі разумную і вострую крытыку т. Кальцова на ўсесаюзным з'ездзе пісьменнікаў. Але гэтая крытыка відаць не дайшла да ўсіх работнікаў на фронце літаратуры і пасля з'езда ўжо другі „совецкі Буало“ (прафесар Вінер) аўтарытэтна навучаў, што соцыялістычны рэалізм выключае і рознага роду імпрэсіі і перагружанасць метафар і чаго толькі няма! Гэтыя захавальнікі „чыстаты“ ў літаратуры ніяк не маглі зразумець, што, скажам, трагедыя, якая ствараецца рэволюцыйным мастаком, не можа не быць аптымістычнай па сваёй сутнасці („Чапаеў“!) Што мастак-рэволюцыянер, які разумее і разбіраецца ў рухаючых сілах рэчаіснасці, не з'яўляецца рабом свайго матэрыялу і, скарыстоўваючы тыя або іншыя прыёмы імпрэсіяністаў або сімвалістаў, ён не перастае быць рэалістам. Пра гэта лепш за ўсё, як мы ўбачым, сведчыць зноў-такі гэты раман.

Ужо пры выхадзе гэтага рамана ў нас было зазначана, што ён наскрозь сімвалістычны і алегарычны. Барбюс тут не пабаяўся скарыстаць рознага роду сімвалістычныя відзенні, сны і г. д. А такі мастацкі прыём як пераўвасабленне героя служыць нават у якасці асноўнага кампазіцыйнага стрыжня рамана. Паставіўшы сабе на мэце паказаць жыццё людзей на розных этапах гісторыі не з пазіцый сухога гісторыка, які „добру и злу внимает равнодушно“, а пад пэўным кутом гледжання, ён ужывае тут такі прыём, які вонкава нагадвае метад рамантыкаў XIX ст. А іменна, ён паказвае ўсе факты з пункту гледжання чалавека, які ўмее раздвайвацца і жыць адначасова (у відзеннях і снах) жыццём шматлікіх прадстаўнікоў даўно прайшоўшых эпох: Барбюс тут пабудаваў цэлую псіхалагічную тэорыю, якая тлумачыць магчымасць такога пераўвасаблення (гл. на стар. 34 і іншых пра так-званы „метапсіхоз“), у якую ён наўрад ці верыць як у навуковую тэорыю, але як сродак для лепшага паказу даўно прайшоўшых часоў, гэты ўмоўны прыём яму быў патрэбен і ён шырока ім карыстаецца.

І тое-ж самае ў падыходзе да так званых публіцыстычных элементаў у мастацкай літаратуры. Многія нашы крытыкі, будучы зусім некрытычна настроены ў адносінах да рознага роду буржуазных і меншавіцкіх тэорый, „забараняюць“ публіцыстыку ва ўсіх выпадках жыцця, а Барбюс не пабаяўся скарыстаць і гэты „немастацкі“ элемент у сваіх творах і яны ад гэтага не страцілі сваей мастацкай вартасці. Праўда, некаторыя крытыкі Барбюса прытрымліваюцца другога погляду. Н. Чэтунова, напрыклад, лічыць, што „Барбюс не паказвае ў „Святле“ таго новага чалавека, якога вайна нарадзіла на змену „сярэдняму чалавеку“ буржуазнага свету“ (гл. Н. Чэтунова „А. Барбюс“ „Литературный критик“ № 12, 1935 г.) і ўсё гэта таму, што „апошняя частка „Святла“ выпадае з мастацкай ткані рамана і носіць публіцыстычны характар“ (там-жа).

Так лічыць Н. Чэтунова, а Владзімір Ільіч, як вядома, пісаў нешта іншае па гэтаму поваду: „Адным з асабліва наглядных пацверджанняў усюды назіраемай, масавай з'явы росту рэволюцыйнай свядомасці ў масах можна прызнаць раманы Анры Барбюса: „De feu“ („В огне“) „Glarté“ („Яснасць“). Першы перакладзены ўжо на ўсе мовы і распаўсюджаны ва Францыі ў ліку 230.000 экземпляраў.

Ператварэнне зусім цёмнага, цалкам прыдушанага ідэямі і забабонамі, абывателя і масавіка ў рэвалюцыянера іменна пад уплывам вайны паказана надзвычай моцна, таленавіта, праўдзіва. („Пра задачы III Інтэрнацыянала“ т. XXIV, стар. 396—97, падкрэслена мной Л. Ц.)

У многіх нашых крытыкаў праблема суадносін мастацкасці і публіцыстыкі трактуецца яшчэ з пазіцый Плеханава, які лічыць, што публіцыстыка „урываецца“ ў мастацкі твор і на гэтай падставе ігнаруе прагрэсіўна-дэмакратычную літаратуру другой паловы XIX ст. Гэтыя крытыкі ўпарта не хочуць заўважаць такі факт, як творчасць Барбюса, які як правіла заўсёды абагульняе момант мастацкага перараджэння сваіх герояў у плане усхвалёванай яркай і глыбокай філасофскай публіцыстыкі. Іншыя ж (як тая-ж Чэтунова) абмяжоўваюцца стандартным „аднак“, гаворачь вялікадушна некалькі камплімэнтаў на адрас Барбюса мастака і лічаць сваю задачу скончанай. Разглядаць творчасць Барбюса трэба так, як яно ёсць і тады мы ўбачым, як надзвычайны гэты мастак умеў уліваць новы змест у старыя формы, як ён гэтыя старыя формы прымушаў гаварыць па-новаму. Барбюс ведаў гэтую творчую тайну, таму і не баяўся складаных наватарскіх эксперыментаў, бо ён кіраваўся пры гэтым не мёртвымі фармалістычнымі імкненнямі, а высокімі мэтамі сапраўднага рэвалюцыянера. Гэта гарантавала і ідэйны і мастацкі поспех творам Барбюса.

6

Што з сябе ўяўляе герой рамана, якому суджана было „пераўвасабіцца“ і пражыць разам з сваімі гістарычнымі двайнікамі іх трагічны лёс?

Герой яго рамана малады паэт Клеман Трашэль, які „не напісаў нічога высокага, але які сам толькі парыванне“ (стар. 15) расказвае пра сябе, што ён „пабыў у ланцугу істот, які, прайшоўшы праз сто тысяч год жыцця чалавецтва, закончыўся ў ім“ (стар. 37).

Барбюс, як мы ўжо сказалі, скарыстаў тут метад, які ў многім нагадвае метад рамантыкаў і сімвалістаў, але ў адрознасць ад іх ён не ператварае жыццё ў сон, але робіць рэчавымі сны і відзенні свайго героя, напаўняе іх канкрэтным гістарычным зместам.

Выбраўшы ў якасці героя свайго твору паэта, які жыве больш сваім унутраным жыццём, чым рэальнай рэчаіснасцю, Барбюс тут дамогся падвойных вынікаў: гэты малады чалавек дзякуючы сваёй лятуценнасці больш чым хто-небудзь іншы валодае здольнасцю „пераўвасаблення“ і праз лёс гэтага маладога чалавека Барбюс здолеў яшчэ раз прадэманстраваць адзін з шляхоў, якія вядуць да рэвалюцыі.

І як ва ўсіх творах Барбюса мы і тут павінны будзем шукаць у гістарычных экскурсах паэта Клемана Трашэля водгук (калі не простае адлюстраванне) тых ідэй, якія хвалявалі самога Барбюса. Адгэтуль той страсны тон, той пафас асуджэння, якім вылучалася,

гэта здавалася-б, акадэмічная кніга—страсны барацьбіт Барбюс не разгубіў сваіх рэволюцыйных якасцей і пры адлюстраванні жыцця глыбокай старыны. Герой рамана акрэслена выражае погляд самога аўтара, калі кажа, што ён падыходзіць да гістарычных напластаванняў не з пункту гледжання археолага, але як барацьбіт за будучыню.

„Я бачу, што мы,—яны (г. е. археолагі) і я,—зацікаўлены адным і тым-жа, хоць і ясна ўсведамляю, што паміж намі няма нічога агульнага. Я—у жыцці, яны ў смерці. Я ўваскрашаю да жыцця мінулае, як прарок таго, чаго няма ўжо („Звенні“, стар. 141—142.)

Такім чынам гісторыя не з'яўляецца для Барбюса мёртвай кнігай, схаванай за сям'ю пячаткамі, а таксама не самадаўлеючым прадметам вывучэння, але жывым творам, у якім ён вычытвае не столькі пра людзей мінулага, як цяперашняга і будучага. Учытваючыся ў надзвычайныя замалёўкі мінулага, мы пераконваемся ў тым, што Барбюс падыходзіць да гісторыі не з пункту гледжання вульгарных соцыолагаў, якія бачаць у гісторыі толькі „палітыку, звернутую ў мінулае“ (Пакроўскі), а імкнецца ўхапіць аб'ектыўную заканамернасць гістарычнага працэсу. Але Барбюс нічога агульнага не мае з буржуазнымі „аб'ектывістамі“, якіх Ленін так бліскуча ахарактарызаваў у сваёй працы: „Эканамічны змест народніцтва“:

„Аб'ектывіст гаворыць пра неабходнасць данага гістарычнага працэсу; матэрыяліст канстатуе з дакладнасцю даную грамадска-эканамічную фармацыю і антаганістычныя адносіны, якія ёю нараджаюцца. Аб'ектывіст, даводзячы неабходнасць данага раду фактаў, заўжды рызыкуе збіцца на пункт гледжання апалагета гэтых фактаў; матэрыяліст ускрывае класавыя супярэчнасці і тым самым вызначае свой пункт гледжання. Аб'ектывіст гаворыць пра „неадольныя гістарычныя тэндэнцыі“; матэрыяліст гаворыць пра той клас, які „загадвае“ даным эканамічным парадкам, ствараючы пэўныя формы супроцьдзеяння іншых класаў. Такім чынам, матэрыяліст, з аднаго боку, паслядоўней за аб'ектывіста і глыбей, паўней праводзіць свой аб'ектывізм. Ён не абмяжоўваецца ўказаннем на неабходнасць працэсу, а высвятляе, якая іменна грамадска-эканамічная фармацыя дае змест гэтаму працэсу, які іменна клас акрэслівае гэтую неабходнасць... З другога боку, матэрыялізм уключае ў сябе, так-сказаць, партыйнасць, абавязваючы пры ўсякай ацэнцы падзеі проста і адкрыта станавіцца на пункт гледжання пэўнай грамадскай групы (Ленін, т. I, стар. 275—276).

Барбюс „адкрыта ўключыў у сябе партыйнасць“, адкрыта праводзіў „пункт гледжання пэўнай грамадскай групы“—пункт гледжання пролетарыяту і ўсё-ж ён быў больш аб'ектыўным, чым усе буржуазныя „аб'ектывісты“.

Рэволюцыйная пазіцыя Барбюса дае яму шырокую магчымасць для сапраўднага і поўнага гістарычнага аб'ектывізма. Гістарычны матэрыял сам па сабе, па-новаму прачытаны і ўбачаны, поўнасцю пацвярджае ўсе яго вывады. І як-бы аўтар ні быў усхваляваны апісваемым фактам, як-бы ён ні гарэў абурэннем у дачыненні да „ликующих, праздно болтающих, обагряющих руки в крови“, ён

не становіцца ні на шлях падмены фактаў, ні адвольнага іх тлумачэння. Барбюс з'яўляецца для гэтага занадта сумленным і ўнутрана пераконаным рэволюцыйным пісьменнікам.

7

Першае ўражанне, якое мы атрымліваем пры чытанні „Звенняў", гэта тое, што ў кнізе пануе „лірычны непарадак" і асобныя факты не падпарадкаваны нейкай большай агульнай ідэі. Але гэта толькі агульнае ўражанне. Барбюс з'яўляецца мудрым гаспадаром свайго матэрыялу і кожная мастацкая дэталь ім глыбока прадумана і знаходзіцца ў адпаведнасці з агульным мастацкім замыслам. Асобныя часткі „Звенняў", як ужо неаднаразова адзначалася ў нашай крытыцы, нагадваюць частковыя музыкальныя матывы, разрозненыя лірычныя і філасофскія мініатуры. Але раман Барбюса ад гэтага не траціць свайго адзінства, бо праз усе яго факты, лірычныя настроі і філасофскія абагульненні праходзіць чырвонаю ніткаю матыў, які надае яго своеасаблівую ідэйную і лірычную афарбоўку, ствярае яго ўнутраны рытм. Гэта матыў пра чалавечыя пакуты, якія характарызуюць твар усіх мінулых грамадскіх фармацый.

„Далёкі ад галасоў я пакутую. Усе мае ўспаміны перакладаюцца так: я пакутаваў. Як я пакутаваў! Калі-б я павінен быў перажыць гэта зноў, я згадзіўся-б лепш памерці. Якая пакута? Дзе? Фізічная, маральная? Я не ведаю. Але я пакутую ад жыцця, боль усіх іншых адарваўся ад іх, каб упасці на мяне, („Звенні", стар. 238.)

Так скардзіцца герой рамана, які перажыў разам з яго шматлікімі безымяннымі двайнікамі ўсе іхныя пакуты. Гэта пачуццё паэта Клемана Трашэля матэрыялізавана ў такіх яркіх і страсных карцінах, што яны нас захапляюць, не даюць заставацца абыякавымі да фактаў „даўняй старыны". Барбюс здолеў ажывіць перад намі ў надзвычайных малюнках вялікі страх першабытнага чалавека перад грознымі сіламі прыроды, нечалавечыя ўмовы жыцця раба ў старажытнай Халдзеі або Вавілоне, пакутлівую працу яго ў Егіпце, дзікасць і варварства сярэдневякоўя, заняволенне чалавечай асобы пры капіталізме.

Мастацкі вобраз Барбюса заўжды максімальна асэнсованы і сімвалічны і кожная асобная яго зарысоўка нясе ў сабе нагрузку вялікіх абагульненняў. Калі Барбюс паказвае ўмовы працы людзей старажытных грамадскіх фармацый, ён аднначасова дае надзвычайна яркае, выключна вострае ўяўленне аб працы наогул.

„Я бачу,—расказвае пераўвасоблены Клеман Трашэль,—цяжкую пару закарузлых босых ног з цвёрдымі, нібы капыты пазногцямі: чалавек.

Да гэтага часу, дзень за днём, звяно за звяном ён толькі і рабіў, што працаваў, еў і спаў, каб зноў працаваць. Яго лёс, як на далоні—ад пачатку да канца. Ён жыве—стоячы, сагнуўшыся, лежучы—вось усё. Жыве („Звенні", стар. 77.)

А больш канкрэтна гэта выглядае такім чынам:

„Яны злыя і твары іхныя ў часе працы—твары грэшнікаў у пекле. Пот слязіцца на скуры. Шэраг раменстваў, як шэраг жалоб.

У грузчыка змулен карак і жывое мяса клоччамі вісіць на спіне; каваль махае без спачыну і адбівае сабе кулакі і плечы; каменшчык сагнуўся на кукарках так, што булыжнік да касці яму прагрызае калена, і пыл на сонцы выядае яму вочы і, пакуль ён з дня ў дзень, пункт за пунктам змяняе твар зямлі, сам ён слепне і сохне. Свістлівае дыханне рабочага гуты змагаецца з гарачым дыханнем печы, якое абпальвае яго, карабаціць і сушыць...

К канцу дня яны даходзяць да поўнага знясілення. Увечары каменшчык нясе на спіне цяжар сцяны, дрывасек з прабітымі далонямі цягне дрэва. Рыбак адвольна гайдаецца нібы тапелец. Араты нясе зямлю мертвых. Бо як на пульхных палях, так і ў цвёрдым каменні насаджваецца шум жалеза і чалавек прыбіт да зямлі“. („Звенні“, стар. 73.)

Гэта „заняволеная праца“, а вось „эксплаататацыя“:

„Вялікі самаўладца хітры, непахісна кіруе ён каменацёсам, які з'яўляецца толькі прыладаю прылады. Ён прымушае раба выразаць на камені злева направа і справа налева—надпіс, які прадоўжыць яго славу ў патомстве і выразаць яго імя—адзнаку яго бліскучага адзіноцтва“. („Звенні“, стар. 23.)

У гэтых надзвычайных зарысоўках, якія так і просяцца на палатно мастака або пад разец скульптара, Барбюс, як бачым, заўсёды выходзіць з рамак лакальнага факта, а абагульняе іх да сусветна-гістарычных катэгорый. Але не за лік рэалістычнай канкрэтнасці і не ў імя халоднага „акадэмізма“. Карціны Барбюса на гэтую тэму максімальна насычаны соцыяльным асэнсаваннем факта, дыхаюць гневам страснага рэволюцыянера і толькі с у ч а с н ы я асацыяцыі маглі выклікаць гэтыя гнеўныя зарысоўкі пра заняволеную працу і прыніжэнне чалавечае асобы. Што датычыць канкрэтнасці, то ўся кніга Барбюса з усімі яе фактамі становіць сабою літаральна абвінаваўчы акт супроць эксплаататарскіх класаў абсалютна ўсіх да-соцыялістычных фармацый.

„У жыцці не хапае радасці для ўсіх“—гэта думка, выказаная адным з герояў кнігі, праходзіць чырвонай ніткай праз усе асобныя эпізоды і факты, у ёй апісаныя. З гэтым героем пераклікаецца другі, які кажа, што радасці не хапае таму, што „шчасце аднаго ствараецца на няшчасці другога“. („Звенні“, стар. 30.)

Гэта тэзіс, але не голы, не абстрактны, а падмацаваны пякучымі фактамі, якія малююць жыццё людзей і ў цмяныя эпохі старажытнага свету і ў змрочныя часіны сярэдневякоўя і ў засценках капіталістычнага грамадства. Шырыня і ахоп кругагляду Барбюса, сіла яго мастацкіх сродкаў выключна вялікія і глыбокія. Адмаўляючыся ад метаду паступовага разгортвання традыцыйнага рамана, Барбюс стварыў такую галерэю вобразаў, намаляваў такія надзвычайныя карціны з жыцця мінулага, што яны ажыўляюць перад намі гісторыю больш, чым шмат-томныя гістарычныя доследы.

Цяжка даць хоць-бы прыблізнае ўяўленне пра ўсе факты здзекаў з чалавечай асобы, якія сабраў і ператварыў у мастацкія вобразы Барбюс. Мы тут знойдзем выключна яркі і скупы па сваіх мастацкіх сродках расказ пра сумны лёс двух каханкаў, якія не маюць права на каханне толькі таму, што яны „чорная косць“, і апісанні

жорсткіх нраваў сярэдневякоўя і карціны руйнавання „непакорлівых“ вёсак і калоній і шмат другога. Ва ўсіх гэтых мясцінах стыль рамана робіцца асабліва вострым і нагадвае лепшыя ўзоры соцыяльнай сатыры ў сусветнай літаратуры.

„Сваімі рукамі яны ствараюць мяне. Гэты замак—прыгожы і радасны твор рабочых, што працавалі з гордасцю і нават горш—без радасці. Іхная радасць невядомая ім, яна ва мне неабдымная. Яны—усё і нішто. Іх многа, у іх ёсць цела, скура, кроў, пячонка—усё... І на рыштаваннях, на самай вышыні ўся іх крыклівая гурма астаецца мною — Эгбертам, уладарным баронам Эльхо“. („Звенні“, стар. 103.)

Так кажа гэты ўладарны барон, выклікаючы ў нашай памяці славутыя словы, што „каралеўства—гэта я“. А што з сябе ўяўлялі гэтыя закаханыя ў сябе ўладары Барбюс паказаў у выключна вострай сатырычнай зарысоўцы (гл. главу „Адпаведнасці“) пра старога манарха, які ўяўляе з сябе мяшок старых струхлелых касцей, і царствуе толькі таму, што ён сядзіць на троне; або ў надзвычайнай карціне пра каранацыю караля, калі народ з-пад палак крычыць: „хочам яго“... Ва ўсіх гэтых мясцінах Барбюс пакідае свае прывычныя імпрэсіі і сімвалы і пераключаецца на тон едкай сатыры і страснай соцыяльнай патэтыкі. Удары, якія ён начосіць тут сістэме эксплаатацыі і прыгнёту народных мас, справядлівыя і важкія.

9

У сваіх поглядах на гістарычны працэс Барбюс рэзка адыходзіць ад лагера буржуазных гісторыкаў і ў супроцьвагу ім ён заўсёды шукае ў гісторыі не тое, што падзяляе адну гістарычную эпоху ад другой, адзін грамадскі факт ад другога (напомнім пры гэтым, што буржуазны гісторык Рыкерт, напрыклад, лічыць гэты „індывідуалізуючы“ прынцып асновай гістарычнага працэсу), а тое што аб'ядноўвае і робіць падобнымі асобныя гістарычныя факты.

Што з'яўляецца галоўнай рухаючай сілай гісторыі? Барбюс на гэта адказвае такім чынам:

„Я гаварыў пра факты, якія з'яўляюцца як рухавая панарама рэчаў. Першы з гэтых фактаў, развіццё якога аднолькава можна назіраць, як у калектыве, так і ў асобе, як у часе, так і ў прасторы,—ёсць істотнае падабенства, якое звязвае галоўнейшыя чалавечыя сітуацыі. Іншымі словамі—гэта ёсць *жахлівая аднастайнасць гісторыі*. Паміж крызісамі і аднаўленнямі, якімі адзначаюцца фазы эвалюцыі грамадства, *розніца, бадай толькі вонкавая і ўяўная, тады, як падабенства заўсёды глыбокае*“. („Звенні“. стар. 67.)

Некаторыя крытыкі Барбюса бачылі ў такім падыходзе да гісторыі ідэалістычную канцэпцыю, імкненне да нейкіх „лагічных абсалютаў“, якія выхалашчваюць з гісторыі яе канкрэтны змест. І. Анісімаў адзначае як недахоп рамана наступныя яго якасці: „Надзвычайная адцягненасць, крайні схематызм, пафас, які часамі робіцца хадульным і нарэшце вельмі характэрная кампазіцыя рамана, якая спалучае надзвычай шырокі размах зместу (схема сусветнай

гісторыі) з вельмі абмежаваным, супярэчачым усяму складу рэчы, вузка індывідуальным матывам (са старонак рамана не сыходзіць „я“, якое філасофствуе і пакутуе). Усё гэта пазбаўляе раман арганічнасці, сапраўднага рэволюцыйнага сэнсу, перашкаджае яму ўзняцца да свайго грандыёзнага замыслу (І. Анісімаў—артыкул пра Барбюса у „Литературной энциклопедии“, т. І, стар. 345).

А. Н. Чэтунова ў цытаваным ужо намі артыкуле таксама лічыць, што Барбюс быў „схільны ў звеннях абсалютызаваць паняцці ісціны, справядлівасці, права, абстрагуючыся ад канкрэтнага гістарычнага сэнсу гэтых катэгорый“.

У гэтых выказваннях пра „Звенні“ уражае галоўным чынам непаслядоўнасць іх аўтараў: бо калі „Звенні“ аперуюць не канкрэтнымі гістарычнымі фактамі, а нейкімі абстрактнымі абсалютамі, дык у чым-жа выяўляецца яго рэволюцыйны сэнс? У чым заключаецца яго грандыёзны замысел? Спрачацца супроць гэтых вывадаў не даводзіцца таму, што ў гэтых выказваннях змазваецца спецыфіка твору і раману Барбюса навязваюцца такія задачы (канкрэтнае вывучэнне асобных гістарычных эпох), якія не ўласцівы яму, як мастацкаму твору. Што датычыцца імкнення Барбюса знайсці ў гісторыі чалавецтва тыя моманты, якія ствараюць яе пункты сутыкання, якія паказваюць яе агульнасць і заканамернасць, а не выпадковасць і адвольнасць яе асобных фактаў, то ў гэтым зноў-такі нічога ідэалістычнага няма.

Іменна ў святле гэтага імкнення разглядаць гісторыю як „падабенства“, а не як „розніцу“ можна, напр., зразумець яго крытыку таго грамадскага ладу, які пры сваім нараджэнні абвясціў лозунг пра „роўнасць і брацтва“.

Барбюс выяўляе свае адносіны да буржуазнай рэволюцыі 1789 г. у надзвычайным дыялогу паміж арыстакратам феадальнага грамадства і „арыстакратам“ грашовага мяшка. Гэта своеасаблівы і востры слоўны „бой“ (гэтыя двое спрачаюцца паміж сабою), але ў канцы гутаркі яны мала ўсміхаюцца адзін аднаму і сыходзяцца на тым, што ўласна спрачацца ім няма пра што, што разыходзячыся ў сваіх метадах яны астаюцца аднадумцамі ў сваіх мэтах (гл. главу „Старая камедыя“).

А аўтар? — Якая яго ўласная пазіцыя? Барбюс згодны з апошнім вывадам гэтых людзей, але ён не можа ўсміхацца пры гэтым, як гэтыя паны, або абмяжоўвацца халоднай канстатацыяй факта; у яго пры гэтым вырываюцца гарачыя словы, ён не перастае выкрываць і абвінавачваць. Барбюс вядома не стаіць на па-за гістарычнай глебе і не адмаўляе значэння буржуазнай рэволюцыі, але ў святле сусветна-гістарычнага працэсу ён разумее, што гэта буржуазная рэволюцыя „нічога не змяніла ў рабстве народаў“ („Звенні“, стар. 187), „што яна асвяціла канфіскацыю працы і гандлю (якія ідуць ад народа) парадкам назаўсёды ўстаноўленым і рымскім правам“ (стар. 87). Розніца паміж буржуазным панаваннем і дэспатыямі мінулых вякоў такім чынам толькі ў тым, што „калісьці ў цемры вякоў каста ўкраціцеляў натоўпу была закрытай, цяпер яна адкрыта для актыўных абраннікаў, якія ўліваюць у яе новую кроў“ (там-жа).

Агульны вывад, да якога Барбюс прыходзіць; „...Французская рэволюцыя была метэорам, які ярка бліснуў перад тым, як згаснуць... Іззяржэнне слоўнага вулкана і, па праву сказаць, літаратурны росквіт: столькі вялікіх слоў, паэтычных абяцанняў, трагічных клятваў“ (стар. 185).

І далей: „Французская рэволюцыя па кантрасту таго, што яна абвясціла: свабоды з тым, што яна дала,—вашым лібералізмам, ёсць найвялікшы падман, які калі-небудзь разыгрываўся на гістарычнай сцэне“ (стар. 188).

Адзінае, супроць чаго тут можна пярэчыць, гэта тое, што Барбюс сям-там недаацэньвае ролю ідэолагаў буржуазіі эпохі яе рэволюцыі. Ленін піша ў сваім артыкуле „Ад якой спадчыны мы адмаўляемся“, што ідэолагі буржуазіі эпохі буржуазнай рэволюцыі 1789 г., так-званыя асветнікі, што яны „адстойвалі інтарэсы народных мас“ (т. II, 314 стар.). А Энгельс кажа, што: „Великие люди, просветившие умы во Франции и подготовившие, таким образом, грядущую революцию, сами выступали крайне революционно“. („Анты-Дзюрынг“, выдан. 1923 г., стар. 11.) Такую-ж характарыстыку асветніцтва мы знаходзім у „Святым сямействе“, у „Нямецкай ідэалогіі“ і ў іншых творах асновапаложнікаў марксізма.

Але, адступаючы ў тым сім ад погляду Маркса і Энгельса на ідэолагаў буржуазіі эпохі яе рэволюцыі, Барбюс у асноўным усё-ж правільна падкрэслівае, што буржуазная рэволюцыя не апраўдала надзей гэтых вялікіх розумаў, што яна не ўнесла карэнных змен у жыццё народных мас. Барбюс тут паказвае сваімі метадамі мастака,— што, як кажа Энгельс, „царства розуму было нічым іншым, як ідэалізаваным царствам буржуазіі; што вечная справядлівасць ажыццявілася ў выглядзе буржуазнай юстыцыі; што натуральная роўнасць абмежавалася роўнасцю грамадзян перад законам, а істотнейшым з праў чалавека было абвешчана права буржуазнай уласнасці“. („Анты-Дзюрынг“, стар. 12.)

Погляды Барбюса на характар буржуазнай рэволюцыі набываюць асаблівую актуальнасць у святле заўваг тт. Сталіна, Кірава і Жданава аб выкладанні гісторыі, у якіх яны даюць перасцярогу супроць спроб зраўняць буржуазную рэволюцыю 1789 г. з Вялікай Соцыялістычнай рэволюцыяй пролетарыята, у святле выказванняў А. М. Горкага па гэтаму поваду ў сваім дакладзе на з'ездзе совецкіх пісьменнікаў.

У сваёй крытыцы буржуазнага грамадства Барбюс не пакідае ніводнага кутка буржуазнай ідэалогіі, які не быў-бы атакаваны ім, ніводнага рахунку, які не быў бы аплочан. Гэта мы маглі бачыць у яго простых выказваннях, гэта відаць галоўным чынам у яго мастацкіх замалёўках пра жыццё працоўных мас на розных этапах гісторыі. Асабліва там, дзе расказваецца, як у абяздоленых і прыгнечаных адбіраецца іх апошняя надзея—права на калектыўную згуртаванасць.

Дзеці збіраюцца каля вадаёму, але іх праганяюць: разам быць забаронена! Такі „жалезны закон“ усіх прыгнятальнікаў: „аб'ядноўвацца, гуляць разам, пакутваць разам, разам думаць—забаронена! Чаму?—Жабрацкай братве нельга братацца. Беднякі занадта бедныя“. („Звенні“, стар. 79.)

Але не толькі таму. Адзін з продкаў імператара Траяна не дазволіў саматужнікам аб'яднацца ў пажарную каманду, бо „яму прыемней было бачыць, як выгараюць цэлыя кварталы і нават гарады, чым бачыць як аб'ядноўваюцца ў сваіх размовах і думках людзі з здаровым розумам“. („Звенні“, стар. 105.)

Так гаворыць гэты імператар. Лепш ахвяраваць сваім горадам, чым сваёй уладаю...

Барбюс яшчэ і яшчэ раз варочаецца да тэмы, якая літаральна не сыходзіць са старонак усіх яго твораў—да тэмы пра тое, што трэба перастаць быць пакорлівым, што трэба сілаю змагацца супроць сілы. Але могуць сказаць у чым тут арыгінальнасць такога погляду? Няўжо гэтая ісціна не з'яўляецца азбучнай для ўсякага пролетарскага рэволюцыянера? Але сказаць так—г. зн. не заўважыць таго доўгага перыяду ідэйных шуканняў Барбюса, які папярэднічаў яго апошняму этапу літаратурнай і грамадскай дзейнасці.

Іменна гэта праблема неабходнасці гвалту ў рэволюцыі не пераставала цікавіць Барбюса на ўсіх этапах яго творчасці і зусім невыпадкова. Барбюс добра ведаў свайго чытача інтэлігента і ўсе яго „гуманістычныя“ блуканні ў гэтым сэнсе, і ён не перастае цярпліва і настойліва тлумачыць яму адну і тую-ж ісціну, што пакорлівасць—гэта не толькі глупства або чалавечая слабасць, але злачынства. Злачынства перад самім сабою і перад усім народам. Гэтай тэме ён прысвячае адно з сваіх лепшых апавяданняў „Сіла“, дзе ён на гістарычным матэрыяле паказвае тое злачынства, якое зрабіла перад чалавецтвам хрысціянства сваёй пропаведзю пакорлівасці і прымірэння з лёсам.

У „Звеннях“ Барбюс варочаецца да гэтай праблемы, то ў выглядзе простага выказвання, то ў выглядзе мастацкага паказу, і ўсюды ён прыходзіць да аднаго вываду: гвалт масы супроць сваіх прыгнятальнікаў—не злачынства, а заслуга. Палемічная завостранасць усіх гэтых мясцін робіцца асабліва зразумелай калі ўспомніць, што нямала з „прекраснодушных“ інтэлігентаў, якія адзін час пайшлі за Барбюсам (у групе Кляртэ), пасля сапсавалі яму не мала крыві якраз у гэтым пытанні. Пры гэтым Барбюс яшчэ меў магчымасць канстатаваць і такі факт: многія з гуманістаў, якія адышлі ад рэволюцыі з-за яе жорсткасці, хутка вярнуліся ў той лагер, дзе можна рабіць гнусныя справы з прыгожымі словамі на вуснах... Адсюль і часты зварот да гэтай тэмы, адсюль і тон горычы, які адчуваецца ў кнізе.

Герой рамана расказвае, што ўсюды—у бібліятэцы, на выстаўках, ён абкружаны відзеннямі і яны заўсёды напамінаюць яму, што чалавек пакутуе з-за сваёй рабскай пакорлівасці.

„Калі хто хоча абрысаваць чалавецтва адным словам, няхай возьме слова „паслухмянасць“ (стар. 47).

Так канстатуе герой і з гэтым згодзен і яго аўтар. Мы яшчэ вернемся да гэтай тэмы і ўбачым, што Барбюс тут часамі занадта спрашчае гістарычны працэс, што яго формула пра пакуту, як пра самую характэрную з'яву гісторыі, затушоўвае ролю класавай барацьбы, як рухаючай сілы гісторыі. Але як бы гэтая канцэпцыя

Барбюса не вылучалася сваёй сузіральнасцю і некаторым фаталізмам, але вывады, якія ён робіць, з'яўляюцца якраз і правільнымі і дзейснымі. Каб не варочацца да шматлікіх выказванняў Барбюса па гэтаму поваду, падамо поўнасцю маленькі дыялаг, у якім ён паказвае два падыходы да праблемы гвалту-гуманізма:

— „Меркуцыо! Меркуцыо! Не марудзь! Забі! Ты адзін гэта можаш, ты ведаеш яго... Вестка праўдзівая: ён загадаў гэтае начы забіць дванаццаць тысяч падуанцаў сваёй арміі, каб адпомсціць за ўзяцце свайго горада Падуі... Забі Эчэліно, забі Рамано, хоць бы табе давялося ахвяраваць сваім жыццём, каб збавіць ад яго свет.

— Я не баюся загінуць, але я не хачу забіваць.

— Калі ты заб'еш яго, дванаццаць тысяч нявінна асуджаных ім астануцца жыць.

— Не трэба рабіць таго, што асуджаеш у іншага. Няўжо з-за нянавісці і я гвалтоўна пралью кроў!

— Спяшайся! Удар злу ў галаву і сэрца!

— Я не заб'ю і забіваць нядобра.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Эчэліно Рамано, гібелін, тыран Падуі аддаў загад перад Мантуяй, уначы, і дванаццаць тысяч падуанцаў яго арміі былі знішчаны.

Каго госпадзь бог знішчыць першым? Таго, хто забіў, ці таго, хто не забіў?". („Звенні", стар. 151—152.)

Абстрактны гуманізм, пра які ідзе гаворка ў гэтым дыялагу, і інтэлігенцкае „прекраснодушие" на справе не маюць нічога гуманістычнага; ёсць сітуацыі, калі просты гвалт з'яўляецца актам любові да чалавека—гэта гвалт у дачыненні да гвалтоўнікаў (г. ё. у дачыненні да буржуазіі). Героі Барбюса пазнейшай гістарычнай эпохі афармляюць свае вывады больш рэзка і выразна.

„Яны маюць рацыю—начальнікі. Маюць рацыю па-свойму, што падзяляюць стады людзей і даюць формы дрэвам і свае погляды хлебным палям. Яны маюць рацыю і ў тым, што, у апошнім ліку, яны збяруць залатую жатву на свае кепі і ў свае кішэні.

Толькі тыя, што калі-небудзь паўстануць адразу і раструшчаць ім чарапы... будуць мець больш рацыі, чым яны. Гэта не яны—гэта мы зладзеі. Калі-б не было цябе і мяне, яны нічога не маглі-б зрабіць". („Звенні", стар. 232.)

Так гаворыць салдат эпохі сусветнай вайны, чалавек, які прышоў да новай ісціны, да разумення калектывізма, як адзінага выхаду з нясцерпнага становішча працоўных у капіталістычным грамадстве. Зусім невыпадкова, што Барбюс правярае ўсе свае вывады на такім матэрыяле, які паслужыў прычынай яго ўласнага ідэйнага перараджэння, на матэрыяле сусветнай вайны.

10

У апошніх раздзелах рамана прысвечаных сусветнай вайне, мы знойдзем абагульненне ўсіх ідэй Барбюса, якія хвалявалі яго на працягу кнігі. Там убачым усе яго станоўчыя вывады ўжо не ў форме нейкіх абстракцый, а ў рэалістычных мастацкіх вобразах.

Але да гэтага Барбюс яшчэ некалькі разоў варочаецца да тэмы пра аўтарытэты, да ролі рэлігіі і літаратуры ў справе заняволення мас і да многіх другіх праблем, якія ўжо вядомы нам з папярэдніх кніг Барбюса. Вывады, да якіх ён тут прыходзіць, з'яўляюцца ў асноўным тымі-ж, што і там. Але матывіроўка і мастацкае разгортванне з'яўляюцца новымі і варта на іх спыніцца.

„Каб замаскаваць эксплаатацыю мацнейшым слабейшага—кажа адзін з персанажаў рамана,—патрэбна міфалогія, барабан, трубы, хрышчэнне, ілюмінацыі". („Звенні", стар. 251.)

І Барбюс яшчэ і яшчэ раз паказвае сапраўднае значэнне ўсіх гэтых ідэалагічных з'яў.

Рэлігія. Яна служыць для таго, „каб самы погляд іх (г. е. працоўных мас—Л. Ц.) быў убогі і не бачыў бы нічога, апрача ідала, асляпляючага і занадта блізкага. Ім даецца на долю толькі трапятанне перад непасціжным і цёмная сіла амулета,—каб трымаць іх у безнадзейнай слепаце і пакорлівасці вакол трона цароў" (стар. 46).

І ў гэтым дачыненні нават спрэчкі паміж асобнымі рэлігіямі даюць карысць пануючым, бо гэтым асвянцаецца іх улада, падмацоўваецца прынцып непахіснасці іхнай улады.

Літаратура. Яна ператварылася ў руках пануючых класаў у такую-ж прыладу прыгнёту як і рэлігія. Праўда, літаратура скарыстоўвае больш тонкія сродкі, яна больш вуалюе свае мэты, але яе класавая функцыя ад гэтага не змяняецца. У „Святле", як мы бачылі, Барбюс гэта паказвае ў досыць абстрактнай форме, спрачаючыся з старым Гомерам, тут-жа ён паказвае, праўда, невялікае, але вельмі тыповае асяроддзе сучасных літаратараў. Гаворка ідзе пра той раздзел кнігі, дзе Барбюс яшчэ раз варочаецца да тэмы пра імперыялістычную вайну. Герой рамана цяпер ужо больш не павінен пераўвасабляцца і ўпадаць у стан сноў, каб пакутаваць разам з сваімі гістарычнымі двайнікамі. Ён у жывой сапраўднасці перажывае ўсе жахі вайны і калі і яму, як і іншым героям кніг Барбюса, пакуль яшчэ не ўсё ясна, дык у адрозненне ад іх ён знаходзіцца ўжо куды бліжэй да свайго ідэйнага „святла". Таму ён можа займаць больш крытычную пазіцыю. чым яны. У гэтым дачыненні характэрна наступная сцэна. Клеман Трашэль знаходзіцца ў свецкай грамадзе. Гэта—кампанія маладых, досыць нязначных паэтаў, але кожны з іх ужо мае дастатковыя „дадзеныя", каб здавацца глыбокадумным вопытным скептыкам і галоўным чынам—заўзятым эстэтам. І гэтыя людзі, вядома, лічаць сябе патрыётамі, вядома, захапляюцца „эстэтыкай" вайны. Наш герой закалыханы гэтымі разумнымі размовамі і гучнымі вершамі сваіх таварышоў пра ліфты, дансінгі і экзатычныя краіны. Але ў той час, калі ўсе яны жанглююць вялікімі ісцінамі і захапляюцца гукам свайго ўласнага голасу, ён у думках пакідае гэтых „слоўных акрабатаў", як ён іх называе, і ідзе ў другі свет, дзе ўжо чуваць іншыя гукі: ён уваскрашае ў памяці малюнкі перажытай вайны. Гэта рэзкасць пераходу ад утульнай абстаноўкі бесклапотных эстэтаў, якія ўцякаюць ад суровай праўды жыцця, да страшных карцін, робіць у кнізе асабліва моцнае ўражанне. Бо не гледзячы на тое, што Барбюс ужо столькі разоў у сваіх раманах і шматлікіх апавяданнях і нарысах расказваў пра гэта,

яму ўдалося знайсці цяпер новыя сродкі, каб паказаць нам жахі гэтай сусветнай бойні. Барбюс цяпер апавядае ў форме апісання падарожжа свайго героя па такому пеклу, перад якім бляднеюць адпаведныя карціны ў Дантэ. І ў прыватнасці цяпер ён апавядае ў форме своеасаблівага падарожжа па пеклу больш страшнаму, чым Дантаву.

Імпрэсіяністычная і сімвалістычная манера аўтара яшчэ больш гэта падкрэслівае. Асабліва ў пейзажных зарысоўках Барбюс дае ўсе перажыванні героя на фоне нейкіх дзівотлівых пейзажаў (галоўным чынам, начных), якія перадаюць сваімі вострымі, кантрастнымі пераходамі нейкую злавесную фантастычную карціну.

Надзвычайных замалёвак акопных пейзажаў мы знаходзім у кнізе нямала і ўсе яны не гледзячы на ўяўнасць і невыразнасць іхных абрысаў перадаюць усё агнявое дыханне гэтай страшнай машыны, якая завецца вайной, перапаўняюць чытача да болю жудасна вострымі перажываннямі і настроямі:

„Усім сэрцам і выабражэннем юнага паэта адчуваў я чароўную велічнасць гэтай начы боя, стараючыся прыдумаць, якімі самабытнымі вобразамі мог бы я перадаць гэта велізарнае, поўнагучнае асвятленне раўнін у паэмах, якія эдзівілі-б і захапілі-б простадушную, забабонную публіку тыла“. („Звенні“, стар. 6.)

Так, расказвае Клеман Трашэль, гэты юны паэт, які шукае харяство, гармонію фарбаў, нават на гэтым полі бойкі.

Барбюс далёкі ад якога-б там ні было эстэцкага любавання светлавымі эфектамі і рэзкімі зменамі святла і цені. Ён вядзе свайго чытача ў больш рэальны, але не менш жудасны свет: у акопы, на палі боек.

Удзельнік вялікай бойні на гэты раз, як мы ўжо сказалі, з'яўляецца ўжо не чалавекам масы, які прыходзіць да святла іншы раз стыхійна, шляхам пакутлівых перажыванняў у акопах, але інтэлігент, якому „пашанцавала“ быць на „кухні“, дзе рыхталася ўся гэта страшная разня—у штабе. І гэта пазіцыя героя дае аўтару шэраг дадатковых магчымасцей. Барбюс здолеў раней за ўсё паказаць асобных прадстаўнікоў той групкі, у руках якой знаходзіцца лёс тысяч людзей і ён бадай ніколі не быў больш рэзкім, больш сатырычным у сваіх сродках, чым пры паказе гэтых людзей. Ад абстрактнай крытыкі на тэму „яны“, ён перайшоў да асобных канкрэтных прадстаўнікоў гэтага варожага свету. Асабістая практыка Барбюса (яго праца ў штабе пасля таго, як ён паздаравеў, захварэўшы на фронце) паказала яму верны падыход, правільны пункт гледжання. Барбюс не недаацэньвае ворага, неператварае яго ні ў тупога салдафона, ні ў бравага афіцэрыка Героі яго—людзі тонкай культуры, якія ўмеюць спрытна аперыраваць і тэрміналогіяй, і замашкамі дэмакратаў. Але іменна дзякуючы гэтым якасцям больш вылучаецца ўся іх звярыная сутнасць, увесь іх разбойніцкі воблік. Фігура генерала-дэмакрата, якую тут намаляваў аўтар, застаецца яркім узорам сатырычнай партрэтыстыкі.

„Ён гаварыў мала. Ён сказаў аднак сваім голасам, ахрыплым ад хранічнага ларынгіту: „Вайна за права бацькаўшчыны, дэмакратыю“ і „Шчасце адных пабудована на няшчасці другіх“. Ён рас-

чуліўся таксама, убачыўшы салдата, які піў спірт з сваей кварты: „Пі, мой друг, выпей крыху ілюзіі“,—сказаў ён яму ласкава“. („Звенні“, стар. 237.)

І ў руках гэтага чалавека, які прэтэндуе на ролю Цэзара XX ст., знаходзіцца жыццё соцень і тысяч людзей.

Ёсць у кнізе сцэна, якая проста патрасае—гэта апавяданне пра тое, як афіцэры рыхтуюць каля карты будучую атаку. Тон гэтых людзей, якія міла жартуюць пры гэтым і якія „аб'ектыўна“ і „высока“ выказваюцца пра сваіх ворагаў, проста патрасае сваім халодным, жорсткім цынізмам. Але гэта не звычайны цынізм: гэта надзвычай „прыгожыя“ выразы, гэта „вялікадушны“ тон у дачыненні да благароднага супрацоўніка. Асабліва тонка сыграў гэтую ролю „дэмакратычны“ генерал:

„Мы рухаліся наперад,—кажа ён стоячы ля карты,—як па шашачнай дошцы. Калі месяц схаваўся, генерал Трамолэ выкапаў дзве траншэі ў балотах, да самай лініі акопаў. Адзначце іх тут двума рысамі вугальнага алоўка. Спачатку, як было напісана, мы згрупаваліся вось тут. Палкоўніку Годзі не без цяжкасцей удалося ачысціць усё гэта. З боку балот справа ішла не зусім гладка. Мы пакалолі сабе пальцы аб некранутыя дротавыя загароды і ў гэтым кутку з-пад прыкрыцця нас здорава абстралялі (рука генерала выразліва танцавала па гэтай вобласці). Вораг благародна рэагаваў,—лічу патрэбным аддаць у гэтым справядлівасць. У трохкутніку гаммы на „шахматнай дошцы“ схавана была не намацаная яшчэ міна. Мы гэта між іншым ведалі, міна ўзарвалася, калі ёй захацелася, што крыху пахіснула баявыя адзінкі, якія там знаходзіліся; гэта зусім зразумела і даравальна“ (стар. 11*).

Сведка гэтай сцэны Клеман Трашэль расказвае, што паны афіцэры пры гэтым усміхаюцца на мілыя жарты свайго „шэфа“. Сам-жа ён ідзе на перадавыя пазіцыі з даручэннем генерала. І тут Барбюс паказаў нам яшчэ раз, што азначае ў сапраўднасці „хістанне баявых адзінак“. Будучы верным сваім антымілітарыстычным устаноўкам, Барбюс не звяртаў увагі на крык розных буржуазных эстэтаў пра немастацкасць матэрыялу, пра паўтарэнне ў тэматыцы і інш. і працягваў настойліва яшчэ і яшчэ раз напамінаць пра жахі вайны. Выгляд сапраўднай бойкі, а не контурнай, як у штабе (гл., напр., такія жудасныя карціны, як спайванне перад атакай роты салдат, стар. 227); беглае ўпамінанне пра забітага салдата, які трымае ўрывак газеты з буйной „шапкай“: „Вастоpжаны гераізм нашых салдат“ (стар. 232 і інш.) прыводзяць героя ў стан поўнага анямення і нежадання больш жыць: „Я адзін пакутую на гэтым полі бойкі матэрыяльнага прагрэсу... Вы ўсе, маса—гэта ваша віна!“ („Звенні“, стар. 252.)

Такі крык вырываецца ў яго, калі ён убачыў усе гэтыя жахі. Ёсць нешта хваравітае ў гэтым крыку, як у частым абвінавачванні „масы“ наогул. „Ці злыя людзі? Я не ведаю: зло—мела драматычны прывід, як дабро,—але яны дурныя. Дзеля мудрасці, дзеля спачу-

*) З кнігі „Что было, то будет“, Гіхл 1932 г., якая становіць сабой раздзел з „Звенняў“.

ванне, паўстаньце". Тон як бачым скептычны і песімістычны, і гэты тон песімізма і нявер'я ў чалавечы розум паўтараецца ў кнізе шмат разоў. Крытыка рабства і паслухмянасці ва ўсіх іхных праявах літаральна не сыходзіць з старонак кнігі да самага канца (гл. апошні раздзел, дзе аўтар з горыччу апісвае рабоў XX ст.—п'яных салдат, каланіяльнае войска і інш.)

Герой рамана, наглядзеўшыся на ўсё гэта, упадае ў поўны адчай і часамі ў яго нават з'яўляецца жаданне вызваліцца ад самога сябе, „быць як усе", каб нічога не бачыць і не ведаць. Такое жаданне героя ў хвіліну слабасці і гэты настрой толькі пераходны, толькі хвілінны. Сумленны пісьменнік Клеман Трашэль працягваў сваё пакутлівае падарожжа па гісторыі чалавечых пакут, а яго аўтар—мужны рэволюцыянер А. Барбюс падарожнічаў у гэты час не толькі па гісторыі, але па Балканах, Румыніі і інш. краінах, збіраючы факты пра зверскія расправы фашызма, заклікаючы на барацьбу з ім. Таму Барбюс не мог доўга аставацца ні на пазіцыі фаталізма і песімізма, ні на пазіцыі пасіўнага чакання. Таму горача і бадзёра гучаць яго словы, калі ён гаворыць: „Трэба выйсці з гэтага хаосу самога сябе, з царства двух супярэчачых адна адной галоў, пакінуць любоў змацаваную разрывам і ісці ў хваляванні натоўпу... Зрабі з лёсу ўсіх іншых свой самалюбны сон. Думай пра другіх і любі гэта". („Звенні", стар. 250.)

Перастаць хістацца, стаць на бок народных мас,—у гэтым заключалася ўстаноўка і высокая мэта „Звенняў". Салдат, які напакутваўся на перадавых пазіцыях, верыць, што перамога на яго баку. Гэты салдат кажа:

„Усёткі, усёткі слухай мяне. З гэтай іменна крыві выйдзе тая больш высокая праўда, пра каторую мы марылі. Што-ж, урэшце, я магчыма і не загіну. Не ўсе-ж мы падохнем. І тады я загавару. Я любіў бы сябе, каб толькі выжыў. („Звенні", стар. 233.)

Барбюс сам глыбока верыў у гэта. Усе сілы свайго рэволюцыйнага тэмпераменту, увесь свой надзвычайны талент ён скарыстаў на тое, каб у гэта ўверавалі і іншыя. У першую чаргу—інтэлігенцыя.

У сваіх надзвычайных раманах „Святло" і „Звенні" Барбюс паказаў нам складаны і рознастайны шлях, якім лепшыя прадстаўнікі інтэлігенцыі прышлі да рэволюцыі. І гэтыя кнігі, якія ў многім адлюстравалі шлях самога Барбюса да рэволюцыі, адыгралі немалую ролю ў рэволюцыйным перавыхаванні лепшых прадстаўнікоў інтэлігенцыі Захаду і ў гэтым іх вялікая гістарычная роля.

У пачатку 1935 г. Барбюс склаў маніфест у абарону культуры. У гэтым выключна важным дакуменце, які з'яўляецца яго літаратурным запаветам (надрукаван у канцы 1935 г. у „Monde" і ў „Литературной газете" ад 20/XI-35 г.), Барбюс пісаў пра ролю і абавязкі пісьменніка:

„Пісьменнік—чалавек грамадскі. У яго соцыяльная роля і соцыяльны абавязак. Людзі, якія распаўсюджваюць свае творы, абавязаны служыць людзям. Пісьменнікі павінны бачыць і разумець усё, што адбываецца вакол іх, умешвацца ў тое, што яны разумеюць.

Яны абавязаны рабіць гэта як пісьменнікі, як мастакі, якія акрэслілі сваё месца і свой час. Яны абавязаны рабіць як людзі.

Яны маюць права—у плане свайго рамяства—заставацца заўзятымі пісьменнікамі, артыстамі. Яны маюць права—не жадаць быць чыноўнікамі на палітычнай службе. Яны—грамадзяне эпохі. Яны не маюць права не цікавіцца соцыяльнай трагедыяй, у якой па сваёй волі ці мімаволі яны адыгрываюць ролю і якая вырашае лёс усіх. Досыць старых рабскіх тэорый „мастацтва для мастацтва“, якія робяць з літаратуры сродак для забавы, для ўцякання ад рэчаіснасці“.

У гэтых надзвычайных словах Барбюса маецца не толькі праграма дзеяння для іншых, але яны з'яўляюцца падагульненнем і асабістай практыкі. Барбюс як ніхто з сучасных пісьменнікаў адчуваў сябе „грамадзянінам эпохі“, ніхто як ён не толькі разумеў, але і ўмешваўся ў тое, што адбывалася вакол яго. І толькі такі пісьменнік як Барбюс, здолеў заслужыць такую характарыстыку:

„Няхай яго жыццё, яго барацьба, яго спадзяванні і перспектывы паслужаць прыкладам для маладога пакалення працоўных усіх краін у справе барацьбы за вызваленне чалавецтва ад капіталістычнага рабства“. (І. Сталін.)

(„Литературная газета“ 4 верасня 1935 г.)

# БІБЛІЯГРАФІЯ

## НАСКОК ЗАМЕСТ НАВУКІ

Беларуская Акадэмія Навук выдала кнігу „Беларуская граматыка—фанетыка і правапіс". Аўтар яе тав. Ламцёў. Кніга завецца навукова-даследчым нарысам. У прадмове даецца падзяка такім вучоным, як акад. Ляпуноў, праф. Шчэрба за чытанне рукапісаў і яго ўхваленне. Чытаючы гэтую кнігу мімаволі ўзнікае пытанне аб праўдзівасці і магчымасці ўхвалення гэтае „працы" з боку такіх вучоных, бо кніга на кожным кроку выяўляе тэарэтычнае ўбоства, няведанне і скажэнне фактаў беларускае мовы і яе гісторыі.

У пытаннях стварэння беларускага народу Ламцёў стаіць на нацдэмаўскіх пазіцыях, сцвярджаючы, што беларускі народ склаўся ў раннюю эпоху літоўска-беларускага княства, г. зн. у XIII—XIV ст. ст. (стар. 6), тады-ж склалася беларуская мова і выпрацаваліся характэрныя рысы ўласцівыя ёй, як мове самастойнай.

Гэтыя сцверджанні, па сутнасці, ні ў чым не ўступаюць аналагічным сцверджанням нацдэмаў.

Больш таго, аўтар, падаючы некрытычна спісаныя ў Карскага спецыфічныя асаблівасці беларускае мовы, пра што будзе гаворка ніжэй, прыстасоўвае гэтыя асаблівасці, якія назіраліся Карскім на розных гістарычных этапах развіцця беларускае мовы, да XIII—XIV ст.

Ці не дапаўняе Ламцёў гэтым „спецыфічна-лінгвістычным матэрыялам" сцверджанне В. Пічэты, у якога чытаем:

„Беларускі народ стварыўся ў XIII-XVст. і пануючыя класы ў XV і ў першай палове XVI ст. аставаліся вернымі нацыянальнай культуры". (Ст. 21 „Гісторыя Беларусі" ч. I.)

Такім чынам, нацыянал-дэмакраты разам з Ламцёвым сцвярджалі, што працэс стварэння беларускага народу скончыўся ў XIII—XIV ст. на глебе феадальных, але не капіталістычных адносін. Гэта ў корані супярэчыць вучэнню Маркса—Леніна—Сталіна. У сапраўднасці „працэс ліквідацыі феадалізма і развіцця капіталізма з'яўляецца ў той-жа час працэсам складвання людзей у нацыі" (І. Сталін „Марксізм і нацыянальна-каланіяльнае пытанне", выд. 1936 г., стар. 10).

Вось што кажуць па пытанню аб мове пры феадалізме аўтары вядомай кнігі „Нарысы па мове" Іваноў і Якубінскі:

„Для феадалізма характэрна тэрытарыяльная (раённая) раздробненасць насельніцтва, у тым ліку і, перш за ўсё, сялянскага. Ці было зусім аднастайным па сваёй мове насельніцтва феадальнага памесця або, іншымі словамі, ці з'яўляўся зусім аднародны адзінкай паместны дыялект. Не, таму што насельніцтва феадальнага памесця магло ўключыць у свой склад насельніцтва шэрагу першабытных гаспадарчых груп... У феадальным грамадстве сяляне гаварылі ў розных раёнах па-рознаму... (раздзел „Капіталізм і нацыянальнае пытанне").

Вуснамі-ж Ламцёва, з прычыны некрытычнага спісвання, фактычна гавораць нацдэмы, якія прапаведвалі тэорыю асаблівых самабытных шляхоў развіцця беларускага народу ў раннюю эпоху феадалізма, якому яшчэ больш уласцівы абласная, раённая моўная замкнутасць, раз- розненасць, паместны дыялект з рэзка акрэсленымі граніцамі. А ў Ламцёва па чараўнічаму выступае беларускі народ, які ўжо склаўся, аформіўся і мае такую-ж складзеную і аформленую беларускую (чытай народную) мову.

Як трактуе аўтар Беларускае граматыкі мову і беларускую культуру эпохі феадалізма?

„Праўда“, у сувязі з юбілеем А. С. Пушкіна піша: „У літаратуры XVI.I ст. панавала мова блізкая да царкоўна-славянскай, якая не мела нічога агульнага з жывой размоўнай моваю“ (гл. арт. „Творец литературного языка“ „Правда“, 21/IX-36 г.).

На 7 жа старонцы ў аўтара „Беларускай граматыкі“ чытаем нешта іншае: „У эпоху існавання беларускага княства склалася блізкая жывой беларускай мове таго часу літаратурная мова, якая з'яўлялася афіцыяльнай дзяржаўнай мовай. На гэтай мове захавалася багацейшая пісьменнасць як царкоўна-рэлігійнага, так і юрыдычнага зместу“.

Тут Ламцёў не арыгінальны. Тыя-ж думкі знаходзім у пісаніне Гарэцкага і іншых.

Гарэцкі: „У XV ст. далей развіваецца з новым уплывам юрыдычная літаратура, выходзяць пераклады духоўных твораў у зусім народнай мове... Адным словам ствараецца „залаты век“ нашай старой літаратуры“ (стар. 94—95, „Гісторыя беларускай літаратуры“ Максіма Гарэцкага, выдан. 1924 г.).

Хіба не супадаюць погляды Ламцёва з поглядамі Гарэцкага? Хацеў таго ці не хацеў Ламцёў, але ў новым варыянце ўваскрашае ён лягенду пра „залаты век“.

І сапраўды, ці мог прыгонны селянін XIII—XIV—XV ст.ст., селянін, заняволены, прымацаваны да зямлі, з разрозненым спосабам вытворчасці браць удзел у культурным жыцці, ды яшчэ рабіць уплыў на стварэнне блізкай да яго мовы з найбагатшай культурай.

Нават Карскі, які безумоўна быў вельмі далёкім ад матэрыялістычнага погляду на гісторыю, і той больш правільна ахарактарызаваў старую беларускую пісьменнасць, як творчасць духавенства, дваранства, магнатаў, абшарнікаў, епіскапаў, мітрапалітаў (Карскі „Беларусы“, т. III, стар. 3).

Не лішне будзе падаць характарыстыку мовы феадальнага перыяда, якая даецца акад. Мешчанінавым і якая, трэба думаць, не будзе разыходзіцца за выключэннем некаторых спецыфічных асаблівасцей з характарам мовы, якая існавала ў эпоху феадалізма на Беларусі. Вось што ён кажа: „Класавы характар мовы яўна выступае і ў старажытных літаратурных мовах Арменіі і Грузіі. Імі карысталіся феадалы сярэдневяковага Каўказа. Паралельна і аднačасова з гэтаю моваю павінна была існаваць народная мова, на якой гаварылі масы грузінскага і армянскага насельніцтва“. („Праблема класіфікацыі моў у святле новага вучэння пра мову“, стар. 44.)

Вядома, дарэмнымі аказаліся-б пошукі якой-небудзь сістэмы ў поглядах, выказаных Ламцёвым у сваёй кнізе.

На ўпамянутай ужо 7 старонцы аўтар канстатуе, што „ў сувязі з тым, што Польшча ў свой час мела вялікі ўплыў на літоўска-беларускае княства, афіцыяльная мова апошняга была прасякнута паланізмамі. Нарэшце, у XVII ст. яна настолькі паланізавалася, што страціла свой raison d'etre і была выцеснена польскаю мовай“.

У той час—у які час? Паколькі ў аўтара абзац ідзе за характарыстыкай так званага „залатога веку“ атрымліваецца, што гэты час азначае XV—XVI ст.

І тады якім-жа радкам гэтай старонк верыць, першым ці апошнім? То афіцыяльная мова вельмі блізкая да жывой народнай мовы, то, відаць у той-жа час, моцна паланізавана і ў XVII ст. гэта мова канчаткова выцясняецца. Бяда ў тым, што гісторыя канкрэтна, канкрэтная гісторыя наогул і гісторыя беларускае мовы ў прыватнасці. як пра гэта выразна сведчаць супярэчлівыя радкі, астаюцца для аўтара „Беларускае граматыкі“ за сям'ю пячаткамі.

І тут, трэба думаць, апроч свайго жадання, аўтар працягвае руку камусьці з Польшчы, хто беспярастанку гаворыць пра свае гістарычныя культурныя правы і абгрунтаванасць сваіх імкненняў да новых тэрытарыяльных пашырэнняў.

Але ларчык проста адчыняецца. Толькі што паданы абзац патрэбен для аўтара для таго, каб услед за ім на 8 стар. канчаткова пахаваць гісторыю беларускае мовы: „Сучасная беларуская літаратурная мова не знаходзіцца ў гістарычнай сувязі з старой афіцыяльнай мовай літоўска-беларускага княства; яна ўзнікла незалежна ад апошняга, на грунце моцна акаючых паўднёва-заходніх беларускіх дыялектаў“.

Не ведаючы канкрэтнай гісторыі беларускае мовы, аўтар прымушан быў зрабіць такі гістарычны трук, каб тым самым пазбавіць сябе ад патрэбы непасільнага для яго ўстанаўлення сувязі і наследвальнасці ў святле марксізма-ленінізма паміж сучаснай беларускай мовай і яе гістарычным мінулым. І гэта пасля таго, як на стар. 3 у прадмове да сваёй „Граматыкі“ Ламцёў заяўляе, што „Распрацоўка новага погляду на фанетыку... базуецца (у Ламцёва) на ўстаноўках акад. Н. Я. Марра пра сацыяльны характар гукаў чалавечай мовы ў іх паходжанні і развіцці“.

Але гэтак-жа лёгка, як аўтар распраўляецца з асноўнымі этапамі ў развіцці беларускае мовы, ён распраўляецца і з вучэннем Марра. Бо калі гісторыя для аўтара

„Беларускае граматыкі“ з'яўляецца нічога не абяцаючай рэкламай, дык чаму-ж не ператварыць і вучэнне Марра ў гэткую-ж рэкламу. Бо адмаўленне гістарычнай наследвальнасці ў гісторыі беларускай мовы, аўтар паказвае сябе як чалавека незнаёмага з метадалагічнымі прынцыпамі даследвання мовы, уласцівых акад. Марру і Мешчанінаву.

Вось што пісаў акад. Мешчанінаў па пытанню гістарычнай наследвальнасці мовы:

„І таксама як не знікаюць бясследна гістарычна засведчаныя народы, не знікаюць бясследна і іхныя мовы. У працэсе наследвальнай трансфармацыі перадаюцца абноўленыя асновы мінулага, якія захоўваюць стадыяльную наследвальнасць у сваіх ужо новых асновах. Новае гістарычнае ўтварэнне будуецца на спадчыне сваіх папярэднікаў, але яно ўсё-ж новае ў агульным сваім комплексе, і элементы ранейшага зусім не паўтараюцца механічна, нязменна ў ходзе гістарычнай перабудовы. З гэтага сцверджання абавязкова паўстае і другое, а іменна, што ні адна мова, якая вывучаецца ў яе цэлым складзе, у яе наяўных адзнаках, не можа выявіць свайго сапраўднага стану без гістарычнага падыходу да яе і да яе сустаўных частак“. (Мешчанінаў „Новае вучэнне пра мову“, стар. 281, 1936 г.)

Не бачачы гэтай гістарычнай наследвацельнасці ў яе жывой сапраўднасці, аўтар закрэслівае, такім чынам, беларускую мову ў яе мінулым і тым самым, магчыма для сябе нечакана, становіцца на шлях вялікадзяржаўніцтва.

А таму і зразумела, колькі старонак, столькі ў „Беларускай граматыцы“ Ламцёва супярэчачых адна адной і адна адну выключаючых думак.

Звернемся да спецыяльнай часткі кнігі. Магло-б здавацца, што лепш стаіць у кнізе справа з спецыяльнай часткай; тым больш, што аўтар, даючы да кнігі невялікую прадмову, абяцае, што „асноўная асаблівасць гэтай кнігі заключаецца ў тым, што ў ёй сістэматычна праводзіцца новы погляд на праблемы фанетыкі“. Што-ж атрымліваецца? Магчыма, што аўтар лічыць навізной спісванне ў другога, не паказваючы нават крыніцы. Прыкладам для характарыстыкі асаблівасцей беларускай мовы, як мовы самастойнай, аўтар прыводзіць на стар. 6 -7 дванаццаць элементаў, характэрных для беларускай мовы ў пачатку яе нараджэння, па Ламцёву ў XIII ст.

Але аказваецца, што гэтыя элементы знаходзяцца ў брашуры Карскага „Белорусская речь“, выдан. 1918 г., а не ёсць адкрыцце Ламцёва.

Для аналогіі прыводзім некаторыя з іх:

У Карскага: З'яўленне „дз“ і „ц“ мяккіх замест „д“ і „т“ мяккіх; хадзіць (стар. 17).

У Ламцёва: Пераход мяккіх „д“ і „т“ у мяккія свісцячыя афрыкаты: хадзіць (стар. 7).

У Карскага: З'яўленне складоў ыј і іј, замест велікарускіх оj, еj: мыю—мый, пій, шыя, злый (стар. 17).

У Ламцёва: Наяўнасць спалучэнняў ый, ій у адпаведнасці з рускімі ой, ей, напрыклад. мый, мыйў, пі (й), шыйа (стар. 17).

У Карскага: З'яўленне „дж“ замест „ж“ звычайнага ў дзеясловных формах: гляджу (стар. 17).

У Ламцёва: Наяўнасць „дж“ у адпаведнасці з рускім „ж“ у дзеясловных формах, напрыклад: гляджу (стар. 7).

У Карскага: Захаванне пры скланенні перад „е“ з старога „ять“ пераходнага змякчэння задненёбных: на парозѣ, у лаўцѣ, пры стрѣсѣ.

У Ламцёва: Захаванне пры скланенні перад „е“ з старога „ять“ (свісцячых эквівалентаў) заднеязычных, напрыклад: кніга — кнізе, саха—сасе, муха — мусе (стар. 7).

У Карскага: Ужыванне множнага ліку 2, 3, 4 у мужчынскім родзе: два ваўкі (стар. 17).

У Ламцёва: Ужыванне множнага ліку назоўнікаў мужчынскага роду пасля лічэбнікаў 2—3—4, напрыклад: два ваўкі (стар. 7.)

У Карскага: Існаванне заклікальнага склону: сынку, чалавеча (стар. 17).

У Ламцёва: Наяўнасць заклікальных форм, напрыклад: чалавеча, сынку.

У Карскага: Ужыванне ў пытаннях часцінкі „ці“: ці гэта ты сказаў? (стар. 17).

У Ламцёва: Ужыванне часцінкі „ці“ у пытальных формах: ці гэта ты сказаў? (стар. 7).

Трэба проста сказаць, што некаторыя асаблівасці, якія прыводзяцца нават Карскім, па сутнасці асаблівасцямі не з'яўляюцца. Напрыклад, запытальная часцінка „ці“, якой у рускай мове адпавядае часцінка „ли-ль“, што роўназначна наяўнасці ў беларускай мове незлічонага мноства слоў, якія ўжываюцца замест другіх у рускай мове (напрыклад: красный—чырвоны, язык—мова і г. д.).

Тое-ж пра формы заклікальнага склону беларускай мовы, якія характэрны не толькі для беларускай мовы, але і для моваў усіх усходніх славян. Калі-ж гэта Ламцёў лічыць характэрнай асаблівасцю сучаснай беларускай мовы, а значыць разам з тым і ўсе гэтыя асаблівасці, якія ён прыводзіць, то тут па-першае, або гэтым самым Ламцёў ўпадае ў новую супярэчнасць, не бачачы розніцы паміж мовай сучаснай і мовай XIII—XIV ст., або па-другое, безапеляцыйна прымае гэтыя формы заклікальнага склону, як устойлівыя ў сучаснай беларускай мове, хаця па сутнасці гэта форма рэгрэсуючая, саступаючая месца як і ў рускай мове назоўнаму склону. Што-ж датычыць архаічных астаткаў, то яны мелі месца ў нядаўнім зусім часе і ў рускай мове, напрыклад: боже, господи і г. д.

У процілегласць Ламцёву нават Карскі паказвае гістарычнае паходжанне кожнай лінгвістычнай асаблівасці беларускай мовы, вытлумачвае яе. У Карскага мы бачым эвалюцыю развіцця гэтых асаблівасцей (гл. упамянутую ўжо намі вышэй брашуру Карскага „Белорусская речь"). У Ламцёва-ж усе гэтыя асаблівасці бяссэнсоўныя і спрэчныя скіданы ў адну кучу, стасуюцца да аднаго перыяду—у кантэксце XIII—XIV ст., што супярэчыць гістарычным дакументальна ўстанаўляемым вызначэнням Карскага. Пры гэтым важна тое, што Карскі абгрунтоўвае гэта гістарычнымі дакументамі, якія адмаўляюцца Ламцёвым. Вось і разбярыся.

У сваім так званым „Даследчым нарысе" аўтар вуалюе спісванне элементарных ісцін, якія маюць месца ў падручніках для пачатковай і сярэдняй школ, тэрмінамі: варыянт", „эквіваленты" (гукаў). Але і гэта тэрміналогія не новая, яна ўзята Ламцёвым у Бодуэна-дэ-Куртэнэ ў адпаведнасці з яго „варыятывамі" і „дывергентамі".

Мабыць, у мэтах арыгінальнічання ён усюды ўжывае наўпярок устаноўленай фанетычнай тэрміналогіі, тэрміналогію ўмоўную, не тлумачачы яе. „Варыянты" і „варыятыўныя суадносіны" замест „фанемы" і „адценні фанем" „эквівалент, і „эквівалентныя суадносіны" замест „чаргаванне". Адсюль вельмі заблытаная тэрміналогія, адарваная ад практыкі сучаснай савецкай школы, а таму кніга стрыкаціць на кожнай старонцы „абаротнымі эквівалентнымі суадносінамі" „варыятыўнымі гукавымі суадносінамі і г. д., і г. д.

Але па сутнасці-ж усе гэтыя „варыянты" і „эквіваленты" ў ходзе тлумачэння аказваюцца вельмі простай рэччу. Аўтар, напрыклад, гаворыць пра „звонкія" і „глухія" варыянты, г. ё. пра звычайную з'яву беларускай і рускай моваў.

На старонцы 28 у Ламцёва чытаем: „Звонкія варыянты зычных гукаў перад глухімі варыянтамі зычных гукаў, а таксама ў канцы слова пераходзяць у адпаведныя глухія варыянты". Варта толькі адкінуць тэрмін „варыянт" і атрымаецца вывад, які можна знайсці ў элементарным падручніку для 2 і 5 класаў сярэдняй школы. Напрыклад, у кнізе для 5 класа мы чытаем: „Звонкія зычныя, калі яны стаяць перад глухімі або ў канцы слоў, робяцца ў вымаўленні глухімі" (Самковіч і Пратасевіч, стар. 40).

Вось што выйшла з варыянтамі.

Апрача таго трэба зазначыць, што навукова далёка яшчэ не даведзена, што ў беларускай мове звонкія ў канцы слова атрымліваюць, як у рускай літаратурнай мове, поўную асіміляцыю, г. ё. поўны пераход звонкіх у глухія, або калі ў рускім літаратурным вымаўленні атрымаецца: „гот (год) працаваў над гэтым",—то ў беларускай хутчэй за ўсё такой поўнай асіміляцыі не атрымаецца. Наогул, пытанне пра пераход канцовых звонкіх у глухія патрабуе дадатковых даследванняў і назіранняў.

Ламцёў наогул ідзе, у лепшым выпадку, за школьнымі падручнікамі, мэта якіх не столькі ўскрыць фанетычныя заканамернасці, колькі навучыць дзяцей арфаграфіі.

У кожным падручніку беларускай мовы знаходзім канстатаванне таго, што пры спалучэнні ў словах зычных гукаў: здн, стн, лнм, рдн, адзін з гэтых зычных пры фанетычным беларускім напісанні выпадае. Гэта ў адрознасць ад рускай мовы, дзе вымаўленне такое-ж як і ў беларускай у гэтых словах, але напісанне такіх слоў гістарычнае, г. зн., што пры пісанні ў упамянутых словах усе спалучаныя гукі астаюцца.

На той-жа 30 стар. чытаем § 35: „Групы зычных гукаў стн, здн, стл, рдн, лнц—спрашчаюцца ў сн, зн, сл, рн, лц (карысны, позна, слаць, сэрца, міласэрны, сонца).

Зноў аўтар толькі канстатуе з'яву, дае яе ў плане сляпога следавання за арфаграфіяй, але не вытлумачвае існасці пытання, фанетычнай сутнасці гэтай з'явы. Ён зноў-такі не паставіў гэтае пытанне ў гістарычную сувязь з пытаннем пра знікненне з вымаўлення як у рускай, так і ў беларускай мовах тых-жа глухіх галос-

ных гукаў ь, ъ, якія стаялі ў пэўных выпадках групе „ў“ паміж гэтымі зычнымі і разбівалі гэты непрыймальны ў вымаўленні дадзеных моў комплекс гэтых зычных.

На 30 стар. гэтай кнігі чытаем § 34: „Галосны гук „і“ не мае месца ў сярэдзіне слова пасля галоснай перад зычнай, або ў канцы слова. У такім становішчы мы знаходзім „й“ кароткае, якое не стварае склада, напрыклад: пайду, вайна, гайка, край, бой, пай“. Ці заўсёды ў сярэдзіне слова „і“ пераходзіць у „й“ кароткае? Тады куды-ж аўтар аднясе выпадкі, якія сустракаюцца ў такіх словах: воін, раіць, даіць, паіць, клеіць, а тым больш у словах з падняціскным складаствараючым „і“ — краіна, заіка, даіць, паіць.

Неабгрунтаванасць такога абагульнення зусім відавочна. Досыць аўтару адыйсці ад школьнай граматыкі, як ён упадае або ў супярэчнасць, або ў сказэнне фактаў. А выходзіць гэта таму, што ён не даследуе гукавых з'яў іхнай абумоўленасці.

Так, на стар. 12 чытаем, што: „Стварэнне галосных гукаў лакалізавана, а стварэнне зычных гукаў не лакалізавана“. І як можна зразумець нелакалізаваны гук? Да гэтага часу ў фанетыцы мыслілася пад паняццем лакалізацыі дакладнае палажэнне моўных органаў пры ўтварэнні гукаў. І такім чынам прыпісвалася кожнаму гуку свая фізіялагічная характарыстыка гука. Адкуль-жа бярэцца такое ламцёўскае адкрыцце цяжка сказаць. Але вядома сам аўтар, не памятаючы, што сказана на 12 стар. пры характарыстыцы зычных гукаў, на наступнай 13 стар. ніяк не можа адмовіцца ад нейкай лакалізацыі зычных гукаў, але ўстанаўляе для іх 4 зоны ўтварэння гукаў з падраздзяленнямі. Варта запытаць, устанавіўшы зоны, ці не ўстанаўляе тым самым аўтар нейкую спецыфічную лакалізацыю для зычных гукаў, ад якой ён на 12 стар. адмаўляўся? Гэтак-жа неабгрунтавана аўтарам механічнае перанясенне дэ-сасюраўскага падзелу ва ўтварэнні гукаў французскай мовы на беларускую мову. А гэта неабгрунтаванасць тым больш кідаецца ў вочы, калі аўтар заместа дэсасюраўскіх сямі ступеняўператварэння гукаў механічна, штучна вырывае з іх толькі пяць ступеняў.

Але дарэмна было-б патрабаваць нейкіх абгрунтаванняў у тлумачэнні Ламцёвым сістэмы беларускай фанетыкі. Аўтар шматабяцальна заяўляе: „Тыя фанетычныя і арфаэпічныя нормы, якія зафіксаваны ў гэтым нарысе, я ўстанавіў шляхам самастойнага назірання над жывым, агульнапрынятым літаратурным вымаўленнем“ (стар. 8.)

Мы не сумняваемся, што існуюць нормы беларускага вымаўлення, але-ж сам аўтар гаворыць, што яго „праца становіць сабой у навуковай літаратуры першую спробу ўстанаўлення фанетычнай сістэмы сучаснай беларускай літаратурнай мовы“, а значыць, гэтыя нормы, а галоўным чынам арфаэпічныя нормы павінны былі знайсці сваё месца ў такой працы. На сутнасці-ж мы не толькі не бачым вынікаў назірання над жывым вымаўленнем, пра якое так красамоўна апавядае аўтар, але і ніякіх слядоў назірання над літаратурным вымаўленнем у кнізе Ламцёва мы не знаходзім. І сапраўды, кожны лінгвіст, займаючыся даследваннем фанетыкі і арфаэпіі, не можа не весці фанетычных запісаў жывой мовы. Не можа ён не праводзіць іх, кажучы пра нейкія нормы. Ці бачым мы ў кнізе Ламцёва хоць адзін фанетычны запіс мовы рабочага, альбо калгасніка, настаўніка ці інтэлігента наогул. Ці паказаў нам аўтар як гавораць нашы лепшыя майстры беларускага слова Купала, Колас, Александровіч і інш. Нічога падобнага няма. Наадварот, на стар. 15 мы маем няправільную характарыстыку беларускіх гукаў: „в“ (ў) у беларускай мове — білабіальнае, а па Ламцёву яно губна-зубны спірант; „г“ па Ламцёву задне-нёбны спірант, у той час як гэты гук у беларускай мове гартанны спірант.

Астаецца зрабіць вывад, што выходным пунктам для апісання сістэмы фанетыкі сучаснай беларускай мовы з'яўлялася толькі сістэма беларускай арфаграфіі, увесь касцяк фанетыкі Ламцёва з'яўляецца капіяваннем правапісу. А кожны пісьменны чалавек, а не толькі лінгвіст, ведае, што арфаграфія заўсёды будуецца на вучоце фанетычных асаблівасцей дадзенай мовы, але ўжо ні ў якім разе не будуецца фанетыка на базе арфаграфіі.

Што-ж астаецца тады ядром кнігі? Гэта — інвентарызацыя гукаў, г. ё. указанне, у якіх словах сустракаюцца, скажам, гукі: „б“, „п“, „д“, „т“ і г. д. Але і тут аўтар, напрыклад, не здолеў разабрацца нават у такім здавалася-б простым факце, як тое, што „щ“ абазначае спалучэнне гукаў „ш“ і „ч“ і значыць ніяк нельга называць „шч“ адным гукам, як гэта робіць Ламцёў на стар. 57.

І нават у свой ілюстрацыйны інвентар пры наяўнасці дастатковага багацця слоў ў беларускай мове, аўтар чаму ьці палічыў патрэбным увесці словы архаічныя, не-

мілагучныя, словы лаянкі і інш., без якіх лёгка можна было абыйсціся. Выяўляецца, абмежаванасць магчымасцей аўтара і ў гэтым выпадку. Інакш ён не прыводзіў-бы такіх слоў, як: „кіндзюк", „быдла", „сігаць", „ачмурэлы", „конаўка", „багавінне", „аблупіць", „хэўра", „луста", „валапюк", „дыхавіца," „лаяцца". „размазня", „ваксіць", „ведзьма", „швачка" і г. д.

Да якіх-жа вывадаў мы прыходзім у выніку разгляду „Беларускай граматыкі"? У ёй дапушчан рад палітычных памылак; „Беларуская граматыка" Ламцёва стрыкаціць антынавуковымі вульгарызатарскімі палажэннямі і антыгістарычнымі лінгвістычна неабгрунтаванымі вывадамі.

**Н. Гурло, Б. Сіроцінскі.**

## ХРОНІКА

### Падрыхтоўка да стагоддзя з дня смерці А. С. Пушкіна

◯ Мазырскі акруговы камітэт арганізуе ў калгасах і на прадпрыемствах пушкінскія вечары, прысвечаныя стагоддзю з дня смерці рускага вялікага паэта. У многіх калгасах такія вечары ўжо адбыліся.

У Дамававіцкім раёне пушкінскія вечары праведзены ў калгасах „Зорка Беларусі“ і „Шлях советаў“ Крукавіцкага сельсовета. Мясцовыя настаўнікі зрабілі даклад аб творчасці Пушкіна. Калгаснікі і вучні школ дэкламавалі асобныя творы паэта. У калгасе „Зорка Беларусі“ на вечары прысутнічала 250 калгаснікаў. У арцелі „Шлях советаў“ 200 чал.

#### Вялікі вечар у Жлобінскім клубе чыгуначнікаў

◯ На пушкінскім вечары ў клубе чыгуначнікаў прысутнічала каля 1000 працоўных г. Оршы. Даклад аб жыцці і творчасці Пушкіна зрабіў настаўнік першай чыгуначнай школы тав. Трусевіч. Потым была паказана кіно-карціна „Дубровский“.

◯ **Вучні і настаўнікі Буда-Кашалеўскай сярэдняй школы** рыхтуюць вялікі касцюміраваны вечар, прысвечаны А. С. Пушкіну. Драмгурток ставіць сцэны з „Барыса Гадунова“. Харавы гурток разучвае песні.

◯ **У доме Чырвонай арміі імя Варашылава** праведзен літаратурна-музычны вечар „Пушкін у музыцы“. Пасля прадстаўніка беларускай дзяржаўнай кансерваторыі тав. Еўдакімава, артысты Дзяржаўнага тэатра оперы і балета тт. Дзянісаў, Таланкін, Млодэк і інш. выканалі паасобныя ўрыўкі з опер „Еўгеній Онегін“, „Руслан і Людміла“, „Русалка“ і інш.

#### Творы Пушкіна на беларускай мове

Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі да стагоддзя з дня смерці А. С. Пушкіна выдае паасобнымі выданнямі „Каўказскі нявольнік“ ў перакладзе Міколы Хведаровіча, „Цыганы“ у перакладзе Арк. Куляшова, „Барыс Гадуноў“ у перакладзе П. Глебкі.

Кніжкі выйдуць пад рэдакцыяй А. Александровіча.

#### Вялікая творчая перамога

Пастановай ЦВК і СНК БССР за высокамастацкае пераказанне ў вершах пісьма беларускага народу вялікаму Сталіну паэты Янка Купала, Якуб Колас, Андрэй Александровіч, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка і Ізі Харык ўзнагароджаны граматамі ЦВК і СНК БССР.

У сувязі з гэтым, 2 лістапада, у Доме пісьменнікаў адбыўся вечар, прысвечаны гэтай важнай падзеі ў гісторыі беларускай совецкай літаратуры.

З дакладам аб значэнні пісьма беларускага народу вялікаму Сталіну выступіў тав. Бранштэйн.

Яўрэйскі пісьменнік тав. Кульбак ад імя яўрэйскіх совецкіх пісьменнікаў віншаваў членаў пісьменніцкага калектыва, якія выканалі пісьмо ў вершах, з вялікай творчай перамогай і зазначыў, што яно выражае думкі, настроі і надзеі беларускага народу. Кожны радок пісьма насычан жыццём, радасцю працы.

Тт. Самуйлёнак і Куляшоў у сваіх выступленнях адзначалі вялікія паэтычныя якасці Пісьма—мастацкая прастата, яркая вобразнасць, высокі ідэйны змест.

Гарачымі апладысментамі было сустрэта паведамленне Коласа аб тым, што

ініцыятарам Пісьма, першым паэтам у групе па складанню Пісьма быў тав. **Н. Ф. Гікало**, які аказаў вялікую дапамогу калектыву паэтаў, што працавалі над пераказаннем Пісьма ў вершах.

### „Недарасль" Фанвізіна на беларускай мове

У школьнай серыі сектара мастацкай літаратуры Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі выйшла з друку ў перакладзе Кандрата Крапівы камедыя Д. Ф. Фанвізіна „Недарасль".

### „Узброеныя песні"

У Дзяржвыдаце БССР вышаў з друку зборнік вершаў Андрэя Александровіча „Узброеныя песні". У зборнік увайшлі вершы і паэмы, напісаныя паэтам за апошні час. Пад назвай „Сонца і песня" таксама выйшаў зборнік вершаў А. Александровіча ў перакладзе на рускую мову ў Маскоўскім выдавецтве мастацкай літаратуры. Пераклады зроблены Сурковым, Светловым, Галодным, Тарлоўскім і інш. паэтамі.

### Новая п'еса Ільі Гурскага

Драматург Ілья Гурскі напісаў новую п'есу пад назвай „Валодзя Вярбіцкі". П'еса І. Гурскага будзе надрукавана ў другім нумары „Полымя рэволюцыі" за 1937 г.

### „Дванаццаць песень"

Мастацкім Сектарам Дзяржвыдата БССР выдана на рускай і беларускай мовах „Дванаццаць песень", прысвечаныя нашай слаўнай Чырвонай арміі і баявому наркому тав. Варашылаву, напісаныя паэтамі Янкам Купалам, Якубам Коласам, Андрэем Александровічам, Пятром Глебкам і Пятрусем Броўкам.

### Савецкая Украіна рыхтуецца да Пушкінскіх дзён

○ 1 студзеня 1937 г. у Кіеве адчыніцца украінская пушкінская выстаўка. Дзве вялікія выстаўкі, прысвечаныя Пушкіну, адчыняцца ў снежні ў Харкаве. На выстаўцы, якая арганізуецца бібліятэкай імя Караленка, у ліку іншых экспанатаў будуць выстаўлены рэдкія выданні Пушкіна: „Новые стихотворения Пушкина и Шевченко", выдадзеныя ў 1859 г. у Лейпцыгу, „Бахчисарайский фонтан", выданы ў 1920 г. у Парыжы.

Інстытут літаратуры Акадэміі навук УССР працуе над зборнікам, які прысвечаны ўплыву творчасці Пушкіна на ўкраінскую літаратуру.

○ Кіеўскі акадэмічны тэатр оперы і балета пакажа ў дні юбілея прэм'еру оперу „Мазепа" Чайкоўскага. Драматычны тэатр імя Франко ставіць трагедыю „Барыс Гадуноў", „Казку аб цары Салтане" рыхтуе да пастаноўкі харкаўскі тэатр для дзяцей імя Горкага.

○ У цэхах харкаўскага электрамеханічнага завода праводзяцца калектыўныя чыткі твораў Пушкіна. Заводскі калектыў рыхтуецца правесці вялікую пушкінскую канферэнцыю. Паспяхова прайшлі пушкінскія літаратурныя канферэнцыі на заводах „Серп и молот", „ХТЗ" і інш. Гурткі па вывучэнню асобных твораў паэта арганізаваны ў цэхах Варашылаваградскага паравозабудаўнічага завода. Заводская бібліятэка абвясціла конкурс на лепшага чытача твораў Пушкіна.

Рыхтуецца да пушкінскіх дзён і калгасная вёска. У вёсцы „Другая чырвонаармейская" (Харкаўшчына) настаўнікі прачыталі цыкл лекцый аб творчасці паэта для калгаснай моладзі. У соўгасе імя Халтурына была арганізавана пушкінская канферэнцыя. З разборам паэмы „Еўгеній Онегін" і інш. твораў паэта выступалі маладыя рабочыя соўгаса.

### Творчасць Пушкіна на фінскай мове

Карэльскі пушкінскі камітэт пачаў выданне юбілейнага чатырох-томніка твораў А. С. Пушкіна на фінскай мове. У першы том увайшлі 45 вершаў і 4 паэмы Пушкіна: „Каўказскі нявольнік", „Медны коннік", „Бахчысарайскі фантан" і „Граф Нулін".

Над перакладам пушкінскай лірыкі працуе брыгада лепшых паэтаў Карэліі.

### „Еўгеній Онегін" на англійскай мове

Прафесар лонданскага універсітэта Олівер Эльтан пераклаў на англійскую мову „Еўгеній Онегін" Пушкіна. Поўны пераклад рамана на англійскую мову зроблены ўпершыню.

Першая глава рамана надрукавана ў штомесячным часопісу, які выдаецца школай славянскіх моў пры лонданскім універсітэце.

### Акадэмія навук да пушкінскіх дзён

Усесаюзная Акадэмія Навук выдае шэраг кніг аб вялікім паэце. **Ужо выйшлі з друку:**

**В. Голубеў**—„Пушкин в изображении Репина".

„**Пушкин**", выданне пушкінскай камісіі № 1.

**Знаходзяцца ў друку:**

**„Пушкін"**—выданне пушкінскай камісіі № 2.

**В. С. Мейлах**—„Пушкин и русский романтизм",

**„Рукописи Пушкина"**—у зборы твораў пушкінскага дома Акадэміі Навук СССР. Навуковае апісанне. Склалі Л. Б. Модзалеўскі і Б В. Томашэўскі.

**А. Г. Фомін**—„Пушкиниана 1911—1917 гг.", пад рэдакцыяй Ю. Г. Оксмана".

Акрамя таго, у выдавецтве Акадэміі навук рыхтуюцца да друку ў навукова папулярнай серыі кніга **М. М Калаушына**—„Пушкинские места" (Міхайлаўскае, Трыгорскае, Пушкінскія горы). Кніга ўяўляе сабою даведачнік-пуцевадзіцель (рэдакцыя Д. Н. Якубовіча). Яна змяшчае праверaны дакументальны, гісторыка-літаратурны, краяведчы і музейна-архіўны матэрыял, які адносіцца да часу прабывання паэта ў Псковскай губерніі. У кнізе даюцца таксама персанальна падабраная бібліяграфія і некалькі геаграфічных карт.

○ **Пушкінская выстаўка** адчынілася 19 лістапада ў Маскоўскім Цэнтральным доме мастацкага выхавання дзяцей. На выстаўцы прадстаўлены копіі пушкінскіх рукапісаў, партрэты Пушкіна і яго сучаснікаў, ноты да музычных твораў паэта і інш.

○ **Знойдзена фото-копія рукапісу „Слово о полку Игореве"**. У бібліятэцы рыбінскага архіва навуковым супрацоўнікам т. Агеевым знойдзен рэдкі экземпляр кнігі „Слово о полку Игореве". Кніга з'яўляецца фото-копіяй выдання, якое зроблена бібліяграфам Мусіным.

### Паэма аб Украіне

Паэты **Тычына, Бажан, Рыльскі, Феф р, Ушакоў, Яноўскі, Первамайскі, Усенко, Голованіўскі, Городской Іогансен, Кулік, Тэрэшчэнко і Сосюра** калектыўна напісалі вялікую паэму аб Украіне. У паэме 4000 радкоў. У ёй расказана гісторыя Украіны са дня яе ўзнікнення да нашых дзён.

### Музей у сядзібе Тараса Шэўчэнкі

Прэзідыум Кіеўскага абласнога выканаўчага камітэта пастанавіў пабудаваць музей у сядзібе, дзе жыў вялікі украінскі паэт Тарас Шэўчэнко.

### Змена ў складзе праўлення Саюза совецкіх пісьменнікаў Украіны

Вызвален ад работы старшыня Саюза совецкіх пісьменнікаў Украіны А. Г. Сенчэнка. Для забеспячэння апаратыўнага і калегіяльнага кіраўніцтва саюза арганізован сакратарыят праўлення.

На паседжанні прэзідыума, якое адбылася 14 лістапада, сакратарыят праўлення выбраны ў складзе тт. Чэрвонага, Мікітэнка, Карнейчука, Панча і Кірыленка.

### Жонка Шолам-Алейхема ў Кіеве

У Кіеў з Амерыкі прыехала жонка класіка яўрэйскай літаратуры Шолам-Алейхема, Ольга Рабіновіч.

З прычыны прыезду жонкі Шолам-Алейхема на кватэры І. Фефера адбыўся вечар, на якім прысутнічалі яўрэйскія пісьменнікі і артысты Кіева У вечары прынялі ўдзел: Д. Гофштэйн, М. Лур'е, Х. Гільдзін, Л. Рэзнік, М. Аронскі, Д. Волкенштэйн, заслужаны артыст рэспублікі Шэйнін, вядомы актор Александр Гранат і інш.

Пісьменнікі правялі цёплую гутарку з Ольгай Рабіновіч пра нябожчыка Шолам-Алейхема. Ольга Рабіновіч расказала, між іншым, эпізоды з жыцця Шолам-Алейхема і пра работу яго над сваімі творамі.

### Набыты чарнавы рукапіс Маякоўскага

Дзяржаўны літаратурны музей набыў у Чэхаславакіі чарнавы рукапіс паэмы „150.000 000" В. В. Маякоўскага. Рукапіс гэты, памерам у 57 старонак, быў пакінут паэтам у Чэхаславакіі ў часе яго загранічнай паездкі ў 1927 годзе.

Упершыню ўрывак з гэтай паэмы быў змешчан Маякоўскім у 1920 годзе; потым яна выйшла асобным выданнем. Аднак у набытым чарнавым рукапісу знойдзена больш 100 радкоў неапублікаваных вершаў. Вялікую цікавасць прадстаўляюць таксама шматлікія аўтарскія паметкі і папраўкі ў рукапісу, якія характарызуюць творчы метад Маякоўскага.

### Помнік другу працоўных Анры Барбюсу

У двары уральскага дома прамысловасці пабудованы велізарны помнік другу рабочага класа Францыі, другу працоўных усіх краін, нястомнаму барацьбіту за адзіны фронт працоўных супроць імперыялістычнай вайны і фашызма—тав. Анры Барбюсу.

Гарызантальная пліта (аснова помніка) зроблена з чорнага мрамара. Сярэдняя частка (падстамент) з цёмна-чырвонай яшмы.

Верхняя частка (манумент) з цэльнага блока роданіта (орлеца), знойдзенага каля станцыі Шаборы.

У верхнюю частку манумента ўстаўлен барэльеф з бронзы, які адліты на каслінскім заводзе, па рабоце вядомага французскага скульптара Аронсона. Помнік зроблены па праекту свярдлоўскіх мастакоў Трафімава, скульптара Кікіна, галоўнага інжынера трэста Домцяжпромурала А. А. Анціпіна.

### Новая п'еса Шкваркіна

Аўтар вядомай п'есы „Чужое дзіця", драматург В. В. Шкваркін скончыў работу над новай п'есай.

Час дзеі п'есы — нашы дні. Месца дзеі—Масква. П'еса расказвае аб нашых людзях пралетарскай сталіцы.

### Песні сонечнай Грузіі аб вялікім Сталіне

Шмат песень аб правадыры стварыла сонечная ордэнаносная Грузія. Вершы народных спевакоў перакладаюцца з вершамі паэтаў—Галакціона Табідзе, Паўле Яшвілі, Аліо Машашвілі, Сімона Чыковані, Георгія Леонідзе, Сандрэ Эулі, Валерняна Гапрындашвілі і шмат іншых.

Канстанцін Лоркіпанідзе заканчвае паэму аб Сталіне, над рускім перакладам якой працуе паэт Сяргей Спаскі.

Вялікую паэму аб правадыры піша Паўле Яшвілі. Пісаць аб Сталіне—гэта значыць пісаць пра вялікую эпоху соцыялізма, Сталінскай Канстытуцыі, аб барацьбе за новае жыццё.

Паэты чэрпаюць з жыцця новыя яркія фарбы. Пачынаючы пісьменнік-калгаснік Гогі Хунашвілі піша:

„Наша жизнь расцвела,
Как цветы расцветают в апреле,
И на солнце горит,
Словно цвет кизила загорелый..."

Зборнік „Ленин и Сталин в грузинском фольклоре", які падрыхтоўвае да друку нстытут мовы і літаратуры імя Руставелі, бясспрэчна ахопіць усю народную песнетворчасць.

### Хроніка іспанскай культуры

Нацыянальная канфедэрацыя працы стварыла бюро інфармацыі і прапаганды, мэтай якога з'яўляецца збіранне літаратурных мастацкіх дакументальных матэрыялаў аб падзеях, якія адбываюцца ў Іспаніі. Гэтыя матэрыялы будуць выкарыстаны для двух мэт: па-першае, яны будуць садзейнічаць „падняццю духа барацьбітоў і ўмацаванню маральнага становішча тыла", па-другое, яны дапамогуць змагацца з хлуслівай інфармацыяй і фальсіфікацыяй падзей з боку фашысцкага друку.

У Эквадоры (Паўднёвая Амерыка) вышаў першы нумар газеты „Эспанія лібре" („Свабодная Іспанія"). Газета выдаецца нядаўна створанай Антыфашысцкай лігай дапамогі іспанскай дэмакратыі і выходзіць пад рэдакцыяй двух рэвалюцыйных пісьменнікаў Парэха Дзіэс Кансеко і Педро Хорхе Вера.

### Раман Джозефіны Хербст

Дзяржлітвыдат выпусціў новы раман амерыканскай рэвалюцыйнай пісьменніцы Джозефіны Хербст „Жалости недостаточно".

Кніга прадстаўляе сабою першы том манументальнай трылогіі гістарычнай аповесці аб лёсу амерыканскай дробнай буржуазіі на працягу больш за поўвека.

Першы том трылогіі ахапляе тры апошнія дзесяцігоддзі XIX ст.

Том другі— „Расплата близко", які вышаў ужо на англійскай мове, даводзіць дзею да 1929 г., г. зн. да пачатку сусветнага крызіса.

Том трэці, яшчэ не закончаны, павінен паказаць жывую сучаснасць нашых дзён.

Кніга выйшла ў перакладзе з англійскай І. Клягінай-Кандрацьевай.

○ **Амерыканскія навелы—Э. Калдуэла** выйшлі з друку другім танным выданнем. Пераклад з англійскага зроблен першым калектывам перакладчыкаў. Рэдакцыя і ўступны артыкул І. Кашкіна.

### Кніжныя пасылкі зарубежным пісьменнікам

Ленінградскае аддзяленне дзяржаўнага літаратурнага выдавецтва паслала кніжныя пасылкі Рамэн Ралану, Ліону Фейхтвангеру, Оскар-Марыя Графу, Рэглеру, Нексе, Дос Пасосу, Теадору Дрэйзеру, Р. Сендэру, Арканадзе і інш.

○ **У Маскве заканчваецца абсталяванне музея-бібліятэкі** імя Маякоўскага. Рэстаўрыравана кватэра Маякоўскага. Абсталяваны пакоі для даследчай работы. У ніжнім паверсе дома — чытальны зал і бібліятэка.

○ **Каштоўныя гістарычныя матэрыялы знайшлі работнікі** кастромскага аддзялення аб дзекабрыстах Фанвізіне, Шчэпіне-Растоўскім, Глебаве, аб пісьменніках Астроўскім, Пісемскім і Чэрнышэўскім, аб сучасніку Пушкіну, кастромскім паэце Грамаціне.

**Кніга аб знатных людзях Ленінграда**

Ленінградскія пісьменнікі да XX-годдзя Кастрычніка выпускаюць кнігу аб знатных людзях г. Ленінграда. У рэдакцыю выдання паступілі заяўкі многіх пісьменнікаў. Н. Тіханаў будзе пісаць апавяданне аб камандуючым ЛВО камандарме першага ранга тав. Шапачнікаве. Юрый Тынянаў—аб адным з буйнейшых ленінградскіх вучоных, О. Форш — аб стаханаўцы-тэкстыльшчыцы ордэнаносцы Фёдаравай, М. Сланімскі — аб пагранічніку, Е. Палонская—аб жанчыне, начальніку міліцыі т. Онушонак, Л. Собалеў — аб камандуючым Балтыйскім флотам флагмане II ранга т. Галлеру і інш.

Кнігу выдае выдавецтва Ленінградскага совета.

АДКАЗНЫ РЭДАКТАР *М. ЛЫНЬКОЎ.*
РЭДКАЛЕГІЯ: *А. Александровіч, Я. Бранштэйн, М. Клімковіч, Я. Колас, Я. Купала, М. Лынькоў, І. Харык, К. Чорны.*
АДРАС РЭДАКЦЫІ: **Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменніка. Тэлефон 25-394.**

Заўважаныя памылкі друку.

| Стар. | Радок зверху | Надрукавана | Трэба |
| --- | --- | --- | --- |
| 67 | 29 | Няволнік | Нявольнік |
| 68 | 7 | Забытах | Забытых |
| 69 | 23 | Чачэніц | Чачэвец |
| 72 | 7 | алі | калі |
| 72 | 27 | Каўказ схарыся:! Йдзе Ярмолаў | Каўказ скарыся: Йдзе Ярмолаў! |
| 75 | 43 | Ігумен нахмур ахнатыя бровы | Ігумен нахмурыў махнатыя бровы |
| 185 | 21 | г. Оршы | г. Жлобіна |

Зак. 1224

## ЗМЕСТ

